# ПОЛЫМЯ



КНІГА ЧАЦВЕРТАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ

1930

ВЫДАВЕЦТВА



# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ

## КРАСАВІК
## 1930



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930



**УЛАДЗІМЕР УЛАДЗІМЕРАВІЧ МАЯКОУСКІ**

Вялікі рэволюцыйны поэт. Памёр 14 красавіка 1930 г.

## З ПОЭМЫ „ХОРОШО!“

Уладзімер Маякоўскі

17

Ня можа
прымусіць
нішто ўсхваляць
ўсяго,
што ствараем мы.
Я
палову айчыны-б мог скасаваць,
а палову—
зноў адрадзіць.
Я з тымі,
хто вышаў рабіць жыцьцё
ў агульнай
гарачцы
будняў.
Краіну
ўслаўляю—
якая ёсьць,
а тройчы—
якая будзе.
Я рады
нашай
сажэннай хадзе.
І плянам
вялікім
і свойскім.
Я
рады
маршу,
якім ідзем
на працу
і на бойкі.

Бачу—
дзе сьмецьце сёньня гніе,
дзе толькі зямля,
простая,—
на сажні бачу,
як з-пад яе
комуны,
дамы
выростаюць.
І вагу
губляюць
прыроды дары
з засмучаным
пудам сенца,
і прыцягваюць
трактары
сялян
загрубелыя сэрцы.
І пляны,
што колісь
на станцыях ілбоў
затрымоўваў
жабрацтва тормаз,
сягоньня
устаюць
з блакітных гадоў,
жалезам
і каменем
формяцца.
І як вясну чалавецтва,
здабытую працай,
пяю,
пяю
маю айчыну,
рэспубліку маю.

18

На дзевяць
кастрычнікаў
і маёў,
сюды,—
пад натоўпаў
сьцягі агністыя,—

насіў,
з мільёнамі,
сэрца маё,
упэўнены,
горды,
вясёлы,
ўрачысты.
Сюды,—
пад штандараў
шаты чорныя,
пакуль
не застыла
забітага кроў,—
бег,
ад трывогі
на стрэл варажы,
крычаць,
пахмурнець
і крычаць
ізноў.
Я
тут
бываў,
калі бубны трымцелі
і ў мёртвым
холадзе
сьлёз і льдзін,
я часьцей яшчэ—
проста
адзін.
Салдаты-вежы
вартай начною
ўзьнялі
свае
вострагорыя шлемы,—
і злосьць
у галовах
кумпалаў тояць,
прыкідаюцца
цэрквы,
манашыя шэльмы,
Ноч—
над галовамі нашымі
ўзьнік

маладзік,
ён
ідзе
адтуль, аднекуль...
адтуль,
дзе
Савнарком і ЦВК.
Кавалак
Крамля
ад ночы адсек ён
востраю
шабляю
языка.
Выпаўзае
на гладкі
валун,
на сэкунду
схіляе
голаў,
і з голага
каменя
ў імглу
адносіць
сваю
галаву
сівую,
як голуб.
Месца карнае—
для галоў
ня надта шыкарнае.
І асьветленая
месячным
пажарам,
плошча
ў зіхценьні
перада мной...
Сьцяна
і побач
жанчына з штандарам
схілілася
над тымі,
хто лёг пад сьцяной.

Абліў
каменьне
месячны нікель,
штыхі
ад месяцу
цьвярдзей
і зласьней,
і,
як награмоджаныя кнігі,
яго маўзалей.
Але ў гэтыя
дзьверы
тужлівым настроям
мяне
не ўцягнуць
аніякай парою,—
жыву я
жывою
душой.
Ён б'ецца,
як біўся
у сэрцы,
у скронях
жывой
чалавечай
вясной.
Але могілкі
трымаюць
мой пагляд—
дарагіх імён
спыняе
рад.
„Таварыш Красін"—
чытаю тужліва
і бачу—
Парыж
і з вокнаў Дорыо...
І Красін
едзе,
прывабны і сівы
Праз радасьць рабочых
многахорую.

Вось гэтага
бачыў,
за колькі хвілін.
Сьмяяўся.
Здымаліся поплеч.
І падае
Войкаў
увесь
у крыві,
І газэты
крывёю
намоклі.
За ім
прада мною
на імгненьне
кароткае
Той,
з чыім портрэтам
з нас кожны
жыў,—
У шынэлі памятым,
з востраю бародкаю—
Прайшоў
чалавек
жалеза і жыл.
Юнаку,
які абмяркоўвае
жыцьцё,
вырашае
жыцьцё-б
зрабіць з каго,—
скажу,
не задумаўшыся—
рабі яго
з таварыша
Дзяржынскага.
Хто касьцьмі,
хто попелам
ляглі
пад мур сьцяны,
А ў другіх
і попелу няма.

Ад работы,
катаргі,
ад куль
ляглі яны
і ад доўгіх год—
ніхто
амаль.
На могілках гэтых,
часамі,
здаецца—
таварышаў
мучыць
атрута трывогі:
па попелу ходзіць,
па костках ліецца,
выходзіць
на сьвет
па квяцістых дарогах
і шум
па дарогах
трывогай
імкнецца:
— Скажэце—
вы тут?
У барацьбе ня прысталі?
— Ці йдзеце наперад?
За працаю ўсе вы?
Даробіць
комуну
з сьвятла і са сталі
Рэспублікі
вашай
сучасны насельнік?
Ціха, таварышы, сьпеце...
Ваша краіна даўно
Вашаю
працаю
ўсьпешчана,
дужае
з кожнай
вясной.



І
зноўку
шолах
у попельнай вазе
языкамі
вянковых
істужак імкне:
— А ў іхных
чорных
Эўропах і Азіях
Сон,
ланцугі і жахлівасьць?
— Не!
ў сьвеце
вастрожных скляпеньняў,
там,
дзе забойствы і жудзь,—
вашы
вялікія цені
ходзяць,
склікаюць,
вядуць.
— А вас
ня прыцягвае
багавіньне?
Чыноўнасьць
мазгі вам
не засушыла?
Скажэце—
цэлая?
Скажэце—адзіная?
Напагатове
партыйная сіла?
Сьпеце, таварышы, ціха...
Хто
адбярэ ваш спакой?
Устанем,
штыхі ашчаціўшы,
З першым
загадам:
„У бой!“

З расійскае мовы пераклалі
**З. Астапенка і Ю. Таўбін.**

# ЗЯЛЁНЫ ШУМ [1])

*Аповесьць*

**Цішка Гартны**

## IX

З фартухом пад вачыма, асавелая, варочалася Якавіна маці з бальніцы дадому. Яна перад сабою нічога ня бачыла, нічому не патурала, і сьвет ёй здаваўся правальлем. Ранены сын затуліў усе іншыя клапоты, думкі і надзеі. Пятруля ня ведала, што рабіць і завошта ўзяцца; яна бязвольна клыпала апусьцелым пагонам.

Пры ўваходзе ў вёску, Пятрулю акружыла грамада сялян. Кожны наперабой пачаў сьцяшаць яе гора і гразіць помстаю на злачынцаў. З вуснаў абураных булаўкаўцаў ня сходзілі прозьвішчы дамовых дзедзічаў—Папелкі і Пасьвіча. У гэты момант іх абодвых забіралі пад арышт. Платаў двор быў перамераны многа разоў. Пільныя ўзрокі міліцыянэра і старшыні сельсавету ня раз абегалі прытоптанае гарбузеньне на гародзе і лёгкія адбіткі босых ног у бульбяніку. Зломанае ў пералазе палена вяло сьляды ў двор, ды падмецены грунт дасьціпна іх скрадаў.

Вартаўнік, стары Апанас, мэрам бы бачыў прамігнуўшага ў бок Пасьвічавай хаты чалавека. Але ён не бярэцца сказаць, што то ня было зданьню; усё-ж, памятае, што затрашчэў у брашчотку.

Здавалася Апанасу, што і ў Папелчыным двары, зразу пасьля стрэлу, як-бы нехта стукаў у дзьверы. Запэўніць-жа, што то быў Адась—стары таксама ня можа.

Ужо хутка пасьля злачынства, па яго, Апанасавых сьлядох, да Платаў прыбеглі Тамаш Хіц і Мікалай Жвыр.

Тамаш спагадліва ойкнуў у хаце і раптам пабег па міліцэйскага.

Гэта ўсё, што мог сказаць Апанас.

Гальляш Сукня дапускаў іншае. Ён не аднойчы чуў, як Адась грозіў Юстыну.

— „Няхай папомнюць прадстаўнікі ўлады!“.

Не ўцякла ад Гальляша і апошняя сварка між Юстыніхаю і Адасіхаю.

А ўчынак Пасьвіча сярод вуліцы?

---

[1]) Пачатак гл. у „Полымі“ № 3.

— Таварыш старшыня, ці вы забыліся? Тут, во, закопана сабака, няйначай.

Ведалі і чулі шмат чаго аб паводзінах Папелкі ды Пасьвіча і ў сельсавеце. Старшыня, пракідлівы і дасьціпны чалавек, меў таксама ацэнку гэтым двум булаўкаўцам.

Авось у раёне і знойдуць канцы...

Пятруля падыходзіла да свайго двара, калі міліцыянэр з старшынёю вялі Папелку з Пасьвічам пад канвоем у сельсавет.

Амаль ня ўся вёска высыпала на вуліцу, з варожым настроем праводзячы магчымых злачынцаў.

У разгойданым гомане сялян губіўся прарэзьлівы плач жанок арыштаваных.

— Знойдуць, ня можа таго быць!—гукаў Гальляш Сукня, матаючы ў паветры кулаком. Тут ня іголка, а чалавек! Ды яшчэ які чалавек! Дазнаюцца-а.

Мікалай Жвыр уторыў Гальляшу:

— Або ён каму крыўду рабіў? Чалавек знарок прыехаў памагчы нам уладзіцца з зямлёю. І працу кінуў, і горад. Пашукаць такога! Дык, на табе—замах! Ці-ж гэта чувана дзе? Тут вешальніцы мала... разбойнікам-згубцам...

— Што-ж парадзіш, ня ўсім Якаў падабаўся...

Тамаш паглядзеў у бок Папелкавай хаты.

— Ды ці ў гэтым справа!.. Расцэньваць чалавека трэба не па густу Папелак...

— Іменна... Мы ведаем гэтыя густы... Гэта з іх родзяцца стрэлы адразанак.

Гальляш ня ўнімаўся, і яго ўвераныя словы расьсейвалі апошняе сумненьне ў нявіноўнасьці арыштаваных.

Разыходзячыся па справах, булаўкаўцы нясьлі з сабою акрэсьленыя думкі; гэтыя думкі ўпіраліся ў Папелку з Пасьвічам.

* * *

Здарэньне з Якавам паслужыла сыгналам дружнаму прыступу да працы.

Яшчэ не пасьпелі зачыніцца за арыштаванымі дзьверы сельсавету, як уся Булаўка запрудзілася падводамі.

То сяляне ехалі на валку лесу для патрэб колектыву.

Стройным шэрангам расьцягнуўся доўгі цуг падвод, перацяўшы ўвесь адгон ад вёскі да лесу.

Хвойнік сустрэў іх разгойданым, урачыстым жыцьцём.

Празрыстыя кружкі цёплага сонца, як рассыпаныя чырвонцы, бегалі па зялёным густым лісьці арэшніку, ліпняку, па дзеразе ды папаратніку, уздымаючыся ў іглістыя кароны стройных хвояў. Напалоханыя тракатнёю калёс, гулкаю гаворкаю і вострым сьвістам комсамольцаў—завераш-

чэлі вароны. Чорнымі апукамі апісваючы цьмяныя лініі, насіліся яны ў чырвоных калёнах хваёвых порталаў.

Зьбярэжаны ад расхапленьня лес углядзеў дзесяткі бліскучых сякер і вострыя зубы нарэзаных пілак. Сонечныя зайчыкі з трапяткіх лістоў хутка саскакалі на халодны мэталь, мэрам-бы абаграваючы бязьлістасьцівыя лёзы. Разложаныя на маленькай зялёнай прагаліне сякеры і пілкі прагліва глядзелі ў здаровыя шурпатыя камлі стогадовых хвой. Ад нізу да карон сягалі іх гладкім чырвоным целам расьцешаныя ўзрокі булаўкаўцаў.

Коні, у набадрах ды сядзёлках, з падвязанымі лейцамі, веерам разыходзіліся па зялёнай прагаліне. Іх праглівы, задаволены хрумст і чмыханьне—хутка заглухлі ў звонкім, многакратным стукаце сякер. Па лесе, ва ўсе яго канцы, разьнясьліся пярэгукі сялян, шыпеньне пілак і прарэзьлівы трэск ламачча. Неўзабаве, адна за другою, пачалі валіцца доўгія стрункія дзярэвы, сьвішчучы пруткімі раламі па галінках сваіх сясьцёр і суседзяў. Сваясаблівы сьвіст паветра, пераходзячы ў глухое гульлівае баханьне, сеяў трывогу. Але ў гэтай трывозе, як у ваяцкай песьні, адчуваліся ўздымы перамогі і мотывы творчых пазываў.

Падганяныя імі, старанна хадзілі сялянскія рукі. У празрыстым паветры бліскучымі плямкамі махаліся дугамі едкія важкія сякеры, і насіліся непарыўнымі лентамі кусьлівыя пілкі. У рэзвым гомане сялян, у іх расхістаных постацях варушылася жывая пудкая творчая сіла, маладою, цьвёрдаю хваляю разьбягалася па лесе, варожачы яго векавое жыцьцё. Гадованы для панскіх пацех і выгады, ахоўваны дзесяткамі гадоў ад булаўкаўскае нагі, зараз ён ішоў на карысныя паслугі новаму жыцьцю сялян.

У абед, калі гарачае сонца апынулася ў зэніце, душнае, парнае паветра спыніла працу.

Булаўкаўцы палуднавалі. Пасеўшы шаронгам, яны сілкаваліся для далейшай работы. Папярэдняя праца глядзела на іх дзесяткамі паваленых, выпрастаных хвой. Кожная хвоя дапамінала стройную бакавіну белага вянка ў новым зрубе будынку. Булаўкаўскія ўзрокі мералі іх па некалькі разоў, а думкі прыкідалі вярхі і абрубкі да належнага ўжытку ў разгорнутым будаўніцтве.

— Толькі-б выбраць добрае месца для будынкаў!

— Золата, ня лес!

— Любата—ап'яніць пахкаю смалою.

Гэтыя сказы выплывалі з сялянскіх вуснаў, як мёд з пчаліных сотаў, выдзяляючы з сябе крупінкі воску—салодкія суцешныя ўхмылкі на аклапочаных новымі думкамі тварах.

Ухмылкі не пакідалі сялян і ў новым зарадзе іхнае працы. На небе, вольным ад хмар і воблак, сонца гарэла паніжальным сьвятлом, шырэй разгойдваючы ходкія рукі працаўнікоў. Падкрадлівая ўтома адлятала ад іх, як трэскі з-пад сякеры, і сымфонія агульнае працы для агульнага карыстаньня засуцэльвала доўгі дзень заходам сонца.

Ужо на змроку варочаўся цуг булаўкаўскіх падвод у вёску. Нарарадзе Хіб з комсамольцамі. Сакавітая рэзвасьць справодзіла іх гутарку, радасным вястуном нясучыся да старых хатак Булаўкі.

На стрэчу мужам і бацьком выходзілі з двароў жанкі і дзеці. Яны гасьцінна віталі першы акт колектыўнае працы.

## X

Якаў выздароўліваў. Глыбокая рана ў надплеччы—зрасталася. Яшчэ балела плячо і цяжка было варушыць руку, але вострыя болі праходзілі.

Клінатвары вусаты доктар суцяшаў яго скорым выздараўленьнем. Трэба аддаць справядлівасьць, ён старанна і ўважліва глядзеў за Якавам. Наракаць ня было за вошта. Але Якавінай папраўцы многа паспрыяла і яго ўпартая, ні на хвіліну непаслабленая сіла волі, якую надавала яму распачатая праца.

Колектывізацыя Булаўкі прымалася Якавам блізка да сэрца і лічылася яго жывым і непасрэдным абавязкам.

Агітацыя за ўтварэньне колгасаў была яго простаю задачаю ў вёсцы. З гэтымі мэтамі пасылаўся ён на раён. Вярнуцца ў завод, у ячэйку і перадаць свае ўражаньні—не апраўдвала-б яго паездкі. Іншая рэч, калі ён мецьме з сабою акрэсьлена прапробленую працу. Колектывізацыя Булаўкі вызначала пэўны ўрок, выпаўненьне якога давала Якаву важкі актыў.

Гэткімі меркаваньнямі кіраваўся ён, калі прышоў да рашэньня выпрасіць працяг сваёй камандыроўцы. Ён хацеў давясьці ўзьнятую справу аколектывізаваньня булаўкаўцаў да канца.

Вялікі гістарычны зрух у жыцьці краіны не павінен прайсьці без яго актыўнага ўдзелу.

Можа занадта сьмела, адказна і ўпэўнена, толькі Якаў ня мог не палісьціць сябе некаторай заслугаю перад соцыялістычнным будаўніцтвам калі думаў пра булаўкаўскія справы.

Праўдзіва, а то і бязумоўна, што гутарка булаўкаўцаў пры калодзежы, якую ён напаткаў пры ўваходзе ў родную вёску, і без яго ўдзелу ўзяла-б патрэбны паварот. Бясспрэчна і тое, што настойная агітацыя бацькоў, расьцягнутая на ўсю ноч, ня была рашаючым чыньнікам... Але... але.. Якаў не дарэмна, як молатам па кавадлу, стукаў угаворамі ў сэрцы булаўкаўцаў. Як цяпер, вось, бачыць ён вострае, незгладжальнае ў памяці, перараджэньне настрою на чатырох суровых тварах з'агітаваных людзей.

Маршчыністы, закаржэлы твар вёрткага і рухавага дзядулі Гальляша Сукні, спакойлівае, задуменнае аблічча Тамаша Хіба, хітры, пракураны выгляд пракідлівага Мікалая Жвыра, і добры, даравальны твар заклапочанага, неганорнага бацькі—роўна і аднакава адзеліся ад яго сказаў у чакальныя, суцешныя ўхмылкі, у каразьлівае, настарожанае пагадненьне

настрояў са словамі трапіўшага ў Булаўку Якава. Яшчэ выразьней адбівалі яны перанятыя ад Якава думкі, калі ехалі аглядаць колгас „Асьмінаўку“.

Ї зараз?..

Два доўгіх дакучлівых месяцы ляжаньня ў бальніцы толькі прасьвятляліся, што бацькаўскай інформацыяй пра булаўкаўскі колектыў. Разам з малаком і сьпечанай булкай, разам з цёплаю ўцехаю ды балючаю спагадаю—маці прыносіла ў бальніцу апошнія навіны.

— Сёньня трыццаць фурманак паехалі за рэштаю дзерава на хлявы.

— Учора адбыўся сход і парашылі абагульніць плугі.

— Заўтра пачнуць вывозіць падваліны для сьвірняў.

— Чакаюць з акругі камісіі па справе абмеркаваньня памеру колгасу і выбараў праўленьня.

Больш падрабязныя навіны прыносіў бацька. Ён расказваў Якаву пра кожную маленькую зьмену ў складзе колектыўшчыкаў, пра бліжэйшыя пляны ў разгортаньні будаўніцтва, пра асаблівыя думкі і корэктывы, што хадзілі па вёсцы і абгаворваліся ў кожнай хаце.

Ї трэба было Юстыну ня тым тонам вымавіць слова, ці падаць запытаньне, як Якаў настарожваўся і матаў рукою.

— Кінь, бацька, сумнявацца.

Але ня ў бацьку была справа. Якаў па бацькаваму настрою добра лавіў разгон пабудовы колгасу. Рашчуленыя яго нэрвы ня мірыліся ні з якімі замінкамі і гналі здарэньне наўперадкі з часам.

Разьвітваючыся з бацькам, Якаў доўга перадумоўваў пачутае ад яго, і пакуль не перашкаджала боль у надплеччы, снаваў разнастайныя пляны.

Ї цікава было тое, што ў гэтых сваіх перадумах і плянаваньнях Якаў зусім не кранаў лёсу арыштаваных дзедзічаў.

Дапамінкі пра іх выскаўзалі з Якавінай увагі і губіліся, там, дзе губілася старое жыцьцё роднае Булаўкі.

Аддаленае да першых непатухлых уражаньняў і расьцягнутае на дваццацісямігадовы яго век, гісторыя Булаўкі мятусілася рознастайнымі здарэньнямі. Часта-густа, асабліва ў гады дзяцінства ды юнацтва, амаль ня кожнае з гэтых здарэньняў так ці іначай пакідала сьлед у яго нутры. Было многа такіх здарэньняў, якія адбіваліся на яго лёсе і сваяасабліва формавалі яго жыцьцёвы шлях.

Выпуклей за іншыя—дзевяцьсот пяты год. Бацька з грамадкаю маладых булаўкаўцаў распушчае валаснoе праўленьне. Нядзеляю едзе ў мястэчка і прымае ўдзел у дэмонстрацыі. Ноччу адпраўляецца паліць панскі маёнтак. Маці ўшчувае і дрыжыць ад баязьлівасьці.

Праз некалькі месяцаў—у Булаўцы стражнікі. Белым днём наведваюцца яны ў хату і трусяць на печы, пазатрамаю, на гары і ў пограбе, пад капяжамі і ў хляўчуку... Але пакідаюць хату з пустымі рукамі, а ў хаце—нечапанага бацьку. Маці моліцца за збавеньне ад няшчасьця... Ды дзе-ж ад яго адмолішся? Ужо праз год—яно варочаецца ў выглядзе

зыску недаімкі і пені. У Булаўцы—трывога. Падатковая камісія спаганяе з даўжнікоў завінавачанасьць. Ізноў госьці на заезьдзе—толькі самавіцейшыя на гэты раз. І ўжо ня толькі трасуць, а і бяруць. Панятыя сьцягнулі апошнюю падушку і бацькаў кажух. Сотнік вывеў з хлява карову... Ні бог, ні начальства не ўважалі на матчыны прычыты...

Яшчэ праз нейкі час—Якаў памятае, як зараз, суд за адрэзак на выгане. Доўгі, упарты суд, выцягнуўшы з бацькі нямала здароўя—і адрэзак зямлі...

Булаўка!

Ну, яна-ж таксама цешыла Якавіна юнацкае пачуцьцё веснавым раставаньнем сьнегу і бурлівымі жароламі на вуліцы; першаю лапінаю сухое зямлі і першым пупінкам разгатае лазы перад вакном; цёплымі начамі і песьнямі дзяўчат. Квіценьнем садоў і палавеньнем жытоў. Марамі, як зялёная рунь, і плянамі, што ўзьнімаліся да неба...

Але ўсё гэта раставала шэрым туманам над аголеным лесам. Бо, памятае Якаў, толькі ён стаў гаспадарскаю нагою на жыцьцёвы шлях, як зразу ўбачыў разьдзетую сапраўднасьць. І ў гэтай сапраўднасьці, як каменьні ў крыніцы, сьвяціліся жорсткія, мулкія іспыты нядолі бацькоў. Наперадзе і з бакоў стаялі высокія перашкоды і загароджвалі сабою роўныя сьцежкі. Куды-б не глядзелі іх вочы, усюды натыкаліся на сьцены.

Булаўка—то была клетка, у якой сядзелі зьняволеныя лёсам людзі. У гэтай клетцы ціснуліся, церліся адзін аб адзін, і не маглі вызваліцца...

Вузкія палосы зямлі, як вяроўкі, зьвязвалі іх рукі і пазывы...

Во, пачынаюцца яны перад вакном, парэзаныя межамі, і бягуць вярстамі.

Якаў час-ад-часу павяртаў галову направа і заглядаў у вакно. Дробны сьвірэпісты авёс адбіваў на сабе векавое мардаваньне булаўкаўцаў.

Хоць не перасейвай вёснамі—ён будзе расьці сам сабою, мізэрны і закаржэлы, сухі як палын.

Толькі там, дзе палосы надалей адпіхалі бакавыя межы, маглі спыніцца шуклівыя ўзрокі.

Але на гэтых палосах тупалі дзедзіцкія ногі. У гэтых рэдкіх пышнейшых кавалках зямлі зьбіраліся сокі з дзесяткаў худзенькіх касьнічкоў—нівак, не дагледжаных, не абдбаяных. Вуньдзека, во—бацькаў шнурок—пад ячменем... Не пасьпее з аўсамі і людзі яго патравяць.

Пойдуць сваркі, праклёны...

Ой, не! Годзе!

Там, дзе папар, на ўзгрудку, пры жытнім палетку—стосы страявога дзерава.

Дзень пры дні яно зьбірае вакол сябе ажыўленьне. У стуку сякер, у шастаньні пілак—расьце новая будыніна... Ужо верхнія вянкі яе падняліся над кучаю абструганых хвой.

Між бальніцу—новая дарога. Грукацяць падводы з каменьмі для падмурку, з пяском, з белаю смалістаю драньню...

Ладзіцца! Строіцца! Расьце!

Булаўка распускае сьціснутыя абручы, разгароджвае пералазы і дзесяткі сьцяжынак сточвае ў адну шырокую сьценку.

Люба дзецям бегаць на агледзіны нябачанага імі ў вёсцы прасторнага высокага будынку. Яны бачаць, і сваім дзіцячым розумам сьмікаюць, што ў новай аборы разьмесьціцца ўся булаўкаўская гавяда. Хутчэй-бы ўзьняць гэткую будыніну на збожжа.

## XI

З палкаю ў руках, пры мацеры і сядзелцы, Якаў цішком накіроўваў з бальніцы дадому.

Яго схудзелы твар адбіваў на сабе не прайшоўшыя болі, вочы разглядалі вакольнае.

Жытні палетак паглядаў на яго рэшткамі мэндляў, яравы—прастаўся.

Сьценкамі, туды і назад, удоўжкі і наператоч, езьдзілі пустыя і поўныя збожжам фурманкі.

Белыя кашулі булаўкаўцаў пярэсьцілі жоўтыя палоскі.

Гоман і песьні, як заўсёды, год пры годзе, рознастайнілі працу жанцоў.

Але ня гэта завабляла Якава. Ён спыніўся, калі параўнаўся з красаўцам новым будынкам. Яго белыя высокія сьцены адбівалі жнівеньскае сонца ў кропках і цурках пахучае смалы. З капяжоў нацягалася шапкадах. Перад ім, як перад лыцарам, прысьмірэлі вясковыя хаткі. Мізэрныя і шэрыя, яны пакорліва ўхмыляліся нечаканаму прышэльцу і расступалі яму дарогу.

— Малайцы, дзядзькі, пастараліся!—не сьцярпеў Якаў, каб ня выказаць свайго задаваленьня.

— Ды дзе-ж чакацьмуць! На перагонкі адзін з другім. Я ўжо як была заклапочана табою, а тота-ж ні разу не прапусьціла, каб не пацікавіцца. На майстроў напаў задзёр, і яны ад ранку да цёмнага—гваздаюць, гваздаюць, гваздаюць... А бацька, ой, бацька! Каб ты, сынок, бачыў... Не пасьнедае—бяжыць то ў лес, то к будоўлі, то... Жыта перасьпела, і як пясок, асыпаецца, а ён—хоць бы што... Колектыў затуліў вокагляды, як сонцам. Няхай дзе каліва мінтрэгілаецца, ойкае, ганьбіць цесьлю, вазьніцу, найміта... Бацька ...Жвыр... Хіб... і стары Гальняш Сукня...

Пад'ехаўшы да іх, селянін з возам жыта прыпыніў каня.

Якаў не заўважыў, як пры ім заматалася рыжая разгалістая барада, засіялі сінія порсткія вочы.

Прасьцёршы да Якава рукі, селянін зьдзіўлена прапяяў:

— Няў-жо-а ды Ія-каў-вы?

— Бачыце, во!

— Дык дай-жа, нябожа, я цябе пацалую... Паверыш—кожны дзень цікавіўся тваім станам, пытаў маці—няхай, во, скажа—Пятруля?—Любуешся?! Табе мусі быць вельмі ўсьцешліва глядзець, бо ў гэтым і твая праца...

Якаў адхіляўся балючым бокам ад працягнутае да яго рукі руплівага селяніна, бацькі двух комсамольцаў. Затое на здаровым плячуку ён адчуў некалькі важкіх хлапкоў каржастае далоні.

Трудна было разабраць, якое пачуцьцё кіравала настроем селяніна, але непасрэднасьць яго захапленьняў стрэчаю з Якавым была вочавідна.

— Бачыш, робім тое, што нам моладзь кажа. Мае сыны, як і ты, не давалі мне праходу: ідзі, бацька, у колгас, ды ідзі, бацька, у колгас... Задзёрыстыя комсамольцы, мо' ведаеш іх?.. Зараз, як бачыш, справа пасуваецца. Прызнацца—і мне старому радасна глядзець, во, на гэтую штуку... Лялечка!.. Скажу табе, сыне—добра, што мы, нарэшце, разламалі гэту векавую затхлань... Хоць уздыхнём прывольней... Ня прыдзецца азірацца па бакох, назад, каб не аступіцца на чужое, каб не парушыць суседзкіх правоў... Ой, як гэта абрыдла! Як чэрві ў зямлі—па адным—па адным...

Селянін паківаў пужальнем на каня, пасьля інакшым тонам запытаў:

— Ну, а з нашымі малайцамі яшчэ не парашылі?

— Ня чуў, дзядзька, нічога. Ды ці ў гэтым сутнасьць?

— Гэтых гадаў няма чаго шкадаваць... Дарэсьціць, абармотаў... Бач, кажуць, што ўпарта не прызнаюцца ў злачынстве... Хітрыя бэстыі... Папелка, Пасьвіч, хто іх ня ведае... Мае сыны—падай толькі ім—разарвуць...

Пятруля злосьліва паківала ў паветры рукою і азірнулася на сына.

— Небарачак, гэта-ж трэба столькі вымучыцца нямаведама завошта. Каб каму бяду якую зрабіў, каб крануў каго—божа збаў... Задумаў колектыў наладзіць, дык гэта-ж, ліха іх матары, за бяду палічылі і на—такі ўчынак! Ці-ж ёсьць у людзей душа? Вар'яты, злыдні. Мэрам-бы Якаў горшага дамагаецца, або... Скажы, Craft Яначка, сам... Ненатланцы гэты, ім бы хацелася ўсю Булаўку да сябе сьцягнуць... Усё ім мала, усяго ім не хапае... Душагубцы-і...

— Табато і то! Дай ты рады... Я ўжо казаў... Абурэньне-э... Але—для іх дарам гэта ня пройдзе-э. Н-не-э, убачыш. Ім такога перцу ўсыплюць, што омегам вылезе-э... Я чуў, надовечы... Мае сыны ведаюць...

— Праяжджа-ай!

Селянін не дасказаў і пабег да возу.

Якаў не апамятаўся, калі адышоўшага замяніў другі, той, што выгукваў дарогу.

У парванай суконнай жукетцы, з аблезлаю шапкаю на доўгіх кудлатых касах, запылены, ён весела ўхмыляўся, працягваючы Якаву руку з пужальнем у ёй і сыплючы словамі, як гарохам:

— Паправіўся? Ну, дзякуй богу... На зло дзедзічам, наперакор няпрыяцелям... Зьбёдаваць хацелі—тэрорам... Колектывізацыя — шкода—падумаеш!.. Супярэчаць, і так нахабна—нападам... Ды не ўхаваешся—ведаем хто парася ўкраў. Надовечы я старшыню сельсавету шапнуў... Або ніхто ня ведае без мяне? Не забыта і тое, калі іх злавілі з контрабандаю ..

Гаворачы, селянін зьвярцеў тоўстую цыгару з самасеі, выкрасаў агонь і зацягнуўся. Хапіўшы дыму, ён захлынуўся і пакутліва закашляўся.

— Усё-ж, Якаў, дармо гэта... Во—паправіўся, гэта важна... Затое—памяць... Памяць! Глядзі-ы! Пасуваецца... Перажыве і Папелкаў і Пасьвічаў і ўсё іх котлішча... Бо, мы разумеем ужо, што выхад з нашае беднаты—у колектыве, і ачамерная цесната ды надаедлівая прыватнасьць—пятлёю віселі на нашых шыях. Паверыш мне, шчыра кажу, міла ўсё гэта... Я захоплены колектывізацыяй... І не адзін я—амаль ня ўсе бяднейшыя булаўкаўцы. Колектыў не да спадобы—Пасьвічам, Гарцам, Грызуном. Ды ці-ж з імі лічыцца?.. Вось як мне, дык проста рупіць, каб чым хутчэй усё абагульнялася... Але нешта замаруджваецца... Ячэйка адстала—накіраваньня обмаль... Трэба, браце, табе хутчэй брацъ кіраўніцтва...

Новы прыступ кашлю перарваў скорамоўную гутарку селяніна і ажно прыгнуў яго да зямлі. Бедны, ён нават выпусьціў з рук пужальне і цыгарку.

— Мучыць удушша... Каб мне здароўя, як-бы я быў шчасьлівы бачыць перабудову нашае гаспадаркі! Я гадамі, Якаў, марыў пра гэта. Ды што-ж—няграматны, незаўважны нікім, пролетар усіх стран... Але ўсім не хапае асьветы, каб памеркаваць, выплянаваць, а ўсё нутром, гэта шкодзіць і маёй партыйнай працы. Нас у Булаўцы трое партыйных чуласьцю бяром... А паглядзеў-бы, з якім запалам я валяў лес, цягаў яго на воз... Ня цесьля, а вянкі выводжу пад струнку, во! І не шкадую ні сілы, ні здароўя—бо бачу, Якаў, гэта наша справа ажыцьцяўляецца... Во, загарадзіў дарогу... Дадому, мо?

Селянін крануў з месца, але ніяк ня мог адарвацца ўзрокамі ад Якава. Ён адыходзіў, а галава яго аставалася павернутай да Якава, і з яго незачынятых вуснаў лілася шчырая споведзь перад таварышам.

— Вам не зайці да вечара дамоў,—пажартавала сядзелка.

Якаў задаволены ўсьміхнуўся.

— Ну, вы чулі думкі сялян? І гэта ня толькі так партыйныя развaжаюць. Не—першы звычайны серадняк тое кажа. Чым гэта ня цікава? Пры даным настроі колектывізацыя—дасягнутая мэта. Сялянства пашло на перабудову сьвядома, рашуча і ахвотна. Ці мо' няпраўда?

— Відаць па іх гутарках...

— А па справе?

— Таксама...

— Або-ж няпраўда?

Якавіна маці пацьвердзіла сынаву думку кіўкамі галавы. Гэтых думак было даволі на тое, каб умацаваць станоўчыя вывады Якава. Злучаныя з эфэктамі надворнага характару,—як пабудова хлявоў, падгатаваньне матэрыялу пад агульныя гумны, зроблены перамер зямлі,—пачутыя Якавам гутаркі двух сялян, засуцэльвалі людзкую волю ў пытаньнях колектывізацыі. Якаў глядзеў на вакольныя вобразы вачыма перaward... 



губляла ў яго ваччу свае прыватніцкія адзначальнасьці, пячаткі свае пасобнае прыналежнасьці, заскарузлы падзел па дварох. У кожнай нагляднай рэчы вызначаліся яскравыя абрысы новых формаў булаўкаўскага жыцьця. Гэтым абагуленым жыцьцём дыхала з пажатых ніў, з адчыненых гумен, з блізкага ды далёкага лесу, з пасьпелых аўсоў ды ячменяў. Пра яго ляпаталі лісьця на садовых дрэвах і скрыгіталі зачынятыя вешніцы.

І бацькавы словы, з якімі Юстын стрэў у двары сына, былі вельмі дачаснымі, каб у Якавіным адказе на іх бачыць сынаву радасьць да прароблена́й працы.

— Ну, як, па-твоему, нашы дасягненьні?

— Больш, чым я чакаў.

— Дык ідзі, вось, сыне, паведамі пра гэта тваіх таварышоў з заводу. Ужо дзьве гадзіны, як цябе чакае іх ліст.

Якаў падзякаваў сядзелцы за паслугу ды дапамогу і пашоў у хату.

Калі ён узяў для чытаньня ліст, бацькі сьмірненька пасталі каля Якава, чакаючы ад яго навін.

— Там ужо ведаюць пра здарэньне са мною,—паведаміў Якаў, кончыўшы чытаць

— Ведаюць?!

І бацька, і маці спачувальна паківалі галовамі.

— І што-ж хаця пішуць, сынок?

— Дазваляюць мне працягнуць пабыўку яшчэ на месяц.

— Толькі на месяц? Няхай-бы ты, Якаўка, прасіўся на больш. Або ты ўжо магчымеш працаваць праз месяц?

— Тады пабачым, маці,—часу многа. Яшчэ ўсё можа трапіцца...

— Усё?! А што-ж бы хаця? Хаця-б, барані божа, чаго...

Бацькі пахіліліся да сына, мэрам-бы абараняючы яго ад новай пагрозьлівай бяды.

Але ачуняласьць Якава і яго бадзёры настрой хутка разьвеялі бацькаўскую трывожлівасьць за сына.

Яны заспакоенымі перайшлі да нясупыннага перагавору тэмы дня—колектывізацыі Булаўкі.

І іх думкі, ужо знаёмыя і ясныя для Якава, комбінаваліся зараз ў гарачыя, натхненныя сказы, якімі ён дапаўняў недапісаны два месяцы назад ліст старшыні фабзаўкому. Прыпісаная новая сёнешняя дата абмяжоўвала тэрмін яго ляжаньня ў бальніцы.

## XII

„Ой, ды як цікава! Уся краіна, як акінуць вокам, прасторная, незьмярымая—спрэс у колектывах. Шырокія галы ніў ядранага жыта! Ні тычкі, ні капца, ні мяжы. Перагародкі і загарадзі—толькі для садоў і гародаў, але не для разгароджы аднаго ад другога. Паглядзіш, а прасторы ў вялікіх, новых будынках аграмаджанага значаньня. Школы, вэтэрынарныя

пункты, бальніцы і грамадзкія сьвірні... Шэрая паніклая вёска, адбітак няволі і смутку, пакоры і цярпеньня—гіне ў бяздоньні аджылага... І будуць людзі хадзіць па музэях ды заглядацца тым, што нядаўна мазоліла ім вочы. Трактары і сеялкі, жаткі і малацілкі... Завод—і колектыў, цесна злучаныя плённаю творчасьцю для ўзаемнага спажываньня... Які вялікасны ды чароўны малюнак! Што за глыбіня ўрачыстага нараджэньня!“

— Пятруля! Юстын! Якаў у хаце?

Басысты вокліч упаўнаважанага Рамана прагудзеў па двару і данёсься да Якава.

Якаў падняў голаў і аглядзеўся па хаце.

— Няўжо бацькі?..

Ён не дакончыў думкі, як вусаты прадоўжны твар упаўнаважанага Рамана, з рукою над ілбом, прыліп да ніжняе шыбы покутнага вакна.

— Якаў ці Юстын?—запытаў ён, але зразу адтуліўся ад шыбы і прагукаў удоўж двару:

— Будзі сына, Пятруля. Старшыня сельсавету просіць яго да сябе... Сход на адчыненьні...

Між вокан мігнуўся людзкі цень, а сьледам у хату ўбегла Якавіна маці.

— Якаў? Га, Якаў? Ты ня сьпіш, сынку?—асьцярожліва пазвала яна з мыцельніку.

— Ня сплю!

— Можа-б устаў, калі ўсё добра... Не балела плячо? Ноччу нешта ты моцна енчыў, напэўна со-сну?.. Раман прыходзіў—старшыня сельсавету заве... Бацька даўно ўжо пабег. Нават ня сьнедаў... Многія пашлі ў сельсавет на сход... Мо‘ перакусіш чаго?

— А дайце... Так, на сход...

Пакуль Якаў прыбраўся і сеў да сталу, Пятруля пасьпела зьвярнуцца з хаты ў гарод і назад.

Падаючы Якаву сьнеданьне, яна ўмільна паглядзела на сына і запытала:

— Ты, бок, чуў, Якаў?

— А што?

— Гэта-ж кручаная, Адасіха, бач, таксама мерыцца запісацца ў колектыў. „Спрадам—кажа—усё, а сама разам з другімі“. Адась напісаў ёй,—ці ліха яе разьбярэ, чым яна мяркуецца... Як табе падабаецца, га? Пабегла з другімі ўжо з гадзіну таму, на сход... Няўжо яе прымуць? Дурныя будуць людзі, калі гэту заразу... Яна-ж, яшчарыца гэта, усю сябрыню разладзіць... Бяды не абярэшся... На мой кабечы розум, няхайбы душылася адна дзе-кольвечы на далёкіх азадках...

— А тое і станецца... Дзедзічам, зразумела, ня месца ў колектыве. Не-э-э, дармо!

— Гэта трэба абгаварыць на сходзе... Каб чалавек, а то вышчара нейкая і...

Загаварыўшыся, ніводнае не заўважыла, як Тамаш Хіб ачуўся каля вакна і задрабязіў пальцамі ў шкло:

— Чакаюць, Якаў, усе... Без цябе ня хочуць сходу адчыняць. Хадзем..

— А дайце вы спакою, няхай чалавек пасьнедае,—занедаволілася Якавіна маці.

Але Тамаш не пасьпеў адказаць, калі Якаў апынуўся на двары.

Пятруля толькі пачула іх зьліўны вясёлы сьмех, хутка заглушаны схаваўшаю мужчын хатаю.

Яна недаўменна паціснула плячыма і сама сабе праказала: „Вось у дваіх, ды ўдваіх—наперадзе ўсіх... Да дзіва, што людзі ківаюць пальцамі... Зрабілі так, нібы"...

Нясканчаны сказ Пятруля дапоўніла многазначлівым кіўком рукі...

Трое мужчын, прайшоўшы паміжвоканьню і адвярнуўшыся на Плотаву хату, адцягнулі яе ўвагу на сябе.

Яна паглядзела ў адчынятае вакно і загледзела прыкульгваючага Якава ўжо на павароце да сельсавету.

— Пайду паслухаю,—парашыла Пятруля неўспадзеўкі для сябе.

І з тэю-ж неспадзеўкай яна хутка аставіла ў хаце недаробленую работу і ўскоранай хадою пабегла ўсьцяж вуліцы.

Пятруля пасьпела ў сельсавет к таму моманту, калі старшыня сельсавету запрапанаваў выбраць у прэзыдыум сходу Якава. Гучныя воплескі, пасланыя булаўкаўцамі ў адказ на прапанову, захапілі яе; Пятруля адказала на іх нявыразным пачуцьцём, зьмешаным з лёгкае трывожлівасьці ды радаснага задавальненьня.

Хутка гэтае яе пачуцьцё ператварылася ў напружаную цікавасьць, калі Якаў абярнуўся да сходу з наступнымі словамі:

„Таварышы сяляне! Тая зацікаўленасьць, з якою вы аддаліся справе пабудовы булаўкаўскага колектыву, гаворыць за ваша поўнае адзнаньне вялікіх заданьняў соцыялістычнага будаўніцтва нашае краіны. Пераможны наступ соцыялізму настойна дыктуе нам канчаць з рэшткамі капіталістычных элемэнтаў у вёсцы, якімі зьяўлялася індывідуальная гаспадарка. Вы павінны рашуча рабіць далейшы крок да нашых заваёў у справе стварэньня новага, аграмаджанага жыцьця. Круты пералом, які нясе з сабою колектывізацыя, страшны і няпрыемны толькі таму, хто ў мінулым карыстаўся чужымі працаю і багацьцем. Бедняку ды серадняку селяніну колектыў нясе большыя плёны ад іх працы і лепшае, здавальнейшае жыцьцё...

„Таварышы сяляне! За перабудовай нашага жыцьця з напружанай увагай сачаць рабочыя, сачыць комуністычная партыя і савецкая ўлада. Яны пасобяць вам стаць цьвёрдаю нагою на новы шлях жыцьця, як пасобілі вызваліцца з-пад ярма паноў — памешчыкаў і самадзяржаўя.

Я надовечы, вось, атрымаў ліст з фабрыкі, ад сваіх таварышоў рабочых. Яны шчыра вітаюць вас з пераходам да колектыву і абяцаюць

прыслаць гасьцінец — пяць двухлямешных плугоў. Мяне яны просяць памагчы вам давесьці вашу справу да канца"...

Пятруля ня сьціхала ўміляцца з сынавай гаворкі, пакуль ён ня скончыў казаць. Вопleскі сялян, гучнейшыя, як калі яна чула, абярнулі яе ўхмылку ў разварушлівую радасьць. Яна рухава, не па гадох, завярцелася на месцы, азіраючыся па бакох і шукаючы сабе спачуваньня.

Але з дзесятак накіраваных на Пятрулю сялянскіх твараў з дашуклівымі добрымі ўхмылкамі, раптам адвярнуліся да сталу прэзыдыуму сходу.

У гэты момант старшыня сельсавету ўзяў слова для паведамленьня пра ход колектывізацыі ў акрузе.

Сход насьтаражыўся. Лахматыя галовы сялян і белыя хусткі сялянак строма выцягнуліся наперад і замерлі ў напружаным слуханьні. Узмахі рукі прамоўцы, як кіёк дырыжора, зьбіралі ў адну кропку іхнюю вострую ўвагу.

Над непарушнаю грамадою лунаў подух новага жыцьця, так прыгожа, на вачох, з іх удзелам народжанага. Яно, гэта жыцьцё, пакуль не вайшоўшае ў рамкі, ужо выпуклялася ў формы прасторных ніў, новых абораў, грымучых трактараў і адданае сяброўнае працы. Яно, гэта жыцьцё, прасьцірала сваё сьвятло на булаўкаўскае поле, улятала ў цемравыя вокны хат, мігалася забаваю ў расчыненых узроках сялянскіх вачэй. Яна гамaніла ў шуме лесу і ў стуку сякер, насілася ў разгарачаным клопаце дбайлівых організатараў... Яго крокі гудзелі зялёным шумам па скрыжаваных дарогах, па сьценках, па сьцежках...

Але-ж чаму яны, булаўкаўцы, не пасьпелі апярэдзіць другіх?

Ну, яны возьмуцца ўсе, як адзін, толькі скончаць з апошнім паасобным зборам ураджаю. Падзівяцца суседзі — як спора пойдзе іх праца, і якія посьпехі будуць на вясну!

Яны зразумелі сутнасьць перабудовы, прасякліся значэньнем яе заданьняў і ўжо ні адзін ні на крок не адступіць ад узятых на сябе абавязкаў...

Будзь уверана, ячэйка КПБ! Будзь упэўнены, таварыш старшыня! Будзь заспакоены, таварыш Плот!

Ужо інформацыя аб праробленай працы мо' і лішняя. Што-ж! Запазьніліся! Не зьявіўся раней Якаў і не штурхануў, як належыць свайго бацькі. У ячэйкі не знайшлося к часу сьмеласьці, каб рашучай адарвацца ад старое заскарузласьці...

Будзем наганяць! Нагонім!

Булаўкаўцы!

Паганая зьвяга Папелкі часта застаўляла азірацца ў бакі і паціскаць плячыма. І мала хто дагадваўся, чым нясло ад гэтае зьвягі.

— Пераходзім да апошняга пытаньня павесткі дня — да выбараў управы колектыву і яго рады, — агаласіў старшыня сельсавету. — Хто мае пропозьцыі? — запытаў ён у настарожанае грамады.

Булаўкаўцы рупліва пачалі пераглядацца, але думкі ўсіх аставаліся накіраванымі да прэзыдыуму сходу.

— Ім больш і лепш вядома, — злучылася дзесятак галасоў у адно цьвёрдае рашэньне.

І толькі гэта рашэньне стала разьбягацца па грамадзе, як сакратар сельсавету вычытаў шасьцёрку кандыдатаў у ўправу колектыву.

— Юстын Плот, Гальляш Сукня, Мікалай Жвыр, Тамаш Хіб, Пятро Абруч і Якаў Плот.

— Хто мае дадаць каго, ці ўнясьці папраўку?

Старшыня ня ўчуў ніводнага слова супярэчкі...

— Згодны, згодны! Галасавацъ!

— Хто за прачытаны сьпіс, прашу падняць рукі!

Лес рук, белых, як сьвечак, прасьцёрся ўгору, да палаючага золатам сонца.

Тым-жа парадкам і з тэю-ж аднадушнаю згодаю прайшло галасаваньне і кандыдатаў ураду колектыву.

Сьледам доўгая, хілкая стужка булаўкаўцаў зарухала да сталу старшыні сельсавету.

Паважна, адзін за другім, нагіналіся сівыя, рыжыя, лахматыя і лысыя голавы над белай папераю, выводзячы ламаныя літары прозьвішчаў пад статутам колектыву.

Сьпіс рос і даўжэў, адбіваючы ў рознастайных почырках аднастайную волю да новага жыцьця. Кожны, хто пакідаў свой подпіс на стале старшыні сельсавету, адчуваў сябе перайшоўшым круты і глыбокі рубікон. З адчынятых грудзей вырываўся лёгкі ўздых і зоркія вочы лавілі вольнасьць пастораў.

— Ну, што-ж, давайце рэзаць межы!

— Будзем засяваць азіміну па складках.

— Трэба ссыпаць насеньне.

Прасычаная грамадзкім клопатам і сяброўскаю дбайлівасьцю, гутарка расла, глыбела, зьвінела сярэбранымі пералівамі па пасторнаму двару сельсавету. Затуленасьць у вузкую самотнасьць, зацягненасьць калючымі інтарэсамі манлівай, цьвілой адасобленасьці — зараз перавярталася ў бурлівае калыханьне згавору, вызнаваньне цёплых дарад і сяброўскіх прызнаньняў. Гэтак бывае са зьняволенымі — адзіночкамі, калі іх гуртам выпускаюць на волю. На апыленых і зморaных тварах бегала жывая ўхмылка асьвяжэньня, і дапытлівыя ўзрокі кружаваліся ў сьветласьці насьпеўшага паразуменьня.

Шурпатасьці і спрэчкі, з якімі да сходу ня ўсе расталіся, сходам пагладзіліся, расплыліся. Перакорлівыя ў дробязях адасобленага гаспадараньня думкі і намеры накіраваліся ў адно русло, цамянтуючы цьвёрдую зьлітнасьць абагульненага пачуцьця. Ня трэба было зьяўляцца псыхолёгам, каб прачытаць на бадзёрых тварах булаўкаўцаў яскравую рашучасьць аддацца ў абоймы новаму ладу вытворчай чыннасьці.

Ужо не знаходзілася жаднага фактару, ніякай перакоры, якія-б маглі пахіснуць цьвёрдасьць булаўкаўскіх рашэньняў.

Выглядала надзвычай прыгожа, калі столікая грамада ў адзіным пазыве, зьлітым у непарухлівы протэст, сустрэла спробу Папелчыхі ды Пасьвічыхі падставіць свае імёны пад сьпіс колектыўшчыкаў.

— Прэ-ч! Не па дарозе!

Гістэрычны, прарэзьлівы лямант дзедзічак агідным піскам растаў у звонкай сталёвасьці агульнае нязгоды.

Водгукі гэтай нязгоды, суцэльныя ў бясчыннай вялікасьці, глядзелі замоцненай перамогаю над пераможанаю варожасьцю.

Рэдкія з булаўкаўцаў хацелі пакідаць двор сельсавету.

Вагромністая большасьць іх ня сьціхала гудзець руплівай гутаркай, плянаваньнямі, пропозыцыямі, парадамі.

У гэтым іх гудзе скраўся гучны стукат пад'яжджаючай падводы з двума седакамі.

На іх булаўкаўцы зьвярнулі ўвагу толькі тады, калі прыехаўшыя зычна прагукалі:

— Добры дзень, дзядзькі!

Грамада прымоўкла, чакаючы навін.

— Адбываецца сход?

— Скончаны, — адказала зараз некалькіх сялян.

Прыехаўшыя накіравалі ў будынак сельсавету. Булаўкаўцы правялі іх пільнымі ўзрокамі, і з цікавасьцю пачалі перашэптвацца. Яшчэ не пасьпела выявіцца іхняя думка наконт прыехаўшых, калі на ганку ачулася чацьвера людзей.

— Таварышы-сяляне! — абярнуўся да булаўкаўцаў адзін з іх, старшыня сельсавету: — я магу пахваліцца, што да вас прыехалі вось гэтыя таварышы на падмогу ў будаўніцтве вашага колектыву. Гэта — рабочыя заводу „Пераможац“. Яны не забываюць сваіх братоў — сялян, і чым мага дапамагаюць у іхняй працы. Гэта цесная солідарнасьць паміж рабочымі і сялянамі служыць моцнаю дарукаю пасьпешнага дасягненьня соцыялізму.

Гучныя воплескі булаўкаўцаў перадалі прыежджым гасьцям шчырае прывітаньне новых колгасьнікаў.

Хутка пасьля гэтага роўныя шпалеры сялян, як чырвонае гвардыі, прапускалі прыехаўшых да падводы, якая накіравала ў вёску, да Плотавай хаты.

За падводай, матаючы шапкамі і рукамі, пераносіўся працяг сходу з двару сельсавету да месца спынкі гасьцей.

## XIII

Настойна і ўпарта ідэя колектыўнага жыцьця ваходзіла ў быт ды адзнаньне булаўкаўцаў.

Клопаты і думкі крута зьмянялі свае афарбоўку ды напрамкі. У дварэ, у хаце, на полі расьлі і складаліся новыя тэмы.

Інтарэсы кутніцкае самотнасьці абгладжываліся чорнаю забыўнасьцю і туліліся па глухіх кутках хлявоў, па ўзьмежжы, у невыцерабленых кустох.

Сховы і спраты, атуленыя прыватніцкаю адасобленасьцю, выглядалі непатрэбнымі і лішнімі, як насыпаныя кратамі капцы. Каштоўнасьць прысебраных да сям'і, да асобы рэчаў, іх крошкавы, мізэрны фэтышызм, ападаў на зямлю, як першыя пачарнелыя лісты.

Аголеная бязгрунтоўнасьць заскарузлае прыватнасьці адбівала вострай дысгармонічнасьцю з бягучым часам.

Гнілым і мізэрным паказваліся разрысаваныя лініі з платоў, шастаколаў, парканаў.

Ідэя людзкога супольства, пачуцьцё яднаньня, абагуленая праца паўставала бліскучымі агнямі на сінім небе.

Дзень ад дню булаўкаўцы ўсё ясьней адзнавалі вялікасьць прынятых рашэньняў.

Разора, праведзеная між старым і новым, перавярталася ў непраходную канаву. Па адзін бок гэтае канавы гусьціўся туман непрагляднае цямлівасьці, бязвыходнае таўкатні на адным месцы, як коні ў малатарні; па другі бок — разгортваліся прагляды ў засуцэляныя дасягненьні.

Туды, за жоўты, вясёлы дах новае аборы, так хутка прывучыўшай да сябе абагуленую жывёлу, сягалі булаўкаўскія ўзрокі, як у абяцаную зямлю.

Узмахі сякер над зрубамі другое будыніны, заложанай побач аборы, грамадзкіх сьвірняў, уздымы трох піл на асталюжаных калодках — ігралі песьню перамогі...

Сівабароды Гальляш Сукня ўпраўніча мераў з ранку да вечару вярстовую Булаўку. Яго паморшчаны, але жыцьцёрады твар па некалькі разоў у дзень прамігваўся ў ваччу кожнага булаўкаўца.

Рупная думка Гальляша не праміналa ніводнага двару, не прапускала ніякага ўкромнага кутку.

Яго гаспадарная кемлівасьць дапасоўвала любую рэч да патрэб кожнае сям'і, а расчотлівая сьмікалка знаходзіла лішніцу на агульнае карыстаньне.

Пастановы ўправы колектыву, як запаведзі, ня сходзілі з вуснаў Гальляша, пакуль не ажыцьцяўляліся.

Тэрміны выпаўненьня пастаноў памяталіся ім, як вострыя здарэньні з уласнага жыцьця, а выкананьне не дапушчалася пазьней заходу сонца.

Гальляш Сукня першы рэйс рабіў да Якава Плота. Сваю старую паважнасьць ён безганорна ўхіляў перад маладою энэргіяй рабочага. Падмацаваньне Якавым вынікаўшых у Гальляша думак, лічылася ім за ўступ да дзеннае праграмы.

Гальляшова-ж праграма заўсёды ўхарошвалася дадаткамі пачутых навін. Але стары дазваляў на іх спыняцца толькі на сходзе працоўнага дня.

Якаў дзень-пры-дні атрымоўваў ад Гальляша паведамленьні пра стан Папелка-Пасьвічскае справы. Згодна яго паведамленьняў — злачынцы перажывалі крутыя пертурбацыі свайго лёсу. Ня раз і ня два іх Гальляш караў вышэйшаю мераю соцыяльнае абароны, пасьля уваскрашаў і пераводзіў у концэнтрацыйныя лягеры, затым высылаў, і нарэшце ізноў зводзіў са сьвету.

Але ўсягды пры абгаворы гэтага пытаньня Гальляш трымаўся аднае думкі і ня выходзіў з астоенага ў ім настрою: няшчаднае пакараньне злачынцаў.

Ён гэтак пра іх выказваўся Якаву:

— Ведай, нябожа, што інакш зрабіць з імі нельга! Паганцы, гэта-ж да таго асьмялелі, што рашыліся на гэткую штуку. Зразумела — ня ў іх моцы папарашкодзіць агульнай волі, але мітрэнгі нарабілі... Вось чаму драпежніка мала прыбіць — яго трэба дабіць. Не павінна чуць яго духу... І мы правільна зрабілі, што далі рашучы адпор іхняй прылазнасьці ў колгас... Няможна! Гэта была-б жывая атрута... А цяпер — падзівіся! Усе булаўкаўцы зьвязаліся адным сугучным, пагодненым рашэньнем. Ні слова перакоры, ні каліва сумненьня. Цьвёрдыя, як стук сякеры... Паверыш, Якаў, мая старасьць асьвяцілася нечаканаю радасьцю... Гадамі думаў, марыў, імкнуўся, а жыцьцё ціснула і збочвала з дарогі... Нарэшце — неба расьвярзлося... А злачыньнікам — туды...

Сукаватая ядлоўцавая крывуля Гальляша Сукні, набытая ім з часу выбару яго ў управу колектыву, застуквала непарушнае рашэньне шасьцідзесяцігадовага дзядулі.

Пятруля неабыякава выслухоўвала Гальляшовы словы і заўсёды заключала іх сваімі меркаваньнямі наступнага зьместу:

— Кінуў-бы ўжо, Гальляш, успамінаць пра „іх“... Няхай улада робіць як знойдзе лепш. Або ад гэтага што перамянілася? Толькі адно — шкода Якава! Небарака — дарэмна гэтулькі папамучыўся...

— Неправідлова, галубка, судзіш... Нне-э! У наш час ня трэба быць квашанінай. Твой сын быў на валаску ад сьмерці, а за вошта? За тое, што людзям спрыяе, во! Булаўкаўцы павінны аддзякаваць Якаву за яго клапоты пра іх... А нашы людзі яшчэ не ўсьведамілі сабе гэтага... Яны не пасьпелі пакуль уявіць сабе... Неправідлова, Пятруля, судзіш...

Гальляшу аставалася патураць, бо ў яго шчырасьці нельга было сумнявацца; але іншыя добрадушна жартавалі.

Тамаш Хіб — дык той ні разу не прапускаў дзядзькі Гальляша, каб, стрэўшыся з ім, не запытаць:

— Вы на дзесяты заход?

— Кінь, Тамаш. Табе маладому, як зайцу ў полі, а я...

Стары трос сівую бараду і паднімаў забруджаную нагу.

— Запытай, колькі міль яна адмерала на сваім вяку. Мала каму яе дагнаць.

— Я спрабую гэта зрабіць...

Тамаш сьмяяўся, бо яго хваравітасьць шаржыравала катэгорычнасьць заявы.

— Раблю шостую вярсту. Вунь — дзе акапцавана — ад дубровы да ясеннае мяжы.

— Ты ў полі?

— Трэба-ж праверыць, як намячаць палеткі.

— А Мікалай?

— Мікалай у лесе. Ідзе валка на гумна... Кожны дзень па дзесяцера падвод...

— І Юстын?

— А вы з ім не спаткаліся?

Гальляш успамінаў, што Юстын аддаваў свой час нагляду за будаваньнем.

Як прадсядацель управы, ён пасьпяшаў на больш адпаведныя вучасткі працы.

Ці пайсьці ў сельсавет, ці паехаць у раён, або і далей — браў на сябе Юстын.

І ўправа, і рада давяралі яму найадказныя заданьні. З Юстынам шчыльна зьліліся посьпехі адбудовы колектыву. Кожны новы крок у бягучай працы пазнаваўся па тону яго голасу, па тэмпу ў ходзе, па рухлівасьці ў распараджэньнях.

— Юстын вярнуўся з раёну!

— Юстын паехаў да лесу!

— Юстын на будоўлі!

Гэта значыла, што ўдарнасьць пераносілася на адпаведныя пункты.

Раздробленая днямі, яна складала чарговыя зьвены ў ланцугу будаўніцтва, а нядзелямі, на адпачынку — выдавала пукатыя, ачулыя вынікі дасягненьняў.

І булаўкаўцы ад нядзелі да нядзелі падводзілі скуткі ўпраўнай працы, лічачы паложаныя вянкі ў новых будынках, колькасьць выведзеных капцоў, лік паваленых у лесе хвой. Пільней ад іншых процэсаў адцягала на сябе іхнюю ўвагу шпаркае абагульненьне гаспадарскіх рэчаў.

Знос цаброў, складкі на катлы, зьбіраньне барон і гуртавое, агульнае ўгнаеньне папару займалі тыднёвую ўвагу булаўкаўцаў.

Але рупелі межы. Ворыва на жыта ня зрэзала іхняй агарожы.

І чырвоная рунь стройнымі шчыткамі хілілася ў заціску нязломаных рамак-меж. Рэдкія агрэзы прарочылі скорую зьмену, толькі яе пераймалі яравыя палеткі.

Ці хутка пачнецца зябленьне?

Управа рашыла — на Пакровы. У дзень, калі папы асьвячаюць новае жыта, вострыя лемяхі хлебаробаў павінны засыпаць зямлёю дурманы драпежнага зыску.

— Заўтра на зяб?

— Нарвеце настурак.
— А восьмай гадзіне?
— З пукамі чырвоных вяргінь.

## XIV

Грукат сялянскіх калёс заглушаў перабоі званоў.

Чародамі па межах, старыя і моладзь, бацькі і дзеці накіроўвалі ў поле.

Пярэстае адзеньне на ясным сонцы мулявала рытмічныя рухі рэзвых пілігрымаў. Некалькі чырвоных хустачак на галовах дзяўчат і камсамольскія значкі на маладых грудзях—сымболы рэволюцыі. Зацяжныя сьпевы, у пярэкліках звонкіх галасоў, апінолі прагалы між сьценак ды меж.

Наперадзе — Якаў з таварышамі, ячэйка...

— Вунь узгрудак, адтуль, як на далоні.

У расьцягнутай стужцы істот — жывая адгарожа ад сьвята, ад закінутай, аблезлай царквы. Наперадзе — дзесяткі палосак у асадках — кудлатых спакойных межаў.

Ад жытняе руні да граніцы дубравы — дзесяткі ганоў. Пераплёты засеву з пустымі межамі.

— Адгэтуль?

— Сю-у-ды-і!

Як разьбеглася сьценка — падводы. Дзесяткамі на адгоне сажню.

— Распрага-а-ій!

І ў морг вока — стройнымі шэрагамі рознамасныя коні. Пры плугох, як пры варштатах.

Чакаюць!

Узрокі туды, дзе сабралася ўправа.

Сыгнал!

У чыстым ядраным ад пасьпелага пырніку паветры, мільганулася шапка Юстына Плота. Між сьценку праняслося многазычнае звонкае—

— Нно-а-а!

Шэраг разламаўся на часткі, выхілястым каленчатым ланцугом перап'яўшы поле.

Роўнымі радамі, як лёгкае рабаценьне вады, палілася зямля праз бліщчастыя лемяхі плугоў.

Чорныя вокны, дзьверы, чатырохкутнікі паглыналі глыбокімі баразадамі бераточныя межы.

Напрамак — на сонца — вырэзваў загоны па дзесяць барозен у рад.

Дзесяткі кавалкаў, кусочкаў, адрэзкаў, сшываліся цесна і шчыльна ў суцэльную тканіну.

— Бывайце здаровы, палоскі ды межы!

І голас Гальляша Сукні пачуўся ў лагчыне адгуклівым рэхам:

— О-скі-ы, жы-ы!

* * *

Быў полудзень; калі праз усю шырыню палетку ляглі шырокія пратокі новага зябу.

Сотні ног пратапталі на сьвежым ворыве тысячы сьлядоў.

У ператоч, і накрыж, вянкамі і align рознастайнымі фігурамі адбіваліся яны на пухкай вільготнай зямлі, як сьляды новага шляху.

І як глянуць вокам — роўныя рысы стройных пера募бораў.

На адгоне ў кілёмэтр, дзе апынуліся Якаў з таварышамі, разгорталася дзіўная карціна:

Сумятлівая грамада сьвятошна адзетых людзей у справоджаньні пільнае працы на полі засьведчвае новае жыцьцё.

Яскравае сонца ў раскіданых нітках белага павуціньня і рэзвае гонкае цвырканьне скакунцоў — пяюць літаньні маладой сябрыні.

Урачыстуючы шчыгел-пакроўнік над жоўтаю грушаю вабіць зайздросных дзяцей. І жоўтыя пукі гвазьдзікі ў руках галасістых дзяўчат асалоджваюць салодкім пахам бабіна лета...

З выпадковаю хмаркаю, плыўшай між сонца, на лес — адыходзіла ў зьнебыт старая аджыўшая вёска.

— Заўтра на сход ячэйкі?

— А дзесятай гадзіне!

— Ты зойдзеш, Якаў, па нас?

— Так, пытаньне з узнёскамі ня жджэ адкладу.

Якаў з таварышамі абагнулі сьвежае ворыва і накіраваліся да вёскі, ярка асьветленай празрыстым восенскім сонцам.

Канец.

11-I 1930 г.
Менск.

## НА ШЛЯХОХ ВОЛІ [1])

*(Працяг)*

**Якуб Колас**

### XVII

Настаў і дзень. Апалі росы.
У хвалях сінечы-слугі
Узгоркі песьцяцца, лагі,
Вандруе ветрык на ачосы
Ды сьцеле белыя пракосы—
Ваўністых хмарак мурагі.
Зямля кунежыцца ў праменьнях,
І радасьць сочыцца, плыве,
А пад вярбою на траве,
Абняўшы голае карэньне,
Ляжыць Барыс у недаўменьні—
Ці ён жыве ці ня жыве.
І зварухнуцца ён ня можа,
Як-бы у сьпіну ўбілі кол.
Дзе ён? што робіцца вакол?
Прабуе ўстаць, ды ўстаць ня гожа,
І ломіць косьці боль і гложа...
І хтось бярэ яго упол,
Кладзе на бок, затым на плечы...
Ён чуе дотыкі рукі...
Нясуць ці што? вось дзівакі!
Няхай нясуць—ён не пярэчыць—
Такія дзеюцца з ім рэчы!
І што за выпадак такі?
Нібы ляціць, плыве ў прасторы
На нейкім дзіўным караблі,
І ня відаць нідзе зямлі
У невядомым гэтым моры,
І мора штось шуміць-гаворыць,
І песьні чуюцца ўдалі.

---

[1]) Гл. „Полымя" № 1 і 2, 1930 г.

Ачнуўся, глянуў—вось дык дзіва:
Ляжыць у гушкалцы на дне
На нейкім брудным палатне!
Яго калышуць дурасьліва,
І чыйся зрок глядзіць маўкліва,
Як-бы у цьмяным цяжкім сьне.

ДЗЯЖА

Тфу, чорт! ці я ў паходзе?
Куды мяне шыбуюць кары?..
Эй, слухай, брат:
Ты хто, салдат?

САНІТАР

Так точна, ваша благародзе!
Санітары!
Глядзіць Барыс, як няпрытомны.
У выцьвеўшых вачох
Зьдзіўленьне, страх,
А ў галаве так цёмна, цёмна!

ДЗЯЖА

Я ранены ці хворы?..
Да дзе-ж я, чорт вас пабяры?!
Адставіць разгаворы!
У ногу! Раз, два, тры!

САНІТАР

Ляжэце, ваша благародзе—
Кантужаныя вы!

ДРУГІ САНІТАР

Вярзе абы што, колабродзіць,
Але ня выбіла каманды з галавы!

ДЗЯЖА

Дзе мае ногі?!
Ня чую ног!..
Язык у роце перасох!
Глыток вады, на міласьць бога!

САНІТАР

Ёсьць, ёсьць у нас
Вадзічка пра запас!

Вось баклажка,
Палыкнеце!..
Як-жа так, каб без вады,
А бывае ўсё на сьвеце.
Вас кантузіла ня цяжка—
Цэлы рукі і галяшкі—
Суха вышамшы з бяды.

ДРУГІ САНІТАР

Такой кантузіі, раненьня
Чакаюць, як збавеньня.

ПЕРШЫ САНІТАР

На пункцік заімчым раз-раз!..
Агледзяць дактары—
На то-ж яны майстры,—
У тыл адправяць вас
З бальніцы да бальніцы
Пад доглядам сястрыцы.
Глядзіш, а ён і пройдзе, час.

ДРУГІ САНІТАР

Вайна, няхай яе багі.
Пакутуй бяз віны...
І рад-бы быў другі
Астацца без нагі,
Каб выбрацца з вайны,
Абы не ваяваць
Ды дух у целе захаваць.
Эх, глуміцца народ!
Зямля—адна трупярня—
Гніюць і гінуць марна,
Разносячы смурод.
Унь колькі іх,
Няпрыбраных „ґерояў“!
Палеглі ў адзін міг
Па двое і па трое—
Хоць гаць гаці ці штабелі
складай.
Чаргі чакай, няшчасны
сівалдай,—
Зямлі сырое!
Тут, брат, табе і мір,
І жонка тут, і дзеці...

І ўсё табе на сьвеце,
Заменіць голы жвір!
Гнаіся тут, як тля,
Нічога больш ня трэба,
І вось табе зямля
І неба!
Барыс, зьняможаны, разьбіты,
У мгле дрымоты, забыцьця
Адчуў дыханьне, пульс жыцьця.
Дык ён жывы і не забыты,
Вярнуўся з страшнага нябыту,
Бездапаможны, як дзіця.
Ачуўся трохі, і заслона
Паволі споўзвае з ачэй,
І ява чуецца ярчэй.
Астаўся збоку вір шалёны,
Ён з пасьці выбраўся дракона,
І думка ў іншы бок цячэ,
Пачуцьце прыязьні, падзякі
Да гэтых простых двух салдат
Аддаць ён з поўным сэрцам рад.
Ён мае права, як і ўсякі,
Зазнаўшы горычы ваякі,
На знак увагі і дагляд.
Кантужан ён, але не ўцяміць,
Як гэта здарылася з ім
І што было там перад тым—
Служыць ня хоча яму памяць:
Імгла наўсьцяж і ў мысьлях замець,
І ўсё агорнута, бы ў дым...
Фронт узрушан,
Расьцярушан,
Перастройка,
Сумятня!
Трупаў крушні,
Трупаў крушні—
Шла тут бойка
Аж да дня.
Стогне поле—
Просіць, моліць,
Лемантуе,
Хто жывы.
Эх, саколю,
Мой, саколю!

Не ўратуеш?
Галавы!
  Праклятая
Сьмерць лятае,
Век малады
Ператкне.
Не спытае,
Не спытае
Твае згоды—
Жыць ці не.
  Няма змогі!..
Хто бязногі,
Хто бязрукі...
„Піць! вады!“
Жаху многа,
Жаху многа!
Бездань мукі
Ї нуды!
  Сьмерць і жудас...
Трупаў груды—
Дрот увешан
Їмі ўвесь!
Трупы ўсюды,
Трупы ўсюды!
Штаб усьцешан—
Слава, чэсьць!
  Адалелі!
Далей сьмела!
Агонь беглы—
Жар з гармат!
Каму дзела,
Каму дзела,
Колькі легла,
Тут салдат!
  Што прапажа?
Ды хто скажа,
Колькі згіне
Вас, братоў?
Колькі ляжа,
Колькі ляжа
На чужыне
Між дратоў!
  Будзе новы
Бой суровы,

Вас, як сьмецьце,
Растрасуць.
А за што вы,
А за што вы
Аддаеце
Цьвет-красу?
Вынішчэньне,
Разбурэньне,
Калатуша,
Сьмерць і кроў.
„Наступленьне!
Наступленьне!
Фронт наш рушыў,
Ломіць зноў!“
Так героі
Тылу роем,
Лоб схаваўшы,
Загудуць:
„Мы іх кроем!
Мы іх кроем!
Слава паўшым!
Сьмелым будзь!“

Хіснуўся фронт у гэтым месьце.
Пазыцый здаўшы цэлы рад.
Падаўся вораг трохі ўзад,
Каб закрапіцца далей дзесьці
Ды на ражон дарма ня лезьці
І фланг ня ставіць пад ахват.
Аддаў вайском прыказ Брусілаў,
І нашы рушыліся зноў
На Яраслаў, на Галіч, Львоў,
Акопы бралі жывасілам.
Траву Галіцыі расіла
Старой ярэмнай Русі кроў.
Былі палонныя, трафэі,
Ці можа самі ў рукі шлі
Сыны славянскае зямлі,
Ці то іх зводзілі надзеі,
Што рускі цар з іх зьніме шлеі
Ці думкі іншыя былі,—
Няхай тут спэцы скажуць слова
Як гэта здарыцца магло
І колькі нашых палягло,

А я тымчасам напалову
Урэжу доўгую прамову,
Каб лішніх спрэчак ня было,
Трымацца бліжай буду тэмы
І трэба-ж пару слоў сказаць,
Каб той вузельчык разьвязаць,
Што ў шляк увязаны поэмы
І тыя дзеўчыя паземы
Ну, хоць-бы цьмяна паказаць.
  Але прашу я прабачэньня:
Для самакрытыкі тут сам
Наўперад слова сабе дам.
Бярэ, бярэ мяне сумненьне
Наконт Галуты і засьценьня
І сум паведаю тут вам:
Засьценьне—хутар, а Галута
І сам я бачу, што кулак,
Жыве адзін, як ваўкалак.
Цяпер мне з ім адна пакута,
Ён мне поэму ўсю заблутаў
І настрой зьнізіў як-ні-як.
Нятрапны тон узят адразу,
І можна тут сказаць адно—
Поэма начата даўно,
Пачата хутарскім паказам.
Дык няхай коціцца ўжо разам
І гэта прыкрае зьвяно.

  Напілася поле крыві,
Няжывых пасьцягвалі ў ямы,
І кончыўся першы акт драмы.
Хто жывы астаўся—жыві!
Месячык выплыў з-за гаю,
Невясёлы, тусклы, бы хворы.
Задрыжалі боязна зоры,
Пажар над вёскай шугае.
У Засьценьні страх і трывога—
Зноў сунецца ліха, навала...
А дзе-ж гэта Насьця прапала?
Сумота ў Галуты старога!
Аўстрыякі вышлі, няма,
Не вярнуўся чэх-пастаялец...
І сказаць, ня кепскі быў малец.
І гняце старога дума...

Я ня суджу Настусі строга,
Мне проста дзеўчыны шкада:
Такая сталася бяда—
Адзін пакінуў, а другога,
Таксама любага, мілога
Пакінуць змусіла нуда.
І так ёй, беднай, цяжка, горка:
Зусім, зусім цяпер адна.
І горш за ўсё—яе віна—
Такая стрэча з ім, гаворка!..
Пагасла, зьнікла яе зорка,
І горыч выпіта да дна.
І ўсё агорнута ў зьмярканьне:
Той час, далёкі ўжо, стары,
Спатканьні з ім і вечары,
І пісьмы поўныя прызнаньня
У гэтай шчырасьці каханьня,
І ўсё памерла без пары.
І хто разьвее ёй тускноту?
Такі туман на сэрцы зьлёг!..
Ну, што-ж? пяройдзены парог...
А ўсё праз вецер і дуроту...
Няма, няма назад звароту,
Ня нойдзеш к прошламу дарог!
І хоць-бы ведаць, што з ім? дзе ён?..
Барыс прад ёю, бы жывы,
Ня сходзіць з сэрца, з галавы.
І цень журботнае падзеі
Наводзіць змрочнасьць, болем вее,
Снуецца ў шолаху ліствы.
І гэта—кара ёй, адплата:
Там людзі гінуць на вайне,
Яна-ж стаяла ў старане
Ды толькі ткала шчасьця шаты,
Забыўшы мілага і брата,
Праступкі чынячы ўдвайне.
Заглухлі добрыя парывы
З-за гэтых дурасьцяй пустых,
І ў сэрцы боль яе прыціх,
На вочы паў ёй зман імглівы,
Бо чэх надарыўся учцівы
І сэрца зьвёў яе з пуці.
Гаруе Насьця і бічуе
Сама сябе за свой парыў,

І смутак душу ёй акрыў.
Канец! ніколі не пачуе,
Дзе ён паднюе, паначуе
І ці здароў ён там, ці жыў...
Журботна ў доме, пуста ў садзе,
Ёй цяжка тут, ды што рабіць?
Пакінуць дом, усё забыць,
Канец пакласьці гэтай звадзе!..
А сэрца з мысьлямі ў разладзе,
І жыць ёй хочацца, любіць.
Панесьлі Насьцю думкі-мары
Туды за тыя рубяжы,
Дзе ў сінім полагу імжы
Над Луцкам можа ўстаюць хмары,
І раптам гром адтуль ударыў,
Раз-по-раз б'е, зямля дрыжыць.
Загрымелі нечакана,
Загулі гарматы,
Крышаць, ломяць фронт заняты,
Грузкі крок чаканяць.
Гухнуў выбух за рачулкай
Агнявым фантанам,
Далі ўзбуджаным вулканам
Застагналі гулка.
Расступіліся там нетры,
Віск, шаленства сталі,
Грукат, ляск. Віруюць хвалі,
Бы гарыць паветра.
У акопах, дзе сеў вораг,
Дым і сьцены праху.
Людзі, бледныя ад страху,
Пакідаюць норы.
І пашла мітусяніна,
Сымфонія пекла!
Нават сонца стала блеклым...
Уцякай, дзяўчына!..
Надвячорак і ўвесь вечар
І ўсю ноч да ранку
Грукацела беспрастанку
Бойня-калачэча.
А назаўтра—трупы. Ямы,
Бітыя фургоны,
На здрасованых загонах
Крывавыя плямы.

Пацішэла. Моўкнуць громы.
Далей дзесь грукоча.
Не вярнуўся ў хутор Крочак.
Дзе ён? невядома!
Зноў Галута стаў падданы
Той-жа царскай Русі.
А Настуся? дзе Настуся?
Пашла лячыць раны.

11/III—13/IV 1930 г.

# ЛІСТЫ АД ЗНАЁМАГА

**М. Зарэцкі**

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш, вёска, з яснай явы.
*Янка Купала.*

## Ліст дзевяты [1])

Дарагі таварыш! Твая пропозыцыя, вядомая рэч, зьявілася для мяне неспадзеўкай. Я ніколі ня думаў, каб мае лісты мелі нейкую звышасабістую значнасьць, і магчымасьць апублікаваньня іх у друку выклікала ўва мне ня толькі зьдзіўленьне, а й глыбокую неймавернасьць. Папраўдзе, браток, ці варта гэта рабіць? Ці варта засьмечваць нашу і без таго багата засьмечаную літаратуру яшчэ адным пісвом чалавека, што ня мае ніякага дачыненьня да літаратурнага мастацтва? Адылі пакладаюся на твой густ і на тваю компэтэнцыю—шляхетная сьціпласьць і сарамлівасьць мне не да твару, хоць і гонар таксама ня вабіць мяне. Рабі так, як улічыш за патрэбнае. Дам толькі дзьве невялічкія заўвагі дый то выключна затым, што прымушаны даць іх—ты гэтага вымагаеш.

Першае. Пра літаратурную апрацоўку. Я шчыра ўдзячны табе за тое, што ты прапануеш сваю дапамогу ў гэтым кірунку. Але—ведаеш, браце?—троху мяне й непакоіць гэтая рэч. Я баюся, каб ты ў сваім мастацкім захапленьні ня сьцёр разам з living рознымі формальнымі шурпатасьцямі і тых жывых рубцоў ды вузлоў, якія завязаны самым жыцьцём, якія выяўляюць спэцыфіку нашых дзён і якія фактычна ёсьць элемэнт таго, што зазвычай завём мы „стылем эпохі". Лепш хай будзе нязграбна, хай будзе няроўна і жорстка, хай будзе часам і ня зусім эстэтычна—дармо! Хай паспрабуе які-небудзь вымаглеваны крытык паставіць табе гэта ў дакор! Скажы яму, што не цябе ён вінуе, а вінуе нашу сучаснасьць, якая сьпелесавала жыцьцёвую гладзь грознымі бурунамі, страсянула і ўсьпеніла кожны куточак, дзе мо' дагэтуль яшчэ дрымала застойная плынь мінулага, зацягнутая тлустай павалокай балоцьвенай цьвілі. Чытаючы мае лісты, перад усім ня трэба спускаць з вока таго асноўнага, што вызначае іх стыль і характар: у гэтых лістох я пішу пра рэволюцыю.

[1]) Зьмешчаны ўперадзе з композыцыйных меркаваньняў.

Другая заўвага. Ты пытаеш, чаму ні ў водным лісьце сваім я ня даў ані даты, ані азначэньня мясцовасьці, у якой адбываецца дзея. Я прынцыпова супроць усякае лёкалізацыі. Я не географ і ня гісторык. Пішучы да цябе лісты, я меў увагу на тое, каб падаць табе ў простым і праўдзівым апісаньні маленечкі кавалак таго вялікага, неабсяжнага, што шырэй за географію і за гісторыю, што ніяк не ўкладзецца ў межы старых нашых вымераў. Аднак, раз ты гэтага вымагаеш,—калі ласка:

Месца дзеі —

— Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка.

Час —

— Эпоха вялікага пералому.

## Ліст першы

Добры дзень, Міхась! Я так раптоўна выехаў з Менску, што на вялікі жаль ня здолеў з табой разьвітацца і ўмовіцца наконт перапіскі. Але я памятаю нашу папярэднюю гутарку (ты казаў тады, што дужа цікавішся сучасным вясковым жыцьцём) і буду пісаць табе незалежна ад таго, маеш ты магчымасьць ды ахвоту адказваць мне, ці ня маеш. Папраўдзе сказаць, мне самому гэта патрэбна: старая звычка — падводзіць рахункі ўражаньням і сынтэзаваць іх. А дзеньніка я ня люблю—не магу размаўляць з пустатой.

Сёньня, едучы з чыгункі, я мо' за цэлы год адчуў сьвежую слодыч прастору. Іскрыстая бялосьць сьнегавога радна, тонкі і крохкі пэрлямут небасхілу, далёкія-далёкія дрэўцы, застылыя ў ледзяным сьне...

Санкі рыпелі з бязьмежнай аднастайнасьцю, і на мяне сышла была патрыярхальная ціхасьць. Успомнілася вясна ў дзяцінстве: сонца, ціхі замлелы сад, далёкае рыпеньне непадмазаных колаў. Сапраўды: па нейкай дзіўнай асоцыяцыі зімовы пэйзаж часта аднаўляе ў душы пышныя вясновыя фарбы...

Едучы з чыгункі па пустэльнаму сьнегавому полю, я зусім вымкнуўся быў з імпэтнага тэмпу жыцьця—таму і гэтая патрыярхальнасьць і ціхасьць гэтая—прымета слабасьці, нэрвовае зморы...

Я пішу цяпер, седзячы ў бруднай, у цьмянай местачковай начлежцы. Малюпасенькі пакойчык карчомнага тыпу, вузкія голыя тапчаны вакол сьцен, грубы пасярэдзіне стол. Недалужная газоўка пэцкае куткі змрочным сьвятлом, карабаціць і без таго карабатыя сьцены.

Любы таварыш! Каб ты ведаў, як мне радасна тут! Ты, мабыць, сьмяешся? Мабыць дзіўна табе—бруд, змрок, голыя тапчаны... А мне радасна вось чаму: у гэтым катушку я адчуў самога сябе, адлучыў ад абыклага, нуднага сплёту будзёншчыны і, як кажуць юрыстыя, вярнуўся да першабытнага стану. За катушком, я чую, бурліць жыватворчы шторм— я заўтра акунуся ў яго—буду новы і стары, даўнейшы—прада мной разгорнуцца прыгожыя і так патрэбныя мне пэрспэктывы.

— Я—романтык, ты гэта ведаеш. Мы ўсе романтыкі — усе, хто імкнецца да новага шчасьця, хто з захапленьнем і верай глядзіць наперад...

У нашай начлежцы, апроч мяне, яшчэ тры чалавекі. У Менску праміпаеш сотні, тысячы людзей, не зазірнуўшы нават у іхныя вочы. Тут я прыглядаюся да кожнага з настойнай, нават трохі нахабнай пільнасьцю, шукаю на кожным адбіткаў вялікага шторму. Я апішу табе маіх выпадковых знаёмых—мо' скарыстаеш дзе ў сваёй літаратурнай творчасьці.

Адзін—нізкарослы камляваты яўрэй—брыгадзір, прысланы на працу па колектывізацыі. На твары ў яго дзелавітая ўпэўненасьць—ён добра звыкся з сваім станам, і жыва, рэальна адчувае невялічкую, але патрэбную ролю сваю ў перабудове жыцьця. Ён апавядае безьліч здарэньняў, якія сустрэў тут, на вёсцы, і схэматызуе:

— Змаганьне ўскаланула ад верху да споду ўсё бытаваньне сялян, але найбольш выразна яно вызначаецца ў трох плазах: соцыяльнае змаганьне, сямейнае і ўзроставае. Адначасна і ў сувязі з тым, як бядняк змагаецца з кулаком,—мужык змагаецца з жонкай, бацька з сынам, моладзь паўстае супроць старых, старыя гнятуць маладых і г. д.

Я ня здолеў запомніць усіх яго апавяданьняў і дужа нездаволены гэтым, бо ты напэўна знайшоў-бы сярод іх нямала прыдатных тэм для сваіх апавяданьняў.

...Сын уваходзіць у колектыў, стары бацька не згаджаецца, угаварвае сына, потым кляне, пагражае і нарэшце памыкаецца на самагубства, каб гэтым дадзець непакорнаму сыну...

...Мужык насупар жонцы ўвайшоў у колектыў. У зладным дагэтуль жыцьці прайшла шчыліна, якая з кожным днём расьце. Паганае ўласьніцкае пачуцьцё ў сэрцы кабеты перамагае даўнейшую любасьць. У часе абагуленьня насеньня, калі мужык здае патрэбнае збожжа, жонка кідаецца на яго з тапаром...

...Да бацькоў прыяжджае дачка—яна вучыцца ў горадзе. Яна зазнала шмат прыкрасьцяй праз тое, што бацькі ідуць супроць колектыву. Яна плача, угаварвае іх і нарэшце — у гневе, у роспачы — назаўсёды кідае бацькаўскі дом...

І г. д. І г. д.

Чым ня сужэты для добрых бытавых апавяданьняў? А колькі асобных псыхолёгічных момантаў, поўных глыбокага драматызму!

...Стары, адважыўшыся пайсьці ў колектыў, „у апошні раз“ ксьціцца перад тым, як выкарпаць нязвыклай рукой на паперы свой подпіс...

...Старая ў часе абгаварэньня пытаньня пра колектыў просіць слова і напрамілуй бог просіць, каб пачакалі, пакуль яна памрэ...

Многа сьмешнага, многа трагічнага, многа такога, чаму дужа цяжка даць веры, расказаў мне гаваркі брыгадзір у гэты цьмяны мястэчковы вечар.

Другі сусед мой—інспэктар працы. Ён арганізуе нарыхтоўку і вывазку лесу. Гэта высокі, худы і шырокі касьцьмі чалавек. У яго кашчавы пэргамінавы твар — непамерна шырокія сківіцы і вострая голеная барада. На лобе і каля рота глыбокія зморшчкі. Ён сьцеражлівы, пільны і мабыць хітры, але цягнецца да кампанаваньня, як дзіця. У гутарку з пасьпешнай гатоўнасьцю ўстаўляе рэплікі, быццам баіцца, каб не падумалі, што ён не разумее тэй справы, пра якую гавораць. Мне трапілася было на якую гадзіну астацца з ім вока на вока, і ён многа тады расказаў мне пра вельмі цікавую і вельмі адказную справу аховы працы. Ён гаварыў з вялікай ахвотай і многатонна, як актор. А часам, у распале гаворкі, раптам утаропліваў перад сабой расплыўчасты погляд і колькі хвілін мармытаў зусім аўтоматычна, ці то задумаўшыся аб чым іншым, ці то разгубіўшыся. Пасьля зноў уключаўся ў плынь свае гутаркі. З першага погляду ён нагадаў быў чамусьці мне твайго Абшарскага з „Кветкі пажоўклай“, але потым я ўбачыў, што гэты—мацнейшы. Паміж іншага, ён вылучэнец-рабочы.

Яшчэ ў некалькіх словах апішу табе трэцяга суседа майго. Ён сядзіць супроць мяне за сталом, і мне троху сьмешна і троху сорамна пісаць пра яго, але разам з тым ёсьць у гэтым і своясаблівая нейкая (мабыць, нядобрая) прыемнасьць. Гэта—аграном з выглядам настаўніка даўнейшае ўтараклясnае школы. Дробненькі, сьціплы, стрыманы—здаецца, трымае сам сябе на туга нацягнутай вяровачцы. Трошку ганарыцца сваёю сталасьцю, гаворыць зважна і з націскам. Надвячоркам я бачыў яго ў местачковай сталоўцы. Ён сядзеў, абкружаны гурмай людзей і з гэтае гурмы адзін хлапец апавядаў пра Туркестан. Апавядаў галоўным чынам для яго, пазіраў на яго нясьмелым дапытлівым вокам, чакаў ягонае ўхвалы. Аграном усьміхаўся, ласкава ківаў галавой і далікатна папраўляў хлапца, калі той відочна маніў...

...Вось я зараз падумаў пра гэтага агранома: няшырокі і няглыбокі, спраўненькі, чысьценькі, як аркуш лінаваны паперы ў бухгальтарскай кнізе. Падумаў я так і спалохаўся. А што, калі ў гэтым сухім чалавечку бушавалі буры, калі перажыў ён боль глыбокіх трагедый, калі гэтай сьціпласьцю сваёй сьціснуў, здушыў ён непамерна імклівыя парываньні?

Сорамна стала мне за мае скорасьпешныя заключэньні...

Ну, годзе ўжо... Гаспадарская дачка сьцеле на тапчаны нейкае рызьзё, і я зараз засну расхрыстаным сном чалавека на паходзе. Бывай!..

P. S. Учора ўвечары я зазнаў нясьцерпную спакусу. Усе пакладаліся спаць, а аграном сеў за стол працаваць. Ён пачаў нешта пісаць і пісаў так, быццам—акуратненька, чысьценька—ставіў на паперы нейкія метачкі (можа, балы?) і рабіў гэта з такім смакам, што я ня мог адвесьці вачэй ад яго—мне карцела самому дастаць сваю запісную кніжку і выстаўляць у ёй гэткія-ж стройныя сьціплыя метачкі. Я глядзеў на яго і ня спаў аж датуль, пакуль ня спыніў ён сваю работу.

Іншыя людзі ўмеюць працаваць з апэтытам...

## Ліст другі

Яшчэ цэлы дзень давялося перабыць у мястэчку. Гэта мяне страшэнна знэрвавала і да краю ўзьняло маю нецярплівасьць. Каб змарнаваць час, хадзіў па вуліцах, наглядаў дробную мітусьню местачковага жыцьця.

Мястэчка тое самае: шэрыя старэнькія дамкі з расхістанымі ганкамі, ля ганкаў—старыя жанчыны ў жудасных лахманох, і ў лахманох—чэзлыя хударлявыя дзеці; на рынку—чарада сялянскіх вазоў, ля вазоў—традыцыйныя местачковыя козы. Але варта прыгледзецца бліжэй, прыслухацца ўважна да абрыўкаў размоў, да лятучых жартаў, да сьмеху, да скаргаў—і пачуеш сьвежы подых новага і ўловіш вострую напружанасьць, якой прасякнута ўсё тутэйшае жыцьцё.

Пералом вёскі—пералом і мястэчка. Інтарэсы, якімі жыве вёска, сплятаюцца тут у адзін шчытны клубок, бо мястэчка—нэрвовы асяродак раёну.

Колектывізацыя... Колгасы... Абагуленьне... Ліквідацыя... Бядняк... Серадняк... Кулак... Індывідуальнае (труднае для сялянскага вуха слова, але здужалі) абкладаньне... Вось тэрміны, якімі скрозь насычана местачковая гутарка.

Многа п'юць. Цесная закураная піўніца (піво „Беларусь") поўна набіта грубымі неўвароткімі кажухамі, а насупроць піўніцы няўпынна грукаюць дзьверы дападлівага цэнтрасьпірту. Хмельным туманам маніцца чалавек затуліць трагічныя жыцьцёвыя супярэчнасьці...

У мястэчку таксама ўжо колектыў. Колектыў—далакоп мястэчка—яно пераажывае цяпер сваю перадсьмяротную агонію. Дробная ўласнасьць—пачатак і канец яго дробна-гандлёвае сутнасьці. Разам з дробнай уласнасьцю сыйдзе з жыцьцёвае сцэны і гэты няшчасны, убогі, жалю варты продукт старога экономічнага ладу.

Як восенскія мухі, сноўдаюцца ўва ўсе бакі асалапелыя „лішэнцы". Гандляры, эксплёататары, служкі рэлігійнага культу—яны выкінуты за борт працоўнага колектыву і стаяць перад непераступнай сьцяной новага, дзіўнага і незразумелага сьвету, у якім няма для іх месца. Новая генэрацыя быўшых людзей...

Чакаючы вырашэньня сваіх спраў, я нейкі час сядзеў у габінэце старшыні райвыканкому. Гэтыя хвіліны далі мне шмат цікавых назіраньняў. Габінэт старшыні—цэнтральны нэрвовы вузёл, у якім стыкаюцца, зьвязваюцца, пераплятаюцца жыцьцёвыя ніці раёну. Перада мной прайшла цэлая галярэя людзей самага рознастайнага тыпу і колеру.

Тут былі радавыя салдаты арміі вялікага будаўніцтва: бадзёрыя, працавітыя, заклапочаныя—яны, што тыя мурашкі, мітусіліся дружным роем—цягнулі з розных куткоў раёну сваю працоўную практыку, свае дасягненьні, скублі, тармасілі, вымагалі—і зноў расьсяваліся ўва ўсе бакі і—няпрыметныя, невядомыя—па каменчыку, па цаглінцы клалі падмурак людзкога шчасьця.

Гэтыя людзі несьлі ў сабе напружаную пульсацыю гарачай крыві таго маладога сьвежага організму, які завецца пролетарскай дзяржавай...

У іхнюю жвавую працавітую чараду рэзкім контрастам уплягаліся зьбянтэжаныя прадстаўнікі старога сьвету. Яны ішлі—хто з захаванымі хітрыкамі, хто з шляхетным абурэньнем, хто з роспаччу—несьлі даўгія аршыновыя заявы, даводзілі, спрачаліся, прасілі. Яны не маглі пагадзіцца з тым, што няўмольнае жыцьцё рашуча выкрэсьліла іх з свайго балянсу.

Пры мне ў габінэт старшыні ўвайшоў быў сярэдняга веку мужчына ў абшарпаным раманаўскім кажушку, у простых ботах. Мне адразу кінулася ў вочы рэзкая супярэчнасьць паміж убогай вопраткай яго і прыгожым, тонкім, кінематографічнага тыпу тварам (вузенькая чорная бародка, рымскі нос, вострыя пільныя вочы). Ён перш далікатна паляпаў у дзьверы, потым з пачцівай асьцярожнасьцю падышоў і стаў ля стала, але, сказаўшы некалькі слоў, папытаў дазволу сесьці і сеў з адчуваньнем уласнае годнасьці. Гаварыў ціха, улазьліва і з пачуцьцём.

— Грамадзянін старшыня! Прабачайце, што я вас так часта турбую... Я не магу... Мне надзвычайна цяжка, я за гэтыя два ці тры тыдні перажыў столькі, колькі не перажываў за цэлыя гады. Вы разумееце маё становішча...

— Вы маеце на ўвазе пытаньне аб працы? Гэтымі днямі мы вырашым. Магчыма, знойдзем што-небудзь...

— Вельмі дзякую... Гэта будзе мне моцнае моральнае падтрыманьне, я буду адчуваць, што мяне не выкідаюць з працоўных радоў. Я гатоў пайсьці на любую чорную працу... ну, сторажам, прыбіральшчыкам... дровы сячы... усё, што хоця...

І ў апошнія словы, сказаныя троху патэтычным тонам, ён уклаў выразныя ноткі шляхетнай самаахвярнасьці.

Я страшэнна зацікавіўся і ня зводзіў вачэй з гэтага тыпуса. Старшыня зьмеціў гэта, зьлёгку ўсьміхнуўся і перавёў гэту ўсьмешку на тыпуса.

— Мы пакуль што хочам скарыстаць вас на адну справу. У нас неўзабаве будзе антырэлігійны вечар. Мы-б хацелі, каб вы прынялі ўдзел у ім. Вы мяне разумееце?

Тыпус крыва ўсьміхнуўся і сумна паківаў галавой.

— Я разумею .. Я ўсё зрабіў, што мог... Я напісаў заяву, паслаў яе ў друк... яе надрукавалі... Супроць мяне цяпер настроены... Мне немагчыма выйсьці на вуліцу... Я не магу пакуль што зрабіць таго, што вы патрабуеце. Я ўсё зрабіў, што мог, і буду рабіць усё, што мне даручаць... Але ня зьнішчайце майго я... не вымагайце таго, што мне ня ў змогу...

Старшыня неўзаметку зірнуў на мяне, і я ўбачыў у вачох у яго тое самае, што круцілася ў маіх уласных думках: ой, і хітрая бэсьція... сіратой казанскай прыкінуўся...

Ты, бязумоўна, здагадаўся ўжо, што гэта быў поп, які адмовіўся ад свае службы і шукаў прытулку на другім баку барыкад.

Папоўскі візыт навёў нас на даўгую гутарку пра сучасны стан рэлігійных спраў, і ў выніку я меў магчымасьць зрабіць на гэты конт некаторыя заключэньні, якімі зараз падзялюся з табой.

Магутны экономічны і соцыяльны зрух, які мы цяперашнім часам перажываем, справаджаецца шырокім абурэньнем мас супроць рэлігіі. Адна за аднэй з волі самых веруючых зачыняюцца цэрквы, сінагогі, касьцёлы і абарачваюцца ў асяродкі пролетарскай культуры. Адзін за адным пазбаўляюцца „сьвятыя пастыры" сваіх слухмяных авечак і трацяць цёплыя наседжаныя гнёзды. І вось, калі я задумаўся быў над тлумачэньнем гэтых надзвычай паказальных фактаў, мне чамусьці ўсплыло на думку, як некалі, яшчэ за паганскімі часамі, нашы прабацькі, уведзеныя ў злосьць няўважнасьцю багоў, лупсавалі сьвятыя іхныя статуі—і ў гэтым выяўлялі сваю чалавецкую сілу і актыўнасьць. Рэлігія—спадарожніца слабасьці чалавека, прыгнечанасьці волі яго і розуму. Рэлігія ў сваёй сутнасьці—пачатак глыбока пасыўны. Таму кожны выбух масавага абурэньня, выклікаючы актывізацыю волі чалавека, узьнімае ў ім бурны протэст супроць боскага чмуру. Біцьцё багоў—частка кожнае рэволюцыі. Мы бачым гэта ня толькі ў нашу эпоху—так было і раней. Успомні, напрыклад, Вялікую Француcкую Рэволюцыю, якая ўзмыла была магутную хвалю рацыяналізму. Успомні нашы расійскія бунты—яны заўсёды ў большай ці меншай меры ўключалі ў сябе элемэнты ваяўнічага блюзьнерства.

Трэба адзначыць, што папы не здаюцца бяз бою. Адылі сродкі барацьбы, якія ўжываюць яны, не паказваюць на іхнюю орыгінальнасьць. У сваім арсэнале яны ня маюць іншае зброі, апрача старога іржавага „цуда", якое ўсім даўно ўжо абрыдла і не дае жаднага эфэкту... У адным сяле бачылі старыя, як у паветры плылі насустрэчу адзін аднаму два абразы. Сустрэліся, пастаялі над сялом і разыйшліся. У другім—загарэлася сама па сабе лямпадка. Поп тлумачыў, што тры разы праяўлялася гэтае „цуда". Першы раз—перад пачаткам царскай вайны, другі—перад пачаткам вайны грамадзянскай, і цяпер—трэці раз. А вывад рабіў ён з гэтага, каб ня йшлі, хто ў бога верує, у колгасы...

Пра ўсе падобныя цуды апавядаюць, весела сьмяючыся, і ў адказ на іх выносяць пастановы аб зачыненьні царквей...

...Ну, але-ж я, мабыць, зусім замарыў цябе сваймі разважаньнямі. Пастараюся, каб у наступным лісьце даць больш жывы і цікавы матэрыял. Думаю, што гэтага матэрыялу я ўдостач назьбіраю па вёсках, у якія я заўтра раніцой выяжджаю.

Бывай!

## Ліст трэці

Дарагі таварыш! Сёньня я маю апісаць адзін цікавы выпадак, які дасьць табе ясны малюнак таго заўзятага клясавага змаганьня, якое йдзе на вёсцы. Але перад тым лічу за патрэбнае даць маленькае тлумачэньне.

Раён, у якім мне давялося працаваць, ёсьць раён суцэльнае колектывізацыі. Заклік пролетарскай дзяржавы да рашучага, карэннага перабудаваньня жыцьця на соцыялістычных пачатках знайшоў тут жывы водгук сярод бядняцка-серадняцкай масы сялянства. Шырокай хваляй памкнуўся працоўны селянін у колектыўныя гаспадаркі. Блізка 80 проц. усяго жыхарства раёну ўжо колектывізавалася і распачало практычную працу па організацыі новага жыцьця. Але побач з гэтым ёсьць яшчэ некаторыя вёскі, што непадатнай сьцяной сталі перад мерапрыемствамі ўлады, замкнуўшыся ў карузлую шкарлупу бруднага старасьвецкага ладу. Гэта ў большасьці цёмныя, глухія куткі, дзе яшчэ ў поўнай меры пануюць дзікія звычкі сярэднявечча, дзе беспрасьветная цемра сялян дае магчымасьць кулацтву на ўсю шырыню разьвінаць сваю шкодную, варожую працу. Або, у іншым выпадку, гэта—заможныя пасялкоўцы, якім вабна ўсьміхнуўся быў шлях капіталістычна-фэрмэрскага абжываньня.

У клясавым змаганьні ўсё становіцца на кон. Кулакі чуюць сваю астатнюю хвіліну і напружваюць усе сілы, каб затрымацца, і ўжываюць усе магчымыя спосабы, каб падтачыць, зрушыць тую вялізную камлыгу, што насуваецца на іх, што во-во гатова раструшчыць іх, пахаваць пад сваёй грознай веліччу.

Ведаеш, браце! Жывучы ў Менску і назіраючы жыцьцё скрозь балонкі газэт, ніякім чынам ня ўявіш у жывой форме волатаўскага поступу нашых дзён. Па-праўдзе, ці не здавалася табе часам гэтае клясавае змаганьне на вёсцы, пра якое так многа, так настойна пішуць нашы газэты, нейкай адумысловай схэмай, матэматычнай формулай, сухім сылёгізмам? Прабачай мяне, але я скажу проста: ты не разумеў гэтага змаганьня, бо ня бачыў яго твар у твар, і таму абмінуў яго ў сваіх апошніх творах, за што цябе і ўшчувала наша грамадзкасьць („Падарожжа на новую зямлю“).

...Я раскажу табе пра перавыбары саветаў, якія я разам з маладым вайскоўцам-адпускнікам праводзіў у аднэй вялікай вёсцы вярсты за паўтары ад мястэчка.

Блізкасьць да мястэчка я паказаў тут ня так сабе, не выпадкова. Гэта—надзвычайна характэрны момант—ён у значнай меры вызначае консэрватызм большасьці жыхарства вёскі ў пытаньнях перабудовы жыцьця. Мястэчка—акумулятар дробна-буржуазнае ідэолёгіі. Чым бліжэй вёска стаіць да мястэчка, тым глыбей закарэўшы яна ў струп'і ўласьніцкіх, мяшчанска-абмежаваных тэндэнцый і звычаяў.

Гэта было ў нядзелю. На вуліцах вёскі таўкліся гурмай хлопцы, дзяўчаты. Вылятаў з гурмы рэзкі нястрыманы сьмех, абрыўкі гарланістых песень. Было шмат п'яных: на вёсцы гулялі адразу тры вясельлі...

У хаце комсамольца—сябра сельсавету сышлася небагатая купка вясковых актывістых: кіраўнік колгасу—былы старшыня сельсавету—нявысокі прысадзісты мужчына з белабрысым тварам, з павольнымі гультаяватымі рухамі, па-дзяцінаму настойлівы і ўпарты; сябра савету—малады

хлопец Янка—тыповы комсамолец: малы і заўзяты; яшчэ некалькі комсамольцаў; настаўніца—гаворкая, спрытная ў слове, з вострым, троху хваравітым скэптыцызмам...

Адразу-ж нам падалі няпрыемныя весткі. На вёсцы арудуе купка падкулачнікаў—зацятых ворагаў колектывізацыі. За ёй ідуць ня толькі серадняки, а й ладная частка беднаты. Колгас ахапіў зусім нязначны лік гаспадарак, шмат якія колгасьнікі адчуваюць сябе няпэўна, вагаюцца, не выяўляюць актыўнасьці. Некаторыя пад уплывам агітацыі і запужваньня падалі заявы на выхад з колгасу. Невялічкі дружны гурток колгаснага актыву абкружаны колам злоснай варожасьці і працуе ў трывожнай напружанай атмосфэры.

Ясна было, што падкулачнікі выкарыстаюць перавыбары для ўдару па колектыву, ясна было, што яны выступяць організаваным фронтам і будуць намагацца правесьці ў Савет сваіх адданых паслугачоў.

... Вёска пераклікалася п'янымі галасамі. Вішчэў апантаны гармонік, рэзалі вуха дзікія ўзвывы прыпевак...

Зьявілася думка адкласьці сход, бо можна было чакаць розных эксцэсаў. Пагаварылі і рашылі ўсё-ткі праводзіць—умовіліся толькі даць самы рэзкі адпор магчымым выступленьням п'яных, патрабуючы выдаленьня іх са сходу.

Нас павёў комсамолец Янка ў канец вёскі, дзе быў прызначаны сход. Ідучы, апавядаў конспіряцыйным тонам:

— Яны страшэнна ня любяць мяне, гатовы жыўцом разарваць. Пагражалі, што заб'юць, але я не баюся... Некаторыя нашы, калі забавяцца ў мястэчку, дык і начуюць там, баяцца ісьці па начы. А я—не зважаю, дармо... Свайго мы ўсё-ткі дойдзем, няпраўда...

Мне ўспомніліся глыбоказначныя словы аднаго дзеда-селяніна, якія ён сказаў быў голасам таемнага вяшчуна:

— Платы загаманілі!..

У гэты дзівосны вобраз уклаў ён выяўленьне злосьці азьвярэлага кулацтва, якое, баючыся дзяннога сьвятла, з-за цёмных платоў, як падкалодная гадзіна, шэпча свае бясьсільныя пагрозы.

Зьбіраліся марудна. Кожны, прыходзячы, неймаверна ківаў галавой.

— Наўдачу, каб сабраліся сёньня. Тры вясельлі на вёсцы.

Адылі сабраліся. І адразу ясна стала, што большасьць ня наша. Я абводзіў поглядам натоўп, і бачыў скрозь падазрона-насцярожаныя твары, за якімі відочна хавалася загадзя нарыхтаваная гатоўнасьць даць адпор усяму, што пойдзе насупар кулацкай зграі. У іншых вочы выразна блішчэлі хмельным агнём.

А па заплеччу цёрліся верхаводы—кулацкія агэнты—рабілі сваю цёмную справу.

Што-ж, будзем змагацца!..

Сход ад самага пачатку пашоў бурна і тлумна. Наперадзе шчытным комам зьбіліся бабы—ціснуліся, сакаталі, перапынялі дакладчыка істэ-

рычнымі скаргамі на дробныя свае нягоды. Адчувалася пэўная тактыка: пусьцілі наперад жанчын, падбухторыўшы іх, а самі пахаваліся за іхнымі спадніцамі.

У спрэчках узьняўся цэлы гармідар. Крытыку сельсавету абярнулі ў асабістую зьвягу, у крыўдаваньне на розныя нязначныя жыцьцёвыя нясуладзьдзі. Бабы крычалі ўсе разам і ўсе ў адзін тон. Пачыналася так: прасіла слова адна і монатонна зацягвала, і разам з ёй, як па камандзе, заводзілі ўсе, і гаварыла кожная сваё, аб сабе, і толькі сама сябе слухала. А сьціхалі таксама разам, і кожная прыслухвалася тады, які сьлед пакінула гаворка яе, і шчыра дзівілася, што ніхто не рэагуе на яе бядоты.

... Аднэй у саўгасе не прадалі малака...

... Другую пакрыўдзілі ў коопэрацыі...

... У трэцяе хворае дзіця, а ёй чамусьці ня выдалі цукру...

... Чацьвертую абразіла нечая жонка...

Нарэшце баб сяк-так угамавалі. Павялі тон колгасьнікі-актывісты— у дзелавых шчырых прамовах адзначылі мэту перавыбараў, задачы новых саветаў—кіраўнікоў колгаснага руху, далі сур'ёзную крытыку працы старога савету.

Падышлі да перавыбараў. І тут пачаўся самы заўзяты бой. Адразу аднекуль ззаду выціснуўся распараны духатой і алкаголем хлапчына, з п'янай энэргіяй замахаў рукамі і закрычаў дэмагогічна ўзьнятым голасам:

— Таварышы грамадзяне! Перавыбараў ня можа быць. Тут-жа адны толькі бабы—мужчыны ўсе паразыйшліся... Мужчын няма... Якія-ж выбары бяз мужчын!..

З другога боку пачуўся рэзкі суровы воклік:

— Базыль!.. Ня бузі... Выпіў, дык сядзі ў кутку... Сход сарваць не дазволім...

Словы „сарваць сход“ зрабілі ўплыў—хлапчына замармытаў нешта, выпраўдваючыся, і ўціснуўся зноў у натоўп. Адылі яго прапазыцыю падтрымалі галасы ззаду і да яе далучыліся бабы:

— Адкласьці! Няможна выбіраць... Народу няма...

Я зірнуў паверх натоўпу і ўбачыў, што заднія рады сапраўды парадзелі.

Узяў слова адзін комсамолец:

— Таварышы! Што мужчын тут менш за жанчын—гэта ім сорам і ганьба... Бабы, значыць, больш сьвядомыя, чымся мужчыны. Той, хто хацеў прысьці, той прышоў і астаўся, а ўцяклі тыя, хто думае сарваць перавыбары... Баба такі самы грамадзянін, як і мужчына. Кворум ёсьць, і перавыбары будзем праводзіць...

Жанчыны адчулі сваю грамадзянскую годнасьць і падтрымалі прамоўцу. Праз колькі хвілін ззаду, за натоўпам, сьціху адчыніліся дзьверы і адзін за адным вярнулася ў хату ўся хэўра падкулачнікаў. Комсамолец Янка здаволена шаптаў мне:

— Ня вышла... Не ўдалося сарваць...

А потым таемна дадаў:

— Я ведаю: яны недзе сабраўшыся былі, радзіліся. У іх ужо свой сьпіс гатовы...

Ён меў рацыю. Пасьля таго, як бедната і колгасьнікі прапанавалі сваіх кандыдатаў, з гурмы падкулачнікаў дружна выкрыкнулі прозьвішчы сваіх кандыдатаў.

Во дзе, дарагі таварыш, адкрылася была і разгарнулася яскравым разрэзам—ня схэма, ня формула, а жывая карціна клясавага змаганьня сярод сялянства. Сход падзяліўся на дзьве варожыя часткі, і гэтыя часткі былі—два сьветы—розныя, процілеглыя адзін аднаму, якія стыкнуліся ў адчайнай сьмяротнай бойцы.

За кожную кандыдатуру біліся з жорсткай упартасьцю і энэргіяй. Падкулачнікі ўжо ня туляліся ззаду—яны чулі сваю тут сілу, бо за іх была большасьць—за імі цягнуліся цёмныя, зьбітыя з панталыку жанчыны. Яны насядалі дружнай зграяй—разьюшаныя, з чырвонымі тварамі, з дзіка распаленымі вачмі, у якіх шалёнаю лютасьцю гарэла перадсьмяротная агонія паміраючае клясы.

Я скажу табе проста і адкрыта: на гэтым сходзе бедната не перамагла. Спрытная праца кулацкіх паслугачоў зрабіла сваю справу—ачмураныя сераднякі і нават беднякі паслужылі на карысьць свайму клясаваму ворагу: падкулачнікі правялі ў савет большасьць сваіх кандыдатаў.

А першай гадзіне ўначы ў хаце таго самага комсамольца Янкі сабраўся пасьля сходу дружны атрад актывістых. Пры цьмяным сьвятле ўбогае газоўкі доўга і горача гаманілі, спрачаліся—рабілі падрахункі, падлічвалі страты, назначалі далейшыя шляхі змаганьня.

Адно—не бедавалі. Чулі хлопцы, што за імі—моц і воля мільённых мас, за імі—жыцьцё, за імі—эпоха.

Часовыя няўдачы толькі паддаюць сілы ды ахвоты змагацца.

Калі глыбокай ноччу вышлі мы з хаты, па вуліцы пасьпешна адсуваліся ў цемру тры няясныя цені. Я зноў успомніў старога вяшчуна-дзеда:

— Платы загаманілі!..

## Ліст чацьверты

Нарэшце атрымаў твой першы ліст. Ён надзвычай прышоўся да ладу, бо маўчанка твая, па праўдзе сказаць, зьбівала ахвоту ў мяне да далейшага пісаньня. Значыць, лісты мае ты чытаеш з цікавасьцю і просіш, каб я пісаў і далей. Добра. Буду гэта рабіць з падвойнай энэргіяй. Перада мной з кожным днём, з кожнай гадзінай, з кожнай хвілінай усё шырэй і глыбей раздаюцца прасьцягі жыцьця і паказваюць нязьлічоныя скарбы найцікавейшых зьяў: пісаць будзе пра што.

Сёньня я ўспомніў адно месца з твайго раману „Крывічы“. Памятаеш, як твой рэзонэр Пражэня гаворыць прыблізна такое: ніякі самы бліскучы

дабрабыт не заменіць селяніну таго моцнага—на ўсю глыбіню душы—адчуваньня, якое абуджае ў ім недалужны выгляд толькі што нараджа- нага на сьвет цяляці, *яго* цяляці, ад *яго* каровы, якую ён выгадаваў сваім потам і кроўю...

Гэтымі і іншымі там словамі ты досыць удала азначыў псыхолёгію селяніна, у аснове якой ляжыць дробна-ўласьніцкая прывязанасьць да свайго кутка, да свае жывёлы, да сваіх гаспадарскіх рэчаў і г. д. На вялікі жаль ты ня даў (прынамсі ў той частцы, якую мне давялося чытаць) жаднае ацэнкі гэтае псыхолёгіі. Гэта не маленечкі недагляд, а органічная загана твайго роману, якая кладзе сьлед на агульную яго ўстаноўку.

Нам цяжка, да болю, да бязьмернае мукі цяжка ламаць сябе, пера- варочваць сваё нутро, крывавымі шматамі вырываць з свайго сэрца з дзяцінства ўзрошчаныя пачуцьці. Згадзіся, Міхась, што ўсе мы, усе, каго выгадавала наша беларуская вёска, хварэем на гэта „цялё". Нам досыць убачыць якую-небудзь чэзлую шаўлюжку, досыць удыхнуць салодкі пах конскага поту, досыць пачуць далёкае—надвячоркам—рыканьне каровы, і ў нас сьціскаецца сэрца невядомым жалем, і ў ружовым сьвятле ўсплываюць шчымлівыя ўспаміны: і буланы конік, і начлег з цяплом, з печанай бульбай, і бярозка на гумнішчы і—досьвіткам—цёплая ёўня ў гумне з сівым ласкавым дзедам, і верацённая песьня ў глухую зімовую ноч...

... Любіце чужое, але й свайго ня чурайцеся...

Няпраўда! Мана!.. Чурайцеся!.. Чурайцеся!.. Чурайцеся, калі хочаце жыць, калі хочаце ісьці наперад!..

Самае ганебнае для чалавека—быць рабом рэчаў. Наш селянін—раб у поўным сэнсе гэтага слова. Ён раб свайго двара, свайго каня, каровы, апошняга дохлага парасяці. Я сам чуў, як у гутарцы пра абагуленьне жывёлы ў колгасе, адна жанчына з цьвёрдай праканаласьцю і зусім сур'ёзна гаварыла:

— Лепш аддаць дзіця роднае, чымся карову...

А таварыш адзін апавядаў мне, што ў другім месцы, здаючы жывёлу ў агульную колгасную маемасьць, мужчыны цалаваліся з коньмі, а бабы з каровамі...

Што? Мо' расчуліўся? Мо' сьляза набягае на вока?

Так, варта заплакаць, варта заплакаць ад злосьці і абурэньня, што чалавек—раб жывёлы, што свае лепшыя пачуцьці, імкненьні свае, парываньні, якімі можна рушыць наперад сьвет, ён закопвае ў гнаі брудных хлявоў...

Прабачай, браце, што я мо' не да рэчы ўдаўся ў разважаньні, але я шчыра жадаю, каб ты ў сваёй творчасьці блаславіў Вялікую Рэволюцыю, якая вызваліць чалавека ад апошняга рабства, ад рабства ў сваіх уласных рэчаў.

... Пах бэнзыны заменіць пах конскага поту і фабрычны гул—ціхую верацённую песьню...

Хай *будзе* так!..

А цяпер—да справы. Фактычна, мае сэнтэнцыі, якія ты хоця-ня-хоця павінен быў выслухаць, маюць некаторае дачыненьне да таго, пра што я сёньня маю на ўвазе пісаць. Справа ў тым, што перабудова вёскі на новых прынцыпах гаспадараньня якраз і стыкаецца ў першую чаргу з гэтай праклятай уласьніцкай ці, праўдзівей, рабскай псыхолёгіяй селяніна і часта ўваходзіць з ёй у балючую, трагічную супярэчнасьць. Праўда, асноўны і найбольш цёмны згустак рэакцыйных тэндэнцый зьбіраецца на заможным, кулацкім полюсе вёскі, але прасочваюцца яны і ў серадняцкія масы і нават у бядняцкія. Кулакі спрыяюць таму сваёй злоснай заўгольнай агітацыяй.

... У цяжкіх муках нараджаецца новае жыцьцё...

Яскравае выяўленьне як соцыяльна-клясавых, так і псыхолёгічных супярэчнасьцяй, злучаных з колектывізацыяй, давялося мне бачыць на адным вясковым сходзе, які, трэба сказаць, меў ня зусім звычайны характар: ён быў скліканы з прычыны прыезду ў гэтую вёску старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту т. Чарвякова.

У гэтай вёсцы толькі-толькі заклаўся колгас і ахапіў ён троху больш, як палавіну жыхарства. Рэшта яшчэ вагалася, а значная група, на чале з кулацкай верхавінкай вёскі, рабіла ўсе захады, каб падарваць працу піонэраў новага жыцьця: колгас перажываў тут пачатковую стадыю барацьбы за існаваньне.

У клясным памяшканьні мясцовае школы зьбіўся народ шчытным суцэльным комам. Стаялі і ў сенцах і нават на ганках. Прыходу т. Чарвякова чакалі з напружанай нецярплівасьцю—разважалі, спрачаліся, даводзілі адзін аднаму: кожны прынёс сюды—на вочы цэнтральнаму ўраду—нешта сваё, затоенае, глыбокае, кожны спадзяваўся пачуць для сябе новае і прыемнае. Цікава, што нават у разьмяшчэньні людзей выявілася асноўнае соцыяльнае разьмежаваньне вёскі: у адным кутку абсталяваўся асяродак актыву колгасьнікаў, у другім—акурат насупроць—засеў штаб „падрыўнікоў“.

Сход пачаўся ў напружанай атмосфэры, акая во-во гатова была разарвацца бязладным тлумам, злоснымі спрэчкамі, магчыма нават узаемнай лаянкай. Кароткую інформацыю старшыні колгасу выслухалі няўважліва, перапыняючы крыкамі, шумам, а як скончыў ён і з прэзыдыі прапанавалі рабіць запытаньні,—прарвалася стрымленая затока, разьлілася морам тлумнае гаварні. Ледзьве ўдалося наладзіць парадак.

Першыя запытаньні ашаламілі сваёй дзікай жудаснай недарэчнасьцю:

— Ці праўда, што калёным жалезам будуць знакі выпякаць тым, хто пойдзе ў калгаз? (Тут сяляне гавораць не „калгас“, а „калгаз“).

— Чаму гэта раней угаварвалі, казалі, што добра ўсім будзе ў калгазе, а цяпер вунь у грабы закалачваць будуць... Чаму гэта так?..

І гаварылі гэта старыя бабы ня сьмехам-жартам, а сур'ёзна, з глыбокім і сумным пераконаньнем. Мы потым высьветлілі былі, адкуль

узьнiклi падобныя запытаньнi. Нейкi агiтатар некалi гаварыў тут прыгожую вобразную i, бязумоўна, незразумелую для сялян прамову...

—... Каленым железом выжгем мы сорную траву с нашего трудового поля...

—... Мы имеем достаточно гвоздей, чтобы заколотить гробы всем, кто стоит у нас на дороге...

Гэтую прамову добра зразумелi i выкарысталi кулакi для свае справы. Яны пераклалi яе на патрэбную iм мову i распаўсюдзiлi сярод цёмных сялян.

Калi разважылi бабам дарэмную iхную трывогу, адна з iх уздыхнула i шчыра прызналася:

— Мне цэлую ноч тады ўсё труна сьнiлася...

Наступны iнцыдэнт быў такога парадку... Недзе ад дзьвярэй раптам пачуўся грубы басавiты голас, якi пакрыў сабой шум усяго сходу:

— Таварышы! Прашу слова! Я ня ўпроцiў, канечна, я добра ўсё разумею, але за што ён мяне голасу арашыў? Што я зрабiў яму, паскуднiку гэтаму? Мальчонка, ува ўнукi гадзiцца мне, а ён мяне голасу арашае...

I дзядзька павёў без канца сваю гучную апалёгiю, i нiяк не маглi яго ўцiхамiрыць, бо быў ён, як гэта зараз-жа высьветлiлася, глухаваты. А голасу яго „арашылi" былi ў тым сэнсе, што калi ён аднойчы на сходзе буянiў i перашкаджаў весьцi працу, яго папрасiлi пакiнуць сход. Кулакi не прамiнулi i гэта скарыстаць, распалiлi ў iм крыўду, настроiлi супроць колгаснага кiраўнiцтва i зрабiлi яго сваiм трубадурам...

Было яшчэ шмат асабiстых скаргаў. Адна жанчына ў парадку абгаварэньня колгасных спраў дала такое запытаньне:

— А цi парадак гэта ў калгазе выганяць уначы на вулiцу i сякерай пагражаць, га?..

Запытаньне прыцягнула ўсiхную ўвагу. З штабу „падрыўнiкоў" пачулiся зларадасныя подгаласы (Ага? Што? Гэта парадак?). З прэзыдыi запыталiся:

— Хто гэта калi выганяў цябе?

I жанчына, чуючы за сабой падтрыманьне, з ваяўнiча-адважным выглядам адказала:

— Пасынак.

Пад агульны сьмех ёй растлумачылi, што ў калгасе якраз i знойдзе яна абарону ад свайго злоснага пасынка, што ў калгасе ня будзе яна нi ад кога залежыць, будзе, як i ўсе, самастойны i роўнапраўны сябра.

Пакуль iшла гэта гутарка, я з цiкавасьцю сачыў за дзьвюма асобамi—дзедам i бабулькай, якiя сядзелi на самым перадзе перад сталом прэзыдыi. Дзед—невялiчкi, спакойны, ласкавы—увесь час то ўхвальна, то з дакорай кiваў галавой i паўголасам даваў рэплiкi—больш вiдаць, сам для сябе—i рэплiкi яго былi разважныя, сталыя. А бабулька, абгарнутая неабсяжнаю хусткай, сядзела нярухома, узьняўшы маленькiя вочкi

на таго, хто гаворыць, і невядома: ці слухала ўважна, ці проста дзівалася з чалавека. Колькі раз—я бачыў—яна сама сабе ціха ўсьміхнулася, і ўсьмешка ў яе была, як восенскае сонца...

... Зачаліся спрэчкі. Тонкі перажаблены голас з кутка асвой упіваўся ў згустак людзкіх пачуцьцёў і едкім джгалам сваім падколваў цёмныя інстынкты, напінаў струны злоснага раздражненьня.

— Усё аддай, усё складзі ў адну кучу... А з чым-жа я астануся, га?.. Век рабіў, век працаваў з цямна да цямна—і сябе карміў, і дзяржаве даваў... А цяпер—торбу ў рукі ды ў сьвет? Ого, ведаем мы, што гэта такі за калгаз... Хто лайдак, гультай спрадвечны, той на маім карку будзе сядзець... Хо-хо, добрая рэч!.. Мы й так патрапім пражыць... Каму які клопат да нас?..

Тонкі пісклявы голас віўся туга напятай ніткай, і ў тую нітку адзін за адным упляталіся бязладныя выгукі, ухвальныя рэплікі, крыкі абурэньня.

— Гэта-ж сьвет завязаць чалавеку!..

— Аддай каня, аддай карову... З чым-жа я астануся?..

— Ня трэба калгазу!.. Хай ідуць у калгаз, хто працаваць не ахвочы, а мы й так абыйдземся...

— Ня трэба калгазу!..

Узьнімаўся гармідар. Нарэшце ён паглынуў голас самога заводцы. Старшыня высьцігаўся, сунімаючы сход.

— Слова мае Андрэй... Слова мае Андрэй...

З другога кутка малады хлапец сьвежым задорным голасам перакрыў шум:

— Таварышы! А няхай скажа нам дзядзька Барыс, ці забыўся ён на тое, як некалі за польскай окупацыяй хадзіў ды ляпаў у вокны: нясі масла, нясі яйкі, нясі малако... Ці помніць ён гэта, га? Цяпер прыкінуўся—працаваў, дзяржаве даваў... Таварышы! Ворагі нашы ідуць да нас, каб разбурыць нашу справу... Яны ўзводзяць усякую хлусьню на справу будаўніцтва новага жыцьця... Але мы дамо добры адпор, мы адаб'ём ахвоту ў іх лезьці, куды ня трэба... Барыс—першы наш вораг. Мы не прынялі яго ў колгас, дык ён думае, што адпомсьціцца нам, разбурыць нашу справу, але памыляецца... Па руках дастане за гэта дый па тым... Мы зробім тое, што зачалі рабіць...

Зноў амбарас:

— А нашто ты прадаў тры парсюкі?..

— Дзе прадаў? Хто прадаў?..

— Усе гэткія! Усе глядзяць, каб да сябе, а не ад сябе...

— Вон кулакоў і падкулачнікаў!

— Ня трэба колгасу!

Тады ўзяў слова невялічкі спакойны дзядок, што сядзеў наперадзе, перад самай прэзыдыяй. Ён паволі ўзьняўся і, на паўзварота абярнуўшыся да натоўпу, з лагоднай цярплівасьцю чакаў, пакуль сьціхаміруцца.

Гаварыў ён ціха, быццам сам з сабой разважаючы, і дапытліва пазіраў то на сход, то на прэзыдыю.

— Дзядзькі, паслухайце, штс я скажу... У нас тры рэволюцыі было, а цяпер ідзе чацьвертая, во што. Першая была ў семдзесят сёмым годзе, другая ў пятым, трэцяя ў семнаццатым, а цяпер чацьвертая... Перараджаецца чалавек ад малага да вялікага. Жылі кожны на сваім, а цяпер—у адно. Новыя ўставы, парадкі... А ўсё на лепшае будзе... Тры рэволюцыі адбылі, адбудзем і чацьвертую, і будзем жыць па-новаму, як найлепей... Во што я вам кажу, дзядзькі...

Ён сеў, зірнуў на бабку—суседку сваю—і здаволена ўсьміхнуўся. Прамова яго яму падабалася. А бабка тож усьмешкай яму адказала—восенскім сонцам...

Спрэчкі цягнуліся доўга. Блізка што а паўночы ўзяў слова старшыня ЦВК т. Чарвякоў. У простых, даходных да мужычага розуму словах ён растлумачыў сэнс вялікага будаўніцтва, з якога старавечная, закарэлая ў брудзе, у цямноце вёска, прыціснутая агідным гнётам вясковае буржуазіі, выйдзе на новы раскошны шлях новае гісторыі.

Я бачыў, як сялянскія твары працяліся былі строгай увагай, як у іхных вачох глыбока, цёмна дымілася балючая—ад сэрца, ад крыві—думка пра новае жыцьцё, пра новае шчасьце.

Старая бабка нахілілася да свайго суседа і—я чуў—ціха ў яго запыталася:

— Як-жа мы будзем рабіць тады?

Дзед дасадліва ёй адказаў:

— Ат, бабка... Што ты пытаеш? Калі ішлі на вайну, таксама ня ведалі, але-ж тымчасам рабілі.

І, троху змаўчаўшы, дадаў:

— Ты-ж чула, што я казаў: чацьвертая рэволюцыя. Усе—і старыя і малыя перараджаюцца... Разумееш?

Бабка ўсьміхалася восенскім сонцам...

## Ліст пяты

Дарагі таварыш! У сваім учорашнім лісьце я пісаў, што тут, у вёсцы, мне давялося выпадкова сустрэць старшыню ЦВК тав. Чарвякова. Сёньня я быў прысутны пры тым, як прымаў ён вакольных сялян, як адзін за адным адкрывалі яны перад ім старонкі свайго жыцьця, сьпелесаваныя глыбокімі сьлядамі трагічных і часам недарэчных зусім супярэчнасьцяй. Я апішу табе некалькі найбольш цікавых выпадкаў, бо мне здаецца, што яны вартыя нават таго, каб узяць іх асновай для літаратурных твораў. Да-рэчы, ты потым азначыш, ці ёсьць у мяне хоць у невялічкай меры тое „адчуваньне сужэту“, якое—ты, помніш, казаў мне?—ёсьць органічная ўласьцівасьць творчае індывідуальнасьці...

Вось, напрыклад, тэма для апавяданьня таго жанру, у якім конструкцыйным вязьмом служыць „фатальны выпадак“...

Да т. Чарвякова прышоў сярэдняга веку чарнявы мужчына з відочнымі сьлядамі трывогі і балючых перажываньняў на твары. Ён зачаў скардзіцца на тое, што яго несправядліва пазбавілі права голасу. Калісьці за палякамі ён колькі тыдняў пад прымусам адбываў нейкую адміністрацыйную службу. Пасьля таго ён быў у партызанах, сядзеў у польскай турме, уцёк адтуль і г. д. Бадай праз усю грамадзянскую вайну ён служыў у Чырвонай арміі і меў баявыя заслугі. Па соцыяльнаму стану ён маламожны серадняк і ніякіх пабочных прыбыткаў ня мае.

— Вы скардзіліся на гэтую пастанову?

— Так. Я падаваў у камісію ЦВК—адтуль прышоў адказ—адмовіць... Ужо два гады, як я быццам і не чалавек, быццам чужы ў сваёй працоўнай сям'і. Прыдзеш на сход, хочаш разам з усімі—меркаваць, думаць аб жыцьці, аб тым, як далей што рабіць—дык усе на цябе пазіраюць, як на лютага воўка. Ніякага ходу няма. А за што—і сам ня ведаю...

Ён памаўчаў і дадаў слабым, поўным роспачы голасам:

— У колгас ня прымаюць... закону няма... Што-ж цяпер... у вір галавой?.. З сям'ёй... з дзяцьмі малымі... дзе я дзенуся?..

— У вас ёсьць якія дакуманты? Пакажыце...

І т. Чарвякоў углыбіўся ў разгляд старэнькіх зашмальцаваных паперак. Раптам ён узьняў на селяніна вясёлы погляд.

— Вы пісьменны?

— Дзе там... Ніводнае літары ня ведаю...

Тав. Чарвякоў з усьмешкай паказаў мне паперку, і я прачытаў на ёй:

„... паведамляе, што па вашай заяве Цэнтральная Выбарчая Камісія вынесла пастанову: у праве голасу вас *аднавіць*“.

— Хто чытаў вам паперку з ЦВК?

— Пляменьнік... У школку ходзіць...

Пляменьнік пераблытаў дзьве літары, замест „аднавіць“ прачытаў „адмовіць“, і два гады дзядзька быў выкінуты з агульнага жыцьця працоўнай сям'і і стаяў цяпер—зьбянтэжаны, разгублены—перад пэрспэктывай маральнага і фізычнага остракізму.

Ну, я ўжо ня буду апісваць, што было далей—твая фантазія нарысуе табе карціну нечаканае радасьці гэтага чалавека.

А вось—інакшы жанр...

Здаровы прыгожы хлапец—гадоў дваццаць сем, дваццаць восем. Троху саромяецца, апавядае тонам чалавека, які прызнаецца ў мімавольным граху. Адылі захапляецца сам і неўзаметку пераходзіць на шчырую даверлівасьць і адкрытасьць.

— Я—батрак. Змалку працаваў па людзях—свае гаспадаркі і ў вочы ня бачыў. Ну, вось... паступіў да шляхцянкі да аднае... Багатая была, няма чаго казаць... Усяго ў яе, усякага там дабра повен двор... І дзеці

ў яе ладныя былі. Ну, і, яшчэ сказаць, старэйшая яна за мяне... многа старэйшая... гадоў на дванаццаць... Але неяк сышлося... Пажаніліся значыць... А тады пашло... індывідуальны на яе паклалі... кулачка, тое, другое. Я ня звыкшы да гэтага, дый людзі зачалі папікаць... Пашоў я ў лясьнікі—кінуў, значыць, яе... Яно-б так ужо й было, але прыяжджае яна, плача, кажа, што зацяжарыла... Сэрца слабое ў мяне—угаварыла. І вось жылі зноў. Дзіця нарадзілася—дзяўчынка. Прывык я... дый яна такая... падходная... А цяпер высяляцца ёй трэба... раскулачылі... у колгас, значыць, ня прымаюць... Я не аб тым—гэта раз трэба, дык трэба... Вось ня ведаю сам, што рабіць... Выходзіць, і я ўжо кулак... Ці мне падацца куды, ці ля яе трымацца, ля жонкі, значыць... дачкі дужа шкода... сэрца слабое ў мяне... прывыкшы да іх... Але я кіну... усё роўна... хай сабе... Я цэлы век па сьвету цягаўся... скрозь батраком быў... як, быццам нелюдзь якая... А цяпер зноў... Дзядзька Чарвякоў! Я кіну іх... я хачу чалавекам быць... як усе... працаваць... Хай прымуць мяне ў колгас... А іх я кіну... кіну...

І гэты здаровы прыгожы хлопец нястрымаў свайго слабога сэрца—хваравіта скрывіўся і цяжка балюча заплакаў...

Сьледам за ім прыходзіла старая—скардзілася на тое, што сын з нявесткай б'юць яе і яе дзеда. Мяне надзвычай зьдзівіла тая шчырая самаахвярнасьць, з якой яна, забываючыся на сябе, апісвала пакуту свайго старога.

— Ён-жа зусім слабенькі... Колькі яму засталося пражыць! А яны-ж не шкадуюць яго... бітма б'юць... Учора сказала я, што пайду да Чарвяковага жаліцца, дык яны зьбілі яго, што ня ўстане... ляжыць, небарака... А ў мяне ўжо скрозь галава баліць... адбілі...

Тав. Чарвякоў загадаў прыслаць да яго гэтага буянага сына. Пасьля, у часе пасяджэньня праўленьня колгасу, на якім быў і т. Чарвякоў, яна прышла зноў і прывяла з сабой свайго дзеда. Ён быў высокі, худы, з шызымі нявідушчымі вачмі. На нярухомым твары яго, аброслым мяккай кароткай расьліннасьцю, ляжала пячатка глыбокага суму. Ім сказалі пачакаць, і яна асьцярожна правяла яго ў куточак пакою. Там селі яны поплеч на ўслончыку—ён абапёрся на кій і застыў у бязуважным спакоі. А яна збоку пазірала на яго, сумна схіліўшы галаву, і ў вачох у яе было поўна балючае пяшчоты. У яго з роту цякла сьліна, а ён гэтага не заўважаў. Руплівым рухам яна абцерла яму бараду і дзелавіта зморшчылася—больш з жалю, чымся з агіды. Тады стары выцяг з кішэні брудную хустачку, прыклаў яе да барады і зноў нярухома застыў. Яна доўга ўзіралася ў яго, на вочы ёй набягалі сьлёзы, і твар крывіўся ў жаласна-пакутную міну. А заплакала яна абыкла і проста, не схаваўшы твару, не зьмяніўшы нават паставы.

Я потым бачыў іхнага сына. Ён апраўдваўся з нахабнай упартасьцю, з цынічным адчуваньнем свае сілы.

— Я не прысіляю іх... Калі ім дрэнна жыць у мяне, хай ідуць да другога сына... Хай там пажывуць, параскашуюцца.

Яго папярэдзілі, што, калі будзе так рабіць надалей, справа гэта трапіць у суд. Ён вінавата змоўк, стуліўся ва ўдаванай пакорнасьці. І здалося мне, што затоіў ён у сабе яшчэ большую злосьць, каб потым спагнаць яе на сваіх няшчасных бацькох...

Браце мой! Каб ты ведаў, як глыбока ўразіў і абурыў мяне гэты мо' й нязначны мо' й абычайны для нашае вёскі выпадак! Я спалучыў быў яго з учарашнім сходам, з учарашнімі дзікімі запытаньнямі, з выступленьнямі супроць колектывізацыі, супроць новага будаўніцтва. Ці можа быць большы вораг за тых, хто перашкаджае нам да шчэнту разьбіць пачварную здань старое вёскі з яе „асьвенчанымі даўнінай“ звычаямі, з яе зьвярыным індывідуалізмам, з тупым бязвыхадным колам дробнае старасьвецкае гаспадаркі, у якім б'ецца, як рыба аб лёд, селянін—убогі, пакорны раб сваіх рэчаў...

Вось яшчэ адзін факт. У ім ты адчуеш усю жудасьць гэтага жорсткага рабства. Чалавек жыве не сабой, не для сябе — ён траціць сябе, траціць найвялікшы скарб свой — сваё жыцьцё, кладзе яго на аўтар паганага бога, імя якому—уласнасьць.

Яшчэ зусім маладая і яшчэ досыць прыгожая жанчына прышла скардзіцца на тое, што на яе несправядліва наклалі падатак. Яна, плачучы, апавядала пра сваё жыцьцё, з маладосьці падсечанае бязьлітасным горам. Яе першага мужыка забілі палякі. Ён быў у партызанах і яго доўга шукалі—дапытвалі бацькоў і малодшага брата, страшэнна білі іх, каталі. Адзін дзядзька—відавочца гэтае справы, — пацьвярджаючы апавяданьне яе, гаварыў:

— Эх, і білі... Здорава білі... Лейцы намочвалі ды лейцамі... Няпрытомных вадой аблівалі, а тады зноў... Спраўна білі, ліха матары...

Бацькі асталіся інвалідамі. Малодшы сын аглух і троху крануўся з розуму.

Тады яна, маладая, поўная сіл жанчына, вышла замуж за гэтага малодшага сына.

— Гаспадарку пашкадавала... Спраўная была гаспадарка...

Ты чуеш? Ня людзей, не сябе, а гаспадарку. Пашла за чалавека, якога ані-ні не кахала—не магла кахаць, якога цяпер, плачучы, называла нахабай сваёй, завязала сваё маладое жыцьцё. Мо', думаеш, тут было спачуваньне бацьком ці жаль да гэтага няшчаснага хлопца? Не, тысячу разоў—не... Я добра чуў у яе голасе ноткі несьвядомай нянавісьці—так, так, нянавісьці да сваіх недалужных сваякоў. І цяпер, пражыўшы бяз уцехі, бяз шчасьця дзесятак гадоў, гэта жанчына свой боль, сваё нездаволеньне вылівала не ў нараканьне на долю сваю, не ў надзеі на нейкае прасьвятленьне, на нейкае асабістае шчасьце—яна плакала і прасіла, каб зьнялі з яе падатак, каб падтрымалі яе гаспадарку...

Жудасна... Страшна...

Толькі злачынны экономічны лад мінуўшчыны мог выгадаваць гэткія дзікія ўласьніцкія інстынкты...

... Ну, сёньня ўжо годзе пісаць. Мае лісты, я заўважыў, разрастающца ў цэлыя „пасланьні“ і пачынаюць займаць у маёй працы больш месца, чымся на гэта можна аддаваць цяперашнім часам. Усё-ж такі гэта—асабістая патрэба і больш забава, чымся сур'ёзная справа. Ды й табе мабыць надакучыла іх чытаць...

Бывай!

## Ліст шосты

Прамінуў мо' з тыдзень, як я паслаў табе апошні свой ліст. Сёньня ня ўтрываў — узяўся зноў за пяро. Увушшу ў мяне няўпынна гучаць глыбоказначныя словы, якія пачуў я ўчора на сходзе:

— Дайце ёй гаварыць! Дайце жаль скінуць з сэрца...

Так крыкнула адна жанчына, калі старшыня сходу памыкаўся суняць суседку яе, што з вялікім запалам і зусім не да ладу сакатала пра жыцьцёвыя свае незадачы.

Нашы жанчыны ня ведаюць, што такое рэглямант, і ня трымаюць яго. Але гавораць яны тое, аб чым баліць іхнае сэрца, што поўніць душу, пераліваецца цераз край.

Колектывізацыя вёскі ў нябачаных формах узьняла актыўнасьць жанчыны. Яшчэ нядаўна была цяжкая, бадай немагчымая справа — сабраць жанчын на вясковы сход: цяпер яны ідуць самі, ідуць дружным шумлівым гуртам і ўліваюць у працу сялянскіх сходаў многа запалу і многа гарачае нэрвовае сумятні.

Вядомая рэч, што жанчыны—найбольш цёмная і забітая частка вясковага жыхарства. Гэта карыстаюць ворагі колектывізацыі — плятуць усякае недарэчнае выдумства, пашыраюць дзікія чуткі, якія знаходзяць ў поўнай забабон сьвядомасьці жанчыны-сялянкі найлепшую глебу для свайго разрастаньня. Кулакі і іхныя дапаможнікі хаваюцца за бабскія спадніцы і гістэрычны бабскі крык робяць спосабам выказваньня сваіх варожых настрояў. Бывае так, што пад уплывам кулацкае агітацыі сяляне-гаспадары дыплёматычна застаюцца дома, а на сход, дзе абгаварваюцца пытаньні колектывізацыі, пасылаюць сваіх кабет—хай палаюцца, пакрычаць (ведама, бабы!), а тымчасам і праслухаюць, як, да чаго там хіліцца справа.

Аднак памылка была-б сказаць, што адно гэтыя „стратэгічныя меркаваньні“ прыводзяць масу сялянак-жанчын на сходы па колектывізацыі і прымушаюць іх часьцяком выяўляць большую за мужчын актыўнасьць у гэтай справе. Перабудова вёскі закранула тое застойнае, вякамі ўлежанае, што было глухім колам жаночых інтарэсаў, — хатні гаспадарчы ўклад. Жанчына-сялянка, якая доўгі час была чорнай рабыняй свайго мужыка, якая ня мела „права голасу“ ў сваёй уласнай сям'і, раптам агледзелася і адчула, што фактычна яна была і ёсьць гаспадыня хатняга ладу,

і заявіла на гэта свае правы. А разам з гэтым яна вынесла на людзі, на людзкія вочы спрадвечны цяжар свайго гаротнага жыцьця, рашуча патрабавала сабе доўга чаканага, нутром вымучанага слова...

— Дайце ёй гаварыць! Дайце жаль скінуць з сэрца!..

Мне здаецца, што я не зраблю перавялічэньня, калі скажу, што ў большасьці выпадкаў пытаньне пра ўваход у колгас канчаткова вырашае не гаспадар, а гаспадыня, хоць і робіцца гэта ў інтымным сямейным пляне. Рэшткі матрыярхату, бач, жылі і жывуць яшчэ ў сям'і нашага селяніна.

На сходзе пыталі ў аднае цёткі, чаму яна не абагульвае насеньня, і яна рэзка раздражнена адказала:

— А сама я ня ведаю, што са мной дзеецца. Ці мо' здурнела я ўжо зусім, ці мо' так што... Як пашоў калгаз, дык пашоў у нас з мужыком раздор. Няма ў нас жыцьця і ўсё тут... Я яму цьвёрда сказала: калі я перш запішуся, тады пішыся й ты. Ён без мае згоды пашоў, во што... А я так ня хочу—і ня будзе так, усё роўна ня будзе...

Звычайны адказ, які бадай што слова ў слова паўтараецца рознымі людзьмі ў розных вёсках, дзе яшчэ ня ўся бедната і серадднякі ўвайшлі ў колгас, дзе яшчэ частка вагаецца, яшчэ чагосьці чакае, бывае такі:

— Я-б пашоў з мілай ахвотай, дык баба ня згодна. Ну, што я ёй зраблю, калі яна й слухаць нічога ня хоча.

Вось даслоўны тэкст аднае заявы, якую я выпадкова прачытаў быў у колгасе імя ЦК КП(б)Б:

В УПРАВЛЕНИЕ ЦК КПБ.

Заява

Я записался в калгаз но жене не сказал. Но когда жена узнала то начала растрайваццa и взволновалась и начала сильна балеть и никаким родам не вспокайваиццa то по этаму я не магу быть и работать в калгазе то прашу ЦК КПБ выписать меня с калгаза.

Праситель Прохарчык Семен.

Сялянка ў асноўнай масе сваёй бяз меры консэрватыўная, і ў справе колектывізацыі яна часта — сьвядома ці несьвядома — адыгрывае ролю тормаза. Яе актыўнасьць рэзка контрастуе з палітычнай адсталасьцю, з цемрай, забабонамі, з цэлым комплексам дзікіх уласьніцкіх інстынктаў. Усімі карэньнямі ўрослая ў гнілую багну індывідуалістычнага побыту яна з трагічным неўразуменьнем сустракае павеў магутнай віхуры, што ўскаланула гэтую багну, каб асушыць яе, узрасьціць на ёй парасткі новага жыцьця. Аднак за нядоўгі час, які я жыву і працую на вёсцы, мне давялося сустрэць нямала жанчын, глыбока захопленых магутным зрухам жыцьця, шчыра адданых тэй справе, у якой чуюць яны сваё блізкае і канчатковае разьняволеньне. Яны з жывым запалам, з упартай стараннасьцю бяруцца за агульную працу і ўносяць у яе многа чыста

жаночае спраўнасьці ды гаспадарлівасьці. Адну гэткую цётку я надовечы бачыў у суседнім колгасе—і я заўсёды буду ўспамінаць яе з цёплым радасным пачуцьцём. Калі я ўвайшоў быў у хату знаёмага сябра праўленьня колгасу, я засьпеў яе ў постаці зухаватага камандзіра, занятага разьвязаньнем важнага стратэгічнага пытаньня.

— Мне трэба, каб зараз-жа людзі сталі на пост... Таго, хто паедзе ў лес, мы ня будзем чапаць... у нас апрача іх досыць людзей...

— Частка людзей будзе занята па рамонту стайняў... Да ночы можна пачакаць...

— Я—ня згодна... Я мяркую во як... час цяпер такі, што зьвярацца дужа не выпадае... Да цямна я сама буду на варце, а тады мне трэба будзе зьмена. Людзей трэба вызначыць зараз-жа, на ўсю ноч...

Я з павагай слухаў яе катэгорычныя меркаваньні і, калі яна, дамогшыся свайго, пашла з хаты, запытаўся, што гэта за такі сур'ёзны начальнік. Мне растлумачылі, што гэта — сябра праўленьня колгасу і што людзей патрабавала яна вартаваць яе сьвіран, у якім ссыпана абагуленае колгаснае насеньне.

А цётка гэта была невялікага росту і шчытная, камлявая, з бязьмежна дабрадушным тварам, з непамерна паважнымі і наіўнымі рухамі.

Назаўтрага ўраньні мы глядзелі абагуленае насеньне і сустрэлі яе ля „стратэгічнага пункту“. Яна была заклапочаная і змардаваная.

— Я ўсё роўна ня спала цэлую ноч. Гэта-ж не сваё —па сваім, дык ліха яго бяры, а то-ж агульнае... мала, што можа прытрапіцца...

І конфідэнцыяльна, дакрануўшыся да рукі старшыні колгасу, яна паведаміла:

— Уначы падыходзіў нехта. Вышаў вунь адтуль, прайшоў тутака і падаўся ў цемру. Я крыкнула—стой!—дык ён—і ня ў той бок...

Гэта мабыць Мікіта хадзіў правяраць варту...

— Дзе там! Мікіта падышоў-бы ці адгукнуўся. А я думаю, мужчынкі, во што трэба зрабіць... Хадзем-тка сюды...

Яна павяла ўсіх за сьвіран і шырокім жэстам паказала на нязграбную старую прыбудову, што закрывала заднюю сьцяну сьвірна.

— Трэба гэта раскінуць... Адсюль усякае ліха можа быць... ці загарыцца, ці што... А мне ня трэба гэты катух... навошта ён мне.

Мужчыны весела жартавалі:

— Што й казаць: у колгасе ты гаспадыня на ўсе бакі... А вось зойдзем пабачым, які ў хаце ў цябе парадак ідзе...

— Ну дык што-ж... і заходзьце...

У хаце было бедна і досыць чыста. Аднак гаспадыня троху замяшалася (былі чужыя тут людзі) і скорасьпешна падсувала пад лаўку цэбар.

— Бяз мужа які тут будзе парадак. От сяк-так перабіваюся—ведама, удава...

Яна чамусьці сарамліва засьмяялася, але ўраз сунялася, зноў стала сур'ёзная ды паважная.

— Мне калгас—сама да ладу... Нічога мне так не падходна, як гэта... калі разам... Я чатыры гады толькі жыву гаспадаркай, а то служыла ўсё... і тут, і ў горадзе... Мне дык сьмешна, як гэта дужа шкадуюць бабы... каб кароўка свая, сьвінка свая... А ня ўсёроўна—ці сваё, ці агульнае... Дурасьць гэта бабская... самі свайго шчасьця ня хочуць шукаць...

Гэтая сымпатычная цётка (яна не адна, я бачыў такіх нямала) сваімі сьветлымі словамі, сваім бадзёрым настроем падкрэсьліла мне глыбокую і няўхільную пэўнасьць таго шляху, на які ўзыходзіць наша жанчына. Рэволюцыя яе разбудзіла, узьняла яе волю, зайстрыла пачуцьці і імкненьні, але яна яшчэ азіраецца спрасоньня, яшчэ вочы ў яе зьліпаюцца ад раптоўнага сьвятла і яна ня можа часам адрозьніць, адкуль ідзе гэта сьвяттло, і дзе асталася злавесная цемра. Яна крычыць пра свой боль, пра гароту сваю спрадвечную—крычыць мо' й не да ладу, мо' й не ўсьвядоміўшы добра, адкуль гэты боль і гарота. Дармо!

— Дайце ёй гаварыць! Дайце жаль скінуць з сэрца...

Яна пойдзе, яна ідзе ўжо туды, куды вядуць яе дужыя, сьмелыя будаўнікі жыцьця—яна чуе ўжо блізкі падыход свайго шчасьця.

Дарогу жанчыне!

## Ліст сёмы

Дружа мой! Ты пытаешся, чаму я стаў гэтак рэдка пісаць. Па-першае, у мяне страшэнна мала паквольнага часу. Але галоўная прычына, бязумоўна, ня ў тым. Мне трудна пісаць. Памятаеш, я неяк казаў табе, што ў мяне ёсьць органічная патрэба выказваць каму-небудзь у сыстэматызаваным выглядзе свае ўражаньні. Гэтая патрэба асабліва назольліва турбавала мяне ў першыя дні пасьля прыезду на вёску, калі я толькі пачынаў падыходзіць і прыглядацца да жыцьцёвых процэсаў, што разгортваюцца тут бурным вадаваротам. Цяпер іначай—цяпер я цалком увайшоў, зьліўся з жыцьцём, стаў сам органічнай часткай яго, адным маленькім шрубчыкам вялікага мэханізму—і мне цяжка вылучыць сябе з гэтага мэханізму, каб акінуць вокам веліч яго магутнай работы. Уражаньні ўліваюцца няспыннай патокай у сьвядомасьць, не ўпраўляючыся аформіцца і сыстэматызавацца.

У цяперашнім жыцьці вёскі ёсьць многа нязвычайнага, рэзка супярэчлівага, колізійнага, такога, што дасьць нявычэрпны матэрыял для працы гісторыкаў і мастакоў, перад чым спыняешся цяпер з задзіўленьнем ды неймавернасьцю. Наша сучаснасьць у сваім надворным выяўленьні, гэта—парадоксальны сплёт самых рознастайных эпох і станаў, гэта—непарыўная чарада самых дзівосных контрастаў. Ідзеш па вёсцы, і з кожнага вакна нямотна вызіраюць нудныя змарнелыя твары папрадух—смокчуць сваю бясконцую кудзелю,—а край вёскі, ля грамадзкіх гумён з напружанай сілай і сьмелым задорам пыхкае трактар, круцячы калаўрот вялізнае малатарні. Высокая стройная антэна нясе гонкія радыё-

хвалі над хатай, у якой шэпча варажбіт свае старавечныя загаворы. Учора сталыя сур'ёзныя мужыкі гаварылі пра новыя боскія цуды, а сёньня памірае старая бабулька, перад сьмерцю кліча да сябе суседа і слабым згасаючым голасам шэпча яму літаральна наступнае:

— Васіль... Я памру, я ўжо чую... Зрабі ты мне дамавіну... толькі без папа, бяз чорта гэтага мяне пахавайце...

У мізэрных, у чорных норках-хацінках, разам з сьвіньнямі, з цялятамі, у брудзе, у беспрасьвецьці жывуць спрадвечным патрыярхальным ладам сялянскія сем'і, а за колькі вёрст дружна й заўзята вядзе сваю працу вясёлая комуна.

Да-рэчы, пра комуну. Калі я колькі дзён таму назад наведаў адну тутэйшую комуну (ня ўзорную, не паказальную, а самую звычайную, простую), калі я акунуўся ў атмосфэру зладнага, сьветлага жыцьця комунараў,—я выразна адчуў, што ступіў аднэй нагой у будучыню. І тады я падумаў: як важна, як патрэбна, як неабходна чалавеку мець у жыцьці адкрытую ясную пэрспэктыву! Калі маеш ты пэрспэктыву—ня спужаюць цябе ніякія супярэчнасьці, ніякія заблытаньні—ты заўсёды ўбачыш усё ў ясным сьвятле і здолееш адрозьніць пуцяводныя дарожныя слупы ад гнілых пнёў ды карчавешак, што трапляюць пад ногі і замінаюць ісьці наперад.

І вось, браце мой, вялікая ваша, мастакоў слова, задача—сваімі творамі дапамагаць рабочаму і бедняку-селяніну ў драбніцах будзённага жыцьця, у цяжкой маруднай працы па будаўніцтву знаходзіць гэтую пэрспэктыву, знаходзіць той вялікі сэнс, які асьвятляе нашыя шэрыя будні няўмірушчым хараством. Я ня ведаю, як гэта па-вашаму, па-літаратурнаму завецца—ці романтызм, ці актыўны рэалізм, ці яшчэ як-небудзь, але чую, што гэтага неадступна ад вас патрабуе наша сучаснасьць, і бачу, што вы гэтага амаль што не даіцё...

Дазволь мне некалькі слоў сказаць пра тваю асабістую творчасьць—не як крытыку, разумеецца, не як літаратуразнаўцу (які з мяне к ліху „знаўца"!), а як добраму твайму таварышу і другу.

Я з вялікай трывогай і апаскай сачыў за тваёй апошняй творчасьцю і—я скажу шчыра і проста—ня бачыў у ёй, не адчуваў тае пэрспэктывы, якая павінна стаяць перад намі. Ты згубіў пэрспэктыву, ты адышоўся ад лініі будаўніцтва новага жыцьця, ад тае справы, якой служыла ранейшая твая творчасьць, і трапіў на цёмныя сьцежкі, гатовыя завесьці цябе на той бок баявое мяжы. Я добра разумею, што ў тых матэрыялах, якія за апошнія часы зьмяшчаліся пра цябе на старонках нашае прэсы, ты знаходзіў многа перавялічанага, згушчанага, узьведзенага ў некаторую матэматычную ступень—і гэта, мабыць, перашкаджала табе ўсьвядоміць свае памылкі. Я таксама ня зусім згодзен, напрыклад, з т. Будзінскім, які, даючы табе справядліва рэзкі і востры адпор за твае ўхілы („Вораг у доме"), безнадзейна глядзіць на далейшую тваю працу. Я знаю цябе на працягу амаль што ўсіх год твайго сьвядомага жыцьця і ведаю, што

ты не на жарт злучыў быў свой лёс з жыцьцём і барацьбой пролетарыяту. І я веру, што ў табе ўсё гэта—часовае, што ты вернешся на сваю даўнейшую пуцявіну.

Ведаеш, браце, табе добра трэба страпянуцца, добра прыглядзіцца да таго, што робіцца навакол, чым бушуе наша жыцьцё, трэба прасякнуцца напружана-баявым тэмпам гэтага жыцьця, і ты—я ўпэўнены ў гэтым—здолееш прыняць актыўны ўдзел у будаўніцтве соцыялізму.

Даруй за гэта мо' й няпрыемнае табе адступленьне. Цяпер я буду пісаць пра комуну...

Ясным маразяным днём давялося нам навертам заехацца ў невялічкі ветлы прытулак комунараў. Два дамы: адзін стары і змрочны—спадчына нейкага сярэдняй рукі фальваркоўца, другі—новы, пабудаваны ўжо комунарамі. Некалькі гаспадарчых будынкаў, майстэрня сельскагаспадарчага інвэнтару, а на водшыбе—хударлявая царква (сьмешна глядзець: і крыжы 'шчэ стаяць і ўжо ўюцца чырвоныя сьцягі), супроць царквы—школа. Комуна стаіць на вясёлым узгорку, а пад узгоркам, у лагчыне, нярухома ляжыць заледзянелая рэчка.

Комунары блізка што ўсе былі паразыйшоўшыся—у лесе каторыя, іншыя каля прысядзібнае дробнае працы—шукаючы цёплага люднага куточку, мы трапілі раптам на кухню, акунуліся ў густую, насычаную апэтытным пахам яды, цяплыню. Тры кабеты (з іх дзьве—маладыя дзяўчыны) жвава завіхаліся каля кухонных прыладзьдзяў (на пліце з самадавольнай паважнасьцю булькаталі вялізныя, як паравікі, чыгуны)—кабеты сустрэлі нас ласкавымі ўсьмешкамі і ані-ні ня зьдзівіліся. Калі мы пажартавалі, што трапілі сама што пад полудзень, яны задорна і весела адказалі:

— А яшчэ ніхто галодны ад нас ня выходзіў... Гэтым нас не напалохаеце.

— А чым пачастуеце?

— Што самі ямо, то й вам дамо...

І спрытная дзяўчына звонка засьмяялася з свайго мімавольнага каламбуру.

Мы бесцарамонна зазірнулі ў „паравікі" і цалком задаволіліся: у адным раскошна бурліла тлустая—з мясам—капуста, у другім паравала белая сопкая, як сумёты сьвежага сьнегу, цёртая бульба.

А яшчэ дамо малака па добрай конаўцы. Добра?

Мы зацікавіліся, як яны працуюць на кухні—ці пастаянна, ці па чарзе.

— Цяпер па чарзе—па два тыдні. А раней у нас была спэц-кухарка. Яна цяпер мае дэкрэтны адпачынак—занялася, бачыце, сваёй асабістай справай.

— Ну, і як у вас—выходзіць што-небудзь?

— От нешта выйдзе... Мы ня нядта пераборлівыя... Як згатуем, так і прыбяром...

— І хлеб вам даводзіцца пячы?

(Адна дзяўчына сеяла муку).

— І хлеб пячом... Але гэта не на хлеб...

— А на што?

Дзяўчына з пераможным выглядам узьняла на мяне свае сьмяшлівыя вочы.

— А ў нас заўтра бліны будуць... во што...

Нам спадабалася тут (з дарогі, з марозу), і мы з паўгадзіны сядзелі, сагрэтыя кухоннай цяплынёй і ветласьцю ласкавых гаваркіх гаспадынь. Яны апавядалі нам пра комуну.

— Усяго ў нас блізка пяцьдзесят чалавек. Ёсьць каторыя з самага заснаваньня, з 1924 году, а ёсьць, што пазьней далучыліся... Нішто, згодна жывём... не наракаем на жыцьцё. Цеснавата троху—адна бяда...

— Што збываеце з гаспадаркі?

— Толькі хлеб... ды ўлетку малако... А сьвіньней для сябе гадуем... і кур троху маем... тож для сябе...

— А з вопраткай як?

— Вопратку кожны сабе здабывае... На вопратку грошы даюць... з прыбытку... А дзецям пачалі ўжо выдаваць... хоць вопратку, хоць матар'ял... Апрануцца кожны мае ўва што... Як у вольны дзень папрыбіраюцца дзеўкі, дык горад таго не дакажа...

(Дзяўчаты сарамліва і гарэзьліва ўсьміхнуліся).

І апавядалі яшчэ, што іншым было не ўпадабалася жыць у комуне—бач, няма свайго ўласнага, сталага—дык павыходзілі, а жывуць цяпер куды горш, чымся тут.

Пагрэўшыся, хадзілі мы аглядаць стайні, хлявы, сьвінушнікі ды інш Мы ня ўбачылі асаблівага багацьця, асаблівае пышнасьці, але ўсюды, на кожным кроку адчувалася рупная рука колектыву, дружна зацікаўленага агульнай сваёй гаспадаркай. Хлопцы-канюхі і жанчыны кароўніцы ахвотна знаёмілі нас з сваймі гадунцамі, ласкава называлі іх па іменьні, падрабязна апавядалі пра іхны характар, пра іхныя вартасьці і заганы. І якая-ж злосьць абуджалася ўва мне на тых, хто, падобна да твайго гэроя Пражэні, пэдантычна і бязгрунтоўна даводзіць, нібы ў колектыве ня будзе селянін з прыязнасьцю ды ўцехай глядзець на скаціну. Няпраўда гэта! Мо' на першы час туга па сваім каньку адаб'е ў ім гэта з прыроды ўроджанае ў душу земляроба пачуцьцё. Потым вернецца яно, але ня будзе ўжо тым рабскім, тупым, зьніжаючым годнасьць чалавека, прывязаньнем да ўласных рэчаў, як было гэта раней,—ні жывёла, ні рэчы будуць панаваць над чалавекам, а ён над імі—гэта будзе яшчэ адно вялікае вызваленьне!..

Энэргійна й настойліва залапатаў ад дому званок, склікаючы на полудзень комунараў, і мы тож пасунуліся разам з усімі. Палуднавалі ўсе ў аднэй сталоўцы—у невялікім і бедна абсталяваным пакоі, які аднак сваім непазорным выглядам ані-ні ня ўплываў на апэтыт комунараў: елі

ўсе дружна й заўзята. Чамусьці так павялося ў іхным звычаі, што мужчыны сядзелі за адным сталом, а жанчыны за другім. Мы падселі да жанчын і завялі з імі жартаўлівую гутарку.

— Ці так вы дружна на полі завіхаецеся, як каля місы?

— Чаму гэта ў комуне дзяўчаты хлопцаў чураюцца, нават есьці разам ня хочуць?

— На які стол падаюць лепшае: на мужчынскі ці на жаночы?

Жанчыны хорам адказвалі на нашыя жарты, з мужчынскага стала тож устаўлялі спрытныя слоўцы, усе бязрупатна гаманілі, сьмяяліся—тут сапраўды адчуваўся поўны, спакойны адпачынак людзей, шчыльна злучаных жыцьцём і працай.

Мы пыталіся ў дзяўчат, як карыстаюць яны вольны час, ці прыходзіць да іх моладзь з суседняе вёскі, ці бываюць супольныя вечарынкі.

— Ого! Яны з мілай ахвотай да нас-бы прыходзілі, але цесна ў нас, няма дзе павярнуцца. Больш у іх, на вёсцы, вечарынкі бываюць. А тут кожны вечар радыё слухаем, часам зьбярэмся самі,—пасьпяваем, на балалайцы, на гітары пайграем...

— Ня нудна жыць вецца?

— Дзе там! Абы час вольны быў...

За мужчынскім сталом палуднаваў адзін вясковы дзядзька, які па нейкай справе прыехаў сюды ў комуну. Яму падсувалі першаму кожную страву, давалі лепшыя кавалкі, і гэта—я заўважыў—дужа яго дэтанавала. Ён дзікавата, недаверліва пазіраў вакол сябе, але еў жадліва і пясьпешна, быццам баяўся, каб у яго хто не адабраў. Небарака! Ён-жа напэўна чуў ад паслужных плеткароў, што ў комуне — галодныя людзі, што яны дзяруцца, як зьвяры, вырываюць адзін у аднаго кавалак хлеба!

Папалуднаваўшы, мы аглядалі кватэры комунараў. Нараканьні на цеснату, якія чулі мы скрозь ад комунараў, адпаведна нарыхтавалі наша ўяўленьне, і мы чакалі нечага дужа няпрыемнага. І памыліліся...

Большасьць комунараў жывуць сем'ямі—на сям'ю прыпадае адзін невялічкі пакой. І, ня гледзячы на гэткую цеснату, у кожнай кватэры чысьценька і прытульна. Памытыя падлогі, акуратна прыбраныя ложкі, на сьценах сякія-такія аздобы, фотографічныя карткі, портрэты правадыроў. Дзеці ў большасьці здаровыя, сьвежыя, гаваркія—ведама, заўсёды разам, заўсёды ў вясёлай таварыскай грамадзе.

Мы пераходзілі з кватэры ў кватэру і дзіваваліся. І з агідай успаміналі сялянскія (ды ці толькі сялянскія?) хаты, дзе злучана разам і спальня, і сталоўка, і кухня, і хлеў і ўсё, што толькі хочаш, дзе людзі топяцца ў гразі і задыхаюцца ў смуродзе, дзе знаходзіць сабе прытулак усякая паганая хвароба...

Некалькі пакояў у комуне вылучаны для хлапцоў і дзяўчат. Дзяўчаты зрабілі ўсё, што маглі, каб надаць свайму прытулку па-сьвяточнаму ўзорны выгляд: там і кветачкі, і паперачкі, і стужкі і ўсякая драбяза.

У хлапцоў—больш проста і больш неахайна. Мы зацікавіліся, як яны абыходзяцца наогул з прыбіраньнем сваіх пакояў.

— Як калі. Часам дзяўчаты прыбяруць, а часам самі. Падлогу больш мыюць дзяўчаты...

— А хто вам мые бялізну?

— Бялізну заўсёды жанчыны. Гэта ўжо ад комуны... паложана так...

... Чатыры гадзіны перабылі мы ў гасьціннай комуне (заехаліся былі на хвіліну—пагрэцца з марозу), і гэтыя чатыры гадзіны пакінулі нязводны сьлед у маёй сьвядомасьці. Я ў будзённым, у звычайным выглядзе ўбачыў кавалак таго, да чаго мы імкнемся, аб чым лятуцеем і—мабыць таму, што было яно такое простае, сьціплае—ува мне яшчэ больш умацавалася глыбокая, непарушная ўпэўненасьць, што нам нядоўга, зусім нядоўга асталося ўжо да таго, каб канчаткова спраўдзіліся нашы імкненьні.

Перада мной стаяла ясная і сьветлая пэрспэктыва...

... Яшчэ во што... У кватэры старшыні гэтае комуны я натрапіў быў на адзін ліст, які ўскалануў нутро маё глыбокім жалем і захапленьнем. Гэты ліст напісаны комсамолкай-рэволюцыянэркай Заходняе Беларусі (ты, напэўна, знаеш яе па газэтах), якая шэсьць год праседзела ўжо ў польскай турме і невядома, калі адтуль выйдзе. Дзяўчаты-комунаркі зрабілі ёй падарунак—вышылі і пераслалі туды, у турму, беларускі фартух. У сваім лісьце яна дзякуе ім за гэты падарунак, за напамінак пра волю, пра шчасьце, якое адабралі ў яе жорсткія каты, але якога яна цьвёрда спадзяецца прыждаць. Яна называе сваіх невядомых далёкіх таварышак, якіх ня бачыла ні разу ў жыцьці, самымі ласкавымі іменьнямі, яна шчыра радуецца, што яны на волі будуюць сваё сонечна-сьветлае жыцьцё. І верыць, бязьмежна верыць у тое, што й там, у іх, закрасуе жыцьцё, што й яна—вольная, дужая—будзе будаваць разам з усімі працоўнымі вялічны будынак людзкога шчасьця.

Ані слова роспачы, ані ценю сумненьня, ані сьледу душэўнае слабасьці!

За шэсьць год турмы яна—гэта гэраічная дзяўчына—ні на каліва ня страціла свайго гарачага запалу і ўпартасьці.

Яна мае пэрспэктыву ў сваім жыцьці...

## Ліст восьмы

Учора і сёньня сустракаецца з вясною і зіма. Як барацьбіты на цыркавой арэне, яны падаравалі адна аднэй прывітальныя ўсьмешкі і таму ўсюды навокал стала ціхамірна ды сьветла. Неўзабаве схопяцца ў бойку і зашумуюць тады сьмяротнаю злосьцю. Пачарнее зіма ад патугі ды болю, скорчыцца, зморшчыцца і згіне паганай бабай-ягой. А вясна тады ў пераможным здаваленьні пачне пышна разьвінаць свае аздобы.

Подых вясны ўзьняў вострае трывожнае ўзрушэньне. Лічылі час месяцамі, потым тыднямі, а цяпер выпадае лічыць на дні: скора, ой, скора надыйдзе неадхільны суровы экзамэн!

Сход ячэйкі... Сход беднаты... Праўленьне колгасу... Абагуленьне... Рамонт... Брыгады... Брыгады... Брыгады...

Усе на падрыхтоўку да сяўбы.

Усе на падрыхтоўку да сяўбы.

— Няма жалеза!

— Няма жалеза? Будзе жалеза!

Брыгада ходзіць па вёсцы, з двору ў двор, з хаты ў хату, зьбірае старое ламачча.

— Ёсьць жалеза!...

— Няма цьвікоў!

— Няма цьвікоў? Ёсьць цьвікі! Бярыце сьвярдзёлкі, шукайце дубу кавалак... Абыйдземся драўлянымі цьвікамі...

З нічога зробім усё!

Экзамэн здамо!..

Я іду на край вёскі. Там у чорнай прынізістай будцы жыве грымучае пекла.

Гурчыць і порскае агнёвай сьліной разьюшаны горан, разгонна і важка лётаюць вялічэзныя малаты, і гадзюкай курчыцца на кавадле падскваранае жалеза.

Брыгада гарадзкіх рабочых-мэталістых памагае сялянскай беднаце каваць лепшую долю...

— Ну, як справы?

Ад кавадла адгінаецца малады зграбны хлопец з страшным ад клопату і надзвычайна вясёлым тварам.

— Гонім на поўны ход... Няма з чаго, а трэба рабіць... Выкручваемся... Адтуль часьціну, адтуль кавалак, адтуль гайку, шрубчык... Выбіраем, перабіраем... робім, значыцца, перавыбары...

— Многа адрэмантавалі?

— А вось, зірнем, калі хочаце.

Ён вядзе да бліжэйшае пуні, адчыняе вароты. Стройнай чарадой стаяць чыстыя, сьвежа-папраўленыя плугі, прагавіта высалапіўшы свае гладкія ясна бліскучыя языкі.

Я ўяўляю сабе цёплае тлустае поле. Гарэзьлівы ветрык мякка ласкоча расхрыстаныя грудзі, сонца прынікае да твару палкім нязводным пацалункам. Зьвіняць жаўранкі. Стала, буркліва гутараць гракі. Працавіта порскаюць коні і апэтытна парыпваюць плугі, кроячы роўнымі скібамі чорную сакавітую зямлю. Расьцягнуўшыся даўжэнным гужам, ідуць адзін за адным аратыя. Пераклікаюцца вясёлымі галасамі, рассыпаюцца бязрупатным сьмехам. Над полем лунае магутны подых шырокае вольнае працы...

... Гэтая стройная чарада плугоў, што нярухома стаіць перада мной, застылая ў чаканьні скорае працы,— яна так выразна, так востра пахне колектывам!..

Я іду назад па загуменьню, слухаю мэлёдычны звон вадзяных кропель, убіраю ў сябе апошнюю гарачую бялосьць яшчэ непарушна-чыстага сьнегу.

Да мяне далятае глухі перабойны стукат. Я збочыў і іду нацянькі да бліжэйшага гумна. Брыгада цесьляў з упартай пасьпешнасьцю ладзіць з гумна стайню для абагуленых коняй. Кожнаму каню адгароджана асобнае стойла, кожнаму прыладжваюць кармушку, драбінку.

— Ого! Тут-жа ім будуць чыстыя палацы! Адно, што сьцюдзёна...

— Вясна... А пад восень сталыя стайні пабудуем...

Праз нейкі прамежак—ізноў стукат, ізноў спрытная праца піл, тапароў. Не знайшлося на вёсцы аднаго патрэбнай велічы будынку—будуць пакуль што стаяць коні ў некалькіх гумнах-стайнях...

А на вуліцы сярод вёскі—жвавы шумлівы натоўп.

— Го-го! Расступіся, народ! Дзед Лявон вядзе свайго стаеньніка... Расступіся!..

— Трымай, дзед Лявон, а то паваліцца, заб'е каго-небудзь...

Дзед спакойна, памалу падводзіць сваю шаўлюжку, і на твары ў яго ясна азначаецца барацьба двух пачуцьцёў: шкода старому разлучацца з каньком і сорамна троху, што з гэткім злыднем ідзе ў колектыў, ня здолеў выгадаваць людзкай жывёліны.

Іншыя пад'яжджаюць зухавата, з форсам—глядзіце, дзівуйцеся, якіх коняй добры гаспадар здае ў колектыў!

Маладая дзяўчына—практыкантка з вэтэрынарнага інстытуту—старанна аглядае кожнага каня. Яна з цьвёрдай бесцарамоннасьцю залазіць пальцамі пад павекі, хапае і выцягвае з роту язык, углядаецца ў горла. Работа, відаць, ёй цяжкая, нязвыклая, адылі харабруе, трымае сябе з адпаведнай годнасьцю і ні за што не дазваляе, каб хто памагаў.

— Ня рушце! Ня трымайце! Я—сама...

Я стараюся ўглядзецца ў твар кожнага селяніна, адгадаць яго адчуваньні. Успамінаю чутае (плачуць, жалкуюць, сварацца, ня хочуць здаваць свайго добрага). Тут нічога гэтага ня відаць. Бадзёрыя, вясёлыя твары, выключная дзелавітасьць, рухавасьць.

Мне робіцца радасна і весела—быццам скінуўся з плеч у мяне нейкі невядомы цяжар. З пачуцьцём перамогі, я бясконца сам сабе паўтараю:

— Байкі... Байкі... Байкі...

Учора ячэйка КПБ праводзіла сход беднаты, на якім абмяркоўвалі пытаньне пра абагуленьні цягавай сілы. Бабы троху „бузілі“, казалі—трэба пачакаць да вясны.

Сягоньня і бабы ходзяць спакойныя...

Учора таксама было паседжаньне праўленьня колгасу—складалі плян веснавой сяўбы, разьмяркоўвалі людзкую працоўную сілу. Гэта было паседжаньне генэральнага штабу, на якім распрацоўвалася стратэгія і тактыка рашучага наступленьня на зямлю, рашучага бою за хлеб, за жыцьцё, за новы сьвет, за канчатковую перамогу над усімі ворагамі працоўных.

Кожны сябра колектыву мае сваё месца, сваё прызначэньне, кожны ведае, за што ён павінен узяцца, калі расчыніць зямля сваё гарачае плоднае ўлоньне.

Мы пойдзем у бой дружнай стройнай кагортай.

Мы пераможам...

Мы здамо свой першы вялікі экзамен...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дарагі таварыш! Ня дзівіся і не наракай на мяне, калі нейкі час ня будзеш атрымліваць маіх лістоў. Я ўжо пісаў табе, што з кожным днём мне ўсё цяжэй знайсьці час і патрэбны настрой, каб больш-менш сыстэматычна апісваць свае ўражаньні: тэмп жыцьця, яго глыбокая дзейная насычанасьць не дае магчымасьці гэтым займацца. Адно, што я здолею зрабіць, гэта—каротка, на скоры сьпех занатоўваць ў сваёй запісной кніжцы найбольш цікавыя моманты, каб пасьля, сустрэўшыся, расказаць табе пра іх. А найлепей—ведаеш што?—прыяжджай ты сам сюды, да нас, акуніся ў шумлівы вадаварот нашага бурнага жыцьця. Я ўпэўнены‘ што, апрача багатага матар‘ялу для свае творчасьці, ты знойдзеш тут многа душэўнае сьвежасьці і жыцьцёвае сілы.

Прыяжджай, сапраўды—я чакаю цябе.

А пакуль што—бывай!..

# ТАКІ ПРАСТОР! ТАКАЯ ШЫР!

*(З поэмы „Новыя Шумы")*

**С. Ліхадзіеўскі**

І плыла,
  Гнала воды
    Ушанка [1])
Пад напеў кучаравасьці ліп...
Ясакар сваім лісьцейкам шамкаў,
І акацыі пышна цьвілі.

Маляваны
Прыгожы
Дом.
І хацінак дзесятак худзенькіх.
Каля мосту—з бусловым гняздом
Вяз на хвалі расьсейваў сьцені.

Па дарожках хадзілі на спацыр
Людзі ў фраках,
Манішках.
Быў маёнтак.
Цьвілі акацыі
Раздольна, пышна.

А калі
Над бяскрайным прасторам
Прагрымела—прайшла кананада,
Задрыжэлі зямлі грудзі бурна—
Тады тыя, што ў фраках чорных,
Разьвіталіся з шумам прысадаў
Пад напорам жыцьцёвай віхуры...

І грамады другіх
Завіталі сюды...

---

1) Назва рэчкі ў Слуцкім р.

Ад мурсў гарадзкіх
Прынялі іх сады.
З местачковай цішы,
З-за струхнелых вуглоў
Яны выйшлі на шыр
Аксамітных палёў...

І яны вось прышлі
Да сырое зямлі,
І аселі на ёй
І ня зналі яе.
Ці-ж ня можа яўрэй
Быць касы ўладаром?
Ці-ж ня можа яўрэй
Мець імя „хлебароб"?

Хвалі рэчкі Ушанкі струменяць,
Берагоў абмываючы гладзь.
Сець вясновых і яркіх праменьняў
Над абшарам балота лягла.

Вяз разложны!
Срабрысты разьвей шум!
Ім ты сёньня наўкольле сагрэй!
Абнавіўся маёнтак ранейшы
І назваўся колгасам „Прогрэс".

. . . . . . . . . . . . . . .

І цякла
  І плыла
    Лакнея [1])
Пад напевы балотных асок...
Трысьнікі па-над рэчкай квітнелі,
Умываліся сьвежай расой.

За балотам—
Доўгое
Сяло.
Парасьлі густа мохам хаты,
І куды тое шчасьце вяло
Тых разважлівых
І не багатых?

Чуць на раньне—
Яны ўжо рабілі,

[1]) Назва рэчкі ў Слуцкім р.

Вымяралі нагамі гоні.
Была вёска.
Цьвілі рабіны
Гэтак ярка, чырвона.

А калі
Над бяскрайным прасторам
Прагрымела—прайшла кананада,
Задрыжэлі зямлі грудзі бурна—
Тады сотні закураных, чорных
Вышлі гуртам з касамі к прысадам
У разгульле жыцьцёвай віхуры...

І адчулі яны
Вольных ветраў разгул,
І чаканай вясны
Мэлёдычны гул.
І прастору ўзялі
Сілы гэтых людзей...
Руні-плёны зямлі
Пачалі маладзець.

І адчулі яны
Шыр сырое зямлі.
І аселі на ёй—
Яны знaлі яе.
А ці-ж нам з году ў год
Ды на месцы стаяць?
А ці-ж нам з году ў год
Ды ня сьвеціць маяк?

Хвалі рэчкі Лакнеі гамоняць,
Мітусяцца, зьнікаюць у даль...
У бадзёрым і радасным звоне
Сіняватая плешча вада.

Вяз разложны!
Срабрысты разьвей шум!
Прывітай, шлю вітаньне каму я!
Юнаком ды ад вёскі ранейшай
Нарадзіўся „Прамень Комуны“

. . . . . . . . . . . . . . .

Там—Ушанка,
А тут—Лакнея,
Там—„Прогрэс“,
Тут—„Прамень Комуны“.

Але ўсюды аднолькава неяк
Звоняць клёнаў высокія струны.

Там працуюць, жывуць колектывам
І тут выйдуць на працу разам.
Што з таго,
Што там словы ня тыя
І ня тыя зьвіняць выразы?!

Што з таго,
Што жывуць там яўрэі,
Ну, а тут мужыкі—беларусы?!
З бою лёс кожны свой бярэ з іх,
Долю лепшаю стаць прымусіць.

Воды гоніць Ушанка ў Лакнею,
Каб у даль
Рынуць бурным струменьнем!
Па-над рэчкамі лотаць квітнее
У чароўным такім шалясьценьні...

Змрок і бель.
Пакрысе вечарэе.
Ночка сонца ўзяла на схоў.
І ідуць беларусы, яўрэі
На шумлівы агульны сход.

Ну а вось—
І зусім зьвечарэла.
Толькі зорак агонь не пагас.
І прышлі беларусы, яўрэі
І стварылі адзіны колгас.

. . . . . . . . . . . . . . .

Шырыня!
  Шырыня!
    Шырыня!
І ні меж!
  Ні граніц!
    Ні ўзьмежкаў!
Паспрабуй ты, мой друг, пераняць
Каласістых палёў усьмешкі!

Паспрабуў ты, мой дружа, пачуць
Быльняговы напеў пужлівы...

Сонца! Сонца!
  Я сёньня хачу,
Каб сьвяціла ты
  Ярка,
    Ярчэй,
      Як мажліва
У дні—тыдні колгаснага жніва!

Студзень, 1930 г.
Колгас „Прамень Комуны".
Слуцкі р.

# ЧУЖЫ

*Роман*

**Д. Сьверчкоў**

Разьдзел першы

1

— Даволі. Можаце ісьці,—сказаў дырэктар Уладзіку, зрабіўшы паметку на лісьце паперы.

Уладзік, стрымліваючы радасную ўсьмешку і хаваючы за сьпіну падрапаныя рукі, нялоўка пакланіўся і вышаў з экзаменацыйнай залі. Зачыніўшы за сабою цяжкія дзьверы, ён кінуўся да маткі, якая яго чакала, з крыкам: „Вытрымаў!“. Матка Уладзіка ўзяла яго за руку, і яны пайшлі ўніз па шырокіх мармуровых усходах, на кожнай прыступцы якіх Уладзік падскакваў, з зайздрасьцю паглядаючы на паліраваныя парэнчы: па іх так слаўна можна было-б зьехаць вéрхам!

— Пыталіся ў мяне малітвы, пасьля сьвятога пісаньня. Дырэктар сказаў, што пісаньне не ўваходзіць у праграму, а я ўсё-ж такі адказаў,—з захапленьнем апавядаў Уладзік.

— Колькі паставілі, ня ведаю, але я ўсё адказаў. Вось бачыш, я ўжо чвэрць гімназыста, цяпер засталіся толькі арытмэтыка, дыктоўка і расійская мова. Мамачка, купі шапку...

— А калі правалішся?

— Не правалюся. Да душы, далібог, вось табе крыж,—засьпяшаўся Уладзік.

— Па-першае, перастань бажыцца, а па-другое, што гэта за выразы далібог, вось табе крыж? Навучыўся ў сваіх вулічных прыяцеляў. Ляпнеш так на экзамене,—падумаюць, што ты сын кухаркі, і ня прымуць.

— Нічога не падумаюць. Папу ўсе вельмі добра ведаюць.

— Тым горш. Мне-ж з папам у дакор паставяць, што так сына выхоўваем.

— Купі шапку, мамачка,—прасіў Уладзік з нясьцерпным жаданьнем.

— Ты насіць яе яшчэ ня маеш права.

— Я яе толькі памераю і зараз-жа табе аддам, ты яе ў шафу схаваеш.

— Глянь: новы гарнітур ужо запэцкаў! Калі гэта ты пасьпеў? Скінь зараз-жа, як толькі прыдзем дамоў.

— Скіну. А зараз зойдзем да Шапавалава?

У вакне магазына Шапавалава Ўладзік даўно ўжо нагледзіў сабе цёмна сінюю шапку з белымі кантамі, лякірованым казырком і пасрэбраным значком з двух зложаных накрыж лістоў, паміж якімі блішчэлі дзьве магічныя літары: МГ—мужчынская гімназыя. Шапка, доўгія нагавіцы, куртка з срэбнымі гузікамі, мундзір з пазумэнтам на каўняры,— як хацелася хутчэй апрануць усё гэта і прайсьціся па вуліцы з самым спакойным выглядам, які да твару ўжо старому гімназысту!

## 2

Уладзік сядзеў верхам на плоце, які выходзіў на Глухую вуліцу. Плот гэты быў сьведкай нязьлічоных прыгод. Тут, каля яго, адбываліся бойкі ў бабкі, сюды прыходзіў праспацца п'яны настаўнік гарадзкое школы Пётр Іванавіч, на якога так цікава было зьверху ліць ваду з садовай лейкі і чакаць, пакуль ён пачне рыкаць, пасьля сядзе або пачне лаяцца на кепскую пагоду, або завядзе малітву, якую сьпяваюць у царкве пры хрышчэньні: „Во Іордані крэшчаюшчуся цебе, господзі“...— што было яшчэ сьмяшней; адсюль, з плоту Валодзя лоўка разьбіваў каменьнямі шыбы бліжэйшага вулічнага ліхтара, сюды ён клікаў у цёмныя ночы сваіх лепшых сяброў, каб красьці з бацькаўскага саду яблыкі з-пад носу ў трусьлівага вартаўніка Мікіты. Словам, тут, на плоце і каля плоту праходзіла самая цікавая частка жыцьця Ўладзіка, якое пакідала ў ім самыя цікавыя ўспаміны.

Паверх плоту былі натыканы цьвікі вострымі канцамі ўверх, а між імі блішчэла насыпанае бітае шкло. Уладзік кожны раз пазіраў на гэтыя абарончыя спосабы з косай ухмылкай, хоць вечна падрапаныя рукі і латкі на нагавіцах мелі сваёй прычынай часткова гэтыя перашкоды для злоўмысных.

Убачыўшы здалёку вуліцы постаць Сьцёпкі і Васілька, Уладзік, чапляючыся за шчыліны дашчанага плоту, хутка саскочыў на Глухую вуліцу і пабег да іх на спатканьне.

— Дзе-ж ты раніцою быў? Мы заходзілі,—запытаўся Сьцёпка.

— Экзамен у гімназію трымаў,—адказаў Уладзік, стараючыся быць зусім спакойным, але з-пад ільба паглядаў за ўражаньнем ад гэтае весткі.

— Вытрымаў?

— Вядома. А сын губэрнатара, Костусь Сініцын, праваліўся з бубёным гулам! Пытаюцца ў яго, што такое царкоўныя главы? А ён адказвае: гэта на званіцы ў званы звоняць! Вось дурань! Мабыць, кол паставілі.

— Значыцца, цяпер сіняя ялавічына будзеш?—сказаў Васілёк з ноткай зайздрасьці.

— Папробуй толькі так мяне дражніць. У морду дастанеш.

— Нябойся, таварышавадь з намі перастанеш...

— Ну, не! Вы мне—першыя сябры, і ўсё тут. Стаў конь.

Уладзік высыпаў з-за пазухі некалькі дзясяткаў бабак і дастаў з кішэні чыгунную плітку, падобную на сэрца, адпаліраваную з аднаго боку—падкосак. Сьцёпка і Васілёк вылажылі ў ямку каля плоту свае бабкі. Гульня пачалася.

## 3

Высокі, сутулаваты настаўнік у паношаным фраку, з залатымі гузікамі, упрыгожанымі двухгаловымі арламі, хадзіў па клясе і павольна чытаў апавяданьне, якое вучні павінны былі пасьля пераказаць сваімі словамі. Уладзік стараўся ўважліва слухаць, але мімаволі сачыў, як скача пры кожным слове доўгі і худы пук барады настаўніка, як цяліпаецца каля шчакі шнурок ад яго пэнснэ, як цыркулем расстаўляюцца і складваюцца пры хадзе яго доўгія сухія ногі.

— ...Селянін... памаліўся... богу...—павольна чытаў настаўнік. Раптам сусед Уладзіка на лаўцы Сяргей Клімаў нахіліўся да яго і шэптам спытаўся:

— А як пішацца: памаліўся ці помаліўся?

— Вядома, памаліўся,—адказаў Уладзік.

— Ты гэта добра ведаеш?

— Вядома, ведаю. Напрыклад: маліцца... Ты-ж ня скажаш моліцца? Вось і зразумела...—хутка шаптаў Уладзік.

— Сабураў!—Раптам сказаў настаўнік.—Паўтары якое апошняе слова я сказаў.

Уладзік устаў.

— Я, Міхаіл Міхайлавіч, ня чуў таму што тлумачыў Клімаву правапіс слова, пра якое ён запытаўся.

— Ня чуў? Кол за ўвагу.

Настаўнік падышоў да катэдры, расхінуў дзеньнік, знайшоў прозьвішча Уладзіка і супроць яго паставіў тлусты кол. Уладзік зьбялеў ад гневу. Не староньнімі-ж ад лекцыі рэчамі ён быў заняты! Пачуцьцё глыбокай крыўды напоўніла яго. Першы кол... Ён сваім вострым канцом упіўся глыбока ў сэрца... Гэта ўзнагарода за тое, што ён хацеў дапамагчы настаўніку! Горла сьціснулася, на вочы навярзьліся сьлёзы, але ён гнеўна перасіліў іх і прымусіў сябе ўсьміхнуцца. Хай ня думае гэты подлы Міхаіл Міхайлавіч, што яго кол што-небудзь значыць. Уладзіка ён зусім мала абыходзіць. Але цяпер—вайна. Паглядзімо, чыё возьме!

Праз два дні Міхаіл Міхайлавіч увайшоў у клясу, падняўся на катэдру, паклаў дзеньнік, расправіў фалды фрака, сеў на крэсла і... паляцеў на падлогу. Ножка была падпілавана... Было назначана цэлае сьледзтва, але вінаватага не знайшлі...

4

— Сьпіць?—запытаўся Уладзік старую няню, паказваючы кіўком галавы на дзіцячы ложак, у якім відаць была на падушцы белабрысая галоўка яго трохгадовай сястры.

— Ш-ш-ш... Толькі што заснула,—адказала шэптам няня.—Угойдалася я з ёй зусім. І ў каго толькі яна ўдалася такая капрызная? Вось вы, Уладзічак, былі такі ціхі, такі ціхі,—голасу не пачуеш! Хадзем адсюль, а то шумець будзеце, зноў прачнецца.

Няня асьцярожна ўстала і вышла з дзіцячага пакою. Уладзік на дыбачках пайшоў сьледам за ёю. Старую няню Уладзік вельмі любіў. Яна была самым блізкім яму чалавекам. Але асабліва ён любіў яе апавяданьні пра мінулае, якія глыбока запалі ў сэрца і часта патрабавалі паўтарэньня. І цяпер, вышаўшы з ёй на ганак дому, які выходзіў на двор, і ўсеўшыся на прыступку, Уладзік узяў яе руку з пакалечанымі і крывымі пальцамі, пагладзіў і сказаў:

— Раскажы...

— Вы зноў пра тое-ж! Колькі ўжо разоў і так расказвала.

— Яшчэ раскажы.

— Дык вось...—пачала яна спакойным і абыякавым тонам.—Былі мы прыгонныя князя Вяземскага. Вялізазныя двары ў іх у Тамбоўскай губэрніі процьма сялян, сядзібы розныя. Дзяўчынкай я гусей пасьвіла. Пабачыла мяне раз пані—князёўна. Спадабалася я ёй, загадала яна мяне ў дом забраць. Пачалі мяне вучыць вышываць, анталяжы рабіць, з самае раніцы да цёмнай ночы сядзела я з пруткамі, вочы пачалі балець, сьпіны вечарам не разагнуць. А пані пабачыла маю работу,— здольніца, кажа, — добра, значыцца, у мяне выходзіла. Сказала яна гэта,—тут мяне яшчэ на больш дробную работу пасадзілі. Плакала я цішком. Як успомню ў пакоі седзячы, пра сенажаці, пра кветкі польныя,—за сэрца хапае. А вочы ў мяне ўсе больш і больш баляць. У гадоў пятнаццаць стала мне не пад сілу: ня бачу, куды прутком чапляць, блытаю... Далажылі пані, загадала яна мяне пакараць на канюшні. Білі мяне розгамі шмат раз, толькі толку ніякага ня вышла, бо ня прытваралася-ж я...

— Балела?—запытаўся Ўладзік усхвалёвана.

— Вядома балела. Таму і лупцавалі, каб балела. А тут яшчэ бяда здарылася. Чакала пані гасьцей, паноў суседніх. Часта зьбіраліся ў іх, частаваньне гарой, весялосьць, начаваць усіх пакідаюць, а на другі дзень зноў спачатку, ды так дні на тры, на чатыры, як хто прыедзе,— зараз коняй выпрагуць і знарок на сенажаць вёрст за дзесяць адвядуць, а хурманоў п'яным напояць,—вось і хацеў-бы дамоў, ды паехаць няма на чым... На абед заказалі кухару пірожнае, ён цэлы палац з бісквітаў, мігдалаў і зацукраванай садовіны зрабіў з вежамі, ганкам. Прынесьлі гэты палац у сталовую яшчэ да абеду, паставілі на буфэт, а я пазіраю,—

вачэй адвесьці не магу. Пасьля, як усе выйшлі, падыйшла я бліжэй, пазіраю—верх аднэй вежы адламаўся і каля паўміска ляжыць. Так мне шкода стала, хацелася яе прыладзіць, узяла асьцярожна і на ранейшае месца стаўлю, а тут пані ўвайшла...—Што ты тут робіш? Ах, ты брыда, ты пірожнае красьці? Набіць яе па руках! Схапілі мяне, павалаклі на двор, я плачу, хачу праўду расказаць, як усё было, і не магу, ды і ня слухаюць мяне, валакуць. Камардын Іван у нас быў—гэта які даглядае пакоі—паны яго Жанам звалі,—злы чалавек... Узяў ён прут, загадаў мне правую руку выцягнуць, ды як вытне: не крадзі! Сьвет у вачох памуціўся. А ён яшчэ ды яшчэ... Тры пальцы мне зламаў, вось, зрасьліся яны крыва, ня сходзяцца. Ну, якія ўжо тут анталяжы! Шаснаццаці гадочкаў мне яшчэ ня было, загадала князёўна мяне замуж выдаць за Язэпа. Нічога я не разумела, баялася яго... Першы раз у царкве на шлюбе яго пабачыла...

Уладзік схапіў яе шурпатую зморшчаную руку, крывыя пальцы якой вузламі адыходзілі ад далоні, прытуліў яе да шчакі, пасьля раптам хутка пацалаваў і ўцёк у сад.

5

— Папа, а навошта прыгонныя былі?—запытаўся Уладзік.

— Будзеш вучыць гісторыю,—даведаешся. Такі закон быў. І ў іншых краінах, і ў Расіі аднолькава, усюды паны мелі прыгонных сялян.

— А ў дзедкі таксама былі?

— Былі. Я сам яшчэ памятаю тую пару. Мне дзесяць год было, калі сялян вызвалілі.

— Ён іх лупцаваў?

— Не. Ён добры быў, хоць і суровы. Шмат каго на волю адпусьціў раней вызваленьня.

— Гэта цар Аляксандра II прыгоннае права скасаваў?

— Так.

— Ён сам гэтак зрабіць захацеў?

— Вядома сам. Цар можа зрабіць усё, што хоча.

— А чаму-ж ты маме казаў, што калі дзедка і іншыя паны хацелі ўсіх сваіх сялян на волю адпусьціць, цар іх у Сібір загадаў пасласць? І дзедка ў Сібіры быў?

— Не, яго не саслалі. Табе яшчэ гэта рана ведаць. Вырасьцеш, тады зразумееш.

Уладзік надзьмуў губы.

— Вось так заўсёды. Сам кажаш: пытайся, чаго не разумееш, а калі я пытаюся, адказваеш, што мне рана ведаць.

— Таму, што ты пытаньні задаеш такія. Вучыся тады і даведаешся. Бо, напрыклад, нельга-ж даваць задачу на множаньне таму, хто складаньне ня ведае? Так і тут.

— Я сёньня па арытмэтыцы пяцёрку атрымаў.

— Малайчына. Вучышся ты добра, толькі вось паводзіны ў цябе кульгаюць...

Уладзік разгарнуў „Капитанскую дочку“ і пачаў чытаць. Ён прачытваў яе ўжо трэці раз і цяпер хутка перагортваў непатрэбныя балонкі, шукаючы мясьцін, якія асабліва яго захаплялі. Самым цікавым, перачытаным процьму раз, было апісаньне пакараньня капітана Міронава, і іншых. Уладзіку ня верылася, што Пугачоў быў такім разбойнікам, якім апісаў яго Пушкін. Постаць Пугачова чамусьці вабіла яго і здавалася героічнай. У яго была карцінка суда Пугачова над панамі. Хоць і шкода было паноў, з якімі ён распраўляўся так жорстка, але пальцы няні гралі тут вялізную ролю, і гэта расправа не здавалася несправядлівай. Эх, калі-б быць на месцы Грынёва! Уладзік здолеў-бы выйсьці наперад і сказаць Пугачову: Я пісьменны, умею задачы разьвязваць,—вазьмі мяне, буду я загады твае пісаць і рабіць усё, што трэба...

6

З таварышоў гімназыстых Уладзіку найбольш усіх падабаўся Алесь Глушкоў. Бацька Глушкова служыў дробным чыноўнікам у павятовым горадзе, і Алесь жыў на кватэры настаўніка гімназіі, які прымаў на пансыён вучняў. Бацькі ахвотна аддавалі яму сыноў, ня зважаючы на тое, што ён браў за гэта куды даражэй ад іншых, бо спадзяваліся, што гэта дапаможа больш пэўна пераходзіць з клясы ў клясу. Алесь Глушкоў падабаўся Уладзіку тым, што быў заўсёды акуратна і чыста апрануты, што куртка і нагавіцы ляжалі на ім недасяжна хораша, што на іх ня было ня толькі ніводнай латкі або зацыраванага парванага месца, але нават плямкі. Прычэсаны Алесь быў заўсёды з праборам, валасы ляжалі роўна,—кожны на сваім месцы, словам, Алесь меў тысячы дастаткаў, якіх зусім ня меў Уладзік, хоць і прабаваў, каб наблізіцца да іх, але пасьля заўсёдных і поўных няўдач махнуў рукой на гэта. Апрача таго, Алесь быў на цэлых два гады старэйшы Уладзіка, ніколі не адказваў на пытаньні інакш, як падумаўшы, і ў голасе яго адказу адчувалася поўнае перакананьне ў сваёй праваце. Лекцыі Алесь вучыў акуратна і заўзята, сшыткі ў яго былі ў парадку, берагі іх чамусьці ніколі не лахмаціліся і не загіналіся. Такім-жа сур'ёзным Алесь быў і ў часе гульні ў лапту, ніколі не рызыкаваў, разьлічваў кожны рух і лічыўся жаданым удзельнікам, тады як Уладзік заўсёды нарываўся, пападаў пад мячык і аддаваў гэтым горад варожай партыі. Паводзіны Алеся заўсёды ацэньваліся поўнай пяцёркай,—таксама зусім недасяжная Уладзіку задача.

Раз Уладзік прывёў Алеся да сябе, пазнаёміў яго з маткаю і бацькам. Алесь зграбна пакланіўся, стаяў, пакуль не запрасілі сесьці, выпіў шклянку гарбаты з варэньнем, ня капнуўшы на абрус, сказаў „мэрсі“ і пакінуў шляхетнае ўражаньне. Калі пайшоў Алесь, бацька запытаўся

Ўладзіка, хто такі Алесяў бацька, атрымаў адказ, які не задаволіў яго, навёў даведкі пра гэта ў гімназіі і дазволіў Уладзіку вадзіць з Алесем кампанію, растлумачыўшы матцы, што, хоць бацька Алеся дробны канцэлярскі чыноўнік, але выхаваны Алесь даволі добра і шкоды Ўладзіку не прынясе, а, прымаючы на ўвагу яго пільнасьць да навукі і акуратнасьць, можа прынясьці нават карысьць. Пасьля гэтага Алеся часта запрашалі абедаць, а праз некалькі месяцаў, калі цяжкія грашовыя абставіны Алесевага бацькі пазбавілі яго магчымасьці трымаць сына ў настаўніка, матка Ўладзіка запрапанавала ўзяць яго ў сваю сям'ю, што, на Ўладзікаву радасьць, і было хутка выканана. Цяпер Уладзік не разлучаўся з Алесем і маракаваў толькі на адно: Алесь катэгарычна адмаўляўся вадзіць кампанію з Уладзікавымі вулічнымі прыяцелямі...

## 7

Уладзік сядзеў з Алесем у куце саду ў густым быльніку. Увесь сад утрымліваўся ў вялікім парадку: былі пасыпаныя пяском дарожкі, клюмбы кветак, аплеценая дзікім вінаградам альтанка. Але Ўладзіку больш за ўсё падабаўся кут яго, які прылучаўся да задняга двара, і быў закінуты і запушчаны, бо тут панаваў пах гною і памыяў ад суседняй памыйнай ямы. Алесь згаджаўся наведваць гэтую частку саду толькі пасьля доўгай просьбы і ўгавораў Уладзіка, прычым часамі нават вытаргоўваў за сваю ўступку ў Уладзіка лішняе піражнае або цукерку. Уладзік-жа адчуваў сябе ў быльніку, як у дзікіх прэрыях Паўднёвай Амэрыкі, пра якія ён з такім захапленьнем чытаў у Майн-Рыда. Тут можна было ляжаць, пазіраючы з-за прыкрыцьця як набліжаюцца чырвонаскурыя, або паўзьці на жываце, падкрадваючыся з напнутым лукам да кошкі, якая нічога не падазрае і зусім сыходзіць за сярдзітага бенгальскага тыгра. Тут Уладзік зрабіў патайны шалаш, у якім марыў калі-небудзь, пры спрыяльных хатніх абставінах, правесьці ноч, пільна вартуючы навокал, гатовы да адбою раптоўнага нападу. У шалашы Ўладзік прабаваў наладзіць запас харчаваньня: прынёс сухароў, павесіў на працягнутай вяроўцы сушыць на сонцы сьцягнутае ў кухаркі і нарэзанае тонкімі лустамі мяса. Але запасы гэтыя зараз-жа зьнікалі, іх скрадалі невядомыя злоўмысьнікі, галоўным з якіх быў з двара сабака Пірат.

— Ты яшчэ блазьнюк і нічога не разумееш,—кпліва гаварыў Алесь седзячы на траве каля шалаша.

— Чаго-ж гэта я не разумею?

— А вось, напрыклад, ведаеш, як дзеці нараджаюцца?

— Ведаю,—няўпэўнена адказаў Уладзік.

— Ну, як? Раскажы.

Уладзік маўчаў. Нельга-ж гаварыць пра бусла або пра капусту, у што ён сам ніколі ня верыў.

— Вось бачыш, маўчыш... Хочаш, я раскажу?

— Раскажы,—сьціснутым ад хваляваньня голасам сказаў Уладзік, адчуўшы сябе перад чымсьці вельмі страшным і стараючыся ня выявіць гэтага страху.

— Ну, слухай...

Алесь гаварыў доўга, а Уладзік сядзеў панура і адчуваў, як гарачая кроў прылівае да твару. Тое, што ён пачуў, было жахліва! Калі-б можна было гэтаму не паверыць! Але не, гэта праўда, насьцерпная праўда, пасьля якой ён ня можа нікому пазіраць у вочы... Алесь вымаўляў словы, даўно вядомыя Уладзіку, і якія ён заўсёды ўжываў у гутарцы з Сьцёпкам, Васільком і іншымі яго лепшымі прыяцелямі, але толькі цяпер Уладзік зразумеў іх сапраўднае значэньне... Алесь гаварыў, прыводзячы прыклад, як знарок, знаёмых Уладзіку дзяўчат,—напрыклад, дочку доктара Веру, якая жыла па суседзтву, пяшчотную і стройную, якой Уладзік заўсёды любаваўся... Якая гадасьць! Цяпер яна акунулася ў бруднае балота, яна прыкрая, ён ня здолее больш падыйсьці да яе, ня тое, што прытуліцца... Алесь усё гаварыў, гаварыў, быццам не заўважаючы становішча Уладзіка, быццам накпіваў над ім. Раптам Уладзік ўскочыў, і пад рогат Алеся, пабег у сад, забіўся ў густыя кусты бэзу, за альтанкай... Правалiцца-б скрозь зямлю, каб толькі ня бачыць нічога, ня думаць...

8

— Ваш сын вучыцца добра,—гаварыў дырэктар Уладзікаваму бацьку, якога ён выклікаў у гімназію.—Але паводзіны яго нікуды ня вартыя. Дзе-б хто ні дурэў, заўсёды і ён там прымае ўдзел і нават заўсёды пачынальнік. Заўсёды тройка за паводзіны, і яна ня робіць на яго зусім ніякага ўплыву. Два дні назад наш законанастаўнік, айцец Пётр, злавіў яго на вуліцы з хлапчукамі, з якімі ён гуляў у бабкі. Айцец Пётр падыйшоў і загадаў яму зараз-жа ісьці дамоў і спыніць усякія зносіны з вулічнымі абармотамі. Ён выслухаў і быццам-бы паслухаў, а калі айцец Пётр праз поўгадзіны знарок зазірнуў на гэту-ж вуліцу,—ён пабачыў ранейшае, прычым ваш сын і на гэты раз, заўважыўшы яго, уцёк і ня спыніўся, не зважаючы на выкрыкі. Мы вырашылі паставіць яму і ў гэтай чвэрці тройку з мінусам за паводзіны, пасадзілі яго ў карцэр, але ані не гарантаваны, што ён паправіцца. Вось чаму я дазволіў сабе панепакоіць вас, каб прасіць прыстасаваньня хатніх спосабаў уплыву. Апрача таго, у вас, здаецца, жыве на кватэры аднаклясьнік вашага сына Алесь Глушкоў? Гэта ўзорны ва ўсіх дачыненьнях хлапчук, добры вучань, высока-пачцівае дзіця, і я не магу ўзяць на сябе адказнасьці перад яго бацькам за надзвычай шкодны ўплыў, які можа зрабіць на яго штодзеннае дачыненьне з вашым сынам. З гэтае прычыны вельмі прашу вас адмовіцца ад пансіёну ў вашай сям'і Алесю Глушкову. Я вельмі прашу прабачэньня перад вамі, але, спадзяюся, вы разумееце мае матывы, якія выцякаюць выключна з пачуцьця вялікай адказнасьці, якую я нясу за даручанае мне маладое пакаленьне...

9

Уладзік залез у цёмны куток і жаласна плакаў. Быць сурова пакараным бяз усякай віны і кім?! Бацькам, якога ён гэтак моцна любіў, у якім да гэтага часу бачыў добрага і справядлівага чалавека! Ён і старую няню з сабой за стол саджаў абедаць і гарбату піць, не зважаючы на тое, што яна сялянка, даўнейшая прыгоньніца, ён за руку з ёй вітаўся; ніколі ёй „ты“ не сказаў! І даволі было некалькі слоў дырэктара... Подлая гімназія... Пачалося ўсё з таго, што за ўвагу паставіў Міхаіл Міхайлавіч кол. Уладзік успомніў, як ён ішоў першы раз у клясу, гатовы любіць настаўнікаў, якіх ён яшчэ нават ня ведаў, за тое, што яны дадуць яму веды, будуць старацца зрабіць з яго сумленнага і карыснага чалавека, як гаварыў бацька. І ўсё гэта рухнула. Над ім накпілі, яго палічылі за вісуса. Тым горш для іх. Ён злосна адпомсьціў і яшчэ будзе помсьціць. Пасьля жахлівая таямніца, якую ён даведаўся ад Алеся... Цяпер яго з раньня да ночы грызе адна думка, якая не пакідае мазгі ні на мінуту, думка пра нікчэмнае, агіднае, бруднае, што робяць адзін з адным усе людзі, усе без выключэньня, усе, каго ён любіць, каго спатыкае на вуліцы, хто прыходзіць да іх у госьці, усе, усе, на ўсім сьвеце... Нельга жыць, трэба памерці,—тады пашкадуюць, але будзе позна ўжо... І сэрца Уладзіка разрывалася ад жаласьці да самаго сябе, самаму нешчасьліваму на сьвеце...

Дзьверы ў клець ціха адчыніліся. Уладзік да крыві закусіў вусны, каб стрымаць плач, каб не пабачылі... Чыясьці рука лягла яму на галаву і асьцярожна пачала гладзіць валасы. Ён пазнаў гэту шурпатую каравую руку, з крывымі пальцамі, схапіў яе і ўткнуўся ў калені нянькі, якія пахлі чадам кухні і мокрай бялізнай. Сэрца пачало адыходзіць, грудзі напоўніліся цяплынёй, востры боль ад крыўды мякчэў.

— Няня, любая, ты зразумееш,—шаптаў ён праз сьлёзы.—Цябе білі, рукі пакалечылі, дзяцей тваіх прадалі, адну цябе пакінулі на сьвеце. Я цябе ніколі не пакіну, навучуся на доктара або на інжынэра, ты ў мяне самая першая ў доме будзеш, лепш бацькі і маткі...

Ён падняў галаву. Па зморшчаных шчоках бабулі каціліся дробныя сьлязінкі, адна за аднэй выпаўзалі з куткоў выплаканых палінялых вачэй...

10

Газа... газа...—гучэла на вуліцы... Уладзік добра ведаў высокага хлапца, гадоў дваццаці, які аб'яжджаў вуліцу, седзячы на бочцы. З брам выходзілі да яго, сьпяшаючыся, з бітонамі ў руках кухаркі, і ён адмерваў квартай патрэбную колькасьць газы з вялікага медзянага кранта, які быў укручаны ззаду бочкі. У апошні раз у Уладзіка здарыўся з гэтым хлапцом востры конфлікт. Пакуль хлапец адмяраў газу, конь, які быў вельмі блізка падведзены, зачапіўся колам за тротуарную тумбу. Хлапец

не заўважыў гэтага.—Но-о-о!—закрычаў ён, хаваючы атрыманыя грошы. Конь ня рухаўся. Ён сьцебануў яго пугай. Ён напнуўся, але ня зрушыў бочкі з месца. Хлапец пачаў сьцёбаць яго сьпярша па сьпіне, пасьля пад жывот,—конь нязграбна скакаў заднімі нагамі, паднімаў хвост, але ня ішоў наперад. Хлапец раззлаваўся і пачаў сьцябаць яе пугаўём па галаве, па пысах, па вачох... Уладзік, белы ад злосьці, пабег, сьціскаючы кулакі:—Перастань! ня сьмей!—крычаў ён. Хлапец адвярнуўся і сьцебануў Уладзіка... Давялося адскочыць. Праўда, пасьля Ўладзік здалёку кінуў у яго каменем, але не папаў. Задыхаючыся ад злосьці і крыўды, ён пабег у быльнік, каб там абдумаць плян помсты.

Пачуўшы зноў прыкры голас хлапца з газай, Уладзік хутка падбег да брамы, і зазірнуў у шчыліну. Хлапец сядзеў на бочцы, сонна тузаючы лейцамі. Конь павольным крокам ішоў па вуліцы. Уладзік шмыгануў у фортку, хутка і бяз шуму падбег да бочкі, адкруціў крант і стралой памчаўся назад. Хлапец ехаў, нічога не заўважаючы, а крант палівае ззаду брук шырокай тлустай паласой газы...

## 11

Бацька цяжка хворы. У доме пахне лякарствам, усе ходзяць на дыбачках, гутараць шэптам. У яго запаленьне мазгоў, і кожны шум нясьцерпным болем аддаецца ў галаве. Уладзік сочыць за ўсім і вымагае абсолютнай цішыні. Ён гатоў пабіць пяцігадовую сястру, калі тая пачынае свае звычайныя капрызы, або выпускае з рук з стукам што-небудзь на падлогу. Матка ходзіць з пачырванелымі, апухлымі ад бяссонных ночай вачыма, няня бязупынна даглядае і сама бяз шуму прыбірае пакоі, не давяраючы пакаёўцы, заходзіць у спальню, дзе ляжыць бацька, з рэўнасьцю паглядывае на незнаёмую маладую міласэрдную сястру, якая сядзіць каля ложка ў глыбокім крэсьле. Уладзік часта падкрадваецца да дзьвярэй і пазірае ў шчылінку, зайздрасна ўпіваецца ў любы твар з заплюшчанымі вачыма, які відаць паміж падушак. На ім адбітак балючых цярпеньняў, рот крыху разяўлены, валасы зблыталіся і спаўзьлі з лысіны на лоб, рукі з доўгімі пальцамі ляжаць на коўдры.—Божухна, няхай я захварэю, толькі-б ён ачуняў...—шэпча Ўладзік.

Бацька заўсёды быў суровым, спачатку Ўладзік нават думаў, што ён яго ня любіць. Зрэдзь падыйдзе, пагладзіць па шчацэ, запытаецца пра лекцыі, пра кнігу, якую прачытаў або пра гульні з таварышамі і пойдзе да сябе ў габінэт. Гэтага так мала. Затое ніколі не прапушчаў выпадку пакараць. Напрыклад, падалі за абедам кавун, вялізны, чырвоны, з іскрынкамі, як нацукраваны. Бацька зрэзаў верх, пасьля пачаў адрэзваць роўныя кругі. Уладзік пытаўся пры кожным: гэта мне?—пакуль атрымаў добры вялікі кавалак. І падвярнулася тут пакаёўка Глаша, якая прыбірала са стала талеркі! Уладзік схапіў верх кавуна, на якім ня было чаго есьці, і працягнуў Глашы з словамі:—А гэта—табе. Бацька зараз-жа ўзяў Ула-

дзікаву талерку з кавуном, да якога Уладзік не пасьпеў яшчэ і дакрануцца, і аддаў Глашы.

— Вазьмеце гэта і ежце, а ён няхай сам есьць верх, калі знаходзіць, што можна частаваць ім іншых...

Ніякія просьбы Ўладзіка не памаглі... Пасьля гэтая брыдкая кара, пасьля гутаркі з дырэктарам гімназіі...

Але вось Уладзік захварэў. Дыфтэрыт. Усе кудысьці выбраліся з дому, і Ўладзік заставаўся ў спальні адзін. Прыходзіў доктар, мазаў горла ў сярэдзіне прыкрым ляпісам... А калі Уладзік прасынаўся, ён заўсёды бачыў каля свайго ложка бацьку. Бацька нахіляўся і ласкава пытаўся, ці ня трэба чаго-небудзь, а Ўладзік нічога ня мог адказаць, бо распухлае горла не прапускала гукаў. Аднойчы ўначы, пасьля таго дня, калі доктар асабліва клапатліва аглядаў Уладзіка і, нахмурыўшыся, пра штосьці доўга гутарыў з бацькам, Уладзік прачнуўся і... не паверыў сваім вачом: бацька плакаў. Ён унікліва пазіраў на Ўладзіка, тужлівая складка хавалася пад вусамі, а па шчоках каціліся буйныя сьлёзы... Ні да гэтага, ні пасьля Ўладзік ніколі ня бачыў, каб бацька плакаў. Узяў яго руку і моцна прыціснуў да вуснаў... У памяці Ўладзіка засталася і наступная ноч, калі так нясьцерпна хацелася спаць, і калі бацька будзіў кожныя пяць мінут... А цяпер, калі так хочацца даглядаць яго, праводзіць каля яго ночы, прыслухвацца да яго дыханьня, ускакваць пры кожным яго руху, Уладзіка ня пушчаюць у спальню!

... Гарматны стрэл прагучэў на вуліцы. Страсануліся сьцены, але ўтрымаліся ў пазох шыбы. Сьледам за стрэлам з спальні пачуўся жаласьлівы балючы крык: Уладзік пахаладзеў ад жаху: гэта бацька!.. Другі стрэл, трэці, чацьверты... Крык з спальні ліўся ўжо бязупынным тонкім, балючым струменем... Навошта страляюць? Уладзік кінуўся на вуліцу... Здалёку чуваць была вайсковая музыка, крыкі „ура!“ і адзін за адным цяжка разрывалі паветра пругкія і густыя гарматныя выбухі... Мікалай II карануецца ў Маскве, з гэтае прычыны парад на Саборным пляцы... Уладзік з усіх сіл кінуўся туды. Прашмыгнуўшы цераз ацапленьне, ён падбег да абкружанага афіцэрамі генэрала, схапіў яго за рукаво і, задыхаючыся, гаварыў сасьмяглым горлам.

— Перастаньце страляць... бацька хворы... галава...

— Пашоў вон, дурань! Прагнаць яго!

Вусаты паліцэйскі афіцэр падскочыў, схапіў Уладзіка за руку і павалок з натоўпу. Вывеўшы яго з пляцу, ён даў яму тухмака, ад якога Ўладзік адляцеў да сьцяны і паваліўся. А паветра ўздрыгвала ад частых стрэлаў, пляц гучэў цэрэмоніяльным маршам, салдаты адбівалі крок, шарэнгамі праходзячы паўз генэрала. Сто адзін стрэл... Сто адзін...

— Пракляты цар... Паганец... каб ты здох... падлюга... брыда...— шаптаў зьбялелымі вуснамі Ўладзік, сьціскаючы кулакі ў бясьсільнай, бязвыходнай злосьці.

12

Званок. Прыехалі дактары. Сёньня зноў консыліум. Прайшлі да бацькі. Што яны там будуць рабіць? Хацелі вырашаць, ці можна рабіць опэрацыю. Ледзь чутно мармытаньне гутарак, пасьля стогн... Уладзік сьціскае рукі і выбягае на двор.

Вясна. Дрэвы распусьціліся, цьвітуць яблыні, чувацъ прыкры пах белай акацыі. Уладзік доўга сядзіць на ганку, з трывогай прыслухоўваецца да кожнага шораху ў пакоі. Што скажуць дактары?

Выходзіць матка, прыціскаючы хустачку да вачэй. Сядае побач з Уладзікам, абнімае яго.

— Папу вельмі кепска...—чуе ён шэпт. Сэрца сьціскаецца і халадзее.

— Хадзем да яго.

Уладзік, задыхаючыся ад хваляваньня, уваходзіць у спальню, становіцца каля ложка, пазірае на бацьку. Гарачае дыханьне з хрыпам вырываецца з разяўленага роту, мутныя вочы ўтароплены ўверх, пальцы рухаюцца, перабіраюць коўдру. Міласэрдная сэстра кладзе яму ў рот дробныя кавалачкі празрыстага лёду, але яны вылятаюць назад разам з дыханьнем, заблытваюцца ў барадзе і халоднымі каплямі сьлязяцца на валасатыя грудзі.

— Папа...—ледзь чутно вымаўляе Уладзік.

Матка абнімае яго.

— Папа ўжо ня чуе...

Сьлёзы ўсплываюць на вочы і балюча шчыплюць, але Уладзік стрымлівае іх, мякка вызваляецца ад рукі маткі, сьпяшае ў свой пакой і разважа выбягае і, хаваючы штосьці пад курткай, імчыцца на сена. Там, схаваўшыся ў самы далёкі куток за сена, ён дастае маленькі абразік, кладзе яго перад сабой і з плачам кідаецца перад ім на калені.

— Збаў... збаў яго... Больш ніколі ні пра што ня буду прасіць... Толькі гэта... Ты ўсё можаш... Збаў яго... Вылячы...

Доўга хрысьціцца і кланяецца, аддаючыся ўвесь малітве, аддаючы ёй усяго сябе, усе свае пачуцьці і думкі, нічога ня цямячы і не адчуваючы, апрача нясьцерпнай прагі і поўнага пераконаньня ў дапамогу бога. Гэта ўпэўненасьць, якая таілася, ледзь тлеючы, дзесьці ў кутку сэрца, раптам расьце і напаўняе Уладзіка дзівосным шчасьцем цуду, які збываецца.

— Уладзік!.. Уладзік!..—далятае да яго моцны трывожны гук. Адным скокам ён выбягае з-за сена. Пасярэдзіне двара стаіць у бяспамяцьці матка.

— Папы... ужо... няма...—чуе ён з яе вуснаў, якія крывяцца і пачынаюць галасіць.

Ідуць у спальню. У пакоях шумяць, перастаўляючы мэблю. Навошта валакуць у залю цяжкі доўгі стол. Сястрычка Соня бесклапотна скача з лялькай і сьпявае песеньку. Яе ніхто ня спыняе.

На ложку ляжыць ён. Вочы адплюшчаны, і Ўладзік бачыць, як робяцца яны шклянымі і губляюць жывы бляск. На ілбе дрыжаць, халадзеючы, кропелькі поту. Адкрыты рот замёр...

— Пацалуй яго... апошні раз...—чуе Ўладзік. Ён прымушае сябе нахіліцца і прыціскаецца сухімі вуснамі да нярухомай яшчэ цёплай рукі. Унікліва пазірае на твар. Не, гэта ўжо ня той, якога Ўладзік так кахаў. Гэта дзіўнае цела, поўнае страшнай таемнасьці сьмерці, зрабілася чужым. Бацька ўжо на тым баку жыцьця, за невядомаю рысай.

Гнеўная складка крывіць твар Уладзіка. Сашчапіўшы зубы, ён ідзе на сена, бярэ абразік, доўга пазірае з агідаю на твар хрыста, які здаваўся яму такім добрым, усьміхаецца, плюе на яго, кідае абразік на зямлю, і топча нагамі разьюшана, расьціскаючы срыбны вяночак і адчувае з асалодай, як трашчыць пад абсацам крохкае дрэва.

## Разьдзел другі

### 1

— Я не адмаўляю заслуг Пушкіна ў галіне разьвіцьця расійскае мовы,—гаварыў Уладзік, пашчыпваючы падбародак.—Вядома, яго вершы непараўнальны з Багдановічам, Дзяржавінам і ім падобным. Але грамадзкай вартасьці яны ня маюць ніякай.

— Ты не разумееш іх, таму так і гаворыш. У цябе ўсе творы мастацтва ацэньваюцца толькі з пункту гледжаньня грамадзкага смутку,— буркнуў, закурваючы папяросу, высокі і худы Руткоўскі.

— Вельмі добра разумею. І калі ты скажаш, што лепшага паказу вялікасьвецкага лабатроса, як Еўгені Онегін, і такога яскравага партрэту дурной пустой фантазёркі і кісейнай паненкі, як Тацьяна, ніхто ня даў,—я, магчыма, з табой асабліва спрачацца ня буду. Але, калі вы разам з Бялінскім высоўваеце Тацьяну, як ідэал жанчыны і дзяўчыны, і хочаце знайсьці ў Онегіну нездаволенасьць і імкненьне да чагосьці ўзвышанага, буду я протэставаць з усіх сіл.

— Гэта па Пісараву. Ведаю. Глядзі, за Пісарава з гімназіі выганяюць. Забыўся Сьвірыдава?

— Я не такі дурны, каб пападацца з Пісаравым у руках. Але той факт, што за Пісарава прасьледуюць, зусім не азначае, што яго няпраўда, а хутчэй наадварот. Успомнім блажэнную ідылію, якую разводзіць Пушкін, абмалёўваючы быт селяніна ў часы прыгону: селянін весяліцца, калі надыходзіць зіма,—значыцца, яму добра і цёпла, прыгонныя хлапчукі весела гуляюць, у санкі Жучку пасадзіўшы, маткі іх не працуюць круглыя суткі на пана, а з любасьцю пазіраюць на гульні сыноў праз акно і пагражаюць ім пальчыкамі... Любата! Ларына—вельмі любая бабулька, бо біла сялян толькі калі раззлуецца, а не заўсёды, апрача таго, служанкі яе былі страшэнныя нягодніцы; калі іх пасылалі ў лес

зьбіраць ягады, то яны асьмельваліся іх есьці, так што бедная Ларына змушана была прымушаць іх увесь час сьпяваць, каб раты былі адкрыты і не маглі есьці забароненых ім суніц або малін... Нікчэмнасьць, брыдота!

— Пачакай!—прышоў на дапамогу Руткоўскаму белабрысы Курганаў,—ты вось Салтыковым-Шчэдрыным захапляешся, да нябёс яго дасьціпнасьць узносіш. А ён піша ў „Истории горада Глупова“, што хтосьці там зарэзаўся агурком. Гэта вельмі сьмешна?

Уладзік успомніў, што, сапраўды, такое месца ў Шчэдрына ёсьць і на мінуту супуціўся.

— Я цаню Шчэдрына, як сатырыка. Ён бічуе ўладу ў той форме, якая магчыма пры жорсткай цэнзуры, і яго найвялікшая заслуга, што ён б‘е самаўладзтва сьмехам,—самай вострай зброяй.

— Пра самаўладзтва прашу пакінуць,—азваўся з кута Селіванаў. Ён быў сынам прыдворнага садоўніка. Прычым імпэратрыца Марыя Фёдараўна была запісана яго хрышчонай маткай, аб чым ён любіў гаварыць з гонарам і за што атрымаў ад Уладзіка мянушку: „хрышчоны сукін сын“.

— Мы і забыліся на прысутнасьць тут прадстаўніка і абаронца царскага дому,—расьсьмяяўся Ўладзік:—Як табе не надакучыць гэта няўдзячная роля?

— Я вам не перашкаджаю спрачацца, але прашу дазволіць мне мець свае пераконаньні і не чапаць у маёй прысутнасьці цара-імпэратара.

— Пакінь, ня варта з ім гаварыць,—падышоў Руткоўскі,—я таксама люблю Пушкіна, аднак даволі цярпліва пераношу твае нападкі на яго, гэта значыць, не твае, а Пісарава,—упікнуў ён.

— Узяў-бы сам яго ды пачытаў, як належыць, а то проста крыўдна: хлапец ты добры, а Пушкін у цябе быццам як той мазоль,—узяцца не даеш.

— Чытаў і з адным не згадзіўся, як па адрасу таго-ж Пушкіна сочна сказаў хтосьці з высокапастаўленых асоб. Ну, пакінем літаратуру, пойдзем вып‘ем гарбаты, мама нас ужо чакае ў сталовай. Толькі пры ёй, калі ласка, ніякіх такіх гутарак. Будзем гаварыць пра тэатр, пра канькі, вэлёсыпэд і пра іншае.

2

На катку грымела музыка. Сёньня—дзень спаборніцтва на хуткасьць, і высаджаная елкамі бегавая дарожка асабліва чыста падмецена і паліта. Уладзік хутка прайшоў у разьдзявальню, скінуў паліто, боты, надзеў лёгкія чаравікі з прыкручанымі да іх нарвэскімі бегавымі канькамі і спусьціўся на лёд. Чаравікі сядзелі добра, канькі слухаліся кожнага руху нагі, чорная фуфайка аблягала грудзі і рукі і толькі абрэзаныя да калена шэрыя нагавіцы ня йшлі да чорных высокіх панчох.

Вітаючыся па дарозе з прыяцелямі, ён прабіўся праз штырхатню да бегавой дарожкі, залажыў рукі за сьпіну і моцнымі, упэўненымі рухамі

паімчаўся наперад, даганяючы іншых. Сярод іх ён заўважыў незнаёмых.— Гэта з іншых каткоў прышлі прызы выіграць. Ну, ды наш Анісімаў ім пакажа!—падумаў Уладзік, даганяючы Андрэева і вітаючыся з ім. Убачыўшы Ўладзіка, Андрэеў узяў яго пад руку і адвёў у бок ад дарожкі.

— Ведаеш, у нас скандал! Анісімаў захварэў і прымаць удзелу ў бягох ня можа! А тут прыйшлі Яршоў—дваццаць тры прызы мае, Лапацін—пятнаццаць, яшчэ якіясьці з імі... Няўжо прыз нашага Лефортаўскага катка ім аддамо бяз бою? А бегаць няма каму...

Уладзік задумаўся.

— Як-жа быць? Можа, Кукушкіна запішам ад нас?

— Куды ён гадзён! Толькі асароміць яшчэ больш. Нашы пра цябе гаварылі...

Сэрца Ўладзіка моцна застукала.

— Я-ж ніколі яшчэ не хадзіў навыперадкі!

— Нічога. Трэніроўка ў цябе ёсьць, вытрымку тваю мы ведаем. Фініш у цябе добры. Ты на нарвэскіх даўно бегаеш?

— Дзе там даўно! Я-ж першы год у Маскве, а да гэтага нават і ня чуў, што нарвэскія канькі на сьвеце ёсьць!

— А я думаў, даўно. Які-ж твой адказ? Трэба гонар катка ратаваць. Хоць трэцім прыдзі, і то добра будзе, а то на ўсю Маскву сорам: назначылі бягі, а ад сябе і выставіць няма каго!

— Што-ж, калі так справа стаіць,—згодзен,—сказаў, падумаўшы, Уладзік.

— Малайчына. Толькі ня пужайся.

— А ты сам?—запытаўся Ўладзік, раптам падумаўшы, што не распачаць гутарку пра Андрэеў удзел можа здацца яму крыўдным.

— Я не запішуся ні за што. Ход у мяне добры, але выдыхаюся з другога кругу, нічога ня зробіш. Мне трэба яшчэ папрактыкавацца. Дык я заяўлю пра тваю згоду,—сказаў Андрэеў, ад'яжджаючы і накіроўваючыся да групы канькабежцаў, якая сабралася каля оркестру. Уладзік паехаў за ім. Па дарозе ён спаткаў нізкага карчакаватага суб'екта на нарвэскіх каньках, усе грудзі якога былі ўвешаны living значкамі, што атрымаў на бягох.—Мабыць Яршоў,—падумаў Уладзік, спыняючыся і ацэньваючы яго постаць, размах пры бегу, пастаноўку каратkаватых ног.

Уладзіка абступілі. Вестка пра яго згоду прыняць удзел у спаборніцтве з вядомасьцямі абляцела ўжо скрозь, і ён адразу набыў у вачох усіх асаблівую цікавасьць, як прадстаўнік катка, і абаронца яго павагі.

— Трэба толькі форменную шапку скінуць,—сказаў Уладзік. Апрача таго, калі ласка, пад другім прозьвішчам мяне запішэце, а то начальства ў гімназіі ў карцэр пасадзіць за ўдзел у бягох,—дабавіў ён, сьмяючыся. Андрэеў скінуў з сябе фуфайкавую шапачку і надзеў на Ўладзіка, а яго шапку па заліхвацку накінуў на сябе.

— Вось тваё каранаваньне, як спортсмэна. Які-ж ты псэўдонім выбярэш?

— Пішэце, Волгін,—сказаў Уладзік пасьля кароткае развагі.

Каля суседняй палаткі зазваніў званок. Уладзік адчуў, як застукала яго сэрца.

— Ну, хадзем туды. Зараз пачнуць.

Перад стартам Уладзік уважліва агледзеў свае канькі, замацаваў шнуркі чаравік, дастаў з кішані нагавіц кашалёк, ключы, адчапіў гадзіньнік і ўсё гэта перадаў Андрэеву. Судзьдзі ўжо сядзелі за сталом. Стартар запрасіў стаць у істужачку. Уладзік стаў побач з Яршовым. Усіх удзельнікаў спаборніцтва набралося шасьцёра. Выставілі ўперад адну нагу, крыху нахіліліся, склалі далоні рук перад ротам.

— Бом!—пачуўся звон, і Уладзік лёгка кінуўся ўперад. Ён выбраў месца за Лапаціным, які апынуўся ззаду Яршова, і выйшаў трэцім па чарзе. Яршоў усё прыбаўляў бег. Уладзік з зьдзіўленьнем пабачыў, што лёгка трымаецца, ані не адстаючы і ня траціць запасу сіл. На паваротах яго нават крыху выносіла ўперад іншых, але ён вырашыў захоўваць занятае месца да апошняга кругу, а там відаць будзе. Азірнуўшыся на павароце назад, ён пабачыў, што адзін з удзельнікаў ужо адстаў амаль на чвэрць кругу. Ззаду сябе ён чуў цяжкі соп другога.—Гэты таксама выдыхнецца,—пранеслася ў галаве.—Застаецца чатырох. Няўжо буду я апошнім?

Бег быў назначан на паўтары вярсты,—шэсьць кругоў. Уладзік ня лічыў пройдзенай адлегласьці і зьдзівіўся, калі раптам трывожна зазваніў звон і адразу абарвалася музыка. Фініш... Яршоў, які ішоў увесь час першым, падбавіў хуткасьці. Лапацін пачаў адставаць. Заўважыўшы гэта, Уладзік падбавіў ходу, з радасьцю адчуў пругкасьць і сьвежасьць мускулаў ног, і на павароце абмінуў Лапаціна.—Сарубаў, Сарубаў, брава, не паддавайся!—чуваць былі крыкі гледачоў.—Вось табе і псэўдонім!—падумаў Уладзік, лёгка нагнаў на простай Яршова і пры гістэрычных выгуках публікі пакінуў яго на павароце ззаду сябе. Справа мільгануў судзейскі стол, над галавой прагучэў звон. Чорная маса гледачоў хлынула на бегавую дарожку, Уладзіка схапілі, паднялі на рукі і пры шалёных крыках „ура!“, якія заглушалі туш оркестру, прынесьлі пад старт. Тут судзьдзі прычапілі Уладзіку на грудзі пазалочаны значок з рэльефнымі літарамі на выразным орнамэнце „Першы прыз“. Радасьці патрыотаў Лефортаўскага катку ня было меж. Да Уладзіка тоўпіліся, ціснулі рукі, ён адчуваў на сабе палаючыя вочы дзяўчат і жанчын, якія да гэтага не зьвярталі на яго ніякай увагі...

## 3

Руткоўскі сунуў у руку Уладзіка складзены ў некалькі раз лісток.

— Глядзі, асьцярожна, каб ніхто ня ўбачыў...

Сэрца Уладзіка моцна застукала. Ён кіўнуў галавой і паволі накіраваўся ў клёзэт. Абмінуўшы некалькі гімназістых, што сядзелі перад

адчыненай засланкай печы і пускалі ў яе папяросны дым, каб не заставалася сьлядоў ад забароненага курэньня, Уладзік зайшоў у адгародку клёзэта каля вакна і акуратна запёр за сабою дзьверы на засаўку. Дрыжачымі ад нецярплівасьці рукамі разгарнуў лісток. У вочы кінуліся сінія малавыразныя на белай паперы радкі. Унізе лістка пунсавела чырвоная пячатка з крыжам пасярэдзіне і надпісам: „таварыства дапамогі політычным ссыльным і заняволеным“. Лісток меў такі загаловак: Справаздача за чэрвень 1898 г. Пецярбург. Паўгода назад, але ад гэтага ён не выдаваўся застарэлым. Пасьля пераліку грашовых сум, што паступілі і выдаткавалі, былі зьмешчаны доўгія сьпісы заняволеных. Петрапаўлаўская цытадэль,—прачытаў Уладзік, зябнучы і адчуваючы нязвыклае трапятаньне павагі да тых, імёны якіх зьмешчаны далей слупком пад гэтым зябкім загалоўкам. Іваноў Рыгор, Каган Маісей, Рэдказубаў Пётр, Красьнянская Вольга, Міхаілаў Лявон...—беглі па імёнах вочы Уладзіка і сэрца напаўнялася вострым болем спачуваньня да невядомых, блядыя цені якіх у казэматах цытадзелі відаць былі з-за бледа-лілёвых літар гэктографскага атраманту. Супроць некаторых прозьвішч была аднатована дата арышту, і жахам павявалі лічбы: 1897 люты, 1896 лістапад... Год... паўтара... Уладзік ведаў, што шмат якія правялі дзесяткі год у турме, чуў, што і цяпер у сутарэньнях Шлісэльбургу заняволены героі Народнай Волі, арыштованыя яшчэ ў пачатку 80-х гадоў, што некаторыя з іх памерлі, пакончылі самагубствам, звар'яцелі, але цяпер з гэтых лілёвых літар падпольнага лістка ён адчуў асабліва востра увесь боль і тугу іх самоты і ўсё гэройства іх самаахвяраваньня ў імя вялікае справы рэволюцыі. Красьнянская Вольга,—паўтарыў ён яшчэ раз незнаёмае імя. Вось тая, перад якой можна схіліцца, якая вылучаецца з усіх жанчын, занятых толькі парфумаю, пудрай, гарнітурамі, скокамі і фліртам. Хто яна, калі арыштавана, дзе яна цяпер?! Бо-ж гэты лісток пісаўся паўгода назад... Упіваючыся вачыма ў радкі, ён прачытаў пералік, што сядзяць у доме папярэдняга заняволеньня і ў Пецярбурскай адзіночнай турме „Кресты“. Дайшоў да пячаткі ўнізе і задумённа склаў лісток, як і раней. Калі-б папера магла гаварыць! Гэты лісток расказаў-бы яму, хто яго складаў, хто пашыраў у патайным памяшканьні пад пагрозаю арышту і ўключэньня ў гэты самы сьпіс, ссылкі на далёкую халодную поўнач, у Сібір...

Нястрымнае жаданьне прыняць актыўны ўдзел у вялікай справе, якую тварылі сьмелыя самаахвярныя людзі ў імя агульнага шчасьця ўсяго чалавецтва—працяло яго, быццам-бы ў гэтым лістку ён прачытаў штосьці новае, да таго часу невядомае, быццам-бы ў ім была не справаздача пра грашовыя сумы і ня сьпіс прозьвішч невядомых людзей, а палкі заклік на дапамогу, маўклівы дакор...

Уладзік хутка вярнуўся ў клясу, падышоў да Руткоўскага, усунуў яму ў руку прачытаны лісток, дабавіў да яго залаты, і ціхенька шапнуў:— Перадай ад мяне... туды...

4

Васьміклясьніка Няхлюдава Ўладзік ведаў толькі здалёку і таму з некаторай радасьцю рвануў за ручку званка каля ўваходных дзьвярэй яго кватэры. Адчыніў высокі вялізны стары чалавек з распухлым чырвоным носам і маленькімі вачыма, якія хаваліся пад густымі брывамі, апрануты ў паношаную куртку. Уладзік з зьдзіўленьнем убачыў, што ён—у споднікаx і пантоплях на босую нагу.

— Да Міхася? Праходзьце,—буркнуў ён, не адказаўшы на Ўладзікава прывітаньне.

— Міхась, да цябе яшчэ адзін байбус прышоў,—пачуў Уладзік яго гучны голас ззаду. Ён зьдзіўлена азірнуўся. Але спаткаў ветлівую ласкавую ўсьмешку на абдулаватым твары, якая выключала ўсякую магчымасьць крыўды.—Ня ведаеш яшчэ мяне? — запытаўся стары Ўладзіка, заўважыўшы яго зьдзіўленьне.—Пазнаёмімся, тады пазнаеш старога Няхлюдава. Да ты, брат, бачу я, здароў сэрцам, сказаў ён, — абняў яго і прыціснуў да свайго вялікага жывата, пры гэтым Уладзік адчуў моцную сілу абдымкаў. — Мядзьведзь сапраўдны... Другі раз паглядзімо, хто каго...

— Ты, бацька, ня дурыся з незнаёмымі таварышамі,—сказаў Няхлюдаў, выходзячы з другога пакою,—а вы ня зьдзіўляйцеся, — зьвярнуўся ён да Ўладзіка.—Бацька ў мяне дзівак, а наогул добры стары...

— Добра, добра, даволі,—прабурчэў стары,—Ганначка,—закрычаў ён раптам на ўсю кватэру.—Паглядзі, які прыгажун новы прышоў на тваю пагібель. Дай яму гарбаты з малінавым варэньнем. А пасьля мы яго і сініьнай кісьлінай пачастуем. Гэта Міхась мой такналіўку на вішнёвых костачках празваў,—вытлумачыў ён Уладзіку.—Як вас вялічаць дазволіце?

— Сабураў, Уладзімер Мікалаевіч,—адказаў Уладзік.

— Ну, розных Мікалаевічаў мы пакінем,—гэта вельмі доўга. Проста Ўладзік—можна?—запытаўся стары з добрай усьмешкай. Уладзік таксама ўсьміхнуўся і адказаў спагадліва.

— Ну, значыцца, пазнаёміліся. Міхась, а Уладзік, здаецца, слаўны дзяцюк?

— Пасьля калі-небудзь нагаворышся, бацька, — сказаў малады Няхлюдаў.—А цяпер трэба нам пабыць адным.

— Добра ўжо, будзьце адны, ліха на вас на ўсіх, змоўшчыкі галаштаныя. Гарбаты туды, ці што, падаць? Ганначка!—зноў закрычаў ён,—хутчэй гарбаты бязвусым профэсарам.

Уладзік увайшоў у пакой Няхлюдава. Каля стала, недалёка ад сьцяны на канапцы і на ложку разьмясьцілася чалавек дзесяць гімназістых, большасьць якіх Уладзік ведаў. Прывітаўшыся з усімі, ён сеў побач з Руткоўскім на канапку, адчуўшы пад сабой спружыны, якія выпіралі ў розныя бакі. Ганначка, якая была маладой прыгожай брунэткай, пры-

несла паднос з шлянкамі гарбаты, паставіла яго на стол, бліснула на ўсіх вачыма і скромна сказала:

— Зараз варэньне прынясу.—Супуцілася і выбегла з пакою.

— Вып'ем гарбаты пакуль ня прышоў Пётр Аляксандравіч, — сказаў Няхлюдаў.

Пётр Аляксандравіч — студэнт, які прыехаў у Маскву на калядныя сьвяты, згадзіўся прачытаць рэфэрат пра жанчыну і соцыялізм па Бебелю, і слухаць яго сабраліся ў Няхлюдава выбраныя гімназістыя. Уладзік падышоў да стала, каб узяць шклянку гарбаты, але вочы яго ўпалі на лісток, кепска аддрукаваны літарамі markdown рознага шрыфту.

— Ня бачылі яшчэ?—запытаўся Няхлюдаў.—Гэта новы ліст „Саюзу Змаганьня за вызваленьне рабочае клясы“ пра нашыя парадкі і непарадкі. Хочаце,—паглядзіце.

Уладзік узяў лісток, стараючыся зрабіць гэта спакойна, як звычайную і бывалую справу, але літары скакалі ў вачох і чытаць было цяжка. Ён падышоў да лямпы і хутка прабег зьмест ліста, зьдзіўляючыся выразнасьці і рэзкасьці думкі яго аўтараў.

— А служанкі хіба вы не баіцёся?—запытаўся ён Няхлюдава.—Яна-ж магла заўважыць, калі прыносіла гарбату.

— Гэтай Ганначкі?—сказаў Няхлюдаў?—Яна—самы шчыры чалавек. А апрача таго, няпісьменная,—дадаў ён пры агульным рогаце.

Пачуўся зноў званок. Няхлюдаў хутка вышаў на спатканьне і праз хвіліну ўвёў маладога чалавека ў студэнцкай тужурцы, з доўгімі валасамі, якія ён увесь час закідаў назад неахайным рухам рукі. Яму ўступілі месца каля стала. Ён абвёў вачыма ўсіх прысутных і адразу пачаў гаварыць.

— А мне паслухаць можна, чэрці паласатыя?! — запытаўся, увахо- дзячы, стары Няхлюдаў. Сын уступіў яму сваё месца на ложку. Напружана праслухаўшы з чвэрць гадзіны, стары раптам усхліпнуў, чмыхануў носам і хутка вышаў з пакою. Усе пaглядзелі на яго зьдзіўлена.

— Не зьвяртайце ўвагі, колегі,—сказаў малады Няхлюдаў.

Рэфэрат чытаўся далей.

5

Вязнучы ў дрыгве, Уладзік насілу выбраўся з балота і сеў на купіну. З прарэзаных нажніцамі старых чаравік цякла брудная жыжка, нагавіцы, завязаныя ўнізе вяроўкамі, былі пакрыты цінай і падвойнымі зялёнымі лісткамі балотнай раскі, рубашка ўнізе была мокрая, нават гімназычная шапка зьліплася блінам і згубіла ўсякую форму. Уладзік успомніў, што, крадучыся па пояс у вадзе да чародкі качак, сунуў яе ў кішаню нагавіц, а пасьля дастаў і надзеў на галаву; толькі новая стрэльба, — вынік двухгадовых недаяданьняў,—блішчэла, як лялька, гэта рабіла Уладзіка падобным на Сьціву Аблонскага Анны Карэнінай, рваны паляўнічы

гарнітур у злучэньні з бездакорнай стрэльбай Уладзік лічыў нечым надзвычайным.

Паправіўшы дзьвёх качак, якія віселі каля пояса, Уладзік вышаў на дарогу і пакрочыў да сядзібы яго цёткі, генэральшы Грахольскай.

Уперадзе пачулася тарарахканьне каламажкі, і праз хвіліну з-за паварота зьявілася пара коняй. У каламажцы сядзеў вайсковы. Параўняўшыся з Уладзікам і ўнікліва разглядаючы яго, вайсковы чапнуў рукой хурмана, які ў той-жа час спыніўся.

— На паляваньне хадзілі?—зьвярнуўся вайсковы да Уладзіка.

— Як бачыце.

— А з забаронай закона ня лічыцеся?

— Два дні ўсяго засталося да тэрміну. Сягоньня-ж 27-е чэрвеня,— адказаў Уладзік.

— Так разважаць нельга. Я змушан напісаць пратакол і прыцягнуць вас да адказнасьці.

Вайсковы адкрыў портфэль, дастаў паперу, алавок і нарыхтаваўся пісаць.

— Як ваша імя, прозьвішча і як па бацьку?

Уладзік адказаў.

— Дзе вы жывіцё?

— У Грышыне.

— У каго?

— У маёй цёткі.

— А хто яна такая?

— Валадарка двара, генэральша Грахольская.

Вайсковы раптам кінуў паперу і алавок, саскочыў з каламажкі, шчоўкнуў шпорамі і падаў Уладзіку руку.

— Дазвольце пазнаёміцца. Я—тутэйшы станавы прыстаў Купчынскі. Вельмі рад быць знаёмы. Як жыве яе сьветласьць.

Уладзік адказаў, што цётка здаровая.

— Што-ж вы ходзіце тут на паляваньне? Тут зусім няма дзічыны. Вось да мяне ў Сэліванава, калі ласка, прашу, у мяне навакол і цецярукі, і курапаткі, і бакасы, і дупелі. Нават глушцы пападаюцца. Буду вельмі рад вас бачыць. Прыяжджайце проста да мяне на кватэру, спыніцеся, пераначуеце, а рана ранічкой—і гайда, ды, аднак, што гэта я-пра будучае гавару! Паедзем зараз!

Уладзік падзякаваў і адмовіўся.

— Ну, як хочаце. Прашу вас засьведчыць маю пашану яе сьветласьці. Буду чакаць вашага наведаньня.

Прыстаў яшчэ раз шчоўкнуў шпорамі, лёгка ўскочыў у каламажку і пакаціў далей.

6

— Дазвольце пазнаёміць з вамі майго пляменьніка, графіня,—сказала генэральша Грахольская, падводзячы Ўладзіка да старой, якая сядзела ў глыбокім крэсьле і была падобна на Екацярыну II. Старая паглядзела на Ўладзіка цераз акуляры і працягнула яму зморшчаную руку, да якой Уладзік прысланіўся губамі.

— Гэта і ёсьць малады Сабураў?—запыталася яна.

— Так, Уладзік.

— Ну, на Ўладзіка ён ужо занадта вялікі. Цэлы Ўладзімер Мікалаевіч. Памятаю, памятаю вашага бацьку, яшчэ такім, як вы зараз, бачыла яго. Дзе вы вучыцеся?

— У сёмай клясе гімназіі.

— Шкада, што ня ў ліцэі. Аднак, ваш бацька жыў у правінцыі. Вы ня вольнадумец?—раптам запыталася яна.

— Не, што вы, графіня,—пасьпяшылася адказаць Грахольская.

— Ну, добра. Гэта зараза зачапіла ўжо і людзей нашага кола,—сказала старая, тужліва ківаючы галавой.—Я ўжо не гавару пра графа Льва Талстога, або князя Пятра Крапоткіна. Але і тут, сярод нашых тубыльных цьвярскіх паноў цяпер такіх гутарак наслухаешся, што страшна робіцца. Забыліся на старыя традыцыі, забыліся на дваранскі гонар, вернасьць трону... І блазьнюкі нашы туды-ж лезуць! Вазьмеце майго ўнука любага, Аляксея Ржэўскага... Іншы раз за вушы выцягаць яго хочацца, не зважаючы на тое, што яму дзевятнаццаць год і ён ліцэіст...

Уладзік разглядаў пакой, бібліатэчную шафу з доўгімі радамі „Современника“, „Отечественных Записок“ і іншымі часопісамі, гісторыя Устралава, адно з першых выданьняў твораў Пушкіна. Усё ў даўнейшых цісьненых скураных аправах. На сьценах—портрэты генэралаў у мундзірах з зьвёздамі і жанчын у фіжмах і напудраных парыках. У куце—клявікорды, якія Уладзік спачатку прыняў за столік. Унізе, на першым паверсе, Уладзік, праходзячы, заўважыў більярд і горку з доўгімі трубкамі розных фасонаў. Абсталяваньне напамінала яму эпоху „Мёртвых душ“, і ён шукаў у галаве, з кім з Гогалеўскіх памешчыц можна параўнаць валадароў даўнейшай панскай сядзібы з калёнамі на фасадзе, куды прывезла яго цётка за абавязковым візытам.

— Малады Сабураў добра забясьпечан?—пачуў Уладзік запытаньне да цёткі графіні.

— На вялікі жаль, не. Вы-ж ведаеце, што ў яго бацькі нічога ня было, апрача пэнсіі ад службы.

— Сам вінават, — заўважыла графіня. — Трэба было слухацца нябожчыка бацькі, адмірала Пятра Мікалаевіча, а не займацца свавольствам, вось і ня быў-бы пазбаўлен спадчыны. Значыцца, пасьля сьмерці яго маткі—паказала графіня на Ўладзіка—усе клапоты пра яго ляжаць на вас.

— Бацька пакінуў крыху грошай,—умяшаўся ў гутарку Ўладзік.—Мне хопіць іх да сканчэньня гімназіі. А пасьля сам буду зарабляць.

Графіня прыкусіла вусны

— Зялёная самаўпэўненасьць! Дай бог вам, як можна пазьней, расчаравацца ў сваіх марах, — сказала яна Ўладзіку і перавяла гутарку з цёткай на францускую мову. Уладзік пасьпяшыў сказаць па францускy якісьці сказ, каб папярэдзіць, што разумее. Графіня міласьціва паглядзела на яго. Раптам у пакой убегла дзяўчынка гадоў шаснаццаці і адразу спынілася, заўважыўшы незнаёмых гасьцей. Твар старой зазьзяў шырокай усьмешкай.

— Мая ўнучка,—сказала яна. Дзяўчынка зрабіла рэвэранс і прывіталася з генэральшай. Уладзік, які ўстаў пры яе зьяўленьні, пакланіўся, паціснуў маленькую руку, падняў галаву і раптам апынуўся ўвесь у вялікіх прамяністых вачох, супуціўся і ня ведаў, што з сабою рабіць.

— Каця,—зьвярнулася графіня да ўнучкі.—Пакажы Ўладзімеру Мікалаевічу наш сад, а то яму сумна тут слухаць нашу балбатню.

Уладзік пайшоў за дзяўчынкай, любуючыся кожным яе рухам, які здаваўся яму верхам усякай грацыёзнасьці і прыгажосьці. Ён зайздрасна пазіраў на яе, не адрываючыся, і вельмі баяўся, што яна адчуе яго погляд.

— Куды-ж мы пойдзем?—запыталася яна.

— Я тут першы раз і нічога ня ведаю, як-жа я магу выяўляць жаданьне?—адказаў Уладзік, а на языку вярцелася: хоць куды, адно каб з вамі.

— І праўда! Якая я дурніца!—расьсьмяялася Каця.— Давайце паглядзімо кветнік.

Клюмбы з тысячамі розных кветак, абсаджаныя густой зайцавай капустай і дэкорацыйнымі травамі, былі ў вялікім парадку. Але Ўладзік пазіраў не на іх, а на тую, постаць якой была такой прыгожай і на фоне руж, і сярод высокіх георгінь і пярэстых браткаў. Уладзік ведаў, што трэба штосьці сказаць, што яго маўчаньне няпрыемна Каці, але ня мог прыдумаць ніякіх слоў.

— Як прыгожа!—выцiснуў ён нарэшце з сябе і пачырванеў.

— Вам падабаецца? Хваліце за гэта Сьвірыда,—паказала яна на садоўніка, які капаўся каля градак. Уладзік яго і не заўважыў, а цяпер яму раптам стала радасна, што Каця добра адносіцца да рабочага. Ён падышоў да садоўніка, пахваліў яго мастацтва і падаў яму руку. Сьвірыд, павольна ўстаў, выцер руку аб фартух, і пасьля ўжо асьцярожна ўлажыў яе ў Уладзікаву. Каця зьдзіўлена пазірала на гэтую цэрэмонію.

— Вы—дэмократ?—запыталася яна Ўладзіка. —Глядзіце—пры бабцы так не зрабіце.

— Проста я з павагай адношуся да працы,—адказаў Уладзік.

— Вось добра!—запляскала ў ладкі Каця.—Вы будзеце парай майму кузэну Бульбе,—Аляксею Ржэўскаму—я яго так заву з-за носа. Ён заўсёды прыводзіць у жах бабку і ня хоча прызнаваць ніякіх аўторытэтаў. Ён—сваяк Бакуніна і страшэнна хоча быць на яго падобны.

— А вы самі?—баязьліва запытаўся Ўладзік, адчуваючы, што яе адказ зьявіцца вельмі важным.

— Я нічога ў гэтым не разумею і не хачу разумець, — а то сіняй панчохай зраблюся.

— Вядома, сіняй панчохай ня трэба, але хіба вы ня хочаце імкнуцца да лепшага, справядлівага жыцьця для ўсяго чалавецтва?

— Хачу. Вось кончу інстытут і тады буду. А цяпер усе вучоныя гутаркі, кніжкі і спрэчкі наводзяць на мяне сьмяртэльную нуду.

— Ваша сьветласьць, сьнеданьне пададзена,—бегла да іх служанка.

## 7

За сьнеданьнем Уладзіку давялося сядзець побач з Кацяй, ён гэтаму быў вельмі здаволен і забыўся пра крыўду, выкліканую перапынкам гутаркі ў кветніку. На вялікім стале былі пастаўлены розныя халодныя патравы, на рагу гатаваўся самавар.

— Папробуйце нашага хатняга сьлівачнага сыра, — запрапанавала Каця, працягваючы Ўладзіку талерку з вялікім белым, як сьнег, камяком, пакладзеным на сурвэтку. Уладзік адлучыў кавалачак і памазаў на хлеб.

— Смачна?

— Надзвычай. А як гэты сыр робіцца?

— Трэба ўзяць пароўну сьлівак і сьмятаны,—з толкам пачала тлумачыць Каця, — загатаваць пакуль ня згусьнуць, прыбавіўшы крыху солі, пасьля адцісьнуць і ўсё.

Уладзік пазіраў ёй у вочы і слухаў тлумачэньне, як самую цікавую таемную казку.

— Як вам спадабаўся наш сад?—пачуў ён запытаньне графіні.

— Дзівосны. Мы былі ў кветніку, і я ня мог надзівіцца клюмбамі і мастацтвам вашага садоўніка.

— Бабка, Уладзімер Мікалаевіч з Сьвірыдам за руку прывітаўся,— сказала Каця і кінула на Ўладзіка хітры погляд. Графіня сурова запыталася:

— Як-жа гэта? Вы памыліліся?

— Не, проста мне хацелася выявіць яму сваю пашану за яго работу.

— Ня справа гэта, малады чалавек. Вы ў мяне так усіх людзей перапсуеце. Яны бог ведае што з сябе ўяўляць пачнуць. Ды і сваю дваранскую годнасьць не падыходзіць пэцкаць аб мужыцкія рукі. Вы—нашчадак старэйшага роду. Ведаеш, Каця, Сабуравы старэйшыя нашай фаміліі, іх род яшчэ з трынаццатага стагодзьдзя вядзецца, у сваяцтве з царамі былі.

Каця ўстала і зрабіла Ўладзіку глыбокі гіронічны рэвэранс.

— Ах, жэўжык, жэўжык, — расьсьмялася графіня. — Зялёная маладасьць, што з яе дамагацца,—зьвярнулася яна да Грахольскай.—Няхай павесяліцца. Выйдзе замуж—бывай свая воля, дзявочай волі нам мала лёсам дарована.

„Выйдзе замуж“...—упіліся ў Уладзіка словы графіні, і ён зірнуў тужліва на Кацю, якая ўсьміхалася, і адчуў нясьцерпную ненавісьць да таго будучага невядомага, які возьме яе за руку, назаве сваёй...

— Хочаце яшчэ сьлівачнага сыру? Ён вам, здаецца, спадабаўся?— пачуў Уладзік.

— Калі ласка, палажэце,—падставіў Уладзік сваю талерку.—А як ён робіцца?

Каця зычна расьсьмяялася.

— Я-ж вам ужо тлумачыла! Няма чаго сказаць, уважлівы вучань!

Уладзік увесь пачырванеў.

— Першы бал, які я атрымаў у гімназіі, быў кол за ўвагу,—паправаў ён аджартавацца, ахоплены жахам ад думкі, што ўсе разумеюць прычыну яго расьсеяньня і цяпер якраз сьмяюцца таму.

— А цяпер у вас якія балы?—запыталася Каця.

— Я не ўганяюся за ўзнагародамі і вучуся толькі так, каб пераходзіць з клясы ў клясу. Гімназія нічога дзельнага не дае, і тыя, хто вучыцца на пяцёрку, як нападбор, надзвычайна няразьвітыя людзі: нічым, акрамя падручнікаў, ня цікавяцца, проста якіясьці ідыёты.

— Дзякую вас,—сказала Каця.—Вы далі мне добрую атэстацыю, бо я вучуся якраз на круглыя пяцёркі.

— Што вы...—мармытаў прыніжаны Уладзік.—Я не пра вас... У вас, у жаночых навучальных установах зусім іншае...

— Наш візыт вельмі зацягнуўся,—сказала, устаючы, Грахольская.—Дазвольце сардэчна падзякаваць вас, графіня, і разьвітацца.

— Дзякую вам, любая, што не забыліся старой. Калі ласка, яшчэ прашу шмат раз. Візыту вам дазвольце не аддаваць, старой я стала на гэта, ногі кепска ходзяць. А вы прыяжджайце. І маладога чалавека прывозьце. Каці весялей будзе,—пачуў Уладзік запрашэньне, якое прагучэла для яго, як музыка. Ён пацалаваў руку старой, баязьліва пацісьнуў ручку Каці, баючыся затрымаць яе хоць на момант болей, як гэта трэба, і таму адняў сваю руку, як ад агню, і зноў супуціўся. Ён чакаў, што Каця з свайго боку паўторыць запрашэньне графіні, але яна прамаўчала.

Усю дарогу дамоў ён балюча чырванеў, успамінаючы пра свае промахі ў часе сьнеданьня.

8

— Добры дзень, Васіль,—сказаў Уладзік, уваходзячы ў хату селяніна, Васіля Ягорава, якога ўсе ведалі пад манюшкай „Каштан“, хоць ён сам вельмі злаваў, калі чуў гэта.

Васіль устаў, прывітаўся з Уладзікам за руку, выцер фартухом табурэтку і запрасіў госьця сядаць. Каштан быў вядомы па ўсёй акрузе, як чалавек, які любіць пагутарыць на самыя небясьпечныя тэмы.--Нават супроць бога ідзе!—з жахам гаварылі пра яго на вёсцы. Зямлі ў Васіля

ня было. І ён жыў заработкам з сваёй майстэрні, у якой рамантаваў выключна ўсё, пачынаючы ад кішаньковых гадзіньнікаў і канчаючы малатарнямі. У вольны ад выкананьня заказаў час, ён займаўся вынаходніцтвам розных машын, паставіў у сваёй кузьні мэханічнае паддувала, удасканаліў такарны варштат і цяпер быў заняты пабудовай драўлянага вэлёсыпэду, на якім ручаўся даехаць без паломкі да самай Масквы.

— У графоў за ракой былі?—запытаўся Васіль. — Унучка ў старой красуня,—проста маліна. Вось-бы вам ажаніцца з ёй. Пасагу дадуць—на дзесяці вазох не адвязеш, грошай колькі сот тысяч, двара Стажараўскага палову адваляць, панам зажывяцё...

Уладзіку гэта магчымасьць здалася зусім немагчымай, і ён хацеў абарваць Васіля, які так груба зачапіў такое далікатнае пытаньне, а пасьля раптам падумаў: а чаму-б і не? Графіня больш за ўсё цэніць старажытнасьць роду, бацька Каці—дырэктар Маскоўскага банка, як кажуць, знаходзіцца пад башмаком у старой і не пасьмее пярэчыць яе вырашэньню... Але не, усё гэта глупства, не пра гэта трэба думаць.

— А Стажараўскія сяляне графіняй задаволены? — запытаўся Ўладзік.—Ня крыўдзіць?

Васіль расьсьмяяўся.

— Па самае горла, у турму заганяе, можна сказаць. Сялянская зямля-ж палеткамі пайшла з графінінай, а за арэнду яна 15—20 рублёў з дзесяціны бярэ, або палову ўраджаю, за кожную карову або каня, што на яе зямлю ступіць,—або рубля аддай, або тры дні адпрацуй. Проста ня пані, а жыла, суцяга... А за кожную дробязь — да земскага на суд, той заўсёды, вядома, яе руку трымае... Проста кладзіся ды ўмірай, вось якая яна.

— А Каця як да гэтага? Яна ведае?—з трывогай запытаўся Ўладзік.

— У яе аднэй толькі і абарона. Папросяць яе сяляне,—яна зараз да бабкі... Адпусьці жывёлу, даруй ім. Лаецца старая, што не ў сваю справу яна мяшаецца, а адмаўляць ёй—не адмаўляе. Толькі пабачыць паненку сялянам цяжка, не дапускаюць да яе.

— Значыцца яна добрая?

— Эх, пакуль маладыя,—усе добрыя. А вырасьце, гаспадарку ў свае рукі возьме, такая-ж будзе. Яблыка ад яблыні недалёка падае.

— Няпраўда, ня можа гэтага быць,—загаварыў Уладзік.—Яна зусім іншая.

— А вы адкуль яе ведаеце? Адзін раз бачылі, дык гэта нічога ня значыць. Вы і самі, ня ў крыўду вам будзе сказана, цяпер—такі, а кончыце вашы унівэрсытэты, будзеце інжынэрам,—таксама іншым зробіцеся, можа, і ўспамінаць не захочаце, як з мужыком сівалапым за руку віталіся...

— Гэтага я ўжо ніяк не чакаў ад цябе,—сказаў усхвалёвана Ўладзік і ўстаў з табурэткі. — Сам пабачыш пасьля, што голую няпраўду гаворыш.

— Дай бог, — спакойна перабіў яго Васіль. — Толькі тут у нас, у Цьвярской губэрні, мы шмат наглядзеліся такіх: гаворыць,—салаўём заліваецца, а як да справы дойдзе, да сваёй зямелькі або лесу, — тут іншыя песьні... Прабачце, калі штэ недарэчнае сказаў. Пакрыўдзіць вас я не хацеў, а так да слова прышлося.

Уладзік зноў сеў на ранейшае месца.

— Тут сяляне пыталіся пра вас, вельмі цікавяцца, што вы пра сонца і зоры апавядалі, а таксама і пра малпаў, што людзі ад іх паходзяць. Просяць яшчэ вытлумачыць, ужо вельмі, кажуць, цікава. Вечарам зноў да старастава́й хаты прыходзьце.

9

Уладзік зьбіраўся ў Стажарава. Раніцаю яму пашанцавала застрэліць некалькі дупялёў і ён хутка вырашыў, што ласкавае прыймо і ўвага, выказаная па яго адрасу старой графіняй, вымагаюць паднесьці ёй гэту высокагатунковую дзічыну ў падарунак. Дзесьці ў далёкім кутку мазгоў курсталася сьмяшлівая думка: ці ня грае ў гэтым імкненьні галоўную ролю Каця, але пра гэта не хацелася думаць.

Уладзік пачысьціў чаравікі і доўга разважаў над гарнітурам. З аднаго боку зусім брыдка было-б зьявіцца ў хатняй парусінавай куртцы і такіх-жа нагавіцах, а з другога—ніяк нельга было надзець што-небудзь параднае, накшталт гімнастычнага мундзіру, у якім ён быў першы раз у Стажараве з візытам. У дадатак прасіць коняй у цёткі не хапала рашучасьці: здагадаюцца, пачнуць насьміхацца. Значыцца, трэба ісьці пехатой. Але як апрануцца? Пасьля развагі Ўладзік вырашыў апрануць чыстую, толькі што папрасаваную парусінавую куртку і чорныя нагавіцы, якія ён купіў на Сухараўцы за тры рублі і якія яму вельмі падабаюцца. Аднак, дастаўшы нагавіцы, ён заўважыў на іх плямы. Давялося іх выводзіць газай, бо ня было тут для гэтага іншых сродкаў. Цераз чвэрць гадзіны Ўладзік быў гатоў, пашоў у сад, адтуль цераз плот выбраўся на дарогу і пакрочыў у Стажарава.

Тры вярсты Ўладзік адмахаў менш, як у поўгадзіны, і спыніўся ў канцы густой агарожы з елак, якія вялі да сядзібы. Чаравікі запыліліся. Папрабаваў ачысьціць іх у густой траве з краю дарогі, але яшчэ больш размазаў пыл і, у дадатак, запэцкаў нагавіцы. Доўга атрусаў іх,—а пыл шчыльна прыстаў да тлустых плям газы, абмахнуў чаравікі насовай хусткай, якая зараз-жа пакрылася бруднымі паласамі, сунуў яе ў кішэню, вырашыўшы не даставаць яе ні ў якім выпадку, і рашуча пайшоў да ўваходу ў дом.

— Графіня дома?—запытаўся ён у служанкі.

— Дома. Як пра вас далажыць?

— Скажэце,—Сабураў.

Праз мінуту служанка вярнулася і сказала:

— Іх сьветласьць просіць вас заходзіць.

Уладзік падняўся па знаёмых ужо ўсходах на другі паверх і застаў графіню у тым-жа пакоі і ў тым-жа крэсьле, як і ў першы раз. Каля яе сядзеў высокі малады чалавек, які ўстаў пры зьяўленьні Сабурава.

Уладзік прывітаўся з графіняй, хацеў тут-жа ёй перадаць скрутак з дупелямі, але яна сказала:

— Пазнаёмцеся. Мой унук—Алёша Ржэўскі. А гэта—Уладзімер Мікалаевіч Сабураў.

Уладзік нязграбна пералажыў скрутак у левую руку і адказаў на прывітаньне Ржэўскага.

— Дазвольце вам паднесьці, графіня, некалькі дупялёў—вынік майго сёнешняга паляваньня,—сказаў Уладзік, зноў перакладаючы скрутак у правую руку і працягваючы яго графіні, але ў той-жа час з жахам заўважыў, што папера прамокла ўнізе і праз яе прасачылася кроў. Давялося зноў адняць скрутак і стаяць у невядомасьці, што з ім рабіць.

— Вельмі вам удзячна. Сама я ніякага мяса ня ем, але Каці вашы дупелі, напэўна, прыдуцца да смаку,—сказала графіня, пазваніла ў званочак і загадала дзяўчыне, якая ўвайшла, узяць скрутак і аднесьці на кухню. Уладзік пашкадаваў, што дупялі засталіся неразгорнутымі і ніхто не пабачыў, якія яны вялікія і тлустыя, але застаўся вельмі задаволены, што яны пападуць па самаму жаданаму адрасу.

— Вы шмат хадзілі на паляваньне?—запытаўся Ржэўскі.

— Так. Гэта такое задаваленьне. Калі нават нічога не заб'еш, але-ж сьвежае чыстае паветра, узыход сонца, якога звычайна ня бачыш, здаровая зморанасьць, хваляваньне ад чаканьня дзічыны, усё гэта дае так шмат добрага, што я захапляюся паляваньнем. А вы?

— Мне не падабаецца гэты занятак. Я ня прывык шмат хадзіць і ня люблю гразі. А для паляўнічага-ж, здаецца, няма лепшага здавальненьня, як залезьці ў балота?—сказаў са сьмехам Ржэўскі.

— Як пажывае ваша цётка? Чаму яна ня прыехала? — запыталася графіня.

— Яна занята па гаспадарцы чымсьці, а я сьпяшаўся, хацелася проста з поля дупялёў вам прынесьці.

— Дзякую вас, мой любы. Алёша, адвядзі Ўладзімера Мікалаевіча да моладзі, а я,—ужо прабачце,—павінна заняцца з кіраўнічым.

У залі, куды прывёў Ржэўскі Ўладзіка, сядзела Каця, і весела гаманіла з дзьвюма паненкамі. Каля століка адстаўны афіцэр у гусарскай куртцы паказваў альбом высокаму прышчаватаму маладому чалавеку, які прыглядаўся праз акуляры да фотографій. Каця ўскочыла на спатканьне Ўладзіку, прывіталася з ім, як са старым знаёмым, і пазнаёміла яго з паненкамі. Адна з іх была сястрой Арлова, які разглядаў праз акуляры альбом, а другая—сястрой Аляксея Ржэўскага. Афіцэр адрэкамэндаваўся суседам па двару, Вульфэртам.

— Пазнаёміліся з Бульбай?—запыталася Каця.—Я пра цябе ўжо расказала і перш за ўсё пазнаёміла Ўладзіміра Мікалаевіча з тваёй мянушкай,—сказала яна, зьвяртаючыся да Ржэўскага.

— Уладзімер Мікалаевіч табе дупялёў прывёз свайго паляваньня,—хацеў перавесьці гутарку Ржэўскі, якому яго мянушка, відаць, не давала ніякага здавальненьня.

— Вось як? Дзякую. Як вам не шкада забіваць гэтых дзіўных птушак?

— А есьці дык ты іх усё-ж будзеш са смакам,—расьсьмяяўся Ржэўскі.

Уладзік сіліўся што-небудзь сказаць, але словы ніяк ня ішлі на язык.

— А з ганшакамі вы таксама хадзілі на паляваньне?—запытаўся падышоўшы Вульфэрт.

— Ніколі ня пробаваў. Кажуць, гэта дзіўнае паляваньне,—пасьпяшыў адказаць Уладзік.

— Так. Тут процьма зайцаў і лісіц. Цяпер на іх не сэзон, а з першага верасьня я захапляюся. Якраз да гэтага часу і работа на полі ўжо канчаецца.

— Вы жывіцё ў Пецярбурзе?—запытаўся Ўладзіка Арлоў, высокім, як здалося Ўладзіку, тонам.

— Не, у Маскве.

— Ня люблю Масквы,—працадзіў Арлоў праз зубы.—Гэта—купецкі горад, пазбаўлены розных грамадзкіх інтарэсаў, усёроўна як тая вёска.

— Ну, не кажэце,—заўважыў Уладзік.—Масквічы таксама ўважліва сочаць за навукай і палітычным жыцьцём, як пецярбуржцы. Я гавару, вядома, пра інтэлігенцыю, а не пра купцоў, якіх зусім ня ведаю і з якімі ня маю дачыненьня.

— Ніколі-б не згадзіўся жыць у Маскве. Там выключна ўсё пахне крамнікам. Нават рамізьнікі запрашаюць: „Калі ласка, ваша статнасьць!" а ў нас, у Пяцярбурзе: „Загадаеце, ваша сьветласьць?" Нават на гэтай дробязі відаць вялікая розьніца.

— Аляксандар Пятровіч,—умяшалася Каця, ківаючы Ўладзіку на Арлова,—страшэнна любіць тытул „сьветласьць". Мы яго завем князем.

— Я ўжо колькі раз казаў вам,—перабіў яе Арлоў,—што я паходжу ад малодшай галіны Арловых, і ня маю князеўскага тытулу, хоць, вядома, правы на тытул у нас такія-ж, як у князёў Арловых, нашых бліжэйшых сваякоў.

— Калі будзе на троне Екацярына Трэцяя,—і вы, напэўна, атрымаеце князеўскі тытул, як ваш прадзед атрымаў ад Екацярыны Другой,—кпліва прыжмурыўшыся, сказала Каця, прывёўшы Ўладзіка ў радасьць гэтай злой заўвагай.

Арлоў нахмурыўся. Відаць было, што ён сіліцца прыдумаць адказ, але нічога не знаходзіць.

— Хадзем у сад, панове,—запрасіла Каця, узяла пад руку Ржэўскую і памчалася ўніз. Усе пашлі за ёй.

— Мяне зьдзіўляе,—падышоў да Ўладзіка Ржэўскі,—калі гаворацъ, нашто хадзіць на паляваньне, што гэта жорсткі занятак і гэтак далей. Быццам-бы чалавек вольны выбіраць тое, што яму падабаецца, а ня проста падначальваецца абставінам, сярод якіх знаходзіцца. Вось, напрыклад, мы ўсе зараз робім выгляд, што ідзем у сад таму, што нам так хочацца. А на самай рэчы, мы не маглі-б не пайсьці, калі-б нават хацелі застацца ў пакоі, бо абставіны так склаліся, што нас штосьці прымушае выйсьці з хаты.

— Вы фаталісты?—запытаўся з зьдзіўленьнем Уладзік.

— Не, гэта не называецца фаталізмам. Я проста прыхільнік вучэньня аб няволі чалавечай волі. Разьбярыце кожны наш учынак, і вы заўсёды адшукаеце, што ён выкліканы зусім ня вашым жаданьнем, а шэрагам прычын, якія ляжаць па-за вамі і прымушаюць вас хацець якраз гэтага, а ня іншага, і вам толькі здаецца быццам вы самі па вашай уласнай волі робіце тое, а ня іншае. Вы незнаёмы з лекцыямі па гэтаму пытаньню прафэсара Каркунова.

— Не.

— Прачытайце. Яны вам дадуць ключ да разуменьня шмат чаго, што цяпер праходзіць незаўважаным. Вельмі цікавая і надзвычайна каштоўная тэорыя.

— Бульба! Зноў за філёзофію? Зараз-жа пакінь,—сказала Каця, падбегшы да іх, раптам зморшчыла носік, нюхаючы, і запыталася:—адкуль гэта газай так пахне?

Твар Уладзіка раптоўна наліўся гарачай крывёю, ён нялоўка хутка адскочыў убок, выклікаўшы зьдзіўлены погляд Каці.

— Што з вамі?

— Нага падкурчылася,—ледзь знайшоўся адказаць ён.

— Хадзем разам. Я вызвалю вас з палону Бульбы.

Яна ўзяла Ўладзіка за руку і пабегла з ім, даганяючы рэшту.

— Каго з поэтаў вы больш любіце?—запыталася Ўладзіка Маня Ржэўская.—У нас якраз спрэчка ідзе.

— Вядома, Некрасава,—адказаў Уладзік, хоць яму вельмі хацелася сказаць: Лермантава.

— Фу-у! Дзе-ж у яго поэзія? Вы, значыцца, складаеце трэцюю групу. У нас галасы падзяліліся паміж Пушкіным і Лермантавым.

— Лермантава я таксама вельмі люблю. Па харастве мовы і вобразаў ён непараўнальны. Але поэзія Некрасава мае куды больш грамадзкай вартасьці.

— Поэтаў нельга разглядаць з пункту гледжаньня грамадзкай вартасьці,—аўторытэтна пачаў Арлоў.—Інакш для кожнай эпохі давядзецца ставіць на першае месца розных другарадных пісьменьнікаў, тады як чыстая поэзія, як і кожнае мастацтва, па-за эпохамі і аднолькава каштоўныя ў розныя часы і ў розных умовах.

— Ну, што гэта за пакута!—усклікнула Каця.—Ні пра што загаварыць нельга, каб вы зараз-жа не перавялі гутарку ў галіну самых высокіх тэорый! Пытаньне ідзе пра тое, што каму падабаецца, а зусім не пра эпохі, каштоўнасьці і вартасьці. Інакш давядзецца параўноўваць, што больш карысна: Лермантаўскі „Демон“ або фунт бульбы... Я прашу прабачэньня—адвярнулася яна да Ржэўскага,—у гэтым выпадку гутарка ідзе не пра цябе. Аднак, я цябе на фунты яшчэ ні разу не расцэньвала.

Усе засьмяяліся.

— Вось і вельмі добра,—запляскала ў далоні Каця,—давайце зьвяжам поэзію з музыкай і хадзем прасьпяваем што-небудзь хорам. Вы сьпяваеце?—запыталася яна Ўладзіка.

— У хоры прымаю ўдзел. У нас у Маскве ёсьць таварыства па наладжваньню народных гульняў, я ў ім лічуся, мы нават концэрты даем, опэру „Вражья сила“ зьбіраемся ўвосень ставіць.

— Вельмі добра. Хадзем да нашых старэнькіх клявікордаў, якія служаць ужо, здаецца, чацьвертаму пакаленьню. У вас які голас? Бас?

— Профунда,—з павагаю адказаў Уладзік.

— Нам якраз басу не хапае. Уявеце сабе, Павал Паўлавіч,—паказала яна на Вульфэрта,—сьпявае тэнарам, Аляксандра Пятровіч—невядома чым, а ў Бульбы голас яшчэ ня вызначыўся, і з гэтае прычыны ён любіць лепш маўчаць. І добра робіць, таму што адсутнасьць слуха ў яго зусім устаноўлена.

10

Уладзік вяртаўся дамоў позна ўночы пасьля сытнае вячэры, увесь поўны шчасьця ад гэтак добра праведзенага дня. Хоць яму і не ўдалося гаварыць з Кацяй сам-на-сам, ды да гэтага ён нават ня імкнуўся, але яна выказала яму шмат увагі, падала некалькі лоўкіх досьціпаў па адрасу напуфыранага Арлова, які адразу яму вельмі не спадабаўся. Каця намагалася, каб Уладзік пакарыстаўся іх канём, графіня пакідала яго начаваць, загадала нават паказаць яму пакоі для гасьцей, але Ўладзік пайшоў пехатой, жадаючы застацца сам-на-сам і яшчэ раз павольна адчуць усю паўнату так радасна праведзеных гадзін. Адна толькі хмарка,—пах газы,—расьсеялася, але на другі раз трэба быць больш асьцярожным. Давядзецца пазычыць у цёткі одэколёну. І якім дурнем ён быў, што ня ўзяў з сабою з Масквы хоць-бы флякон! Але з другога боку пра одэколён ён думаў, калі ад'яджаў да цёткі, менш, як пра турэцкага султана!

У змроку бяз месячнай ночы ледзь сьвятлела палоска дарогі. Уладзік хутка ішоў па ёй, стараючыся ня зьбіцца на перакрыжаваньнях, і прыглядаючыся да кустоў, якія цяпер былі ахутаны таемнай цішынёй. Ён прайшоў ужо з палову дарогі, як раптам пачуў, што хутка набліжаецца з засеяных палёў наперарэз дарозе тупат і цяжкое дыханьне, пасьля заўважыў мігатлівыя цені, якія хутка расьсякалі цёмны дыван ячменю, які пачаў каласіцца, і раптам проста да ног Уладзіка выбег заяц,

за ім лёгкім ценем мільгануў Уладзікаў пойнтэр Рэкс, а ззаду яго, як вялізная паравая машына, праімчалася цяжкая туша цёткавага сэн-Бэрнара: цьфу, чорт! Уладзік прараэьліва сьвіснуў Рэксу, які праз хвіліну, вінавата апусьціўшы хвост, вярнуўся на дарогу і, чакаючы выгавару (Уладзік вельмі рэдка ўжываў цялесную кару) лёг на зямлю. Уладзік пабацькаўску пажурыў яго, прачытаўшы цэлую лекцыю пра недапушчальнасьць для завадзкога ганшака ганяцца за зайцамі, на што Рэкс ціхенька скавытаў. Пасьля Уладзік пагладзіў яго па шалкавістай шыі і загадаў ісьці каля сябе. Па дарозе ён пачаў расказваць Рэксу аб праведзеным у Стажараве дні, пра тое, якая прыгожая Каця, і пра шмат іншае, чаго нельга было сказаць нікому, апрача вернага сабакі, які ўмеў захоўваць таямніцу.

Сядзіба была ўжо ахутана цемрай, вартаўнік нудліва стукаў лякоткай. Уладзік без ніякай перашкоды прайшоў па дварэ (усе лічаць, што знаходзяцца пад вартай страшнога сэн-бэрнара!) і пастукаў у дзьверы. Праз шыбу пабачыў, як успыхнуў аганёк сьвечкі, хтосьці падыйшоў пад вакно і, засланіўшыся ад сьвятла рукой, напружана ўглядаўся ў цемру. Уладзік ціха назваў сябе і зараз-жа засаўка дзьвярэй адсунулася. Перад ім стаяла ў ваднэй кужэльнай сарочцы ўзятая з вёскі для паслугваньня васемнаццацігадовая Мар'я. Ад яе пахла цяплынёй пасьцелі і яшчэ чымсьці, што казытала і хвалявала. Яна хітравата і абяцаючы ўсьміхалася і пазірала на Уладзіка.

— Загуляліся, панічок? А пра вас тут усе непакоіліся... Думалі, згубіліся вы зусім... І я гэтак занудзілася...

Яна прытулілася да Уладзікавай рукі гарачымі поўнымі грудзямі. Уладзік адскочыў у бок.

— Дзякую. Дабранач,—сказаў ён, бяручы ў яе сьвечку і ідучы ў свой пакой.

## 11

— П'яніцы яны ўсе і гультаі, таму і галадаюць,—гаварыла генэральша Грахольская Уладзіку, які зазначаў на жабрацтва шмат якіх сялян Грышына і на абавязкі яе, як памешчыцы, дапамагчы ім.

— Зразумей цёця, што працаваць ім няма на чым. Яны не гультаявалі-б, калі-б зямлі было даволі. А хіба з аднэй дзесяціны на траіх, чэцьвярых едакоў пражывеш? Дай ім па льготнай цане ў арэнду частку свайго двара, папробуй, а пасьля ўжо, калі з гэтага нічога ня выйдзе, можаш дакараць іх у гультайстве.

— Малады ты яшчэ старую цётку вучыць,—пакрыўджана адказала Грахольская.—Спачатку вусы сабе выгадуй, а пасьля ўжо парады давай. Які дабрачынны знайшоўся! Калі-б твой двор быў, ня так-бы разважаў. А адкуль я вазьму тады грошай падаткі плаціць? І так нічога з двара ня маю, а тады яшчэ прыплачваць давядзецца за тое, што памешчыца.

— Па-першае, ня варта сябе старыць,—гэта вельмі дрэнная прывычка. Няма чаго з сябе ў 35 год бабулю ўдаваць. А па-другое, я прапаную зрабіць маленькую практыку. Хто, па-твойму, на вёсцы самы заядлы гультай, п'яніца і няздольнік, які не заслугоўвае ніякага давер'я.

— Вядома, Васіль Касы.

— Я так і ведаў, што ты яго назавеш. У яго надзел у адну дзесяціну, чацьвёра малых дзяцей, удавец, пражывае, голоўным чынам, жабрацтвам, прапівае ўсё, што пападзецца. Дай мне дзесяць рублёў з маіх грошай, толькі аднэй манэтай.

— Навошта табе?

— А вось пабачыш.

Грахольская дастала з партманэта залаты. Уладзік узяў яго і пайшоў на вёску. Паклікаўшы з хаты Васіля Касога, ён сказаў яму:

— Васіль, вось табе дзесяць рублёў. Схадзі на вёску, купі для сваіх дзяцей мукі, круп і іншых продуктаў на адзін рубель семдзесят пяць капеек, а восем рублёў прынясі мне рэшты. Зразумеў?

— Бацюхна родны! Як-жа не зразумець? Усё акуратна зраблю. Дзетак маіх пашкадаваў, век за цябе бога маліць...

— Годзе гутарыць.

Васіль націснуў парваную шапку і хутка запыліў босымі нагамі па дарозе да вёскі Іванаўкі, якая відаць была на небасхіле.

Надыйшоў вечар. Грахольская з ухмылкай пазірала на Ўладзіка.

— Пайшоў-ба ты адведаў свайго Васіля. Мабыць, у канаве дзе-небудзь ляжыць. Ён і ў сьне гэтакіх грошай ня сьніў; карчом у Іванаўцы хоць адбаўляй, плакалі твае грошыкі!

Уладзік не адказваў. Сумненьне ў удачы спробы закрадалася ў яго ўжо з поўдня, а пад вечар і бяз цётчыных слоў набыло характар упэўненасьці. Не ўстаяў...

На двары забрахалі сабакі, Уладзік вышаў і праз хвіліну прыцягнуў у пакой цёткі Васіля, які ўпінаўся. У руках у яго былі пакункі з продуктамі, а з анучкі ён даставаў рэшту: восем рублёў дваццаць пяць капеек...

— Пані... Ваша сьветласьць... дабрачынныя вы нашы... дапамаглі жабраку...

— Дзякуй Васіль, — пацісьнуў яму руку Ўладзік — апраўдаў давер'е. За гэта вазьмі сабе і ўсю рэшту. Дзецям даўно пара кашулькі і штонікі купіць. Купі паркалю ў краме і аддай пашыць каму-небудзь, тут на ўсё хопіць.

Васіль ад нечаканасьці ня мог нічога вымавіць і, зразумеўшы, упаў на калені. Уладзік падхапіў яго і закрычаў.

— Пакінь уніжацца! Ня трэба. Не табе, а дзецям тваім даю. Ідзі дамоў і глядзі, калі прап'еш, хоць капейку!

— Ды я... хай лопнуць мае вочы... залаты ты мой...—мармытаў ён ужо на двары.

На другі дзень Уладзік пачуў крык і выйшаў з дому даведацца, у чым справа. Прыганяты дужаўся з п'яным удрызг Васілём, які лез у дзьверы дому і патрабаваў, каб яго зараз·жа дапусьцілі да паніча.

— Ня маеш ніякага права!—галёкаў Васіль на прыганятага.

— Са мной паніч учора за гэту самую руку вітаўся! Сябра ён мне першы! А ты погань прадажная. Пусьці, кажуць табе! Падзякаваць яму я хачу. У ногі пакланюся яму, што ён намі сялянамі не пагарджае...

Уладзік хутка вярнуўся ў дом і ня бачыў, як прыганяты ўзяў Васіля за шыварат, павалок да брамы і каленам выштурхнуў з тэрыторыі сядзібы.

(Працяг будзе).

З расійскае. Пераклад з рукапісу
**Я. Плашчынскага.**

## КАБ ЖЫЦЬ, СЬПЯВАЦЬ І НЕ СТАРЭЦЬ...

**Юлі Таўбін**

Каб жыць, сьпяваць і не старэць,
Каб бачыць шлях перад сабою—
Сябры, нам трэба паланець
Жывой пясьнярскаю душою.

Слухмянай хваляй праплывуць
Пражытых дзён агні і гулы...
Вякі сумленна панясуць
Жыцьцём запаленую чуласьць.

І там, за засьцілкай зімы,
Прайшоўшы горда шлях суровы,—
Угледзім, можа быць, і мы
Даўно прачутыя асновы.

Таму цяпер, у дыме кроз
Ня варта пець аб лірных струнах
І трэба кроплі дымных сьлёз
Судзіць, як злосьніцкі рабунак.

Нам трэба жыць куды ярчэй,
Жыць пекнатою асяродзьдзя.
Эпоха хоча мець людзей
І людзі гэтыя прыходзяць.

Даўно нам час разблытаць сець
Саюзу з дзікімі вякамі,—
Мы хочам жыць і паланець
З усімі людзкімі правамі.

Нам ставіць даўняе залом,
Нас вабіць хцівае мастацтва.
Ідзе вялікі пералом —
І з гэтым трэба разьвітацца.

Эпоха хоча мець людзей...
Жывых людзей... Эпоха кліча...
Яна сягоньня прыгажэй
За ўсіх Лаур і Бэатрычэ.

Яна варушыць мёртвы сьвет,
Сьмяецца сьмехам бесклапотным,
Яе шматколерны портрэт
Нікім ня ўзяты на палотны.

Забудзем клопаты свае,
Пакінем марныя шуканьні
І ахвяруем для яе
Свае разьбітыя каханьні.

Шырэй шумі, шырокі край!
Мацней, гамонка ветраў вольных.
Поэт узрушаны, сьпявай,
Калі сьпяваць ты маеш здольнасьць...

Сягоньня я іду з табой,
Каб песьню наталіла сіла,
І ў ямбаў гутарцы старой
Па-новаму загаварыла.

8-III 1930.
Менск.

## БІБЛІОТЭКА

### З. Астапенка

Часта ўвечары змрокам сінім,
Змрокам сінім, харошым адвеку,
Я заходжу сюды на хвіліну, —
Ў гэту ціхую бібліотэку.

З цёмных шафаў, з паліц высокіх
Сустракае шумам паперы
Ціхі шэлест—як лёгкія крокі,
Лёгкі шолах у пыле шэрым.

Мабыць бегаюць недзе мышы —
Бяз прытулку і бяз прыстаньня.
Сонны пыл асыпае ціша
Па старажытных выданьнях

І вось іду я ў маўклівай стыні —
Пакой ня палены з ранку...
Горад змоўк і недзе загінуў
За апушчанай пыльнай фіранкай.

Горад сьціх за шыбаю сіняй
І—недзе далёка яго разьбег...
І вось, па балонках ідуць краіны
У віхурах, у барацьбе...

Спачатку мглеюць бязьлюдныя эры
У 6-цітомнай Гісторыі Зямлі.
Плезіозаўры, дапатопныя зьверы
Калышуцца ў Мэзозойскай далі.

Потым першабытныя людзі прасекі
Кладуць па эрах рыб і зьвяроў.
І ўрэшце, эгіпцяніна-чалавека
На будаваньні пірамід я знайшоў.

Роман пачынаецца з вёскі, з тых вытокаў, адкуль выходзіць галоўны гэрой роману—Ігнась. У процэсе ўсяго роману, і асабліва першай яго часткі, ідзе паступовы рост і перарастаньне Ігнася з сялянскай псыхікі да пролетарскай ідэолёгіі. Выходзячы з сельскага батрацтва, Ігнась трапляе ў горад, можна сказаць, у напалову саматужную майстэрню, бляхарню старога Зуся. Рост і асьведамленьне Ігнася, як рэволюцыянэра часамі ідзе зусім няпрыкметна, памалу. Але рост гэты не паказаны глыбока-супярэчлівым. Хоць у Ігнася і вельмі часта выступаюць рэцэдывы старой сялянскай псыхікі (помста Юркевічу на асабістай глебе і інш.), але-ж гэтыя рэцэдывы не складаюць у ім органічна-зьвязаную з усім комплексам яго паводзін—супярэчнасьць.

Ігнась пад уплывам соцыял-дэмократа Арона паступова ўцягваецца ў партыйную работу і становіцца на рэволюцыйна-бальшавіцкі шлях. У Зусевай майстэрні організуецца ядро соцыял-дэмократычнай організацыі. Гэтае ядро адыгрывае выключную ролю ў організацыі рэволюцыйнага руху як у горадзе, так і на вёсцы.

Вобразы Арона, Ігнася, Майзэля, Дуба і Яся, узятыя разам, складаюць як-бы адзін зборны вобраз соцыял-дэмократа-бальшавіка ў ідэальным разуменьні яго.

Гэтую эволюцыйную паступовасьць у разьвіцьці соцыял-дэмократа-бальшавіка мы можам прасачыць, пачынаючы з самага зародку гэтага вобразу ў Ясі і Дубу. Іх прастата, нямудрая „філёзофія“ жыцьця, якая ў першага (ён яшчэ поўны сялянскае пакорлівасьці і прымітывізму), зводзіцца да таго, што

„... Жыцьцё,—як той млын,—падзьме добры вецер надоўга, вось і шчасьце прыплыло млынару. А няма ветру—пустуе, ня шугае крыльлямі млын, і млынару хоць ты вешайся на сваім млыне“. („1905“—120 стар.).

Другі-ж Дуб, які ўжо вышаў з такое стадыі сялянскага прымітывізму і які пачынае разумець законы клясавай грамады—змаганьне. Яго „філёзофія“ ўжо больш складаная:

„Эх, моцнае жыцьцё, вёрткае, сьлізкае. Але-ж неяк трэба браць яго ў рукі... („1905“—120 стар.).

Гэтых людзей, якія непасрэдна зьвязалі свой лёс з рэволюцыйным змаганьнем, ня трывожаць сумненьні і супярэчнасьці. Ім здаецца, што ўсё можна зрабіць, выканаць.

Эволюцыйнае разьвіцьцё змагара-рэволюцыянэра ідзе далей да Ігнася і Арона. Ігнась таксама вышаў з вёскі, але пад уплывам рабочага асяродзьдзя, у якім ён жыве, ён становіцца сьвядомым рэволюцыянэрам-барацьбітом.

Мы ўжо зазначылі вышэй, што Ігнась, як вобраз, наогул ня вытрыманы ў пляне асноўнага творчага мэтоду пролетарскае літаратуры, а менавіта, паказу чалавека ва ўсіх яго супярэчнасьцях.

Аднак, праяўленьне сялянскай псыхікі, на што мы таксама зазначылі вышэй, у яго маецца.

Гэта асабліва выяўляецца ў спрэчках соцыял-дэмакратаў пры арганізацыі баявой дружыны, дзе ён выяўляе сваясаблівую „фэтышызацыю" сялянства.

Ігнась адстойвае: ён лічыць, што трэба ў першую чаргу ўзьняць сялянскія масы, „бо рабочыя яшчэ не падрыхтаваны, каб рабіць паўстаньне ў горадзе".

„—Трэба ісьці туды, дзе сялянства хвалюецца, дзе пачынаецца бунт супроць паноў".

„Мы ня можам дазволіць панам адцягваць сялянства ад рэволюцыі" („1905", 108 стар.).

Але супроць гэтага імкненьня да сялянскае масы паўстае Майзэль— соцыял-дэмократ-бальшавік і які зусім няправільна, у дадзеным выпадку, разумее ролю сялянства ў рэволюцыйным змаганьні.

—„Мы соцыял-дэмократы, у першай чарзе, мусім клапаціцца пра лёс рабочых, я патрабую, каб сёньня з дружынай выступіць на горад, а то заселі ў глушыні і хоць ваўкамі вый" („1905", 106 стар.).

Недапушчальная, на першы погляд, супярэчнасьць паміж поглядамі Ігнася і Майзэля, лёгка вытлумачваецца разуменьнем зборнага тыпу соцыял-дэмократа-бальшавіка, які складаецца з органічна-сынтэзаваньня гэтых поглядаў і дзеяньняў у вобразе кіраўніка соцыял-дэмократаў-бальшавікоў—Ароне.

Арон кажа:

„—Мызлучым у адно рэволюцыйнае імкненьне рабочых і сялян... Не пакідаючы намагаць сярод рабочых на паўстаньне, будзем падштурхоўваць дзьве вялікія сілы да сумеснага змаганьня"... („1905", 108 стар.).

Арон уяўляецца, як-бы найбольш пэўным ідэальным вобразам соцыял-дэмократа-бальшавіка, ён можа ў патрэбныя моманты праявіць дыктатарскую ўпартасьць і настойлівасьць і, з другога боку, быць добрым таварышом і кіраўнікам.

Аднак, ня гледзячы на тое, што соцыял-дэмократы-бальшавікі ў рамане паказаны, як монолітная адзіная сіла, здольная перамагаць вялізарныя цяжкасьці і супярэчнасьці, той ідэал соцыял-дэмократа-бальшавіка, якога ствараў у вобразе сваіх гэрояў Мурашка, зьяўляецца толькі схэмай і выступае не як сапраўдны жывы чалавек, а як надуманы і прылізаны словам—штучны вобраз.

І менавіта таму, што Р. Мурашка ідзе па лініі найменшага супраціўленьня, што ён не паказаў у вобразе гэтых соцыял-дэмократаў жывых конкрэтных людзей, ва ўсіх супярэчнасьцях, што ён, ідэалізаваўшы іх, схаваў за пэўнай схэмай ідэалу воблік жывога чалавека, што ён супроць іх, як сапраўдных рэволюцыянэраў, выставіў нікчэмныя сшаржыраваныя вобразы бундаўцаў і эсэраў, яго гэроі не ствараюць належнага ўражаньня.

Усё гэта вельмі далёка ад „жывога чалавека“.

Але тое, што трэба разумець пад вобразам жывога чалавека (агаворваюся, што сам па сабе тэрмін гэты няўдалы), які выцякае з дыялектычна-матэрыялістычнага стылю пролетарскай літаратуры, зусім ня кажа аб тым, што мастак пры паказе жывога чалавека застаецца пасыўным сузіральнікам жыцьця, як думаюць некаторыя таварышы. Зусім ня так. З усяго адзінства супярэчнасьцяй, на якіх трымаецца вобраз жывога чалавека, выцякае і тэлеолёгічная ўстаноўка аўтара, перамаганьне гэтых супярэчнасьцяй, накіраванасьць дзейнасьці чалавека і адносіны хоць-бы да паданага вобразу.

Ды ў мастацкім творы аўтар мае багата шляхоў, каб у процэсе паказаў чалавека ў дзеяньні ў грамадзкім жыцьці паказаць перамаганьне гэтых супярэчнасьцяй і выявіць свае адносіны да паданага вобразу. Т. В. Ермілаў у „Літаратурнай Газэце“ № 14 (51) піша аб гэтым: „Пролетарскія пісьменьнікі ў якасьці матэрыялістых дыялектыкаў павінны выходзіць з таго асноўнага палажэньня, што чалавек пазнаецца ў дзеяньні... „Пазнай самога сябе“—значыць пазнай сябе ў дзеяньні...

Я думаю, што калі мы гаворым пра паказ чалавека ў дзеяньні ў грамадзкім жыцьці, дык сюды ўжо само па сабе ўключаецца момант перамаганьня супярэчнасьцяй, якія заложаны ў псыхіцы чалавека. Чалавек у дзеяньні, у грамадзкім пляне паказу перамагае свае супярэчнасьці. (Так, прыкладам, Левінсон у романе Фадзеева „Разгром“, ня гледзячы на тое, што ў сваёй псыхіцы ён супярэчлівы, перамагае гэтыя супярэчнасьці ў сваёй практычнай рабоце)“. І ў гэтым т. В. Ермілаў мае рацыю.

Ці зьмянілася-б, прыкладам, што-небудзь ад таго, каб Р. Мурашка не паказваў эсэра *ва ўсіх дробязях адмоўным?* Ці зьменшылася-б мастацка-ідэолёгічная цэльнасьць вобразу? Ці зьмянілася-б ад гэтага соцыяльная прырода эсэра—дробна-буржуазнага бунтара?

Наадварот, мастацка-ідэолёгічная цэльнасьць вобразу ў многа раз узмацнілася-б. Эсэр застаўся-б тым, кім і быў у сваёй соцыяльнай прыродзе, а вось чытач у ім бачыў-бы яшчэ *не наогул схэму эсэра*, а эсэра, як жывога чалавека, эсэра конкрэтнага.

Праўда, калі Арон і Ігнась у романе, вобразы досыць схэматычныя, то куды жывейшымі выглядаюць Майзэль, Дуб, Ясь, дачка пана Няслаўскага—Ларыса і сам Няслаўскі.

Майзэль—гэта вечны неўціхамірны барацьбіт, чалавек, які траціць апошнія сілы на змаганьне (ён хворы сухотамі), які робіць непасільныя яму пераходы ўначы па лесе, які, здаецца, ніколі ня можа стаміцца ў рэволюцыйным змаганьні, які ніколі, здавалася-б, не павінен зрабіць ніводнае развагі над патрабаваньнем рэволюцыі, які, здавалася, ні ў чым не сумняваецца, і калі ён протэстуе супроць „дыктатарства“ Арона:

„—Ах, ты гэтак? У соцыял-дэмократычнай партыі і гэтак. Адзін хочаш загадваць... Адзін кіраваць... Не...“ („1905“, 9 стар.), дык у ім мы адчуваем адразу жывога чалавека, а ня схэму.

Або ў другім месцы, калі гэты няўтомны змагар неяк асабліва прыціх пад уплывам цёпленькага агеньчыку і ўпяршыню пачуў, што і яму патрэбен адпачынак, то і тут мы адчуваем ня толькі змагара, але і яшчэ звычайнага чалавека з усімі яго пачуцьцямі:

„Майзэль, як сеў, дык так і прыкіпеў быццам. Гэтак цяжка паварухнуць рукою ці нагою,—як валавяныя парабіліся. Ён скурчыўся, падгібаў ногі і, паставіўшы каўнер, якую часіну стаў засыпаць („1905", 111 стар.)

Ці далей:

„Майзэль сеў доле, падсунуўся блізенька пад самы агонь грэцца. Мусіць зьмерз, бо выстаўленыя рукі трымцелі і хапалі агнёвыя языкі („1905", 109 стар.).

Тут мы маем жывога чалавека з усімі яго слабасьцямі і дадатнымі якасьцямі.

Таксама ўдаўся аўтару вобраз магнацкай дачкі Ларысы, якая запалілася мімалётным агнём рэволюцыйнага змаганьня і сама-ж згарэла ў гэтым агні.

III

Асноўнае, што зьяўляецца каштоўным у романе Р. Мурашкі і прынамсі ўрыўкаў „Тысяча дзевяцьсот пяты"—гэта тое, што аўтар улавіў унутраныя супярэчнасьці рэволюцыі і асабліва супярэчнасьці, якія зьвязаны з узьняцьцем на рэволюцыйнае змаганьне сялянства.

Гэта падмацоўваецца ўдалым паказам здрадніцкай дзейнасьці Беларускай Соцыялістычнай Грамады ў прыватнасьці ў асобе пана Няслаўскага.

Вобраз самога Няслаўскага ў сэнсе мастацкае праўдзівацьці, выдзяляецца з ліку іншых вобразаў. Гісторыя яго дзейнасьці, дзейнасьці лібэрала, які ў пачатку падтрымлівае „рэволюцыйныя імкненьні моладзі", а пасьля, калі рэволюцыя пагражае і яго маёнтку, займаецца распаўсюджваньнем здрадніцкіх праклямацый БСГ сярод сялянства.

Зусім мастацкі правільна Р. Мурашка ўлавіў і флегматычную непаваротлівасьць селяніна і ўласьніцкую абмежаванасьць і анархізм, які ня ідзе далей падпалу панскага маёнтку.

Калі Арон, Ігнась, Ясь і Дуб апынуліся на непасрэднай працы ў вёсцы, яны адчулі ўсю цяжкасьць узьняцьця селяніна да організаванай рэволюцыйнай барацьбы.

Вось размова ў хаце селяніна-бедняка ў вёсцы, куды яны прышлі для рэволюцыйнай работы.

— „Як жывяце?—спытаўся Дуб. Ён добра бачыў, як жывуць у хаце, але ўжо гэтак гаворыцца ў мужыкоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... „А мужчына, кінуўшы вокам па хаце, сказаў:

— От, жывом.

„Дым лез у вочы, выклікаў міжвольна сьлёзы, прымушаў плюшчыцца і кашляць.

„— Рату падалі?—спытаў гэтак-сама спакойна і не сьпяшаючы Ясь.

„— Садралі,—адказаў гаспадар.

„Ігнася аж за жывое ўшчыкнуў гэты іхны пакой—*быццам яны пытацца прышлі, як жывуць і ці падалі рату*". („1905", 68 стар.) (падкрэсьліў *Ал. К.)*.

Заслугоўвае ўвагі і малюнак, які паказвае на тую ўласьніцкую абмежаванасьць і замкнутасьць, якая жыве ў селяніна.

Рабочыя гораду і парабкі навакольных двароў сабраліся ў лес на маёўку.

У гэты час, каля іх праяжджаюць новабранцы, якія едуць на прызыў. Рабочыя і парабкі застанаўліваюць іх і пачынаюць тлумачыць ім пра вайну, адным словам, падбіраюць пад свой агітацыйны ўплыў.

А сяляне кажуць:

„— Эх, зямелькі-б! І больш нічога.

„— А ці мала зямлі, гэта-ж можна сказаць навокал нас двары ды двары. Паноў—хоць грэблі тахці імі. Ввсь і лясы таксама"—адказваюць ім парабкі.

„— Хат... Хат з гэтага лесу колькі вышла-б!

„—Так. Ды лес і сам па сабе добрая хата. Яшчэ раз скажам, плюньце на воінскага" („СЫН", 167 стар.).

Гэтае ўзаемнае неразуменьне сялян і парабкаў хавае ў сабе глыбокі ідэёвы сэнс.

У той час, як адны разумеюць лес, як сродак *той-жа барацьбы*, другія думаюць аб тым, што з яго можа шмат хат выйсьці—г. зн. для іх лес—сродак свайго-ж індывідуальнага абагачэньня.

З другога-ж боку гэтае флегматычнае і дужа абмяжованае сялянства (у сілу свае дробна-буржуазнае прыроды) лёгка паддаецца на эсэраўскую агітацыю ісьці ў двор і спаліць панскія палацы.

Калі пасьля агітацыі эсэра Ігнась са сваімі хлапцамі хоча адцягнуць ад гэтай „барацьбы", накіраваць на шлях організаванага змаганьня, ён адчувае тую-ж уласьніцкую абмяжованасьць і недаверлівасьць.

Ігнась зьвяртаецца да натоўпу сялян:

„— Братцы, дзядзькі і дзяды!—Прыгожа гаварыў тут гэты чалавек (рэч ідзе аб эсэру. *Ал. К.)*. А хто ён вы ведаеце, хто ён і адкуль?

„— А ты сам адкуль?—недаверліва зараўлі на яго..." („1905", 74 стар.).

І дарма былі ўгаворы соцыял-дэмократаў. З выгляду прынадныя пэрспэктывы адпомсьціць пану, разграбіць маёнтак, разьюшаная стыхійнасьць перамагла.

„— Што нам да гораду, мужчыны! Глядзеце куды гне. Горад—горадам, мужчыны. Ці наша зямля ў горадзе? Тут яна, тут і лясы і паплавы нашы"... („1905", 76 стар.).

Гэтыя словы, якія кідае эсэр сялянам, і аказаліся больш зразумелымі сялянству, чымся ўгаворы соцыял-дэмакратаў выступіць організована, разам з рабочымі гораду і навакольнымі вёскамі.

Малюнак разгрому панскага маёнтку з мастацкага боку паданы вельмі добра, і зьяўляецца ў романе адным з мацнейшых мясьцін.

Асабліва момант урываньня ў пакой і нападу на хурмана. Падаем гэты малюнак.

Сякуць дзьверы:

... „І гострая сталь пачала прагна жэрці цьвёрдыя дубовыя дошкі, моцна ўкутыя ў жалеза. Часамі пападалі сякеры на гвазды, тады сыпаўся скрыготны звон і іскры“ („1905“, 82 стар.).

Анархізм сялянскае масы, які дасягае свайго кульмінацыйнага пункту пры разгроме маёнтку, паказаны ў малюнку, калі замест пана, які пасьпеў уцячы, натоўп нападае і забівае хурмана:

„Зрабілася гэта шпарка і моўчкі, бяз жаднага слова, бяз выгукаў. Толькі цяжка, парыўчата дыхаў натоўп. Ды яшчэ ў чалавечага клубка, у якім трапяталася бясьсільнае цела хурмана ў тахту народнага азлабленьня, вырываліся, як у кавалёў пры кованьні жалеза—Гах! Гах! Гах! Гах!

„— Агню... Агню...—пачуўся нейчы дзікі голас“... („1905“, 85 стар).

Рэакцыйная дзейнасьць кулацтва даволі добра падана ў апошніх главах роману, калі Ігнась з дружыньнікамі вяртаецца дамоў к моманту сьмерці маткі.

Ня кажучы аб тым, што вобраз сустрэчы маткі з сынам поўны прымітыўнага сэнтымэнталізму, малюнак пажару ад сьвечкі, якую падаў Ігнась матцы пры сканаваньні, і напад кулацкіх дзесяцкіх на соцыял-дэмократаў—удалы.

І той трагізм, які вынікае з сапраўднага паказу Ігнася, як жывога чалавека (хоць у адным месцы), трагізм—дзейны, жывы. Ён соцыял-дэмократ-бальшавік нават не задумваецца над тым, ці патрэбна даваць матцы сьвечку і, сам-жа падаўшы ёй гэтую сьвечку, пахаваў матку ў пражэрлівым агні пажару.

У тым, што Ігнась сам падае нікому непатрэбную сьвечку, адчуваюцца карэньні ад „старога“, якія яго трымаюць.

Але якраз у гэтых найбольш моцных малюнках рэволюцыйнага змаганьня на вёсцы Р. Мурашка вельмі шмат папсаваў тым вобразам шаржыраванага эсэра, аб якім мы ўжо ўпаміналі вышэй.

Гэты эсэр, які змог падняць на маёнтак вялікую сялянскую масу, па Мурашку, пабаяўся пайсьці з сялянамі ў двор, а застаўся ў ляску здалёку назіраць, як сяляне будуць граміць панскія маёнткі:

„Ён (эсэр. *Ал. К.*) стаяў, падпёршы плячыма тоўстую высокую хвою, а навокал яго два ці тры хлапцы.

„— Правадыр—гіранічна праказаў Ігнась—ідзі рабі сваю здрадніцкую справу да канца.

„— Я зрабіў яе, а цяпер буду наглядаць, чакаць да канца...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

„— Не, ты пойдзеш, паскудны агітатар, ты пойдзеш, бо правадыры павінны быць з масамі.

„— Гва-а-л-т.

„Гэта загаласіў эсэр на зямлі і яго прыхільнікі кінуліся яму на помач. Але ён ужо ўскочыў на ногі і шпарка бег па полі“ („1905“, 80 ст.).

Бязумойна, такая падача, спосаб вельмі танны не апраўдваецца задачай паказу чалавека, а ня схэмы.

IV

Калі, як мы вышэй сказалі, ролю сялянства ў рэвалюцыі 1905 году і адносіны сялянства да гэтае рэволюцыі (паказ ня толькі адмоўных адносін да організована-рэволюцыйнага змаганьня, а і дадатных. Організацыя парабкаў, якія пайшлі разам з рабочымі гораду) Мурашка ўлавіў, дык у сэнсе адбіцьця рэволюцыйнага змаганьня ў горадзе ў некаторых момантах ён праявіў слабасьць.

Разам з досыць удалымі малюнкамі адкрытых боек і дэмонстрацый, расстрэлу губэрнатарам Курловым маніфэстацыі ў Менску, слабыя бакі паказу прыпадаюць галоўным чынам на суадносіны паміж рознымі партыямі.

Публіцыстычнасьць, сухасьць—вось што характарызуе першыя разьдзелы кніжкі „1905“, якія прысьвечаны характарыстыцы асноўных партый і груповак у горадзе.

З аднаго боку, дадзены зусім правільны паказ таго, што ніякая партыя, акрамя бальшавікоў, ня здольна была кіраваць рэволюцыйным змаганьнем (правал дэмонстрацыі, дзякуючы здрадніцкай дзейнасьці бундаўцаў і эсэраў, расстрэл рабочых губэрнатарам Курловым), але, з другога боку, усюды тут-жа выступае шаржыраваньне сваіх партыйных ворагаў. Паказ іх ва ўсіх дробязах адмоўнымі. Такія шаржы мы маем і на бундаўцаў і эсэраў. Пры тым бундаўцы нават шаржыруюцца і ў гаворцы. Ад гэткага спосабу падачы гэрояў Мурашку трэба адмовіцца ў далейшай сваёй творчасьці, тым больш, што гэтае апошняе мы мелі і „У іхным доме“ у паказе Вокалава-Кулака.

Адначасова адчуваецца, што ў гарадзкой стыхіі Мурашка адчувае сябе больш бяспомачным, чым у вясковай. Вось таму аўтар апэруе тут часта ня вобразамі, сылёгізмамі, публіцыстыкай. Не паказам, а расказам.

Такім публіцыстычным шляхам расказваецца і пра тое, як буржуазныя тузы хацелі выкарыстаць рэволюцыю ў сваіх мэтах, аніводнай жывою рыскай не паказана ў гэтым месцы, якім чынам яны гэтага дасягалі.

А між іншым паказ характэрнага, а не расказ аб ім, як мы бачым і з некаторых момантаў паданых у кніжцы „1905“—куды мацней і глыбей перадае тое, што хацеў-бы расказаць аўтар публіцыстычна.

Напрыклад, у горадзе, дзе аўтар хоча нас звычайна інфармаваць аб тым, што спрэчкі паміж іскраўцамі і бундаўцамі дасяглі вялікіх памераў, і што гэтыя спрэчкі ў горадзе сталі агульна-вядомымі. Гэты малюнак падаецца праз гарадавога.

Калі з соцыял-дэмократычнай сходкі позна ўночы вяртаецца дамоў Арон з таварышом—чыгуначнікам Аляксеем, гарадавы ім крычыць:

„— Гэй, „іскра“, дамоў час,—і прамармытаў ужо сам сабе—Бунд даўно ўжо пашоў спаць. Аляксей засьмяяўся сабе пад нос і, прамінуўшы гарадавога, растлумачыў Арону.

„— Мы ішлі якраз па левым баку вуліцы; а тут ужо павялося гэтак: на правым баку месьцяцца бундаўцы, а левым—соцыял-дэмократы—іскраўцы“. („1905“, 39 стар.).

Бязумоўна, паказам тут шмат выйгрываецца ў мастацкіх адносінах. Раз гарадавы нават ведае аб бундзе і іскраўцах, значыць, нашумелі яны даволі ў горадзе.

## V

Пакольки я не ўваходзіў тут у падрабязны разгляд усяго роману Мурашкі „Сын“, разгляд-жа гэтага роману патрабуе адмысловае, больш глыбокае працы, я-ж абмежаваўся толькі эскізнымі заўвагамі наконт слабасьці і дасягненьняў роману, мушу застанавіцца некалькімі словамі на стылі Р. Мурашкі.

На стыль Мурашкі мелі ўплыў самыя рознастайныя літаратурныя плыні: пачынаючы ад псыхолёгізму, романтызму і канчаючы (што горш за ўсё) вельмі танным сантымэнталізмам (часткова мы ўжо аб ім казалі).

Бязумоўна, дасьледваньне таго, у якія законамернасьці ўкладваюцца ўсе гэтыя ўплывы—справа, якая таксама патрабуе адмысловага разгляду разам з усім романам, я-ж тут толькі заўважу, што гэты сантымэнталізм вельмі і вельмі шкодзіць у творы.

Так, акрамя таго, што ў романе Ігнась, як вобраз схэматызаваны, ён яшчэ аўтарам надзелены зусім неорганічным для яго сантымэнталізмам.

Трагэдыя сьмерці маткі Ігнася, якая загінула ў бядноце, замест паказу яе (сьмерці) у жывых чалавечых вобразах, абернута ў сантымэнтальную сустрэчу маткі і сына перад сьмерцю.

Тут вам усё: і абавязкова прыход Ігнася дамоў якраз к таму моманту калі матка канае. (Нібы тая ведала, што сын прыйдзе і пачакала, каб не сканаць), тут вам і чулыя словы, па-акторску напышлівыя, за якімі ня відно чалавека ў сапраўдных шчырых пачуцьцях:

— „... Мама... Зірні... Са мною прышлі таварышы... Запрашай іх садзіцца. Чаму-ж ты не адгукаешся. Няўжо не пазнала мяне, свайго сына, Ігнася. Мама... Мама... ці ты ня рада мне, ці я цябе ўгневаў чым“ і г. д. і г. д. без канца („1905“, 131 стар.).

Такой-жа сантымэнтальнай і ня сур'ёзнай зьяўляецца сьмерць Ігнася, нейкім цудам паводле сантымэнтальных пачуцьцяў аўтара зьвязанаю са сьмерцю Ларысы.

Сантымэнтальны лірызм пануе і ва ўспрыяцьці аўтарам прыроды.

Між іншым, што да такога ўспрыяцьця прыроды, дык большасьць беларускіх пісьменьнікаў перагружае свае творы такім сантымэнтальным лірызмам. Неяк не ўсталяваўся ў нас яшчэ больш здаровы і цьвярозы погляд на прыроду.

## VI

Што-ж можна сказаць агулам аб творы Р. Мурашкі?

Роман правільна з пункту погляду Комуністычнай партыі адбіў усе супярэчнасьці і сытуацыі рэволюцыі 1905 году, прытым добра ў мастацкіх адносінах асьвятліў тую супярэчнасьць, якая зьвязана суадносінамі пролетарыяту і сялянства ў рэволюцыі (разам з батрацтвам, якое ідзе за соцыял-дэмократамі, паказана часамі нерашучасьць, часамі рэакцыйнасьць, а часамі і анархічнасьць сялянства, што цалкам зьвязана з яго соцыяльнай прыродай дробнага ўласьніка).

Канец роману зусім правільна адбівае пэрыяд загнанасьці ў падпольле, гнёт рэакцыі і сабіраньне бальшавіцкіх сіл, каб распачаць зноў змаганьне.

У романе паказана моналітнасьць соцыял-дэмократаў-бальшавікоў, здольнасьць іх кіраваць сапраўдна-рэволюцыйным змаганьнем у процілегласьць розным бундам, БСГ, эсэрам, меншавікам, якія няздольны кіраваць рэволюцыйным змаганьнем пролетарыяту.

Але залішняя ідэалізацыя соцыял-дэмократаў—Арона, Ігнася і іншых і, наадварот, паказ бундаўцаў, эсэраў цалкам адмоўнымі, ідзе і за лік мастацкае праўды і за лік ухіленьня ад асноўнага творчага мэтоду пролетарскай літаратуры—ад паказу жывога чалавека.

Акрамя таго, дужа шкодзіць роману сантымэнталізм, якім ён густавата перасыпаны.

* * *

Што можна сказаць у прыватнасьці аб кніжцы „1905"?—Мне здаецца, што ўрыўкі ў ёй падабраны ня зусім удала. (На гэтую кніжку якраз прыпадаюць найбольш схэматычныя і публіцыстычныя главы з роману). Можна было выбраць лепшыя ўрыўкі.

Мне здаецца, што ў гэтых заўвагах, задача мая ня зводзілася да таго, каб сказаць адным словам „добрая гэта кніжка або дрэнная".

Я падыходзіў да гэтае кніжкі (у аснове заўваг ляжыць матэрыял урыўкаў „1905", бязумоўна ў сувязі з усім романам, з якім я знаёміўся) з пункту погляду намячаньня тых асноў ідэёвых проблем, якія роман ахоплівае, і ў сувязі з гэтым мая задача была паказаць на тыя пера-

могі і паражэньні, якія маюцца на шляху да ўвасабленьня гэтых асноўных ідэёвых проблем у мастацкую форму.

Праўда, я тут абмінаю некаторыя больш дробныя зрывы ў мастацкіх адносінах, як у вобразах, так і ў стылі і мове, а гэтыя зрывы ёсьць, хоць у адносінах мовы т. Мурашка, параўнаўча з „У іхным доме“— пайшоў далёка наперад.

Бязумоўна, паколькі пытаньне творчага мэтоду пролетарскай літаратуры ажыўлена абгаварваецца ў расійскай літаратуры і за апошнія часы зацікавіла літаратуразнаўчыя сілы ў нас, на Беларусі, дык і роман т. Р. Мурашкі павінен быць абгавораны і дэталёва разгледжаны.

Менавіта з пункту погляду творчага мэтоду пролетарскай літаратуры.

5/IV—30 г.
Менск.

# „МАЛАДАЯ АМЭРЫКА“

## П. Кірушын

Поэзія краін Лацінскай Амэрыкі не карыстаецца ўвагай нашай грамадзкасьці. А між тым яна, у асаблівасьці ў апошні пэрыяд свайго разьвіцьця, прадстаўляе сабою выключнае, па цікавасьці, зьявішча і ў гэтым сэнсе заслугоўвае ня толькі ўвагі, ня толькі перакладу, але і ўважлівага, усебаковага вывучэньня. Прапануемы кароткі нарыс ні ў якай ступені не прэтэндуе на паўнату. Яго мэтай—толькі даць накідак абставін творчасьці, тэматыкі і настрояў тэй пляяды маладых лаціна-амэрыканскіх поэтаў, якая атрымала назву „Маладой Амэрыкі“.

---

У той час, як Эўропа зьнемагала пад цяжарам імпэрыялістычнай вайны, Амэрыка перажывала пару выключнага разьвіцьця сваіх вытворчых сіл. Здавалася, тая энэргія, якая ў нязьлічоных дозах трацілася на Марне і на Іпру, пераходзіла туды, на Амэрыканскі контынэнт, дзе кожны ўласьнік прадпрыемства на ўсе 100% можа скарыстаць прадстаўленую яму гісторыяй шчасьлівую магчымасьць. Як грыбы, расьлі новыя прадпрыемствы, амаль на пустым месцы вырасталі цэлыя гарады, дзе зьбіралася шматлікае рабочае насельніцтва. У найбольшых розьмерах гэты процэс праходзіў у Паўночнай Амэрыцы, у значна меншых—у Амэрыцы Цэнтральнай і Паўднёвай, але і там ён дапамог у некаторых мясцох амаль перарадзіць краіну. І поэты, ускормленыя жалезам і вугальлем, якія яшчэ ў дзіцячых калысках засыналі пад гудкі заводзкіх сырэн,—апелі гэтыя заводы, апелі моц мускулаў і матораў, радасьць перамогі над прыродай, апелі творцу ўсяго гэтага—рабочага чалавека.

Пэрыяд „Маладой Амэрыкі“ павінен быць у сваю чаргу падзелены на дзьве часткі. У першую пору свайго разьвіцьця поэзія шукала і знаходзіла новыя шляхі выключна ў галіне формы, была рэволюцыйнаю толькі з фармальнага боку. У другую фазу ўжо пераважае навізна ў галіне зьместу, калі пачынаюць гучэць дагэтуль невядомыя, новыя, соцыяльныя, часта зусім рэволюцыйныя мотывы. Зразумела, што паміж гэтымі дзьвюма фазамі разьвіцьця непраходнай мяжы няма.

Найбольш віднаю фігурай першай групы гэтага пакаленьня поэтаў Лацінскай Амэрыкі зьяўляецца Хуан Порра Дэль-Рыэго (Juan Porra del Riego). У галіне літаратурнай формы ён зьяўляецца ініцыятарам так зва-

нага полірытму, першыя вопыты над якім ім выяўлены ў зборніку прыгожых поэм „Полірытмы“ (Poliritmos), дзе што вібрыруюць у новым вершаваньні, нумары атрымоўваюць амаль ваенную выразнасьць. Яго новая рытміка была простым адбіткам музыкальнай рытмікі матора. І гэты новы рытм, як вечна паўтараемы гімн творчай сілы чалавека, вы ў яго знойдзеце ўва ўсіх яго кнігах: у „Гімнах неба і чугунак“ (Himnos del cielo y de los ferrocarilles), у „Песьні цудоўнаму матору“ (Canto al Motor maravilloso), „Песьні Унамуно“ (Canto al Unamuno), у „Палірытме футбольнаму іграку“ (Poliritmo al Jugador de Foot Ball) і г. д. Ува ўсіх яго поэмах упяршыню адчуваецца дынаміка вялікага гораду, з яго небаскробамі, якія ўзьнімаюцца высока ў неба, з яго цудоўнаю панарамаю вулічнага руху натоўпу. Але Дэль-Рыего ня стаў ні песьняром рабочае клясы, ні рэволюцыі. Машына яго зачаравала і ён за знадворнымі посьпехамі і бляскам буржуазнай цывілізацыі ня ўбачыў яе закуліснага, звычайнага боку—рабочага, які ўсё гэта стварыў і які аднак застаецца рабом. Такім чынам, у разьвіцьці сваёй ідэолёгіі Дэль-Рыего застанавіўся на паўдарозе.

Не далей яго ў гэтых адносінах пайшоў чылійскі поэта Хуан Марын, які таксама галоўным чынам вядомы, як рэволюцыянэр тэхнікі вершу. Але ён адначасова ўнёс нешта новае па тэматыцы ў сваю творчасьць. Як і Дэль-Рыего, ён паставіў супроць звычайнаму ў ранейшых пакаленьнях поэтаў апяваньню „становішч душы“, сантымэнтальнаму пранікаеньню ў таемнасьці прыроды і чалавечага быцьця,—экзальтацыю сучаснасьці, у якой поэта зьяўляецца адзіным выразьнікам новага характства, якое заключаецца ў шуме пропэлераў у аэроплянаў, у грукаце дызэляў на заводзе і наогул у крываваружовай нэрвовасьці нашага веку. Возьмем, як доказ гэтага, наступны адрывак з яго поэмы „Superavion“ („Звыш-лётная машына“) [1]):

Над трамплінам нязрушаных вятроў
Скача жалезны матылёчак,
сэрца пілота выходзіць на паляваньне
сузор'яў;
Чатырохкутавыя навочнікі, жакет—
усе непраніклівa для стыхії;
Р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р.
Шуміць, як сьмяротны чмель,
у гранітных цясьнінах Кардыльер!
Прастора—адмаўленьне самога сябе,
і час кідаецца назад...
Р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р-р.
Круціцца пропэлер і разрывае на кавалкі
туманныя люстры бязмоўя;
колькі ліхтароў з паветранага Бродвэю
вар'ят-граданачальнік насадзіў на Малочны Шлях?

[1]) Пераклад вершаў з гішпанскае мовы даецца тут, як і ўсюды на працягу ўсяго артыкулу, літаральны, бяз вершавай апрацоўкі.

Погляд чалавека загасіў
чатыры падаючых аэроліты.
З сьвечнікам сваіх бедных крыльляў
чалавек уваходзіць у калодзежы шахт
і спатыкае мінэральныя масы лётаючага золата.
У сваіх шнурох туманных,
як толькі што вымытая насовачка
вісіць луна палатняная...

Новае пакаленьне поэтаў багата ўзорамі высокай ступені мастацтва. Сюды можна будзе далучыць Нэруду, які стаіць на чале цэлай пляяды поэтаў, галоўным чынам з Аргентыны і Чылі. Усе яны ўнесьлі новыя мотывы ў літаратуру, усе яны ў той ці іншай ступені адбілі перажываньні новага часу. Але іх галасы часьцей усяго пакуль яшчэ гучаць глуха і неакрэсьлена, як неакрэсьлена і іхная ідэолёгія. Уся гэта пляяда поэтаў-інтэлігентаў складае паасобную групу ў перадавой частцы Лаціна-амэрыканскіх песьняроў, групу, больш нахільную апяваць творчыя сілы буржуазнага генія, чым вызначыць сябе ў якасьці сьпевакоў пролетарыяту.

Гэтае пакаленьне мы можам разглядаць толькі як пераходнае да другога, да таго, якое пачынае бачыць за вар'яцкім рухам натоўпу, за трыумфам машыны, за магутнасьцю сіл мэханікі—трагэдыю чалавека, які нічога ня мае, чыя энэргія бязьлітасна эксплёатуецца. Адсюль новыя эмоцыі, якія перадае поэта, эмоцыі, зусім не падобныя да тых, што перадаваліся Дэль-Рыэго і Хуан Морынам. Яны ставяць сваёй поэзіяй ужо новыя, чыста соцыяльныя мэты—узбудзіць сьвядомасьць пакрыўджаных і прыгнечаных. У песьнях апошняга тыпу поэтаў праз апісаньні іх асабістых перажываньняў, мы ўжо яскрава бачым, як „знамение времени“, першыя бунтарскія водгукі, грукаты вяшчаемых імі соцыяльных навальніц. Іх, гэтых поэтаў, пакуль яшчэ мала; яны тонуць у моры модэрнісцкай літаратуры і ня лёгка бывае іх выявіць. Крытыка аб іх маўчыць. Нават у Мэксыцы, якая ідзе ўперадзе ўсіх астатніх рэспублік у справе клясавых размежаваньняў і разьвіцьця соцыяльнай барацьбы, літаратура ў сваёй пераважнай большасьці застаецца ў баку ад гэтых грамадзкіх зрухаў, імкнецца іх не заўважаць, у лепшым выпадку адбывае толькі запазычаньнем новай формы. Толькі гэтая маленькая група поэтаў уносіць у сваю творчасьць новы соцыяльны зьмест. Сярод яе адзначым Маплеса Арсэ (Maples Arce), творцу так званага „эстрыдэнтызму“ (поэзіі гострых гукаў), які адкрыў мажлівасьць шуканьня эстэтыкі там, дзе гэтага ніхто не прадбачыў. Ён быў адным з тых, хто разьвянчаў муміфіцыраваную поэзію мэксыканскіх клясыкаў і адкрыў новыя краявіды, да якіх можа і павінна ісьці поэзія новай эпохі. Маплес Арсэ робіцца захопленым прыхільнікам тых сіл, якія высунуты на авансцэну гісторыі капіталізмам і якія ўрэшце праглынуць гэты капіталізм. Яго поэма „Горад“ (Urbe), якая апявае сучасны горад і пролетарскі бунт.

які з гэтага гораду выходзіць, прысьвечана рабочым Мэксыкі. Яна варта таго, каб прывесьці з яе досыць вялікую вытрымку:

Цяпер мая поэма
жорсткая
і многатварая
новаму гораду.
Горад, увесь насычаны
парываньнем і правадамі,
увесь зьвінячы
маторамі і лапасьцямі.
Да нас даносіцца
дыханьне Расіі,
паветра соцыяльнай рэволюцыі.
Сярод скокаў літаратурных рэсор
нічога не зразумееш
у гэтай новай патлівай
прыгожасьці новага веку;
і пры поўных лунах
падае
гніль, якая завецца
нашымі разумовымі ўстоямі.
Цяпер мая паэма:
гораду моцнаму
і многатвараму,
зробленаму з жалеза і медзі.
Прыстані. Докі.
Краны.
І сэксуальная ліхаманка
фабрык
Горад:
перасечаны трамваямі,
якія бягуць па падземных вуліцах.
Магазынныя вітрыны атачаюць тротуары,
сонца драпежнічае на вуліцах.
Вераніца дзён
адзначана тэлефоннымі слупамі.
Шэраг труб, якія ўходзяць у неба,
зьмяняе пэйзажы моманту.
Раптам,
палыхаючы зялёным полымем
сваіх вачэй,
праходзяць чырвоныя батальёны.
Романтызм канібальскай музыкі янкі
высіць свае гнёзды на мачтах.
О, горад інтэрнацыянальны,
да якіх далёкіх мэрыдыянаў
пойдзе гэты волат—трансатлянтык?

За „Горадам“ пасьледвала новая кніга „Рэволюцыя“ (Revolucion), за ёю „Забароненыя поэмы“ (Poemas Interdictos), зборнік літаратурных рэчаў, якія захапляюць сваім хараством і гэтае хараство амаль ня можа

быць перададзена перакладам. У іх поэта імкнецца пранікнуць у сутнасьць душы мэксыканскага працоўнага народу, поўнага сілы непакойна-бунтаўніцкага і адважнага. У іх усяго бліжэй адчуваюцца барвяна-чырвоныя лёзунгі Мэксыканскай рэволюцыі. Маплес Арсэ быў першым поэтаю, які знайшоў словы, што найбольш падыходзяць для апісаньня гэтага выключнай важнасьці гістарычнага факту, першым, які зразумеў хараство ананімнай масы ў яе найбольш цёмных праявах.

Вецер—апостал гэтай забароненай гадзіны.
Пажоўклыя эпохі
патрасаюць апошнія восені!
Блізкія краявіды, пазбаўленыя птушак,
прадбачаць сваё адзіноцтва;
дрэвы скідваюць сваю лісьцяную пакрыўку.
Сьвішча вецер абсолютны
супроць косьмічнай матэрыі: музыка—
гэта пропаганда, якая вядзецца на бальконах;
пэйзаж зьнікае
у тонкіх вэлюмах.
Вецер, дыктатура жалеза,
прымушае дрыжэць асновы!
Блакітныя натоўпы
гудуць,
і іх гул даходзіць да сэрца.
Вечар—крывавы бунт
прадмесьцяў;
разарваныя дрэвы
просяць падаяньня пад вакном;
фабрыкі завалакваюцца
пажарам змрокаў,
а ў заблясьцеўшым небе
самалёты
выконваюць вячэрнія манэўры.
Шумныя сьцягі
паўтараць, павярнуўшыся к гораду.
свае лёзунгі пролетарскія.
На романтычным мітынгу партыі
мы ўсе абліваліся сьлязьмі,
кульгаюць абнадзейныя прычытаньні.
Разломаная
станцыя застаецца паміж рукамі,
і сумненьне любай
у высокі момант разьвітаньня.
Цалую яе фотографію, якую яна падарыла на памяць;
пастрашоны цягнік рынуўся ў цемнату
сярод бязлюдзьдзя новых дарог.
Хутка будзем у Кордыльерах;
О, дарагая географія
нашай Мэксыкі
з яе лётнымі пэйзажамі!
нявыразныя высоты экономіі
палітычнай; гной факторый,

якія згублены
ў тумане часу,—
і эклектычныя шумы
паўстаньняў.
Сярод ночы
з салдацкіх грудзей
вырываюцца народныя песьні.
Варожая артылерыя
нас адшукала
у лоне прыроды;
падземныя шумы
нас напаўняюць страхам
і панарама пагружаецца ў бяздоньне.
Вайсковыя цягнікі
ідуць да чатырох важнейшых пунктаў
для крывавага хрышчэньня,
дзе ўсё—у трывозе.
П'яныя людзі
граюць у карты
і ў чалавечыя ахвяры.
Вайсковыя цягнікі гудуць
там, дзе адбываецца рэволюцыя.

Яшчэ ніколі, як цяпер, я не адчуваў сябе так блізка да сьмерці. Ідзем у бяссоннай ночы з лямпаю расстроенага выбражэньня;

Яны набягаюць—адно на другое,
абапіраючыся на пражытае,
на вобразы пяшчотныя.
Там далёка
цяжарныя жанчыны
пакінуты, моляць за нас
Каменнага Хрыста.
Пасьля пабоішча
вецер часамі
хвалюе
зваленыя лісты сноў.
Патрасаю сьвітаньнем маіх вершаў
над варожымі сэрцамі,
і, ледзянеючы такт вякоў
ласкае маё чало,
у той час, як смутак маўчаньня
бяжыць па нутры дарагіх мне людзей.

Прыведзеныя ўзоры зьяўляюцца першым попытам у сваім родзе ў вершах, ня менш арыстакратычна складзеных, чым і ў старых поэтаў, даць прадстаўленьне аб пролетарскім пачуцьці характва. Агністыя словы рэволюцыі, якія зьніклі з буржуазнага слоўніку, нават у эпоху незалежнасьці крэолаў, мужыцкія словы, якія падпадалі пад кпіны і зьдзекі, набываюць раптам новае значэньне і паўстаюць перад намі ў токах геро-ічных. Узрушаньні, перажытыя Мэксыкай, адбіліся і на Кубе, у Чылі і Аргентыне—і гэта не магло так ці інакш не адбіцца на ўсіх поэтах, нават занятых, здавалася-б, выключна пытаньнямі чыстага мастацтва.

Гуідобро (Hyidobro),—аўтар „крэацыёнізму“, школы поэтаў, вакол якой вядзецца найбольшая колькасьць літаратурных спрэчак, з вонку—чысты эстэт, многа зрабіўшы ў сэнсе адукацыі чылійскай моладзі,—і той павінен быў прызнаць, што прыйшоў час і поэтам спусьціцца з вобла-каў на зямлю і аддаць свой талент на служэньне грамадзе; праўда, ён ня робіцца песьняром рабочае клясы, затое актыўна змагаецца за лаціна-амэрыканскае вызваленьне наогул. Ён разам з Кардосаю (Cardosa) і Арагонам (Aragón), вядомымі поэтамі з Гуатэмалы, уступае ў шэрагі вызваленчай арміі Нікарагуа. Кардоса—яго апошнія творы яшчэ не дайшлі да нас—разам з Луна Паркам і Маэльстрэмам, якія хвараюць на анархіцкі ўхіл, канчаюць тым, што аглашаюць лёзунг: „індывідуальная свабода павінна быць абмежавана граніцамі колектыўнай свабоды“.

Гідальго (Hidalgo), аўтар „сымплізма“, школы бяз вучняў канчае тым-жа самым, нават больш таго, даўшы дзьве-тры поэмы тыпу „чыстага мастацтва“, пераходзіць раптам у групу левых, хаця строга рэволюцыйным поэтаю назваць яго і нельга. Прыводзім вытрымку з яго поэмы „Біографія слова—рэволюцыя“ (Biografia de la polabra Revolucion):

Слова, якое радзілася ў крывавай адрыжцы,
слова, у якім задушыўся першы, хто яго вымавіў,
слова, якое заўсёды пастаўлена на ногі,
слова, якое заўсёды знаходзіцца на хаду,
слова, якое зьяўляецца найбольш упартым з сучасных,
слова, якое заўсёды вымаўляюць з кулаком,
слова на столькі вялікае, што яно выходзіць з рамак слоўніка,
слова лёгкай ласкі, як крывая лінія,—
Слова, якое цяпер вырвана з забыцьця
і пастаўлена на макушку самых далёкіх часоў.
Гаротнасьці чалавечыя сабраліся разам,
каб пайсьці па шляху... але куды?
Кожны пайшоў туды, куды цягнуў яго характар,
а вялікае слова засталося напісаным—

РЭВОЛЮЦЫЯ.

Сонца праходзіць праз яго, каб схавацца ўночы,
і запальвае свае дзесяць літараў—

РЭВОЛЮЦЫЯ

яны былі першым агнёвым апавяшчэньнем сьвету.
Яны цяпер праніклі ў чалавека, як кісларод у ваду;
палі, гарады, мора—эхам гэтага слова пераклікаюцца з сваім насельніцтвам.
Яны звужаюць прасторы тых, хто захапіў многа месца на зямлі.
Рэволюцыя ўладае гвалтам ветранога парываньня,
уваходзіць у душы з ласкаю і чуласьцю плуга;
лёзунг, ясна напісаны на фоне пераплеценых рук;
паднімем яго разам з нашым жыцьцём.

Таксама з поўдню прыйшлі Альваро Юнке (Alvaro yunke) і Ніколас Оліворы (Nikclàs Olivori), адначасова—поэты і празаікі, моцныя, злучаныя з бунтарамі.

Адтуль-жа прыйшоў Хуан М. Філортыгас (Juan M. Filartigas), уругваец, які праводзіў сьмела левыя формы мастацтва ў сваёй часопісі. І. Эміліо Фругоні (Emilio Frugoni), хаця ён і належыць па ўзросту да больш раньняга пакаленьня, робіцца поэтаю—соцыялістым.

Не забудзем і чылійца Гомеца Рохаса (Gomez Rojas), сьмелага і чалавечнага поэты, першага, які пачаў гаварыць у сваіх поэмах аб братэрстве рабочых усіх краін і прынёс у ахвяру сябе самога, памёршы за свае ідэалы. Гомец Рохас памёр у 1920 годзе, праўдзівей, быў забіты за анархіцкі тэрорыстычны акт. У яго ня было цалкам створанай рабочай ідэолёгіі.

Ну Кубе жыве Марыбланка Собас Аломà (Mariblanca Sobas Aloma) жанчына-поэтэса; яе выключная важнасьць, як рэволюцыйнай поэтэсы, моцнай сваім духам, бясспрэчна. Яе бунтарскія заклікі многа дапамагаюць справе вызваленчай барацьбы супроць чужаземнага імпэрыялізму Бяз пэўнай соцыяльнай ідэолёгіі, гэтая жанчына, аднак, цалкам адказвае на непакой эпохі непакоем свайго настрою, свабодалюбівага, які не паддаецца дысцыпліне. Яна дбайна сочыць за тымі зьменамі, якія адбываюцца ў глыбі грамадзкіх організмаў, яна адчувае, як аб гэтых зьменах крычаць ёй ветры, з усіх чатырох бакоў.

Такімі словамі яна гаворыць аб Мэксыцы, краіне рэволюцыі:

Мэксыка: краіна моцных людзей!
Мэксыка: доменная печ,
дзе плавіцца золата ідэалу,
найбольш прыгожага, які толькі зьяўляўся ў чалавечай душы,
плавіцца, набываючы цудоўнейшы блеск.

Мэксыка: плуг, які ўзрывае зямлю
і ўрадлівае семя ў руцэ сейбіта,
Мэксыка: думка
і дзеяньне.

Мэксыка: Францыя амэрыканскага дзевяноста трэцяга году.
Францыя? Не. Ня Францыя!
Мэксыка, з сваімі шляхамі, вызначанымі Хуарэцам
і Нэтуахуалкойотлам.

Мэксыка: бізун на сьпінах
чорных кіраўнікоў сеньёра;
лаўровы вянок на потным ілбе
мысьліцеля і рабочага.

Мэксыка: індэец маўклівы і дзікі,
пад скурай звечай львінае сэрца—
пакорлівы, але вялікі тым,
што ніколі не даваўся сваім двум вечным ворагам:
паўночна-амэрыканцу і гішпанцу.

Мэксыка: склад бескарыснае зброі!
Салдат абарочваецца ў настаўніка,
Царква—у бібліотэку, казарма—у школу,
Жудасная боская фігура—любы сьцень.

Мэксыка: кавадла, дзе куецца
сьмелымі ўдарамі новая цывілізацыя:
поп, спасіцель душ, гультай і нягоднік
абарочваецца ў жраца баразды, у земляроба.
Мэксыка: вольны народ!
Мэксыка: зямля абетаваная!
Мэксыка: цудоўнае месца
новага сонца!

. . . . . . . . . .

Вышэй ужо паказвалася на небясьпеку, якой падпадае ў галіне сваёй ідэолёгіі кожны барацьбіт за справу рабочага вызваленьня: небясьпеку быць праглынутым тым дробна-буржуазным патрыотычным асяродзьдзем, для якога асноўная мэта яго работы заключаецца толькі ў нацыянальным і экономічным вызваленьні ад чужаземнага капіталізму. Адсюль такое экзальтаванае мілаваньне сваёй радзімы, лепей якой няма ў сьвеце. Рабочая кляса і соцыялізм для іх часта—толькі модны ўбор, які пры гэтым не заўсёды добра прыкладваецца да касьцяка. Дробная буржазія заўсёды поўна супярэчнасьцямі і таму яна вельмі часта хістаецца ўва ўсіх праявах сваёй дзейнасьці, у тым ліку і ідэолёгічнай. Апошнія здарэньні ў тэй-жа самай Мэксыцы, дзе патрыотычная інтэлігенцыя канчаткова стала на бок ворагаў рэволюцыі і рабочае клясы, лепш усяго даказваюць гэтую акалічнасьць. Такія поэты, як Марыблянка Алома—толькі часовыя падарожнікі рэволюцыі.

Ёй—і другім, якія, падобны ёй—як відаць заўсёды прыдзецца пераходзіць ад апяваньня нявольніцтва і беднасьці да арыстакратыі і буржуазіі і наадварот.

Сэрафім Дэльмар (Serafim Delmar) дае ў сваёй кнізе „Радыёграмы з Ціхага акіяну“ (Radiogramus ad Pacifico) адну з лепшых праяў таго, што ў Лацінскай Амэрыцы прынята называць „экономічнай эстэтыкай“. Гэтая кніга, з якой мы прыводзім тут вытрымку, не зьяўляецца цалкам пролетарскаю, затое яна вытрымана ў тонах косьмічных унівэрсалісцкіх, якія былі ўласьцівы і расійскай пролеткультаўскай поэзіі 1918—19 гадоў. Аўтар апявае тут проста Чалавека, творцу ўсяго цудоўнага на зямлі. Гэтаму Чалавеку (з вялікай літары) прысьвечана значная частка поэм кнігі. Але там ёсьць многа і іншых поэм, якія малююць масы, напоўненыя горасьцямі і ўбоствам гэтых мас, іх протэстам. Найбольш тыпічная ў гэтай кнізе поэма „Тварам да сьвету“ (Feute al mundo), якая заключае ў сабе адначасова дзьве якасьці—унівэрсалісцкую і рэальную:

Мы
Людзі—людзі,
Хістаемся з кута ў кут.
Мы
нянчасныя носьбіты голаду,
якія паўсталі на пяці кантынэнтах, пераплятаем масты
адлегласьцяй.

Часовыя, пасты—час
скальзіць, ён рынуўся
бязупынна ў будучыню.

Усе вёсны—у адным вялізным кошыку;
За дзесяць цэнтавае—прэч вочы!
Дзеці, кінутыя ў няшчасьці, на сонцы,
якое ліжа зямлю—
адкрываюць раткі надзеі.

Скрыпка, настроеная ветрам,
нясе перажываньні сьвету ўсім тым,
хто, крадучыся, ідзе ў баку.

Пэйзаж, які маскуе няшчасьце;
Ноччу ўстаюць расьсеяныя стэпы,
над магілкамі
ідзе Чалавек.

У струмені жанчын,
якія саромяцца мацярынства,
расьце права на забойства;
адзервянеўшы, урасла карэньнямі ў зямлю
і дрэмле *Чума*.

Хто забівае?
*Чума, жабрацтва, голад.*
Кінематограф няшчасьцяў,
які паўстаў перада мною.

Я—зьвязаны і кінуты ў кут.
Попел маёй люлькі дагарае.
Праходзяць людзі.
Стрэламі думкі
сьмяецца ў сваёй трагэдыі *Чалавецтва*.

Бедныя—
вочы, як фрукты, якія павісьлі на дрэвах;
сходзіць ноч,
якая ўбаюквае трупы.
Апошнія зоркі пракалваюць раніцу.

За „Дыяграмамі з Ціхага акіяну“ пасьледвалі іншыя рэволюцыйныя поэмы Дэльмора. У іх поэта выконвае сваю соцыяльную місыю з высокаю эстэтычнаю дасканаласьцю; у той час зьмест гэтых поэм не перастае быць цалкам рэальным.

Сэрафім Дэльмор па паходжаньню—сын зямлі, з вёскі, і ня дзіва, што ён добра адчувае і ня менш добра перадае голас амэрыканскага селяніна-тубыльца. Моц гэтага голаса зьяўляецца толькі слабым водгукам тэй навальніцы, якая бязупынна нарастае, час якой ужо недалёка. Менш лірычная, але больш дужая ў сэнсе эстэтычным і ідэолёгічным контэкстура Дэльмора паказвае, што поэта навучыўся кідаць усе свае мастацкія мажлівасьці да аднэй пэўнай мэты. А мажлівасьцяй такога роду ў яго многа. Усе яго навейшыя поэмы паказваюць, што іх творцай зьяўляецца чалавек, які не задавольваецца беднасьцю буржуазнай цывіліза-

цыі з яе знадворным бляскам; ён, наадварот, заклікае да яе зьмены. Паглядзім на яго „Гімн зямлі“ (Himno a la Tierra):

Палі ў чырвоных клубах дыму,
сонца блешча так, быццам зямля стала ўжо вольнаю.
Сьпяваючы вецер праходзіць праз усе дзьверы
і на сваіх струнах прыносіць маленькія, як крупінкі,
сьлёзы.

Пладаносная зялёная раўніна
з срэбнымі кветкамі, якія адбіваюць маленькае неба.
Туляцца адзін да аднаго, як песьня,
птушкі.
У сваіх нетрах параджаюць гімн зьменам.
Там адпачывае наш полк усталых барацьбітаў.

Насупроць высяцца адзінокія дрэвы,
без усялякай іншай дапамогі, акрамя сваёй надзеі.
Салдаты аглядаюць навакольныя краявіды,
багатыя людзьмі.
Нашы карабіны глядзяць дбайна—
ці не пакажуцца нягоднікі;
На сьвітаньні праліваем кроў, каб упрыгожыць
апошнюю вестку нашай пролетарскай пакуты.

Зямля патрасае горным попелам,
і, як салдаты, ізрыгае з свайго сэрца
хвалі радасьці, абмытыя рэволюцыяй,—
для гэтых жанчын, якія пайшлі на ахвяры, якія ласкаюць надзею
на зварот сваіх мёртвых сыноў.

Зямля—Вуліца Сусьветнай,
дзе крыжуюцца ўсе шыроты
і дзе ўсе людзі злучаюцца
ў адзіным імкненьні.

У гэтае чырвонае імкненьне
беднасьць падымае сваю шыю, як прышпораны жарабок.
У палёх ёсьць хлеб.
Гэтыя дзеці, гэтыя заўтрашнія дзеці
так будуць плакаць, успомніўшы пра нашы пакуты.
Мы так пакутуем!
Час нас ласкава ліжа
з набожнасьцю быка.

Будзем заўсёды ўважлівы,
сьціснуўшы нашы вінтоўкі,
душа, дужэй, чым самае жыцьцё—
які добры таварыш, гэтая вінтоўка!
Яна кожны раз нас настаўляе, калі зямля зьмяняе свой твар
і калі яна неабходна.

Гэтыя дробныя сяляне,
валацугі,
якія плачуць ад веку,—
сёньня пяюць і скачуць,
бо да іх хоча вярнуцца
радаснае сэрца.

Ад сваіх целаў, якія даюць сьлед на дажджлівай зямлі,
ноч вырывае зорку—прадвесьніцу
вайны індэйцаў—сялян.
З поўначы на поўдзень бастуе сьвядомасьць,
спадзяючыся на момант, калі трубы земляробаў
парушаць маўчаньне Анд.

Мэксыканец Герман Ліст Арцубідэ (Germàn List Arzubide) зьяўляецца выразьнікам найбольш упартай актыўнасьці працоўных, якая вылілася ў вершах. Ён належыць да школы „экстрыдэнтыстых“, дзе ў свой час стварыў шэраг прыгожых поэм. Уласна кажучы, у вершах Ліст ня быў рэволюцыйным поэтай, у тым сэнсе, як гэта звычайна разумеецца, г. зн., ён не заклікаў там непасрэдна на паўстаньне і не апяваў рэволюцыю прыгнечаных мас. Гэта добра паказвае яго кніга „Plebe“ (Плебс, ніжэйшы народ). Усё, што ён стварыў рэволюцыйнага, заключаецца ў яго прозе, моцнай, рашучай, хаця і з ухілам у бок ня зусім аформленага анархізму. Ня гледзячы на гэта, прозаічная творчасьць Ліста цалкам аддадзена ім на службу Мэксыканскай рэволюцыі. Яго „Захапленьне перад Запатаю“ (Запата—Zapata—правадыр другога, сялянскага пэрыоду Мэксыканскай рэволюцыі), гэта—поэма ў прозе, дзе славуты сялянскі правадыр Амэрыкі атрымлівае тую даніну пашаны, якая яму належыць. У часопісі „Краявід“, „найбольш амэрыканскай з амэрыканскіх часопісяй“, Ліст па меры сваіх сіл праводзіць увесь час работу па популярызацыі ідэй і лёзунгаў рэволюцыі 1910 году ў народзе.

Як мы ўжо адзначылі, „Plebe“ зьяўляецца другаразраднаю рэччу ў творах Ліста; аднак, мы прывядзем адтуль невялікі верш „Аблога“ (La Siega), галоўным чынам для характарыстыкі яго творчасьці, рэволюцыйнай нават у самых слабых рэчах:

Селянін,
які жыве ў разломанай хаціне,
з гараччу аглядае краявід: ці не набліжаецца дождж?
Бярэ касу,
у лезіве якой адбіваецца сонца;
пара касіць;
зярно ўжо налілося,
і гаспадар ужо хоча напамінаць аб сваёй частцы.
Шпарка косіць гэтая рука,
якая хоча яго абрабаваць.
Гэты ураджай, уласна кажучы, твой.
Ён-жа ўспоены тваім толькі потам,
толькі твая рука ўзрывала жалезным плугам
сонечную зямлю.
І калі зараз гаспадар з нялюбаю пагардлівасьцю
патрабуе ўраджаю, які, па праўдзе, зьяўляецца тваім,—
лоўкасьць дапамагае злодзею!
Пакажы-ж яму і сваю лоўкасьць,
вазьмі сваю касу
і адрэж галаву гаспадару!

Карлос Гутыерэц Круц (Carlos Gutierrez Cruz), таксама мэксыканец, зьяўляецца адным з тых поэтаў, якія найбольш наблізіліся да масы. Яго поэзія блізкая да тыпу народнае творчасьці і па сваёй знадворнай форме носіць характар звароту і загаду, у большай частцы ад імя другое асобы; гэтая поэзія цалкам зьліваецца з пачуцьцём, з перажываньнямі мас, здаецца, створанай самымі масамі, хаця па сутнасьці яна зьяўляецца ўтварэньнем аднаго чалавека. Побач з Гутыерэцам Круц можна паставіць Алену Альварэц (Elena Alvarez), поэтэсу і пропагандыстку, досыць значны мастацкі талент якой сумяшчаецца з няўтомнаю закалкаю барацьбіта. Блізкія да пролетарскіх, драмы і апавяданьні Алены Альварэц па праву ставяць яе на адно з першых месц у шэрагу жаночых прадстаўнікоў Лаціна-Амэрыканскай літаратуры.

Гутыерэц Круц ствараў свае вершы з такім намерам, каб яны атрымаліся шпаркімі і лёгкімі, найбольш зручнымі для масавага разуменьня. Гэтых поэм у яго набралася толькі адна кніга „Чырвоная Кроў“ (Saugre Roja). Адна з найбольш характэрных песен гэтага зборніку—„Шахцёру“ (Al Minero):

Шахцёр пачарнелы ў такой глыбокай цямноце,
чалавек, які цябе кліча,
аб табе думае,
у глыбокіх нетрах шахты,
часта галодны,
але які няўтомна капае
залатыя самародкі.
Таварыш—шахцёр,
сагнуты пад цяжарам зямлі,
твая рука памыляецца,
калі капае золата для грошай.
Зрабі з гэтага мэталю
кінджал
і тады ўбачыш,
што ўвесь ён належыць табе.

Моладзь, самае апошняе пакаленьне, шчыра аддаецца будучыні; яна знаходзіцца цяпер у цэнтры ўвагі перадавога амэрыканскага грамадзтва. Яна прышла да мастацтва, да літаратуры ў моманты грамадзкага бушаваньня, калі заставацца на адным месцы альбо глядзець назад лічылася сорамным. І моладзь рынулася ўперад. Праўда, гэты рух уперад часьцей за ўсё насіў нявызначаны характар; аб прогрэсе, аб вызваленьні гаварылася і пісалася наогул, не прыдаючы гэтым тэрмінам пэўнага соцыяльнага зьместу. Некаторым апраўданьнем для літаратурнай моладзі можа служыць тая акалічнасьць, што сам рух, які яе падштурхнуў, выклікаў да жыцьця, быў поўным супярэчнасьцяй і адзначаўся ідэолёгічнай нявыразнасьцю, ня гледзячы на ясна-акрэсьлены клясавы характар. У ідэолёгіі Мэксыканскай рэволюцыі (і ва ўсіх астатніх рухах па ўсім контынэнце, якія гэтая рэволюцыя спарадзіла) вельмі сваясаблива пераплятаюцца элемэнты соцыяльнага і нацыяналістычнага характару. І ў поэ-

зіі моладзі народу з рэчамі інтэрнацыяналісцкімі, нават косьмічнымі (лаціна-амэрыканцы любяць і сваю расу называць таксама „косьмічнаю“, бо ў ёй злучыліся асаблівасьці ўсіх рас зямной кулі), трапляюцца звычайныя нацыяналістычныя заклікі, далёка ня новыя ў сусьветнай поэзіі.

Да гэтага пакаленьня „маладых“ адносіцца шмат іншых таленавітых прадстаўнікоў. Пералічым хаця-б мімаходзь толькі тых з іх, у каго соцыяльныя моманты ў поэзіі пераважаюць над нацыянальнымі, хаця, без усялякага сумненьня, усе яны могуць быць названы прадстаўнікамі рэволюцыйнае поэзіі.

У Болівіі такімі зьяўляюцца Оскар Цэрруто (Oscar Cerruto) і Омар Эстрэльля (Omar Estrella); першы з іх у яскравых вобразах дае жудасныя малюнкі складаньня ў ахвяру індэйскага насельніцтва ў гэтай даволі вялікай краіне латыфундыстых. Блянка Люц Брум (Blanka Luz Brum), сьмелая ўругвайская поэтэса, якая з палкасьцю аддала ўсе свае разумовыя сілы на служэньне вызваленчаму руху, якая прадстаўляе, разам з Аленаю Альварэц, амаль адзіны прыклад жанчыны, што кінула саладкаватую пачуцьцёвасьць па формуле „мастацтва для мастацтва“ і аддала свой талент грамадзкай справе. На Кубе-Дэляхоца і Масікес. У Мэксыцы—Дромундо і Муньоц Кота. У Перу—Юліан Пятровіч, Ніканор Дэ-Ле-Фуэнтэ, Цезар Маро Кезада і Эстэбан Паўлецiч. Усе яны зьяўляюцца салдатамі новага грамадзкага руху, якія актыўна змагаюцца ня толькі пяром, але часта і мячом у першых шэрагах сваіх партый за ажыцьцяўленьне рэволюцыйных—хаця і не заўсёды пролетарскіх—ідэалаў. У асаблівасьці апошні з пералічаных—Эстэбан Паўлеціч (Esteban Pavletich)—зьяўляецца буйным дзеячом нацыянальна-рэволюцыйнага руху, што аб‘яднаўся на пляцформе „Апра“ (ужо памянёная намі вышэй організацыя, якая пакуль ня вылучыла з сябе чыста пролетарскіх і буржуазных элемэнтаў). Асноўная мэта яго вельмі моцных поэм—агітацыя, непасрэдная палітычная агітацыя. Усе іншыя падарожныя мэты, у тым ліку і эстэтычныя, ім ставяцца на другім пляне. Яго шэсьць поэм былі нават надрукаваны ў форме афіш і расклеены ўсюды. Прывядзем адну з іх, усю прапітаваную нянавісьцю да янкі—зьнявольвацелей:

НАРОДНЫ РЭВОЛЮЦЫЙНЫ АМЭРЫКАНСКІ САЮЗ

По ўсёй Амэрыцы разыходзяцца парты,
дзе скрыжоўваюцца гандлёвыя шляхі.
І у кожным з іх афішы ў агромністых мэтрах:
„Made in U. S. of America“.[1])
Небаскробы.
Стандарт—Ойлі,
многатварыя Мочадо, Гомэцы,—
не хапае толькі ў ружовым дымку нашых вятроў
Ку—Кукс—Клана,
гэтага вялікага трэсту па лінчаваньню.

[1]) „Зроблена ў Злучаных Штатах Амэрыкі“.

Але там
на маўклівых валацужных раўнінах,
як аднадушнае ўмясьцілішча тугі
крык прыгнечанай Амэрыкі—

„А П Р А“.

На Уолл-Стрыт няма падыходзячага сродку,
здольнага зьнішчыць гэты бунт зары,
які падняўся з кулакамі, сьціснутымі
ад голаду.
Маторы з каменьня—
для бунтаўшчыкоў,
аднадушных,
зьядналых,
народжаных у сьпецы прыморскіх Анд.
Рэкі,
пуцінавыя шляхі
для нашых ўрачыстых заакіянскіх пасланьняў,
у душах індэйскіх
Ціцікаха,
дзе абвадняюцца аголеныя надзеі.
Людзі Індо-Амэрыкі,
няхай Нікарагуа будзе вашай апошняй пакутай!

Па меры таго, як мы рухаемся ўперад, разглядаючы тыя ці іншыя ўзоры амэрыканскай поэзіі, мы ўсё больш аддаляемся ад вясёлых мотываў непасрэдна пасьля ваеннай поэзіі. Яе вясёласьць была як-бы працівадзеяньнем масавым узаконеным забойствам у сусьветным маштабе ў часы вайны. Але гэта непасрэдная вясёласьць замяняецца апяваньнем вялікіх гарадоў, дзе пануе жалезная моц і мэханіка, а гэтаму апошняму на зьмену прыходзяць новыя песьні, асноўным мотывам якіх зьяўляецца чалавечая беднасьць, эксплёатацыя і прыгнечаньне. Але яны затое не аддаюцца роспачы, а з надзеяй глядзяць на будучыню—уся Амэрыка ў гэтай будучыні.

Мы дагэтуль яшчэ не спаткалі поэты, які-б вышаў непасрэдна з самай глыбі рабочых або сялян. Іх пакуль ня можа даць Лацінская Амэрыка. Прадстаўнікі „Маладой Амэрыкі“—усё моладзь, якая вышла з унівэрсытэтаў, куды доступ забаронены працоўным. Толькі да іх пашаны трэба сказаць, што значная частка з іх пераходзіць на бок рабочае клясы—і ў песьнях, у якіх апяваюцца плоскагор'і Мэксыкі, горныя масывы Перу і Болівіі, бязьмежныя прасторы Аргэнтыны і лясы і затоны прыгожай Кубы, пачалі ўсё гучней і гучней адчувацца пролетарскія пачуцьці.

Мы нічога не гаварылі пра поэзію спрадвечных жыхароў Індо-Амэрыкі—пра індэйскую поэзію. Ці існуе яна наогул і хто зьяўляецца яе прадстаўнікамі? Трэба сказаць, што ўся сучасная раса Лацінскай Амэрыкі ўтварылася з значнай прымесьсю індэйскай крыві. І, ня гледзячы на ўсялякія запазычаньні з Эўропы ў галіне ўсіх відаў мастацтва, адбітак індэйскага на ўсіх іх нікім ня можа адмаўляцца. У выніку гэта і дае

тое, што там называюць „амэрыканізмам“ і што, па думцы некаторых крайніх нацыяналістых, павінна ў далейшым разьвівацца асобнымі, „самабытнымі“ шляхамі. Але ўсё-ж такі, ня гледзячы на гэта, чыста індэйская поэзія прадстаўлена толькі вельмі нязначнымі прыкладамі. Індэйская раса і дагэтуль зьяўляецца закінутаю ў лясох і гарах, далёка ад мора і вялікіх сусьветных шляхоў. Усё гэта дало повад Лонэцу Вэлярдэ з Мэксыкі, вядомаму абаронцу насельніцтва тубыльцаў, клікнуць аднойчы з абурэньнем: „Няўжо ніхто з нашых поэтаў ня хоча даць маленечкага прыкладу з таго, што стварыла акамянелая раса трагічных маўчальнікаў?“ Але ніхто так і ня даў такога прыкладу, акрамя саміх індэйцаў.

У паўднёвай частцы Амэрыкі, блізу ад легендарнага возера Цііікаха, два вельмі падобных паміж сабою поэты далі, здаецца, прыклад таго, што можна назваць індэйскаю прыгожасьцю. Яны абодвы зьяўляюцца амаль чыстымі індэйцамі, па меншай меры, на тры чверці. Першы з іх—Алехандо Пэральта (Alesandro Peralto), другі—Гамаліэль Чурата (Gamaliel Churata); абодва друкуюцца ў пераважнасьці ў перувіанскіх выданьнях—„Boletìn de titicaca „і“ Amaüta“. Ад поэтаў нацыяналістых яны адрозьніваюцца тым, што апяваемая імі нацыянальнасьць зьяўляецца самай прыгнечанаю і прыдаўленаю ў Амэрыцы, якую да апошняга часу лічылі таемнаю і незразумелаю. Лепшая кніга Пэральты—„Анды“ (Ande) і адзін з лепшых вершаў у гэтай кнізе „Індэец Антоніо“ (El Ìndio Antonio).

Прайшоў індэец Антоніо
з запечаным языком і вачмі, як сьвечы.
        На дзьвярах адсьвечваліся сонечныя сьцені.
Словы пяклі яму вушы,
а ў сьціснутых зубах
здаюцца пацалункі мярцьвяка.
        Сходзіць ноч.
Закручаная ў свой фланэлевы саван
Францышка выпрасталася, як спрунжына.
        А ў гэты час град ледзяніць хаціну
        І сальная сьвечка
                бегае сваімі цямнотамі па пакоі.
        З вярхушкі карнізу
вые сабака ў неба.
        Уваходзяць маўклівыя індэйцы
        з вяроўкамі ў руках,
                каб у апошні раз зьвязаць мерцьвяка.
На поўдзень ляціць стайка стрыжоў.
Агонь ліжа праз вопратку
        мёртвае цела.
Індэец Антоніо крычыць.
        А ноч, як падаючая салома,
        спускалася над пасёлкам.

Гамаліэль Чурата—узлахмочаны поэта, пясьняр індэйскага вызваленьня; яго ўлюбёны вобраз—шыбеніцы, якія павінны ўздымацца на Андах і на іх павешаныя латыфундысты. Чурата ў меншай ступені

мастак, чым Пэральта, але больш рэволюцыйны, ён прадстаўляе сабою найбольш выдатны продукт свайго асяродзьдзя. Яго тэмпэрамэнтныя песьні часта носяць містычны характар, за тое яны бурныя і глыбока хвалююць. У іх увесь ён сам і яго племя—Кесва. Акрамя гэтага Чурата зьяўляецца творцаю індэйскага ўласнага тэатру, які зьяўляецца лепшым правадніком культуры і мастацкага густу ў сялянскія індэйскія масы.

Акрамя Пэральты і Чураты, поэзія тубыльцаў не дала нам відных прадстаўнікоў, хаця ў Болівіі і Перу ўжо ёсьць групы, пакуль мала сябе выявіўшых дзеячоў з індэйскай моладзі, якая з палкасьцю аддаецца стварэньню роднай поэзіі на гішпанскай мове. Трэба думаць, што гэтая поэзія не замрэ, але будзе разьвівацца і надалей і высуне многа новых талентаў, галоўным чынам у мясцовасьцях найбольшага згуртаваньня індэйскага насельніцтва, г. зн. у цэнтральных частках Паўднёвай Амэрыкі.

---

Застановімся ў заключэньні каротка на тэхніцы слова ў новых поэтаў.

Зусім невядомая раней жывасьць поэзіі, пачаткі пролетарскай ідэолёгіі, рэволюцыйныя мотывы—усё гэта не магло не зьмяніць тэхнічнага, знадворнага боку поэзіі. Можна беспамылкова сказаць, што знадворны выгляд новай поэзіі карэнным чынам зьмяніўся, у параўнаньні з тыпічнымі даваеннымі ўзорамі эпохі Незалежнасьці. Яе характэрнаю асаблівасьцю зьяўляецца так званы „ілёгізм“, які заключаецца ў нечапанай і часта мала зразумелай зьмене апісваемых дзеяньняў і палажэньняў, абрывачнасьць вершу, поўнае адступленьне ад іх даўных традыцый вершаскладаньня, яго строгай разьмеранасьці, рыфмы і г. д. Верш стаў больш паходзіць на прозу, чаму яшчэ садзейнічае сілябічнае складаньне вершу, якое ўласьціва краінам гішпанскае мовы. Напышлівыя акадэмікі прыходзяць у жах ад гэтага поўнага парушэньня ўсіх літаратурных правіл.

Усялякія „ізмы“, якія прыходзяць, галоўным чынам, з Эўропы (у пераважнасьці з Францыі і Гішпаніі), пакуль яшчэ знаходзяць сабе месца, але ўжо ў значна зьмененым выглядзе. У поўнай адпаведнасьці з пераходнаю эпохай поэты ў значных разьмерах пачалі ўжываць экспрэсыўныя спосабы пісьма, у вялікай колькасьці ўжываць мэтафоры, ствараць гэтым шляхам новыя літаратурныя традыцыі, організуючы належныя літаратурныя гурткі і групы. Адсюль новыя віды груп па знадворным прызнакам, зусім невядомыя Эўропе, як: „Крэацыянізм“ у Чылі, „Эстрыдэнтызм“ у Мэксыцы, „Постумізм“ у Санто-Домінго, „Сімплізм“ у Аргэнтыне. Гісторыя наўрад ці адвядзе ўсім гэтым новым „жанрам“ досыць вялікі пэрыод для самавыяўленьня, але іх наватарскі характар ня можа быць спрэчным.

Новая поэзія па сваёй тэматыцы ўпяршыню вышла за межы свайго контынэнта і стала ў значнай ступені інтэрнацыяналісцкаю, у некаторых выпадках нават косьмічнаю, рознымі спосабамі разьвіваючы думку аб

братэрстве народаў, ня толькі сваіх (на гэтай позыцыі стаіць большасьць індо-амэрыканскіх нацыяналістых), але і чужых, далёкіх. Усяго хужэй стаіць справа з буржуазным індывідуалізмам. Ён далёка яшчэ ня зьнік, нават у лепшых прадстаўнікоў „Маладой Амэрыкі", хаця ў шэрагу выпадкаў поэты далі высокія ўзоры колектывістычнага мастацтва. Паходжаньне не магло не накладваць у той ці іншай ступені свайго адбітку на поэтаў.

У Мэксыцы за апошнія гады разьвівалася тэндэнцыйна-экономічная поэзія (а таксама і маляваньне), якая ўсё сваё прызначэньне бачыла ў служэньні сваёй агітацыяй справе экономічнага вызваленьне працоўных. Эстэтычныя дасягненьні гэтай групы былі невялікімі. Гэтая тэндэнцыя вызвала да жыцьця зусім працілеглы ўхіл — „пурызм", г. зн. зьяўленьне жрацоў выключна „чыстага мастацтва", для каторых поэзія не павінна служыць інтарэсам натоўпу. Як той, так і другі ўхіл нехарактэрны для маладых.

У найбольш перадавых краінах Лацінскай Амэрыкі з больш-менш разьвітым рабочым рухам наглядаецца цікавае зьявішча ў літаратурным жыцьці: заняпад грамадзкай зацікаўленасьці да поэтаў і пісьменьнікаў старой школы і ўзросшы інтарэс да маладых. Апошняя акалічнасьць выяўляецца ў росьце тыражу іх выданьняў і стварэньні за апошнія гады шэрагу новых выдавецтваў і часопісяй; апошнія ўтвараюцца нават у такіх краінах, якія да самага апошняга часу амаль нічым сябе не выяўлялі ў галіне літаратуры, напр., выдавецтва „Bandera Roja" (Чырвоны Сьцяг) у г. Ля-Пац, у Болівіі.

Урэшце, трэба адзначыць высокую пашану да Кастрычнікавай рэволюцыі 1917 году значнай, трэба нават сказаць, пераважнай большасьці прадстаўнікоў „Маладой Амэрыкі". Савецкай Расіі прысьвячаюць цэлыя поэмы, дзейна перакладаюць савецкіх пісьменьнікаў і поэтаў (Гладкова, Эрэнбурга, Есеніна, Горкага), у часопісях друкуюцца вялікія артыкулы аб Савецкім Саюзе. Праўда, абарона Савецкага Саюзу не заўсёды пры гэтым сумяшчаецца з правільным разуменьнем задач соцыялістычнай перабудовы грамады; работу СССР пры гэтым перакладаюць, можна сказаць, на сваю нацыяналістычную мову, часта зводзячы ўсе яго заслугі да выгнаньня чужаземных імпэрыялістых і, заклікаючы ў сябе зрабіць тое-ж самае ў адносінах да імпэрыялізму янкі.

Пры рэдакцыі літаратурнае часопісі „Amaüta" (у г. Ліма, Перу) утварылася група марксыстых пад кіраўніцтвам поэты Марыатэгі (Mariategui). Сама часопісь прысьвяціла шэраг артыкулаў у абарону марксызма і рэгулярна друкуе на сваіх старонках вытрымкі з паасобных твораў Леніна, Р. Люксэмбург і іншых.

Ня гледзячы на тое, што маладое пакаленьне Лаціна-Амэрыканскіх поэтаў не зьяўляецца ў пэўным сэнсе слова песьняром рабочае клясы і соцыялістычнай рэволюцыі, мы павінны аддаць ім пэўную даніну справядлівасьці. Яны зьяўляюцца тым мастом, па якім будзе ісьці і разьвівацца лаціна-амэрыканская пролетарская поэзія і літаратура. Гэта пролетарская поэзія, якая будзе будавацца ўжо самымі рабочымі, успамяне добрым словам сваіх літаратурных папярэднікаў, пераважная частка з якіх і надалей застаецца вернаю падарожніцаю рабочае клясы ўва ўсіх яе пачынаньнях.

г. Горы-Горкі.
С.-г. акадэмія.

# КНІГАПІС

**Васіль Каваль.—„Крыніца“**—*апавяданьні, БДВ, Менск—1929 г. ст. 174, тыр. 3.000 экз. Цана 1 р. 25 к.*

Зборнік апавяданьняў „Крыніца“ па ліку зьяўляецца трэцім зборнікам пісьменьніка В. Каваля. Першыя два зборнікі былі выдадзены: адзін „Як вясну гукалі“ ў 1927 г. і „На загонах“—у 1928 г.

І калі першыя два зборнікі давалі яшчэ ня зусім поўнае ўяўленьне аб творчасьці В. Каваля, дык апошні зборнік ужо дае поўную магчымасьць судзіць аб В. Кавалю, як аб склаўшымся ўжо пісьменьніку, аб пэўнай накіраванасьці яго творчасьці, як аб пэўнай псыхолёгічна-ідэолёгічнай продукцыі.

Апошні зборнік „Крыніца“ зьяўляецца працягам творчых вобразаў першых двух зборнікаў В. Каваля. Мы ў гэтым зборніку маем поўнае дыялектычнае адзінства вобразаў усіх твораў з вобразамі ранейшых твораў.

Фактычна ў В. Каваля, у яго творчасьці ярка выступаюць два вобразы, якія праходзяць праз усю яго творчасьць, і з якімі пісьменьнік В. Каваль не разлучаецца.

Першы вобраз, які праходзіць амаль праз усе творы рэцэнзуемага зборніку—гэта селянін-бядак (часьцей усяго стары), які яшчэ ўсімі каранямі сядзяць у мінулым, якога яшчэ належна не кранула наша сучаснасьць, які знае толькі сваю зямельку, сваю вёску, хату і сваю жывёлу. Кахае жыцьцё і догматычна яшчэ верыць розным фальклёрным зьявам. Гэты вобраз у значнай меры прасякнут індывідуалізмам.

Другі вобраз паходзіць з таго самага соцыяльнага асяродку, што і першы. Таксама селянін-бядак, але па сваёй псыхолёгічна-ідэолёгічнай накіраванасьці зьяўляецца супроцьлеглым першаму. Гэты вобраз уяўляе сабой бадзёрага чалавека, які пад уплывам новага жыцьця зьмяняе свой мінулы твар—перараджаецца ў селяніна-актывістага, сучаснага перадавіка вёскі. Вобраз гэтага селяніна захапляецца ня толькі прыгожасьцю прыроды, зямлёй—ён у значнай меры захапляецца грамадзкай справай вёскі, якую імкнецца перабудаваць па-новаму. Гэты вобраз зьяўляецца стрыжнёвым вобразам творчасьці В. Каваля. Ён усюды супроцьстаўляецца аўтарам першаму вобразу.

Які-б мы твор ня ўзялі, усюды гэта пара вобразаў перад намі.

У апавяданьні „Ліпы“ з аднаго боку—мы маем селяніна-бедака А. Нікана, які жыве замкнутым мінулым жыцьцём, цалкам увязшы ў гэта жыцьцё, зьвязан цалкам яшчэ з рэлігійнымі традыцыямі, забабонамі. Ня можа далей нічога бачыць, акрамя сваёй зямелькі, „ён зусім прырос да зямлі“, „ня мог адарвацца ад зямлі“. Ён зьвязан толькі з сваімі асабовымі інтарэсамі і ніяк ня можа ўліцца ў бурлівую крыніцу новага жыцьця.

Гэтаму вобразу, у гэтым-жа апавяданьні, супроцьпастаўлен вобраз селяніна-бедака, які пад уплывам сучаснай рэчаіснасьці перараджаецца і становіцца новым чалавекам—перадавіком вёскі. Такім вобразам зьяўляецца Агей Засека. Ён, пабыўшы ў Чырвонай арміі, вярочаецца ў вёску і становіцца яе першым актывістым.

Хаця ён таксама прасякнуты каханьнем вёскі, „даехаць-бы хутчэй да свайго сяла“—кажа ён, але яго гэта каханьне перакрыжоўваецца з грамадзкай працай, з імкненьнем перабудаваць вёску на новы лад. Агей, вярнуўшыся з Чырвонай арміі, зразу прымаецца за грамадзкую працу і сам становіцца старшынёй коопэрацыі.

Падобныя гэтай пары вобразаў, мы маем два вобразы ў апавяданьні „За долю“.

Тут таксама выступаюць: з аднаго боку—бяднячка, якая з дапамогай шэфаў з гораду, у сэнсе адукацыі, выбіваецца на грамадзкую працу—старшыню сельсавета. Яна прымае актыўны ўдзел у перабудове вёскі. Яна ня хоча падпарадкаваць сябе консэрватыўным поглядам мужа. Яна супроцьстаўляецца свайму мужу Кузьме.

Кузьма—непарушаны маленькі гаспадарок, які, як і Нікан, зросшыся яшчэ з усім мінулым, які кахае прыроду і сваю зямельку. На грамадзкую працу сваёй жонкі глядзіць скептычна і кажа: „Кінь валэндацца з гэтым. Глядзі лепш за гаспадаркаю“.

Такія-ж вобразы сустракаюцца і ў апавяданьні „Жніво“. Тут консэрватыўным вобразам зьяўляецца стары дзед Сапрон. Ён проста ня можа сабе ўявіць, як гэта жыць па-новаму. Яму дзіва, як „Кірыла Чарняк ладзіцца неяк жыць па-новаму, чытае газэты і мудрыя для ўразуменьня дзеда кніжкі. У Цімка—гэты востры хлопец, у комсамоле нечым кіруе“ Сапрон цалкам зросшыся з мінулым.

Сапрону супроцьпастаўлены Кірыла Чарняк і сын яго Цімка—комсамолец, якіх дзед Сапрон ня можа зразумець. Гэтыя дзьве асобы і Кірыла Чарняк і комсамолец Цімка уяўляюць сабой адзіны вобраз селяніна-перадавіка. Комсамолец Цімка органічна зросшыся з сваім бацькам Кірылам ува ўсіх кірунках сваіх поглядаў на сучаснае ім жыцьцё. „Гаворачы аб гаспадарцы, бацька ўва ўсім прыслухоўваецца да Цімкі“. Цімка-ж зьяўляецца актывістым вёскі, штурхачом новага жыцьця. Ён мае вялікае імкненьне вучыцца, і бацька гэта вітае.

— „От я, тата, з восені думаю ехаць у горад вучыцца...“—„Ну што-ж—добрая справа,—кажа бацька,—вучыся. А я ўжо і сам упраўлюся—гаспадарка невялікая...“ І далей мы бачым, як вясковы хлапчук, селянін-бядак выбіваецца на шлях вучобы—паступае на Рабфак.

Такія асноўныя вобразы дадзены В. Кавалём у творах зборніку „Крыніца“. І, як мы гаварылі, яны ня мінаюць ні аднаго твору.

У апавяданьні „Ненавісьць“, з аднаго боку—мы маем прогрэсыйную жанчыну Зосю і супроцьлеглы ёй консэрватар, чалавек традыцыі Мікола, які кідае Зосю таму, што яна бедная.

У апавяданьні „Ілька“, з аднаго боку—Ілька, а з другога—Цьвірка, Лях і інш.

У апавяданьні „Крыніца“ мы маем у адным старым Максіме злучэньне гэтых двух вобразаў. Тут мы бачым трагізм барацьбы гэтых двух вобразаў. Бачым, як Максім пражыў і жыве яшчэ і цяпер па старому, але разам з гэтым ён ужо гэта старое лічыць паганым і жыцьцё, што ён пражыў, нечалавечым. „Пражыў я свой век ды ня так, як чалавек...“

Гэтыя самыя вобразы маюцца і ў апавяданьні „У супрадках“.

Бязумоўна, нельга так разумець, што паміж тымі вобразамі, якія нам Каваль дае ў сваіх творах, ляжыць нейкая сьцяна. Гэта будзе памылка. Абодва яго вобразы, аб якіх мы вядзем гутарку, гэта адзінства супроцьлегласьці. Яны адзін другому і супярэчаць і ў той-жа час яны (вобразы) адзін бяз другога немагчымы. Тут адзін вобраз памагае, выяўляе другі. І калі зрабіць крок да інтэграцыі, да вызначэньня стылю В. Каваля, то мы тады скажам, што творы дадзенага зборніку перадаюць, адбіваюць псыхолёгію вясковай беднаты, якая пад уплывам нашае рэча-

існасьці эволюцыянізуе ад стану селяніна—консэрватара, індывідуалістага, да стану селяніна-перадавіка вескі, колектывістага.

Адгэтуль зусім зразумела, чаму пад час некаторыя героі ўпадаюць у некаторую невызначальнасьць. „У жыцьці ня ладзіцца. Сілы не хапае. Чаго шукаць, дзе шукаць?.. А жыць лепей хочацца..“ Тут проста цяжкасьць перамагчы традыцыю,—самы кульмінацыйны пункт барацьбы з ёю.

Яшчэ адна характэрная рыса ў псыхолёгіі пэрсонажу творчасьці В. Каваля—гэта тое, што ўсе яны прасякнуты гарачым каханьнем да жыцьця, да прыроды. Гэта-ж рыса таксама ў вялікай меры характэрна і для аўтара.

Амаль у кожным творы мы сустракаем, як аўтар непасрэдна выказвае замілаванасьць да жыцьця: „Няма нічога лепшага, як любіць жыцьцё: „Будзем жыць,—кажу я ў адказ. І веру моцна“. „Няма нічога лепшага, як жыць і любіць“. Радасьць і гора нашых дзён. Усё мы пераможам на сваёй дарозе. І таму: веру, люблю“.

Для нашае сучаснасьці, зборнік „Крыніца“ каштоўны тым, што праз яго, у мастацкіх вобразах, мы можам азнаёміцца з псыхолёгіяй селяніна-бедака, які пераходзіць ад гнілой мінуўшчыны да нашае сучаснасьці.

**С. Куніцкі.**

## Бібліотэка колгасьніка.

**Я. Чалядзінскі. Барацьба за колгасы.** *Нарысы аб колектывізацыі Клімаўшчыны. 96 старонак. Тыраж 7.000 экз. Цана 20 кап.*

**С. Кудзінаў. Комуна імя Карла Лібкнэхта.** *80 стар. Тыраж 7.000 экз. Цана 15 кап.*

**Ф. Гладкоў. Комуна „Авангард“.** *Пераклад з расійскае мовы. 38 стар. Тыраж 10.000 экз. Цана 8 кап.*

**Загулі трактары. Злажыў Зьм. Малевіч.** *52 стар. Тыраж 5.000 экз. Цана 15 кап. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск. 1930.*

Пяць нарысаў Я. Чалядзінскага пра Клімавіцкі раён суцэльнай колектывізацыі: „За праўдай у колгас“, „Габінэт у полі“, „Нехацімцы“, „Падстрэлены зьвер“ і „Ленінскім шляхам“—напісаны яскрава і жыва простай і прыгожай літаратурнай мовай. Аўтар выявіў сябе здольным корэспондэнтам-зарысоўшчыкам, які ўмее прыкмячаць характэрныя зьявы жыцьця і ўдала падаваць іх чытачу. Гэтыя бедныя крычаўскія бабулькі, якія цэлы свой век ня бачылі чаравікоў ці ботаў, напужаныя кулацкімі плёткамі, едуць у колгас „сваімі рукамі абмацаць праўду“, раённыя працаўнікі, габінэт якіх у „полі“, таму што, як кажа аўтару адзін стары,—„даўней добрага музыкі было не дастаць, а цяпер дакладчыка“, сход „нехацімцаў“, з іхнімі наіўнымі сумненьнямі, навеянымі граньнем кулацкіх рук на старасьвецкіх струнах сялянскай індывідуалістскай псыхікі, характарыстыкі „падстрэленага зьвера“, то разьюшанага, то ліслівага, то роспачлівага, —усё гэта, як жывое, паўстае прад вачмі чытача.

Апошні нарыс „Ленінскім шляхам“ уяўляе з сябе кароткія нататкі пра першы колгас Клімаўшчыны „Ленінскі Шлях“, організаваны ўвесну 1929 году. Трэба было толькі даць больш падрабязнае і конкрэтнае апісаньне гэтага колгасу, каб відавочна паказаць і колгасьнікам, і „нехацімцам“ тое жывое жыцьцё, дзеля якога вядзецца барацьба за колгасы.

Кніжка С. Кудзінава дае падрабязную справаздачу аб гаспадарцы комуны імя Карла Лібкнэхта на Быхаўшчыне, атрымаўшай на ўсесаюзным конкурсе дыплём першай ступені, як адна з лепшых комун ня толькі Беларусі, але і ўсяго Савецкага Саюзу. У кніжцы апісана організацыя працы ў комуне, закрануты ўсе галіны гаспадаркі. Добрыя малюнкі, дакладныя лічбы, дыяграмы.

Дрэнна толькі, што гэтыя лічбы ды дыяграмы зусім засланілі ад аўтара чалавека. Таму, прачытаўшы кніжку, атрымоўваецца якраз такое ўражаньне, як чытаючы які-небудзь амэрыканскі „Yeavbook of Agriculture“. Нібы гаспадарчыя дасягненьні комуны зьяўляюцца самамэтай, а ня сродкам для стварэньня новай грамады. Нават да пытаньняў культурна-бытавога жыцьця комуны аўтар падыходзіць неяк паказённаму, сухою моваю лічбаў.

Апрача таго, трэба было даць не паасобныя мімалётныя экскурсы комуны, а хоць-бы сабе і кароценькі, але суцэльны нарыс аб яе гісторыі. Колгасьнікам, для якіх прызначаецца гэтая кніжка, будзе цікава і карысна ведаць ня толькі тое, што ёсьць зараз, але і тое, якім чынам комунары гэтага дасягнулі, а пра гэта якраз у кніжцы гаворыцца вельмі мала.

Аналёгічная па тэме кніжка Фёд. Гладкова „Комуна Авангард“ пазбаўлена гэтых недахопаў. Мала таго, трэба адзначыць, што гэта кніжка вядомага расійскага пісьменьніка зусім натуральна вызначаецца з літаратурнага боку сваёй высокай мастацкасьцю.

Яна напісана ў бэлетрыстычным і разам з тым дзелавым тоне. Пададзена кароткая, сьціслая, але дакладная гісторыя комуны, становішча яе гаспадаркі, як дасягненьні. Кніжка не перагружана дакладнымі лічбамі і дыяграмамі, але тым ня менш вельмі яскрава паказан той вялікі гаспадарчы эфэкт, які дае супольнае, добра і навукова-організаваная праца комунараў.

Мала таго, паказана, як гэтыя гаспадарчыя дасягненьні мяняюць людзей, іхны быт, іхныя ўзаемаадносіны, як яны разбураюць старую сям‘ю, зьнішчаюць лаянку, п‘янства і г. д.

Абрамлена ўся кніжка вельмі прыгожым мастацкім параўнаньнем: комуна—гэта заліты электрычнымі агнямі оазіс сярод цёмнай прадвосеннай ночы.

Праўда, трэба адзначыць, што нарыс Гладкова быў напісаны ў мінулым годзе, а цяпер гэтая „ноч“ ужо днее шырокім разгонам колгаснага руху.

„Загулі трактары“ зборнічак невялічкіх нарысаў-нататак аб колгасах і комунах. Ня гледзячы на свае нязначныя памеры, ён карысны тым, што трапнай композыцыяй матэрыялу паказвае колгасьнікам шлях працоўных мас сялянства, праз аблітую сьлязьмі сталыпінскую рэформу, праз колгасы і комуны да вялікіх колгасных агракомбінатаў волатаў, якія пакуль што зьяўляюцца бліскучым ідэалам „усё ярчэй сьвітаючага надыходзячага раньня, імя якому—соцыялізм!“

**Аркадзь Лясны.**

**René Martel „Les Blancs-Russes“ etude historique, geographique, politique et ekonomique.** *André Delpeuch Editeur. Paris. 1929. 174 pages. Valeur 12 fr.*

**Рэнэ Мартэль „Беларусы“ гістарычны, географічны, політычны і экономічны нарыс.** *Выдавец Андрэ Дэльпёш. Парыж. 1929. Стар. 174. Цана 12 франкаў.*

Невялікага фармату праца, выдадзеная ў Парыжы на францускай мове. Гэта, мабыць, адна з найбольш поўных і падрабязных выданьняў на тэму аб Беларусі, якое ў канцы мінулага году вышла ў Францыі. Аўтар кнігі, вядомы францускі журналісты, дацэнт унівэрсытэту, у прадмове зазначае, што да гэтага часу ў Францыі няма ні агульных прац, ні паасобных монографій аб Беларусі і беларусах. Таму ён і паставіў сабе за мэту папоўніць гэты недахоп сваёю працаю, якая зьяўляецца працаю чыста інформацыйнага характару.

Аўтару не ўпяршыню прыходзіцца займацца пытаньнямі з жыцьця ўсходняе Эўропы. (Ім выдадзены наступныя кнігі: „La question d'Ukraine“. 1927 г. і „La Pologne et nous“, 1928 г.).

Разглядаемая кніжка прысьвечана Беларусі ў яе этнографічных межах. Аднак, больш месца аўтар адводзіць нарысам з жыцьця Савецкай Беларусі, і значна слабей ён асьвятляе факты, зьвязаныя з гістарычным лёсам Заходняй Беларусі, акупаванай Польшчай. Такая нераўнамерная пропорцыя разьмеркаваньня матэрыялаў у кнізе тлумачыцца, відавочна, тым, што аўтар ня меў магчымасьці скарыстаць поўнасьцю тыя дапаможнікі і крыніцы, якія вышлі на беларускай, расійскай і іншых мовах аб Заходняй Беларусі. Сам ён прызнае, што яго праца ня можа прэтэндаваць на дасканаласьць, што яна далёка ня вычэрпвае закранутых у ёй пытаньняў, што ён ня меў пад рукамі неабходных матэрыялаў і крыніц, але, паколькі Заходняя Эўропа вельмі слаба інформавана аб Беларусі і беларусах, ён усё-ж такі палічыў неабходным гэту кнігу напісаць і выдаць.

Увесь зьмест кнігі падзяляецца на ўступ і 5 частак, якія ў сваю чаргу разьбіваюцца на разьдзелы.

Ва ўступе аўтар падае ў самых сьціслых нарысах некаторыя зьвесткі аб паходжаньні беларускага народу, аб літоўска-беларускім пэрыодзе гістарычнага разьвіцьця Беларусі, вуніі з Польшчаю, аб інкорпарацыі Беларусі ў былую Расійскую імпэрыю, аб імпэрыялістычнай вайне і рэвалюцыі 1917 году і, нарэшце, аб заснаваньні Беларускай ССР і ўваходзе яе ў склад СССР. Гаворачы аб першых кроках дзяржаўнага жыцьця Беларусі, аўтар зьдзіўлены той гэроічнасьцю беларускага народу, якая выпала на яго долю пры адбудаваньні сваёй дзяржавы.

Першая частка працы зьмяшчае факты з галіны фізычнай географіі Савецкай Беларусі—агульныя зьвесткі аб займаемай плошчы, геолёгічным напластаваньні глебы, орографічных і гідрографічных асаблівасьцях краіны, флёры і фаўне.

Зьмест другой часткі складае зьвесткі аб насельніцтве Савецкай Беларусі, даныя нацыянальнай статыстыкі, аб адміністрацыйным падзеле краіны і важнейшых гарадох. Шмат увагі гэтая частка ўдзяляе фінансаваму стану краіны. Даволі падрабязна апісваецца дынаміка росту дзяржаўнага бюджэту, пры чым націраецца значная зацікаўленасьць і такім спэцыяльным пытаньнем, як бюджэтныя стасункі БССР з фінансавымі органамі СССР і, нават, удзел Беларусі ў рэалізацыі дзяржаўных пазык.

Тут-жа мы знаходзім даныя аб судовых установах, статыстыку крымінальных учынкаў насельніцтва. Асобны разьдзел, прысьвечаны агляду становішча справы аховы народнага здароўя, функцыі мэдычных і санітарна-гігіенічных устаноў. У гэтай-жа частцы зьмешчаны зьвесткі аб профэсіях розных катэгорый наёмных працаўнікоў, ступень забясьпечанасьці іх зарплатай і іншае.

Экономічнаму нарысу БССР прысьвечана асобная частка, разьмерам да 40 старонак кнігі. У ёй закрануты пытаньні агрыкультурнага характару, даныя аб стане сельска-гаспадарчай вытворчасьці і ступені культуры земляробства; прыведзены некаторыя лічбы з процэсу перасяленчаскай справы працоўных Беларусі ў Сібір і іншыя мясцовасьці Савецкага Саюзу. У гэтай частцы зазначаецца на існаваньне ў беларускай вёсцы сельска-гаспадарчых вытворчых коопэрацыйных аб'яднаньняў (крэдытныя т-вы, мэліорацыйныя асоцыяцыі і інш.) і падаюцца весткі аб с.-г. крэдыту. Зьвернута ўвага і на стан індустрыі БССР: на галіны прамысловых прадпрыемстваў, вартасьць вырабляемай імі продукцыі, разьвіцьцё электрыфікацыі. Падаюцца лічбовыя даныя аб замежным і ўнутраным гандлі, пры гэтым у дынамічным разрэзе разглядаецца стан паасобных гандлёвых сэктараў: дзяржаўнага, коопэрацыйнага і прыватнага.

Чацьвертая частка кнігі прысьвечана нарысам аб становішчы асьветы

ў БССР. Тут падаюцца толькі зьвесткі аб пісьменнасьці насельніцтва, аб колькасьці вышэйшых навуковых і навучальных інстытуцый і сетцы сярэдніх і ніжэйшых школ. Аўтар падкрэсьлівае, што шпаркае разьвіцьцё розных асьветных установ і ўздым культуры насельніцтва назіраецца асабліва пасьля рэволюцыі 1917 г. Некалькі старонак у гэтай частцы адведзена азнаямленьню з шляхамі разьвіцьця беларускай літаратуры.

Нарэшце, пятая частка кнігі прысьвечана Зах. Беларусі, а менавіта: грамадзка-палітычнаму (галоўным чынам нацыянальнаму пытаньню) палажэньню беларусаў у Польшчы.

Ацэньваючы зьмест кнігі, трэба сказаць наступнае. Як відаць, што аўтар карыстаўся, галоўным чынам, афіцыйнымі матэрыялямі і пры тым пераважна матэрыялямі з савецкіх крыніц. У аснову сваёй працы ён паклаў справаздачу ўраду БССР на III сэсіі ЦВК СССР у 1927 годзе, выдадзеную СНК БССР пад назвай „Белорусская Советская Социалистическая Республика“. Пры гэтым, аўтар кнігі імкнуўся быць як мага больш „об‘ектыўным“. Але гэтая буржуазная „об‘ектыўнасьць“ перашкодзіла аўтару даць сапраўдны малюнак беларускай рэчаістасьці.

Лічбы прывадзімай статыстыкі аўтарам скарыстаны дабрасумленна і ў якой-небудзь падтасоўцы папракнуць яго нельга. Але, ня гледзячы на тое, што аўтарам скарыстоўваюцца савецкія матэрыялы, у напісанай працы выхалашчаны сапраўдны характар экономічнага і грамадзка-палітычнага жыцьця Савецкай Беларусі. Напрыклад, ні ў адным месцы кнігі не гаворыцца аб сутнасьці БССР, як дзяржаўнага організму пролетарскага характару, дзе ўладу трымае рабочая кляса ў саюзе з бяднейшым сялянствам. Пытаньні конституцыі наогул не закрануты. Нідзе не зазначаецца на спэцыфічнасьць клясавай політыкі савецкай улады, ні адной рыскай не падкрэсьлена роля комуністычнай партыі ў політычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве краіны. Дарэмна чытач будзе шукаць у кнізе ідэі і плянаваньні соцыялістычнага будаўніцтва, якімі прасякнута ўся экономіка і культура Савецкай Беларусі. Гаворачы аб становішчы сельскай гаспадаркі і, нават, зазначаючы на наяўнасьць у вёсцы сельска-гаспадарчых вытворчых аб‘яднаньняў, аўтар ні слова ня кажа аб характары і мэтах гэтых аб‘яднаньняў. Словам, усё тое, што так ці інакш зьвязана з вялікім соцыялістычным будаўніцтвам — выхалашчана, выкінута і засталося толькі голае апісаньне фактаў. Але-ж ці можна патрабаваць гэтага ад „добрасумленнага“ буржуазнага дацэнта. Буржуазны вучоны ў асьвятленьні рэволюцыйных падзей 1917 і наступных гадоў вельмі слаба орыентуецца ў процэсе барацьбы клясаў. Згодна яго гістарычнай канцэпцыі, у рэволюцыі дзейнічаюць ня масы, не грамадзкія клясы, а асобы, партыйныя аб‘яднаньні і групоўкі інтэлігентаў.

Сапраўдная роля Комуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі ў рэволюцыйных падзеях па Беларусі і на заходнім фронце аўтарам зусім не адзначана.

Вытокі рэволюцыйнай улады аўтар знаходзіць у дзейнасьці Беларускай Соцыялістычнай Грамады, якая, знаходзячыся, пасьля нямецкай окупацыі, у Маскве, „распачала энэргічнае дзеяньне сярод эмігрантаў і беларускага насельніцтва Віцебскай і Магілеўскай губэрняў. Яна імкнулася, пасьля Берасьцейскай згоды, рэорганізаваць краіну“ (стар. 20—21).

У працы назіраюцца няправільнасьці і фактычнага характару.

Так, аўтар піша, што на чале аб‘яднанай Літоўска-Беларускай С.С.Р. „знаходзіліся Міцкевіч і Капсукас“ (!). І далей, калі Савецкая Беларусь 1 жніўня 1920 г. (?) была абвешчана ў другі раз, „уладу ўзяў рэволюцыйны трыумвірат (Чарвякоў, Адамовіч, Кнорын)“. Такі „трыумвірат“, аб якім паведамляе аўтар, гісторыі Беларусі невядомы. Памянёныя тава-

рышы, якія ўваходзілі ў рэволюцыйную тройку, не прадстаўлялі „трыумвірату“ ў буржуазным разуменьні гэтага слова.

У кнізе ёсьць і іншыя памылкі. Напрыклад, у разрад навуковых акадэмічных інстытуцый аднесены пэдагогічныя інстытуты ў Менску, Віцебску—сапраўды-ж гэта звычайныя пэдагогічныя навучальныя ўстановытэхнікумы (стар. 126). Ня ўсе пэрыодычныя выданьні Беларусі пералічаны, назвы некаторых пераблытаны. З часопісаў ні адна ня ўказана. Аўтар чамусьці зазначае, што „прэса на Беларусі“ натуральна не шматлікая“ (?).

Прозьвішчы некаторых беларускіх пісьменьнікаў пераблытаны: упамінаюцца Ташка Гартэн, Бабаенка, В. Дубенка (відавочна, гаворыцца аб Цішку Гартным, Бабарэку, Дубоўку).

Стан Заходняй Беларусі асьветлены зусім слаба, хаця аўтарам скарыстаны вядомыя „Інтэрпэляцыі“ беларускіх паслоў у польскім сойме і некаторыя польскія выданьні.

У заключэньні трэба падкрэсьліць, што аўтар сьвядома абмінуў палітычны бок жыцьця Савецкай Беларусі.

Усё-ж, ня гледзячы на ўсё гэта, буржуазнаму экономістаму і палітыку, які ня ведаў Беларусі, кніжка можа саслужыць ролю справачніка, французскі-ж рабочы нічога з кніжкі не даведаецца аб тым, як рабочыя на Беларусі змагаліся за соцыялізм і як цяпер будуюць соцыялізм. Зразумела савецкаму работніку кніжка нічога новага ня дасьць.

**Вісбар.**

**Узвышша № 1.** Часопісь літаратуры, мастацтва і крытыкі беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша“. Чацьверты год выданьня. *Менск, 1930 год. Тыраж 1.000 экз. Цана 80 кап.*

У апошні час згуртаваньне „Узвышша“, пад націскам пролетарскае крытыкі, рашыла павярнуцца „тварам да сучаснасьці“.

У передавым артыкуле першага сшытка свайго часопісу ўзвышаўцы, пасьля прызнаньня сваіх памылак, ставяць прад сабой наступныя задачы: „цалкам аўладаць марксыцкім мэтодам у крытыцы“ і змагацца з групоўшчынай, падыйсьці бліжэй да актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва ў сваёй творчасьці і бліжэй да партыі і шырокіх працоўных мас у галіне грамадзкай працы. Таксама згуртаваньне выказалася і за консолідацыю пролетарскіх літаратурных сіл.

Наколькі ўдасца ўзвышаўцам зьдзейсьніць пастаўленыя задачы, пакажа будучыня, а пакуль што гэтыя добрыя імкненьні мы можам толькі вітаць.

Прад беларускай пролетарскай літаратурай стаіць цэлы шэраг настойлівых і вельмі важных задач. Узяць хоць-бы важную проблему пролетарскага стылю, або шчыльна зьвязаную з ёю проблему ахапленьня сваёй мастацкай дзейнасьцю шырокіх колаў працоўных і г. д.

Нельга зачыняць вочы на тое, што групоўшчына ў галіне крытыкі і полемікі, якую цяпер асуджаюць узвышаўцы, у значнай меры перашкаджала і тармазіла вырашэньне гэтых неадкладных проблем нашай літаратуры, адцягваючы ўвагу літаратурных працаўнікоў на зусім дробныя часам і амаль абывательскія „кулачныя баі“ ў гусьце некаторых разьвенчаных ужо хворых на крытыканства літаратурных „дзеячоў“.

Зьмест рэцэнзуемага нумару ў адпаведнасьці з перадавым артыкулам паказвае, што ўзвышшаўскія аўтары сапраўды хочуць падыйсьці да „актуальных пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва“. У выніку гэтага ўвесь сшытак носіць нейкі нібы дэкларацыйны характар.

Апавяданьне Кузьмы Чорнага—„Васпаваты чалавек“, прысьвечаны пытаньню аб прымазваньні варожых элемэнтаў. Чытач, мабыць, помніць, што Кузьма Чорны закранаў ужо гэтае пытаньне ў мінулым годзе ў

апавяданьні „Справа Віктара Лукашэвіча“ („Узвышша“, 1929 г., № 5), так што, уласна кажучы, ён нічога новага тут не сказаў. Наадварот, пасьля цэлага шэрагу прогрэсыўных фактаў у творчасьці Кузьмы Чорнага, якія мелі месца на працягу мінулага году і шэдэўрным завяршэньнем якіх зьявіліся яго апошнія творы „Лявон Бушмар“ і „Неўзабаве вясна“, „Васпаватага чалавека“ трэба разглядаць, як некаторы крок назад.

Усё адно, як і ў даўнейшым романе Чорнага „Сястра“ (першай і ня вельмі ўдалай спробай аўтара ў галіне буйнага жанру), асобы твору вызначаюцца тут сваёй інэртнасьцю. Яны ня дзейнічаюць, а толькі гавораць і гамоняць, зьяўляюцца яны ў творы deus ex machina (як тут настаўнік) пагамоняць і зьнікнуць, а, нарэшце, застаюцца яны для чытача зусім нявыразнымі, агорнутымі цьмяным засьцілам гэтых гаворак.

Уявіць сабе, што гэта за чалавек гэты аўтараў герой, абсолютна нельга. Чытач ведае толькі адно: ён выкрыў палякам змову палонных чырвонаармейцаў, пасьля яго за гэта судзілі— выкруціўся, ажаніўся на хутаранцы— пасьля яны чамусьці разлучыліся, цяпер ён працуе на заводзе ў якасьці кіраўніка грамадзка-культурнай часткі, але-ж сам ён нідзе і носа нават не паказвае чытачу. Аўтар, паказаўшы яго на момант на фронце, начапіў на яго ярлычок „кар'ерысты“ ды гэтак і пусьціў.

Характарыстыка трох іншых асоб, якія дзейнічаюць, ці, вярней, гамоняць, у апавяданьні не ўваходзіла ў пляны аўтара. У выніку апавяданьне пакідае ўражаньне зусім сырога неапрацаванага матэрыялу.

Далей ідзе Глебкава поэма „Арка над акіянам“. Яна таксама, як і наступныя Бядулевы „Нязвычайныя гісторыі“, трактуе „шкодніцку“ тэму. Мэліорацыя балота і інжынэр шкоднік—вось тэма шырокага палатна (пакуль што 25 стар., а яшчэ будзе канец) Глебкавай поэмы. Праўда, само гэта шкодніцтва носіць крыху бутафорны характар. Яно заключаецца ў тым, што

> „прапала рыдлёўка
> і восем шуфлёў“
> . . . . . .

ды:

> „мінуў цэлы тыдзень—
> чарпалкі няма“...

але як-бы там ні было яно выконвае функцыю асноўнага сюжэтнага стрыжню твору. Поэма напісана мажорным, бадзёрым тонам, з пэўным патосам творчай перабудовы (асабліва ў III і IV разьдзелах), але адмоўнымі бакамі яе зьяўляюцца неорыгінальнасьць фабулы і шмат якіх вобразаў. Пытаньне шкодніцтва варожых пролетарыяту элемэнтаў у эпоху заўзятага клясавага змаганьня, бязумоўна, заслугоўвае значнай увагі. Але—ці дае-ж гэта права культываваць з яго літаратурныя штампы, ці добра гэта, калі яго трактуе большасьць твораў часопісу, а іншыя, быць можа, і больш важныя проблемы рэконструкцыйнага пэрыоду застаюцца па-за межамі творчай увагі аўтароў. На мой погляд, той факт, што рэконструкцыя народнай гаспадаркі зьмяняе твар зямлі, а ў сувязі з гэтым і чалавека, куды важней, чым эпізодычная (хаця і характэрная для нашай эпохі) зьява шкодніцтва, якая навадняе нашу літаратуру трафарэтамі прымітыўнага прыгодніцкага жанру. Спыняцца на тэхніцы поэмы не хапае месца, зазначу толькі, што, чытаючы некаторыя вобразы (гэта ў значнай меры датычыцца і да шмат якіх іншых поэтаў), так і хочацца напісаць да іх комэнтарыі ў выглядзе... цытат з вершаў іхных таварышоў, пісаных некалькі год тому назад.

Бядуля ў сваіх невялічкіх „Нязвычайных гісторыях“, з уласьцівым яму майстэрствам, апавядае пра кулацкія хітрыкі, як адзін падкулачнік, пераапрануўшыся манахам, пайшоў агітаваць супроць колгасаў, а калі яго арыштавалі, брат яго няўдала спрабаваў забіць з абрэзу аднаго вяско-

вага актывістага. Трэба адзначыць вельмі сьцісьлы і разам з тым кампанійны напружаны стыль, якім расказваюцца гэтыя гісторыі.

Два вершы Сяргея Дарожнага: „Журавы над вёскай, журавы“, і „Суботнік“, ня гледзячы на свае індустрыйна-конструкцыйныя мотывы не даюць нічога новага і таму затрымліваць на іх чытача ня буду, таксама, як і на пачатку аповесьці Траецкага „Старасельшчына“, якая яшчэ, відаць, друкаваць мецца не адным працягам.

Верш Т. Кляшторнага „Сны“ больш за ўсё характарызуецца тым пераходным этапам да актуальных тэм, які перажывае зараз узвышшаўская творчасьць. Крапіва даў чатыры сатыры на злабаднеўныя вясковыя тэмы. Першая з іх „Конская элегія“—(ці я над ясьлямі сумую)—высьмейвае разбазарваньне жывёлы. Але як гэта вышла ў аўтара, што вінаватымі ў гэтым аказваюцца толькі колгасьнікі і Скурсындыкат, кулакі стаяць у баку. Гэтая акалічнасьць надае „Конскай элегіі“ ідэолёгічную двухсэнсоўнасьць і нявыразнасьць. Праўда, у іншых сатырах гэтага ўжо няма. „Вагон табакі“ пра нядбайлу агронома ня мае асаблівай вартасьці.

Крытычных артыкулаў у сшытку зусім няма. Ёсьць толькі артыкул А. Касьцелянскага пра выяўленчае мастацтва БССР. Артыкуль невялічкі і носіць больш практычны характар.

У аддзеле кнігапісу зьмешчана ўсяго адна (праўда, затое вялікая) рэцэнзія Ал. Цітова на украінскі роман Бузька „Чайка“.

Наогул, гэты нумар не вызначаецца яшчэ багацьцем свайго зьместу. Па-першае, яшчэ ня ўсе ўзвышаўцы выказаліся аб сваёй новай творчай пляцформе, а па-другое, і тыя выказваньні, якія мы маем, носяць вельмі выразныя адбіткі пераломнага пэрыоду, які перажывае зараз „Узвышша“.

**Аркадзь Лясны.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Янка Ліманоўскі піша аповесьць пра колектывізацыю вёскі і рыхтуе да друку зборнік апавяданьняў, прысьвечаны дзесятай гадавіне вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

* Выйшла з друку кніжка Рыгора Мурашкі „1905“—гэта ўрывак з роману „Сын“. Увесь роман выходзіць з друку бліжэйшымі днямі.

* Алесь Салагуб напісаў поэму „Далакопы“ — з жыцьця Заходняй Беларусі.

* Міх. Гольдбэрг друкуе ў Беларускім Дзяржаўным Выдавецтве кнігу нарысаў „На рыштаваньнях“.

* Пятро Глебка рыхтуе новы зборнік вершаў пад назваю „Трылёгія жыцьця“. У зборнік уваходзіць тры нізкі вершаў: „Матчыны казкі“, „Краса моладасьці“ і „Песьні адцьвітаньня“.

* Кузьма Чорны выяжджаў на Нова-Беліцкую запалкавую фабрыку (Гомельшчына) для збору патрэбных матэрыялаў да новага свайго твору.

* Лукаш Калюга напісаў новую аповесьць „Нядоля Заблоцкіх“.

* Максім Лужанін друкуе ў БДзВ кніжку нарысаў „Колгасная Беларусь“—гэта вынік працы па колектывізацыі на Мазыршчыне.

* Ён-жа рыхтуе да друку дзіцячую кніжку ў вершах пра пазыку індустрыялізацыі „Як Янка выйграў пяць тысяч“.

* Зьмітрок Бядуля піша аповесьць „Мястэчка“ і працуе над шэрагам апавяданьняў.

— Ён-жа пачаў працу над другой часткай аповесьці „Язэп Крушынскі“.

— Аповесьць Зьм. Бядулі „Салавей“ вышла другім выданьнем у сэрыі „Мастацкае слова—масам“.

— Вышла з друку трэцім выданьнем яго кніжка „На зачарованых гонях“.

— У сэрыі „Мастацкае слова—масам“ друкуюцца дзьве кніжкі яго апавяданьняў.

— Выходзіць з друку аповесьць яўрэйскага пісьменьніка Шолэм-Алэйхема „Хлопчык Мотка“ ў перакладзе на беларускую мову З. Бядулі.

— ГІЗ РСФСР выдае на расійскай мове аповесьць Зьм. Бядулі „Язэп Крушынскі“.

* У пачатку мая склікаецца пленум праўленьня БелАПП‘у. На парадку пленуму стаяць наступныя пытаньні:

а) Задачы пролетарскай літаратуры ў рэконструкцыйны пэрыод.

б) Справаздача сэкратарыяту БелАПП‘у (Ліманоўскі).

в) Творчы шлях пролетарскай літаратуры (Бэндэ).

г) Садаклад пра лірыку (Аляхновіч) і садаклад пра нарысы (Кобец).

д) Стан і задачы марксыцкае крытыкі (Канакоцін).

е) Пра тэатр і кіно (Ліманоўскі, Александровіч).

ж) Організацыйныя пытаньні.

Апрача таго, на пленуме будуць разглядацца паасобныя творы і творчасьць пролетарскіх пісьменьнікаў.

12 красавіка ў Доме Пісьменьніка адбыўся сход членаў Менскай філіі БелАПП‘у. На парадку дню стаяла два пытаньні: справаздача старога бюро і выбары новага.

Тав. Броўка азнаёміў прысутных з працай Менскай філіі за справаздачны пэрыяд. Посьпехаў шмат. Пісьменьнікі ня былі адарваны ад савецкай грамадзкасьці. Філія ня дрэнна наладзіла сувязь з прадпрыемст-

вамі і колгасамі. Ёсьць посьпехі і ў творчасьці белаппаўцаў. Адзначаны і недахопы ў рабоце.

У новае бюро філіі абрана 9 таварышоў: 7 членаў і 2 кандыдаты. Сярод выбраных—т.т. А. Александровіч, М. Аляхновіч, С. Баранаў, Іл. Барашка, П. Броўка, Гараўскі (польская сэкцыя), Росін (яўрэйская сэкцыя), С. Хурсік.

* 20-га сакавіка ў Менску ў Доме Пісьменьніка адбылася 1-ая ў СССР конфэрэнцыя літаратурных гурткоў польскае сэкцыі БелАПП'у.

На конфэрэнцыі прыняло ўдзел 28 дэлегатаў з месц, у тым ліку дэлегаты рабочых колектываў гуты „імя Домбаля" ў Барысаве, „Пролетары" ў Менску і інш. Галоўныя пытаньні, разгледжаныя конфэрэнцыяй, гэта—„Пролетарская літаратура і яе заданьні" і „Мэтодыка творчае працы".

Конфэрэнцыя прайшла вельмі актыўна. На конфэрэнцыі з чыткай сваіх твораў выступілі беларускія пісьменьнікі т.т. Ніканові́ч, Хведаровыч, а таксама тав. Харык. Конфэрэнцыя скончылася позна ўвечары чыткай твораў удзельнікаў конфэрэнцыі і сяброў польскае сэкцыі БелАПП'у.

Удзельнікі конфэрэнцыі высунулі пытаньне пертварэньня літаратурных гурткоў у літаратурныя брыгады. Узьнята пытаньне аб організацыі ў Менску кароткатэрміновых літаратурных курсаў на польскай мове.

* Беларускае літаратурна-мастацкае згуртаваньне „Узвышша" зрабіла літаратурны выезд у Барысаў. У Барысаве былі наладжаны выступленьні: у клюбе хэмікаў—для рабочых заводу „Чырвоная Бярэзіна" і „Пролетарская перамога", у Белдзяржтэхнікуме і ў школах. Выступалі: Крапіва, Глебка, Дарожны, Кляшторны, Лужанін.

* „Узвышша" ўзяло культурнае шэфства над колгасам „Батрак", Лепельскага раёну.

* 25-га сакавіка ў Доме Пісьменьніка адбыўся літаратурны вечар, прысьвечаны творчасьці Я. Нёманскага. Даклад пра творчасьць Я. Нёманскага прачытаў С. Замбржыцкі.

* 4-га красавіка ў Доме Пісьменьніка адбыўся вечар-спатканьне пісьменьнікаў з рабочымі-курсантамі Цэнтральнага Інстытуту Працы. Быў заслухан даклад аб беларускай пролетарскай літаратуры—М. Аляхновіча. Разьбіраўся твор М. Лынькова „Гой".

Выступалі пісьменьнікі з чыткаю сваіх новых твораў.

* Піонэрская організацыя г. Менску зьвярнулася да беларускіх поэтаў і композытараў з адозваю даць новыя песьні. У адозьве гаворыцца: „Мы ў тысячны раз сьпяваем адны і тыя-ж дадзеўшыя песьні. Беларусі патрэбен свой пролетарскі піонэрскі гімн, патрэбны песьні, якія адлюстроўвалі-б нашу працу ў атрадзе, у школе, песьні, якія паказваюць нашы дасягненьні і недахопы".

* У сэкратарыяце Асоцыяцыі Мастакоў Рэволюцыі (АХР) паведамілі, што гэтым летам будуць організаваны перасовачныя выстаўкі карцін лепшых сучасных савецкіх мастакоў. Выстаўкі будуць накіраваны ў саюзныя рэспублікі. У ліпені-жніўні адна з перасовачных выставак наведае Менск.

* Саюзны Савнарком, з спэцыяльна асыгнаваных у фонд разьвіцьця выяўленчых мастацтваў СССР сродкаў, адпускае Беларусі 15.000 рублёў, якія пойдуць на пакупку карцін беларускіх мастакоў, на пабудову і абсталяваньне майстэрань, і г. д.

* Загадчыкам Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва назначаны тав. Некрашэвіч з аслабаненьнем яго ад абавязкаў старшыні Галоўмастацтва. Тав. Некрашэвіч застаецца членам колегіі Наркамасьветы.

* Сэкратарыят ЦВК БССР зацьвердзіў палажэньне аб вучоце помнікаў рэволюцыйнага руху ў Савецкай Беларусі. Вучот ставіць сваёй задачай—сабраць і сыстэматызаваць матэрыялы, неабходныя для навукова-рэволюцыйных досьледаў, захаваць найбольш важныя помнікі рэволю-

цыйнага змаганьня і ўвекавечыць памяць ахвяр грамадзянскай вайны. Агульнае кіраўніцтва справаю вучоту помнікаў рэволюцыйнага руху ўскладзена на Музэй Рэволюцыі.

* Прэзыдыум ЦВК БССР прызнаў патрэбным правядзеньне шырокай політычнай кампаніі, зьвязанай з 10-годзьдзем вызваленьня БССР ад белапалякаў. Для кіраўніцтва працай па падрыхтоўцы і правядзеньні сьвяткаваньня вызначана ўрадавая камісія пад старшынствам т. Хацкевіча, у складзе т.т. Саевіча, Канакоціна, Славінскага, Ашаровіча, Вансоўскага, Сэрбэнты, Платуна, Аксючыца, Шапавалава, Клімковіча, Буравой, Аранштама, Васілевіча і Палякова.

Камісіі запрапанавана распрацаваць плян сьвяткаваньня і падаць яго на зацьверджаньне ў прэзыдыум ЦВК БССР.

* Анатолі Вольны скончыў сцэнары для карціны на тэму пра колектывізацыю, якую будзе ставіць рэжысэр Корш.

* Галоўрэпэрткомам зацьверджаны і прыняты БДК да пастаноўкі сцэнары Менскага, Вайнштока і Кальцатага „Рубікон“. Карціну будзе ставіць рэжысэр Вайншток.

* Рэжысэр Тарыч канчае працу над карцінай „Чорная Кроў“, якая малюе рэволюцыйную барацьбу рабочых у Польшчы і падрыхтоўку фашызму да вайны супроць СССР.

* Намесьнікам дырэктара Белдзяржкінофабрыкі і загадчыкам мастацкага аддзелу прызначаны т. Раманчук, былы загадчык Музэю Рэволюцыі ў Менску.

* Рэжысэр Гаўронскі прыступіў да пастаноўкі карціны па сцэнарыю Залкінд „Дружба“. Асноўныя кіно-здымкі будуць адбывацца ў Барысаве.

* Прыступлена да пастаноўкі популярнай політасьветкарціны „Жанчына ў колгасе“. Рэжысэр і апэратар Штэрцэр.

* Белдзяржкіно распрацавала канкрэтны проэкт гукавога кіно, якое будзе адчынена сёлета ў Менску.

Пад памяшканьне гукавога кіно мяркуецца абсталяваць новы будынак кіно „Чырвоная Зорка“. Урачыстае адкрыцьце гукавога кіно прыстасавана да 10-й гадавіны вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

* Зьвярнулася з Клімаўшчыны кіно-брыгада Белдзяржкіно, якая працавала над пастаноўкай фільму „Уздымайся, Беларусь“. Брыгада зрабіла здымкі ў буйнейшых колгасах „Ленінскі шлях“ і „Бальшавік Беларусі“. У апошнім арганізавана ячэйка таварыства прыхільнікаў савецкага кіно. Ленінградзкая фабрыка Белдзяржкіно ўзяла шэфства над гэтай ячэйкай.

* 3-га красавіка ў Маскве ў памяшканьні ГОСЕТА пачаліся гастролі Беларускага Дзяржаўнага Яўрэйскага тэатру. Яўрэйскія рабочыя арганізацыі Масквы праяўляюць да гастроляў вялікую цікавасьць. Шэраг спэктакляў закупляецца для колектыўных праглядаў.

* Вялікую цікавасьць у маскоўскіх тэатральных колах узьнімае абвешчаная Беларускім Яўрэйскім тэатрам прэм'ера—„Выстрел“ Безыменскага ў пастаноўцы т. Рафальскага. Безыменскі і Мэйерхольд, азнаёміўшыся з ідэяю пастаноўкі Рафальскага, прызналі яе надзвычайна цікавай.

* Яўрэйская дзяржаўная харавая студыя з 1-га красавіка перашла на дзьвёхзьменную работу, што дае магчымасьць займацца ў хоры-студыі рабочым, якія заняты на вячэрняй зьмене. Адначасова з пераходам на дзьве зьмены адкрыт шырокі прыём рабочых.

* Саюзны Савнарком вынес пастанову аб організацыі ў Маскве ўсесаюзнай тэатральнай олімпіяды. Усяго на олімпіядзе будзе 38 тэатраў з розных месц СССР, у тым ліку два тэатры з Беларусі.

* Беларускі вандроўны тэатр скончыў падрыхтоўку да выезду ў колгасы. Тэатр выяжджае з 5-га красавіка на 20 дзён. Яўрэйскі вандроўны тэатр выяжджае ў раёны БССР з 1-га красавіка на 2 з паловай месяцы.

* 2 красавіка г. г. Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр, пад кіраўніцтвам народнага артыстага рэспублікі Ўл. Галубка, паказаў у Доме Селяніна новую постаноўку—п'есу украінскага пісьменьніка Мыкытэнкі— „Дыктатура". Пастаноўка рэжысэра Міколы Міцкевіча.

* Тэма п'есы сёньнешняга дню. Падана п'еса ў цікавых псыхолёгічных сытуацыях. Вартасьць гэтае п'есы характарызуецца ўжо тым, што яна ідзе ў буйнейшых рабочых тэатрах Украіны, у дзяржаўным татарскім тэатры і ў шэрагу расійскіх.

Глядач даўно прад'яўляў БДВТ запатрабаваньні—палепшыць зьмест рэпэртуару і мастацкае афармленьне. Пастаноўкаю п'есы „Ярасьць", тэатр зрушыўся з народніцкае „тэматыкі", але ў самым афармленьні мы новага нічога не заўважалі. Гэта была простая пастаноўка з даволі старанным выкананьнем актораў. У пастаноўцы п'есы „Дыктатура" глядач убачыў як-бы новы тэатр. Тут ужо няма таго шаблёну, які панаваў у ранейшых пастаноўках. Тут ужо многа, як-бы сказаць, тэатральна ўмоўнага. Аднак гэта ўмоўнасьць падана ў такой меры, што яна цалкам даходзіць да масавага гледача. Простыя выразныя дэкарацыйныя мазкі вельмі ўдала замянілі стары грузны дэкарацыйны хлам.

Акторы гэтага тэатру пачынаюць разумець, што ім не хапае тэатральнае культуры, што ў іх мала грамадзка-політычнае культуры. А кадры маладыя і, пры належным кіраўніцтве, гэты тэатр яшчэ больш вырасьце і будзе моцным змагаром за пролетарскую культуру.

Гэтаю пастаноўкаю тэатр выходзіць на сьцежку баявой сучаснасьці савецкага будаўніцтва.

* Пасьля досыць значнага перапынку Беларускі 2-гі Дзяржаўны тэатр зноў пачаў працаваць у Менску. За гэты час тэатр прайшоў вялікі і складаны шлях творчага разьвіцьця. За гэты час ён здолеў стварыць новы ідэолёгічна моцны рэпэртуар, зьвязаўшы яго з мастацкай формай выкананьня.

У свой час, з прычыны шматлікіх памылак кіраўніцтва, тэатр ня здолеў выкарыстаць сваёй мастацкай падрыхтаванасьці. Якасьць мастацкай формы ён спачатку ня здолеў злучыць з соцыяльнай значнасьцю зьместу. Такому становішчу ня мала спрыяў і востры рэпэртуарны крызіс. У выніку гэтага глядач бачыў у 1926 годзе на сцэне БДТ-2 такую пастаноўку, як „Апраметная", п'есу ідэолёгічна шкодную.

У 1928 годзе ва ўнутраным жыцьці тэатру наступіў пералом. Тэатр здолеў наблізіцца да грамадзкасьці і пастаноўкай „Разлом" адкрыў новую эру існаваньня. Ідэолёгічны напрамак тэатру выправіўся. За гэты час БДТ-2 даў цэлы рад новых ідэолёгічна карысных і політычна вытрыманых пастановак. Сюды трэба аднесьці пастаноўку „На прадвесьні", якая адлюстроўвае першыя спробы да колектывізацыі беларускае вёскі. „Калі сьпяваюць пеўні" — малюе перад гледачом жыцьцё і змаганьне рабочае клясы Нямеччыны. Пастаноўка „Рэйкі гудуць" высунула ў свой час на фоне змаганьня за ўзмацненьне савецкай гаспадаркі цэлы рад вострых для свайго часу момантаў. Паказам „Горад Вятроў" БДТ-2 адлюстраваў на сцэне змаганьне за нафтавыя крыніцы і гістарычную падзею, зьвязаную з расстрэлам ангельцамі 26 камісараў.

Аднэй з апошніх пастановак тэатру зьяўляецца „Простыя сэрцы"— першая спроба стварэньня на беларускай сцэне сучаснай музычнай комэдыі, сучаснай ня толькі па мастацкім выкананьні, але і зьмесьце. Гэта пастаноўка мае значэньне для беларускага тэатру яшчэ і таму, што яна ў значнай сваёй частцы пабудавана на мясцовым матэрыяле. У плян бліжэйшых пастановак БДТ-2 уваходзіць п'еса „Авангард", якая адкрывае перад гледачом пэрспэктывы колектывізацыі вёскі.

БДТ-2 імкнецца і надалей ісьці пэўным шляхам да далейшых дасягненьняў, ставячы перад сабою задачу стварэньня беларускага пролетарскага тэатральнага мастацтва, накіраванага ў бок садзейнічаньня соцыялістычнаму будаўніцтву.

* 22 сакавіка БДТ-2 даў першы свой спэктакль у Менску. У сувязі з гэтым у будынку Белдзяржтэатру адбылося ўрачыстае пасяджэньне, на якім выступалі з прывітаньнямі прадстаўнікі АК КП(б)Б, НКА і ЦП саюзу працмастацтва. З дакладам аб шляхох разьвіцьця 2-га Беларускага Дзяржаўнага Тэатру выступіў дырэктар яго т. Ліманоўскі. Пасьля ўрачыстай часткі была пастаўлена п'еса „Разлом".

* БДТ-2 мяркуе прабыць у Менску ўвесь сэзон 1930-31 г. за гэты час будуць паказаны менскаму гледачу наступныя пастаноўкі: „Разлом"— гістарычная п'еса Б. Лаўрэнева ў пастаноўцы С. Розанава; „Рэйкі гудуць"—соцыяльная драма В. Кіршона, ў пастаноўцы С. Розанава і К. Саньнікава; „На прадвесьці"—соцыяльная мэлёдрама М. Ільлінскага, у пастаноўцы С. Розанава; „Калі пяюць пеўні"—сцэнічны памфлет М. Юр'іна, у пастаноўцы М. Міцкевіча; „Каля тэрасы"—гістарычная п'еса М. Грамыкі, у пастаноўцы С. Марголіна; „Горад вятроў"—п'еса В. Кіршона, у пастаноўцы С. Розанава; „Простыя сэрцы"—музычная комэдыя Заяіцкага, С. Розанава і М. Міцкевіча, у пастаноўцы С. Розанава; „Авангард"—п'еса В. Катаева, у пастаноўцы С. Розанава і М. Міцкевіча і інш.

Акрамя таго мяркуюцца асобныя концэрты.

* У Менск прыяжджаў на шэраг гастроляй дзяржаўны квартэт імя Вільёма.

Квартэт імя Вільёма заснаваны ў 1920 г. і за час свайго існаваньня даў 2.500 концэртаў ва ўсіх рэспубліках нашага Саюзу.

Ад концэртных саляў Масквы да капальняў і заводаў Донбасу, Уралу, Сібіру і Далёкага Ўсходу—вось размах гэтага ансамблю.

Восем год таму назад Вільёмаўцам, як аднаму з лепшых квартэтаў у Саюзе, быў выдан комплект старасьвецкіх інструмантаў славутых француscкіх і італьянскіх майстроў з дзяржаўнага музэю пры Галоўнавуцы РСФСР.

Квартэт даў два адкрытыя концэрты ў Дзяржтэатры, а таксама шэраг концэртаў у рабочых клюбах.

У програму концэртаў, акрамя композытараў заходня-эўропэйскіх, увайшлі расійскія, украінскія, татарскія і інш. композытары.

* Акадэмія Навук лічыць неабходным прыступіць да організацыі ў Менску зоолёгічнага парку. Парк мусіць адлюстраваць мясцовую фауну. Акадэмія Навук просіць Гарсавет прыняць удзел у організацыі зоопарку. Пад зоопарк павінна быць адведзена плошча ня менш, чым у 10 гектараў.

* Для організацыі ботанічных дасьледаў і падшуканьня месца для ботанічнага саду ў Менску, Прэзыдыум БАН запрасіў з Ленінграду спэцыялістага-ботаніка Ісачэнка.

* На IV усесаюзны зьезд зоолёгаў, анатомаў і гысторыялёгаў Прэзыдыум БАН камандыраваў т. т. Трамповіча і Фядзюшына.

* Для забесьпячэньня Акадэміі геолёгамі, хэмікамі і экономістымі Прэзыдыум БАН узьняў пытаньне перад постпрэдствам БССР у Маскве, каб апошняе хадайнічала перад НКПрацы СССР і ВСНГ СССР аб замацаваньні за Акадэміяй пэўнага ліку гэтых спэцыялістых.

* Прэзыдыум БАН пастанавіў організаваць тэхнічную камісію з інжынэраў і прадстаўнікоў прэзыдыуму для разгляду эскізных проектаў новага будынку БАН.

Будзе склікана ўнечарговае пасяджэньне прэзыдыуму БАН з удзелам організацый, якія падалі проекты, тэхкамісіі, прадстаўнікоў Дзяржпляну, будаўнічага камітэту і грамадзкіх організацый. На гэтым пасяджэньні

будзе канчаткова абраны проэкт для пабудовы новага будынку Акадэміі.

* НКА БССР заключыў дагавор па соцспаборніцтву з НКА Украіны. У гэты соцдагавор уключаны пункты: аб барацьбе з нацыянал-шовінізмам, з ухіламі ад лініі партыі. Абодвы бакі абавязваюцца весьці ўзмоцненую работу па падрыхтоўцы кадраў, па інтэрнацыянальным выхаваньні працоўных. Арбітрам соцдагавору выбрана рэдакцыя газэты „Правда“.

* Дом ураду будуецца паводле проэкту архітэктара Лангбарда, які ў пачатку сакавіка прыслаў поўнасьцю закончаныя проекты. У першай палове сакавіка проекты паданы ў СНК.

Вылучана спэцыяльная камісія, якая займаецца пытаньнем мэбляваньня будынку, забесьпячэньнем яго неабходнымі навейшымі стандартызаванымі лічыльнымі, пішучымі і інш. машынамі.

Паводле папярэдніх меркаваньняў, будаўніцтва дому ўраду канчаткова будзе скончана ў 1932 годзе.

* На паседжаньні ЦВК БССР дырэктар Галоўвыстаўкому паведаміў аб ходзе падрыхтоўкі да адкрыцьця Ўсебеларускай с.-г. і прамысловай выстаўкі. Пабудову павільёнаў мяркуецца скончыць да 1-га чэрвеня. Выстаўка адкрыецца ў дні сьвяткаваньня 10-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў. Адводзіцца месца агульна-саюзнай прамысловасьці. Некаторыя буйныя замежныя фірмы выказалі пажаданьне прыняць удзел у выстаўцы. Праз выстаўку будзе прапушчана ў організаваным парадку 50 тысяч чалавек.

* У 1930-31 годзе ў Менску будзе пабудавана геофізычная обсэрваторыя, якая будзе праводзіць дасьледчую работу па гідромэтэоролёгіі. Трэба адзначыць, што да гэтага часу розныя камісарыяты мелі ўласныя сеткі мэтэоролёгічных станцый і гідролёгічныя пасты, якія часта выконвалі адну і тую-ж работу. Зараз усе гэтыя мэтэоролёгічныя станцыі і гідролёгічныя пасты пераходзяць пад загад гідромэтэоролёгічных камітэтаў, якія існуюць пры СНК нашых савецкіх рэспублік.

Па сваёй працы геофізычныя обсэрваторыі ня будуць абмяжоўвацца толькі аднымі тэорэтычнымі пытаньнямі. Яны будуць займацца і практычнымі пытаньнямі.

У зьвязку з гэтым беларуская геофізычная обсэрваторыя будзе мець вельмі важнае практычнае значэньне для разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі. Обсэрваторыя зможа шмат чым дапамагчы нашым плянавым органам. Яна дапаможа падвесьці навуковую базу (кліматычную) пад плянавую работу ў сельскай гаспадарцы. Обсэрваторыя дапаможа выкарыстаць у практычных мэтах курортна-кліматычныя асаблівасьці паасобных раёнаў рэспублікі.

* ВСНГБ заняты распрацоўкай пытаньня аб пабудове на Кабылянскіх парогах, каля Воршы, першай ў Беларусі гідра-электрычнай станцыі. Магутнасьць яе вызначана ў 10.000 кілёват. Кошт станцыі — 12 млн. рублёў. Будаўніцтва павінна пачацца ў 1930-31 годзе. Для пачатку работ асыгнаваны 1 млн. руб.

* У славянскай часопісі „Slavische Rundschau“, якая выходзіць у Празе, у № 1 за 1930 г. зьмешчаны: артыкул „Аб Беларускай Акадэміі Навук“, які інформуе пра ўтварэньне пры Акадэміі інстытутаў гісторыі і лінгвістыкі; артыкул „Беларуская літаратура“, які паведамляе, між іншым, аб выхадзе ў сьвет зборніка твораў Янкі Купалы, і здачы ў друк першага тому зборніка твораў Цішкі Гартнага. У гэтым артыкуле гаворыцца пра другое выданьне „Сьцежкі-дарожкі“ М. Зарэцкага і пра выданьне зборніка крытычных нарысаў А. Гародні „На літаратурным фронце“. У № 2 гэтае часопісі—артыкул „Сучасныя рэлігійныя настроі ў Беларусі“, у якім перадаецца зьмест вынікаў анкеты праведзенай па гэтым пытаньні проф. Вольфсонам і апублік. у № 10 „Полымя“ за 1929 г.

* У „Jahrbücher für Kultur und Gescichte det Slaven“ (т. V, сшытак

ІУ. 1929 г.) зьмешчаны чатыры рэцэнзіі: пра „Адносна гістарычных імкненьняў беларусоў“—Сланеўскага (Студэнцкая думка, 1929 г. Сшытак І); пра „Адносіны расійскага ўраду да беларускай мовы ў 19 стагодзьдзі“—Шлюбскага (Запіскі аддзелу гуманітарных навук, 1928. Том 2.); пра „Жыцьцё і літаратурную дзейнасьць Антона Лявіцкага“—Піотуховіча (Запіскі аддзелу гуманітарных навук. 1928. Т. 2. Сшытак І). І апошняя ў гэтым нумары—рэцэнзія на „Матэрыялы да біографіі Цёткі“ (Алезія Пашкевіч Кейрысава)—Бібілы (Запіскі аддзелу гуманітарных навук. 1928. Том І).

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Украінскае Бібліографічнае Таварыства ў Кіеве распачало выдаваць выданьнем ДВУ сэрыі монографій пра выдатных украінскіх графікаў з даўнейшых часоў да нашых дзён. Мэта гэтых выданьняў—популярызаваць у дасгупнай форме украінскае графічнае мастацтва сярод шырокіх мас. Разьмерам сваім кожная кніжка будзе да 2 друк. аркушаў, з якіх адзін аркуш тэксту, а другі ілюстрацый. На працягу 1929-1930 г. выйдуць у сьвет першыя пятнаццаць монографій у гэтай сэрыі. Акрамя таго, будзе надрукавана брошура пра тэхніку графічнага мастацтва А. Серады.

* У сэрыі „Романи і повісті“ у выдавецтве „Укр. робітник“ выходзяць: прыгодніцкі роман О. Сліcарэнка; другая частка роману Ледзянка „На гора“; роман з жыцьця Донбасу Юрэзанскага.

* Выдавецтва „Укр. робітник“ выпускае сэрыю кніжак для малапісьменных. Мяркуецца даць гэту сэрыю за найтаньнейшую цану—не даражэй трох капеек аркуш.

* У сувязі з патрэбамі масавых бібліотэк Украінская Кніжная Палата выдае рэкомэндацыйна-бібліографічную часопісь „Треба прочитати“. Часопісь мае форму блянкартнага кнігасьпісу і зьмяшчае на асобных картках крытычныя нататкі на лепшыя украінскія кніжкі. Выходзіць часопісь у трох сэрыях, прыстасаваных для бібліотэк гарадзкіх, вясковых і дзіцячых.

* Культаддзел ВУРПС пры бліжэйшым удзеле тав. Корана і проф. Грузінскага і Машкіна выдае спэцыяльныя даведнікі для бібліотэкараў і рабочых-чытачоў з мэтаю азнаямленьня шырокіх рабочых мас з пытаньнямі сучаснай украінскай літаратуры.

Уся праца над выданьнем даведніка ўзгоднена з дзейнасьцю габінэту украінскай літаратуры пры інстытуце ім. Шэўчэнка.

Першы выпуск, прысьвечаны політыцы партыі ў мастацкай літаратуры, выйшаў пад рэдакцыяй т. Корана.

* Дзяржаўнае Выдавецтва Украіны друкуе:

Т. Шэўчэнка—Творы т. т. III і VII; Г. Коцюба — „Змова масок“; І. Сенчэнка—„Дубові граді“ (2 выд.); Мік. Хвілёвы—„Сентиментальна історія“; Акр. Любчэнка — „Образа“; Гуляк-Артэмаўскі — Творы (выд. 3); Ів. Начуй-Левіцкі—творы т. т. XI і XII; Мік. Хвілёвы—творы т. III; Наталя Рамановіч-Ткачэнка — творы т. т. I і II; Сухно-Хоменка—„Пролетаріят і література“.

Пераклады: Жорж Занд — „Гріх пана Антуана“. Пераклад Р. Яцыны; Эміль Золя—„Рим“ (роман) і „Радість життя“. Пераклад Рубінскага; таго-ж аўтара—„Марія“ (Роман). Перакл. Езерніцкай; Эрскін Джон — „Хатне життя Галени Троянскої“. Перакл. Іўчэнка Міх.; Джавахішвілі Міх.—Зборнік апавяданьняў, і інш.

* Управа ВУФКУ прызнала фільм „На весні“ (аўтар—опэратар карціны М. Кауфман) каштоўным як з мастацкага і тэхнічнага боку, так і з боку соцыяльна-ідэолёгічнага. Адзначана добрая опэратарская праца, надзвычайны монтаж і ўдалы падбор фактаў для здымкі.

* Рэжысэр Г. Рошаль (пастаноўшчык фільму „Дві жінкі“) ставіць фільм „Мрійник“ па сцэнарыю В. Стравой і С. Рошаль. Сюжэт фільму—гісторыя местачковага яўрэя, які прайшоў імпэрыялістычную і грамадзянскую вайну, усьвядоміў сваю клясавую існасьць і стаў актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва.

* Інстытут імя Тараса Шэўчэнка прыдбаў больш за 100 надзвычайна каштоўных дакумантаў, якія засталіся пасьля сьмерці поэты. Сярод дакумантаў—чарнавікі твораў Шэўчэнкі, лісты і інш., а таксама вялікі аўто-портрэт Шэўчэнкі.

* Работа над украінскаю тэрмінолёгіяю, пачатая ў асобных выпадковых працах яшчэ ў 60-х гадох мінулага стагодзьдзя, набывае організаваныя формы на Украіне ў 1910—1911 годзе, калі вынікаюць тэрмінолёгічныя камісіі „Гуртка натуралістых“ пры Кіеўскім Політэхнікуме, „Агрономічнага гуртка“ пры Маскоўскім с.-г. Інстытуце і тэрмінолёгічная камісія пры т-ве імя Квіткі-Основяненка ў Харкаве.

Зараз заснованы Інстытут Украінскай Мовы, які распачынае вялікую працу над украінскай тэрмінолёгіяю. Інстытут мяркуе зьвярнуць увагу на тое, каб пазбавіць навуковую мову ад непатрэбных чужых слоў.

Інстытут мяркуе зьвязацца з выдавецтвамі і ўстановамі, сачыць за процэсам украінізацыі, змагацца з скажэньнем і калечаньнем мовы, дапамагаючы сваімі парадамі і крытыкаю.

* Коопэрацыйнае выдавецтва ў Львове „Червона Калина“ прыступіла да выданьня популярна-гістарычнага месячніка „Літопись Червоної Калини“. Часопіс рэдагуюць Леў Лепкій і Васіль Сафронаў-Левіцкі.

* „Pestre Květy“, тыднёвы літаратурны дадатак праскага „Prava Lidu“, зьмясьцілі апавяданьне Стэфаніка ў перакладзе на чэскую мову „Samotinska“ („Сама-саміська“).

* Часопіс „Osteuropa“, якая выходзіць у Бэрліне, зьмясьціла ў № 12 дзьве нататкі, прысьвечаныя: адна—артыкулу т. Мотузкі ў № 9 „Більшовік України“, 1929, пад назваю „Програма Українского нацыяналізму“; другая—артыкулу т. Скрыпніка ў час. „Шлях освіти“ (№ 5—6, 1929) пад назваю „Народна освіта на радзянській Україні“.

* У Кіеве пачаў выходзіць штотыднёвік „Радянське Мистецтво“, прысьвечаны пытаньням тэатру. Часопіс высьвятляе ўсе галіны тэатральнай працы і мастацтва.

* У Адэскім краёвым гістарычным архіве зьберагаецца архіў Сечы Запароскай за 1734—75 г. г. Матэрыялы гэтага архіву маюць вялікае навуковае значэньне і поўнасьцю высьвятляюць жыцьцё сечнікаў. Цэнтральная Архіўная Ўправа Украіны вырашыла цяпер выдрукаваць увесь гэты архіў. Прадбачыцца выдаць 10 томаў. Першы том выйдзе ў сярэдзіне гэтага году.

* У альманаху „Літературний ярмарок“ друкуецца новы роман О. Копыйленкі—„Визволення“, пра нашу моладзь, вынаходніцтва і проблему сям'і ў савецкім грамадзтве. Хутка роман выйдзе і асобнаю кніжкаю ў выданьні ДВУ.

* Выданьнем ДВУ выйшаў зборнік поэзіі Нікіфара Шчэрбіны—„Ранок“. У гэтым зборніку пададзена поэзія 1922—1929 г. г.

* Драмгурток Украінскага Асьветнага Дому ў горадзе Дзітройт (Амэрыка) паставіў упяршыню на амэрыканскім контынэнце вядомую п'есу „Таміла“. Заля Укр. Асьвет. Дому была поўна рабочых. Сама п'еса ў выкананьні драмгуртка зрабіла вялікае ўражаньне на гледачоў. Пры дапамозе рэдакцыі „Сільський Театр“ драмгуртку ўдалося ўвесьці ў рэпэртуар некалькі добрых п'ес, якія шчыра ўспрыймаюцца ў Амэрыцы рабочым гледачом. Савецкая п'еса пачынае ўсё болей заваёўваць сабе месца ў лепшых драмгуртках Амэрыкі.

Драмгурток на наш час налічвае 65 чалавек. Большасьць з іх працуе пераважна на заводах у Форда. Драмгурток прымае чынны ўдзел ў рабочых кампаніях і сьвятах, якія арганізоўвае компартыя Амэрыкі.

У гэтым сэзоне, акрамя п'ес М. Ірчана, драмгуртком было пастаўлена: „Юрко Довбуш", „Мікола Джоря", „В неділю рано зілля копала", „Розбійник Кармелюк", „За двома зайцями", „Бред Лайн" — Шопінскага, „Обзолотились", „Діти нужди", „Мораль пані Дульськой", „Назар Стодоля"—з вечарынамі.

Зараз рыхтуюцца п'есы: „Радій"— М. Ірчана і „Батальйон Мертвих"— Я. Мамонтава.

Драмгурток у Нью-Ёрку паставіў у гэтым сэзоне „Рэвізора" і рыхтуе „Радій".

Драмгурток у Віньніпэгу (Канада) ставіў „Рэспубліку на калёсах", інсцэніроўку „Борислав сміється" і зараз рыхтуе „Радій".

Рэшта гурткоў яшчэ цягнецца ў хвасьце бытавой халтуры, дзякуючы ўсякім так званым „малоросійскім трупам". Да гэтага часу мала зьвярталася ўвагі на падвышэньне клясавай сьвядомасьці ў драмгуртках. У пачатку лютага м-ца г. г. адбыўся ў Нью-Ёрку чацьверты зьезд Саюзу Рабочых Організацый, дзе між іншымі было пастаўлена пытаньне пра гурток. Зьезд ухваліў аднагалосна павесьці кампанію супроць халтурнага рэпэртуару, а ўзамен уводзіць паболей савецкіх п'ес.

* Утвараецца пры Харкаўскім Муздрамінстытуце, для падрыхтоўкі пісьменьнікаў-драматургаў і выкладчыкаў драматургіі,—драматургічны сэмінар. Праца ў сэмінары пачалася з лютага м-ца г. году. Працу мяркуецца праводзіць шляхам дакладаў, лекцый і практычных работ. Кіруе сэмінарам Я. Мамонтаў.

* Нядаўна ў буйнейшых прамысловых прадпрыемствах Харкава і на зав. „Серп і Молот", „Вэлё-завод", Гэт і інш. быў праведзен шэраг вечароўдыспутаў па асноўных пытаньнях сучаснай украінскай літаратуры. Разьбіраліся, як асобныя творы, так і агульныя проблемы, напр., „Комсамол і моладзь у сучаснай украінскай літаратуры".

Перад вечарамі праводзілася вялікая падрыхтоўчая работа: кніжныя эстафэты, чытка ўголас у часе перапынку, папярэдняе абгаварэньне асобных твораў, прэміраваньне лепшых рэцэнзій, прадстаўляных рабочымі, і да т. п. Акрамя гэтага, матэрыялы да дыспуту сыстэматычна зьмяшчаліся на старонках заводзкіх газэт. Дзякуючы гэтым захадам актыўнасьць удзельнікаў дыспутаў была надзвычайная—на асобных вечарох выступала звыш 100 чалавек.

Цяперака катэдра Савецкай літаратуры пры Інстытуце Шэўчэнка прыступае да навуковага вывучэньня матэрыялаў, якія былі атрыманы на дыспутах. Вынікі вывучэньня выйдуць у сьвет асобнай кніжкай.

* Група пісьменьнікаў і тэорэтыкаў мастацтва „Нова Генерация" зьвярнулася да Ўсеукраінскага саюзу пролетарскіх пісьменьнікаў з заявай пра неабходнасьць рашучага змаганьня з усімі праявамі буржуазнай і новабуржуазнай нацыяналістычнай ідэолёгіі, неабходнасьць бязьлітаснага адпору розным „левым" і правым ухілам у украінскім мастацтве. Група лічыць, што ў асноўнай сваёй масе яна ўжо пазбавілася ад максымалісцкіх поглядаў на мастацтва і, перамагаючы цяпер мінулыя памылкі, ня мае ніякіх прынцыповых разыходжаньняў з позыцыяй ВУСПП.

„Нова Генерация" лічыць за лішняе паралельнае існаваньне двух літаратурных пролетарскіх організацый на Савецкай Украіне і зьвяртаецца да ВУСПП з прапановаю разьвязаць пытаньне аб яе ўступленьні ў саюз пролетарскіх пісьменьнікаў Украіны. У бліжэйшы час пытаньне аб уваходзе „Новай Генерации" у ВУСПП будзе пастаўлена на абгаварэньне Пленуму Саюзу.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* У Самары адкрыўся 25 сакавіка першы краёвы зьезд сялянскіх пісьменьнікаў Сярэдняй Волгі. На зьезд сабралася 30 дэлегатаў, што прадстаўляюць 113 пісьменьнікаў Мардоўскай вобласьці, Арэнбургу, Пензы, Бугуруслана, Сызрані і шэрагу іншых месц краіны.

У працы зьезду прымала ўдзел маскоўская літбрыгада ў складзе т.т. І. Сакоўскага, Дземідова, Шышкевіча, П. Доратава і Гарбунова. Пасьля шэрагу прывітаньняў ад грамадзкіх організацый і колектываў рабочых, зьезд заслухаў даклад т. Войнера аб задачах сялянскай літаратуры.

* Міжнароднае рабочае тэатральнае аб'яднаньне атрымоўвае дзесяткі лістоў ад рабочых організацый Нямеччыны, Францыі, Чэха-Славакії, Бэльгії, Швайцарыі і інш. з настойлівымі просьбамі аб высылцы ім рэпэртуару, які адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва СССР. Рабочыя рэволюцыйныя організацыі, у змаганьні супроць паклёпу, які вядуць буржуазны друк, літаратура і мастацтва аб СССР, хочуць скарыстаць тэатр, як зброю клясавага выхаваньня пролетарскіх мас.

Міжнароднае рабочае тэатральнае аб'яднаньне зьвяртаецца да ўсіх савецкіх драматургаў і пісьменьнікаў з заклікам задаволіць той вялікі попыт на савецкую п'есу, які прад'яўляюць рабочыя тэатральныя організацыі ў краінах капіталу. Тэмы п'ес наступныя: пра ўздым соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, пра клясавае змаганьне і ліквідацыю кулацтва; пра гаспадарку савецкіх фабрык, заводаў і капальняў; пра змаганьне за соцыялістычную фабрыку; пра зьмены ў быце: проблемы каханьня, шлюбу; па нацыянальным пытаньні, пра партыю, саветы, профсаюзы; пра міжнародную клясавую солідарнасьць рабочых СССР; пра работніцу і сялянку—удзельніц у савецкім будаўніцтве; пра нашу зьмену; пра героічнае змаганьне Чырвонай арміі.

* Літаратурная група „Молодая Гвардия" рэорганізоўваецца. Асноўнае ядро групы пераходзіць у творчае аб'яднаньне пры часопісі „Октябрь".

У бліжэйшую дэкаду будзе праведзена лятучае абсьледваньне ўсіх нізавых гурткоў МАПП і склікана нарада іх кіраўнікоў.

* Пры дзіцячай сэкцыі МАПП організаваўся гурток крытыкі. З 1-га красавіка на 1 мая дзіцячая сэкцыя праводзіць месячнік дзіцячай літаратуры. Ува ўсіх нізавых літгуртках МАПП будуць організаваны гутаркі аб дзіцячай кнізе. На прадпрыемствах намечан шэраг дакладаў пра задачы дзіцячай літаратуры.

У бліжэйшы час сэкцыя організоўвае літаратурны вечар з удзелам пэдагогаў і працаўнікоў дзіцячых бібліотэк.

* Пры Ўсерасійскім саюзе савецкіх пісьменьнікаў організоўваецца майстэрня прозы.

Майстэрня будзе комплектавацца ў першую чаргу вылучэнцамі з літгурткоў на прадпрыемствах. Могуць удзельнічаць і пачынаючыя пісьменьнікі, якія не ўваходзяць у гурткі, а таксама слухачы вузаў.

* Сакратарыят ЛОВОКП пастанавіў абавязаць усіх сваіх членаў стаць членамі сельскагаспадарчай комуны.

ЛОВОКП заключыў з Ленгізам дагавор на выданьне „Новинок крестьянских писателей“. У красавіку выйдуць: Чапыгін — „Жизнь моя“, Нікіцін—„Прыжок в неизвестное“, Брыкін — „Завоеватели“, Рэскін — „Критический обзор“, „Россияне“, Журба—„Молодость“ і Чысьцякоў— „Борода“.

* Старшыня Праўленьня МОПП Арцём Вясёлы выехаў для вывучэньня жыцьця колгасьнікаў у Сярэдня-Волскі край. У бліжэйшы час выяжджаюць у колгасныя і саматужныя раёны: М. Сівачоў, С. Малашкін, А. Ліпецкі і М. Ройзман.

* Падсэкцыя комуністычнай крытыкі (Комакадэмія) у працягу апошніх трох - чатырох месяцаў правяла вялікую дыскусыю „Переверзев-·Плеханов“ і дыскусыйны даклад Луначарскага „Соцыолёгічныя і патолёгічныя фактары ў гісторыі мастацтва“.

* Пры выдавецтве „Огонек“ організавана літаратурная консультацыя, задачай якой зьяўляецца ўцягненьне ў работу ў выд. „Огонька“ актыву літаратурных сіл моладзі і рабкораў. Консультацыйная праца вядзецца (вершы, проза, нарыс, корэспондэнцыя і г. д.) літаратурнымі супрацоўнікамі выдавецтва.

* На сходзе актыву сялянскіх драматургаў, членаў МОКП, абгаварваўся даклад А. Рэвякіна „Сялянская драма“. Устанавіўшы вытокі сялянскай драмы, А. Рэвякін спыніўся на творах сялянскай драматургіі пасьлякастрычнікавай эпохі.

Асноўныя формальныя недахопы масыву сялянскай драмы: адсутнасьць жанравой спэцыфікі, насьледаваньне, псыхолёгічная беднасьць, схэматызм вобразаў. Але сялянская драма праяўляе і тэндэнцыі да стварэньня свайго орыгінальнага стылю. Ёй уласьцівы асаблівасьці: шырокі бытавы і грамадзкі бытавы жанр, своеасаблівая мова.

Выступаўшыя ў спрэчках адзначылі неабходнасьць стварэньня экспэрымэнтальнага сялянскага тэатру.

* На нарадзе аб масавай песьні ў МК ВЛКСМ было ўзьнята пытаньне аб песьнях для масавых дэмонстрацый і сьвят. Масы ня ведаюць новых, цікавых песень.

Для праверкі музычнай продукцыі ўхвалена стварыць музычную рабочую рэдколегію пры МК ВЛКСМ. Мяркуецца ўцягнуць поэтаў і композытараў актыўна ўдзельнічаць у гэтай справе. Для першамайскай дэмонстрацыі Музсэктарам выпушчаны паказьнік новых масавых песень. Літаратурнае афармленьне першамайскіх лёзунгаў даручана поэтам.

* Нядаўна адбылося ў Маскве ўрачыстае адчыненьне бібліотэкі замежнай літаратуры. На адчыненьні прысутнічалі прадстаўнікі Наркамасьветы, НКЗС, ЦОКС, ГАХН, маскоўскіх унівэрсытэтаў, Кніжнай палаты, рабочыя заводаў, работнікі мастацтва і навукі.

* У Маскве 15 чэрвеня адчыняецца Ўсесаюзная олімпіяда тэатраў у Парку Культуры і адпачынку. У олімпіядзе прыме ўдзел 17 мастацкіх колектываў (1000 чалавек удзельнікаў). 6 ліпеня, у дзень конституцыі СССР, Усесаюзная олімпіяда мастацтваў зачыніцца грандыёзным сьвятам садружаства народаў Савецкага Саюзу.

У оргкамітэт олімпіяды ўвайшлі прадстаўнікі ВЦСПС, ЦК Рабіс, Нацрэспублік, сэкцыі літаратуры і мастацтва Комакадэміі, ГАХН, творчага аб'яднаньня „Пролетарский театр“, Парку культуры і адпачынку і інш. Ініцыятыва Ўсесаюзнай олімпіяды тэатраў СССР належыць драматургу Ан. Глебаву.

* ЦК Усерабіс склікаў 15 красавіка ў Маскве ўсесаюзную конфэрэнцыю актораў. Былі зроблены даклады: „Аб міжнародным і ўнутраным становішчы СССР“, „Аб задачах мастацтва ў эпоху рэконструкцыі“, „Аб удзеле актораў у соцыялістычным будаўніцтве“ і інш. На

конфэрэнцыю выбіраліся дэлегаты ад актораў драмы, опэры, опэрэты, балету, артыстых хору і кордэбалету, ад рэжысэраў, актораў-гурткаводаў, суфлёраў, і ад беспрацоўных артыстых, за выключэньнем артыстых хору і кордэбалету.

* Экспэрымэнтальны тэатр пры Профклюбнай майстэрні, аб'яднанай з Цэнтральным домам самадзейнага мастацтва ў горадзе і вёсцы ім. Крупскай, рэорганізаваны ў дзяржаўны інструкцыйны перасовачны рабочы тэатр. У аснову рэпэртуару рэорганізаванага тэатру пакладзены ранейшыя яго работы.

* Маскоўскі Тэатр Рэволюцыі паказаў нядаўна прэм'еру п'есы Б. Баркова „Двенадцатый С - 261". Гэта п'еса была прынята мастацка-палітычным саветам тэатру па абвешчанаму ім конкурсу на тэму пра соцыялістычнае спаборніцтва і дзярж. пазыкі. Крытычная ацэнка спэктаклю будзе пададзена ў друку.

* Маскоўскі тэатр сатыры даў 8 красавіка прэм'еру новай пастаноўкі „Извините за резкость"—Красьнянскага, Корфа, Касоўскага і Трыгера. 3 мая, пасьля закрыцьця сэзону, тэатр выедзе на гастролі—у Бранск, Харкаў, Варонеж і інш. гарады.

* Маскоўскі тэатр опэрэты працуе цяпер над пастаноўкай новай п'есы В. Масса і А. Глоба—„Чайхане в горах". Дзея опэрэты разгортваецца ў Туркестане—у прымежнай паласе з Афганістанам. Аўтарамі пададзены быт Савецкага Усходу.

* Організаваны Галоўсоцвыхам Наркамасьветы і „Теа-кино-печатью" конкурс на п'есу па пэдагогічнай пропагандзе на тэму „Семья и воспитание детей" закончаны. Усе 22 п'есы, што паступілі на конкурс, прызнаны нездавальняючымі яго ўмовамі.

* На апошнім сходзе групы „Пролетарский театр" быў заслуханы даклад Фуада Салава аб узьнікненьні і сучасным стане татарскага тэатру. Адзначыўшы вельмі нізкую культуру татарскай рэжысуры, дакладчык падкрэсьліў, што налічча значных ужо кадраў вельмі здольных актораў, а галоўнае, надзвычайна жывая цікавасьць татарскага працоўнага гледача да тэатру, дазваляе гаварыць пра магчымасьць росквіту татарскага тэатру. На думку дакладчыка неабходна ў першую чаргу праветрыць цяжкую атмосфэру ў маскоўскім татарскім тэатры і зрабіць яго экспэрымэнтальнай пляцоўкай, якая была-б рассаднікам тэатральнай культуры для ўсіх іншых татарскіх тэатраў.

* У працягу бліжэйшага месяца на кніжным рынку зьявяцца наступныя творы савецкіх пісьменьнікаў: кніга другая роману „Бруски" А. Панферава, „Граммофон"—аповесьці і апавяданьні М. Лузгіна („Московский рабочий") і новы „Роман угля и железа"—Марыетты Шагінян („Молодая гвардия").

* Цэлы шэраг твораў савецкай літаратуры, якія мелі ў мінулым посьпех, перавыдаюцца зараз у танных масавых выданьнях. Тыражом у 50.000 экз. выходзяць кнігі: „Первая девушка"—Н. Багданова, „Дневник Кости Рябцева"—Н. Огнева, „Наталия Тарпова"—С. Семёнава. Гэта—у „Молодой Гвардии".

У таннай бібліотэцы „ЗИФ" перавыдаюцца творы Фурманава, Д. Беднага, Дж. Лёндона („Железная пята", з прадмоваю Карла Радэка).

З вершаў трэба адзначыць выхад новых двух поэм С. Кірсанава, аб'яднаных у зборнік пад назваю „Последний современник" („Фэдэрацыя").

* Тэмы дня адлюстроўваюць шэраг зборнікаў нарысавага жанру: „Грубы корм"—Леоніда Мартынава—пра новую Туркменію, будаўніцтва Турксібу і інш. („Фэдэрацыя"); кніга нарысаў „Закрома пятилетки" Е. Мікулінай—пра саўгасы Ніжняй Волгі і нарысы пра вытворчасьць „Жизнь среди камней" Н. Жылі („Недра").

* Два зборнікі групы „Молодая Гвардия" выйдуць: у выд-ве „Фэдэрацыя"—антолёгія „Молодогвардейцы" і трэці альманах „Молодость"—у „Молодой Гвардии". У чарговую

19-ю кнігу зборніка „Недра“ увойдзе цалкам (13 др. арк.) роман „Волга впадает в Каспийское море“— Б. Пільняка.

З перакладной літаратуры ўпяршыню зьявіцца на кніжным рынку: роман „Восстание детей“ нямецкага пісьменьніка Арнольда Уліса, дзе падаецца жыцьцё нямецкіх дзяцей у прытулку. Потым—адзін з найбольш буйных твораў пролетарскай літаратуры Амэрыкі—роман „Дочь земли“ Агнэсы Сьмідлі. Аўтар малюе быт фэрмэрскай сям'і і змаганьне жанчыны за роўнапраўе. Выходзіць з друку зборнік апавяданьняў з жыцьця вуглякопаў—„Последний день“—Джо Корры, ангельскага пролетарскага пісьменьніка, які пабываў нядаўна ў Маскве, і роман Г. Геслона „Врата будущего“, пра ўсеагульную забастоўку 1925 году ў Англіі.

* Дзяржвыдат выпускае да дня друку спэцыяльную лістоўку, якая асьвятляе роль друку і кнігі ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

У буйных клюбах раёнаў Масквы, а таксама ў клюбах рабочых цэнтраў у провінцыі будуць організаваны выстаўкі кніг.

Дзяржвыдат мяркуе да дня друку правесьці ўсесаюзны радыё - мітынг аб кнізе. У адзнаку ад мінулых гадоў, задачай кніжных рынкаў будзе прасоўваньне новай кнігі, якая адказвае асноўным грамадзка-палітычным пытаньням дня.

* У сярэдзіне сакавіка скончыўся першы зьезд сялянскіх пісьменьнікаў Мардоўскай вобласьці. Зьезд зрабіў падлікі організацыйнай і творчай працы краёвай організацыі і намеціў далейшы плян работ, які вызначаецца гаспадарчым будаўніцтвам краіны, правядзеньнем суцэльнай колектывізацыі і мерапрыемствамі культурнага будаўніцтва нацменшасьцяй.

* Бюро профдруку зьвярнулася ў мясцком саюзу пісьменьнікаў з просьбай дапамагчы ў барацьбе з недахопам профчасопісяй. Мясцком пісьменьнікаў організаваў шэсьць літаратурных брыгад для работы ў профчасопісях.

Брыгаднікі ставяць за мэту, папершае, выгнаньне халтуры з старонак часопісяй, ажыўленьне сухога газэтнага матэрыялу, організацыю літаратурных старонак; па - другое, цясьней зьвязаць часопісі з чытацкай масай і рабкорамі, для чаго брыгаднікі будуць організоўваць гурткі рабкораў і гурткі чытацкай дапамогі; і, урэшце, выезды рэдакцыі на заводы.

* 5 чэрвеня ў памяшканьні МХТ 2 пачнуцца гастрольныя спэктаклі Першага грузінскага нацыянальнага тэатру ім. Руставелі. Тэатр прыяжджае з Тыфлісу ў складзе 100 чалавек, на чале з дырэктарам і галоўным рэжысэрам Сандро Ахмэтэлі. У рэпэртуары тэатру: пераапрацоўка для грузінскай сцэны „Бронепоезда“ Ус. Іванова, „Город ветров“ Кіршона, „Разлом“ Лаўрэнава, „Деловой человек“ Газенлевера, „Ламара“ Гр. Робакідзе і інш.

* Ленінградзкі тэатр „Пролетарский актер“, створаны ў 1920 годзе для абслугоўваньня дамоў культуры і буйных клюбных пляцовак, пачаў 6 красавіка гастрольныя спэктаклі ў Маскве. У рэпэртуары тэатру: „Рассказ о простой вещи“ і „Враги“ Б. Лаўрэнева, „Пурга“ Дм. Шчэглова, „Нейтралитет“ Зіноўева, „Ветер с поля“ Сейфулінай і інш. У час маскоўскіх гастроляй тэатр пакажа апошнюю сваю работу—п'есу І. Чэкіна „Исключить“, якая ідзе ў пастаноўцы маскоўскага рэжысэра Л. Крыцбэрга.

* Тэатр Чырвонай арміі зрабіў трэцюю новую пастаноўку--комэдыю Ул. Волькенштэйна „Махновцы“.

* Садружаства „Перевал“ канчае выпрацоўку асноў палітычнай, грамадзкай і мастацкай дэклярацыі і складаньне спэцыяльнага дэклярацыйнага зборніка, які выйдзе ў выдавецтве „Земля и фабрика“.

* Савет „Кузницы“ склікаў 10—15 красавіка пашыраную агульнамаскоўскую нараду з удзелам прадстаўнікоў мясцовых організацый „Кузницы“:

Ленінграду, Донбасу, Растову і інш. На нарадзе будуць даклады: „Текущий момент на литературном фронте“ (т. Бахмецьцева), пытаньні арганізацыі і папаўненьня „Кузницы“ (Ф. Беразоўскі), „Грамадзкая праца „Кузницы“ (Бражнеў), „Учеба и творчество“ (Ф. Гладков). Нарада працягнецца некалькі дзён.

* ВОКП запрапанаваў сваім членам прыслаць друкованы матэрыял на выстаўку музэя Дома Герцэна „Писатели и социалистическое строительство.

* Крытычнай сэкцыі ВОКП даручана выбраць лепшыя творы членаў ВОКП для выданьня ў таннай бібліотэцы ГІЗ'у.

* На краёвай конфэрэнцыі МОКП, якая адбудзецца 15 мая, упяршыню будзе пастаўлен даклад драматычнай сэкцыі ВОКП.

* Пры ГАХН організоўваецца сэкцыя сялянскай літаратуры прадстаўнікамі ВОКП, у сэкцыю выдзелены т. т. С. Канатчыкаў і А. Багданаў.

* Савкіно адзначае 25-годзьдзе рэволюцыі 1905 году выпускам шэрагу спэцыяльных фільм.

Ленінградзкая фабрыка рыхтуе зборную програму, якая складаецца з палітагляду, што адлюстроўвае падзеі пятага году, хронікі, якая высьвятляе ў разрэзе сучаснасьці найбольш яркія рэволюцыйныя эпізоды тых дзён, і мультыплікацыі— жывыя сатырычныя карыкатуры з газэт і часопісяй 1905 году. У програму ўключана кароткамэтражная фільма „4 часа“ па вядомаму эпізоду з Кушкай.

На першай маскоўскай фабрыцы закончана фільма „Жизнь за нас“ (рэжысэр Краўчукоўскі). Гэта-ж фабрыка выпусьціць фільму „Таемные застрельщики“ па аповесьці Беразоўскага.

Фабрыка культурфільмы выпускае ігровую фільму, што высьвятляе роль рабочай клясы ў рэволюцыі 1905 году.

* Маскоўскае краёвае дзяржвыдавецтва „Московский Рабочий“ вырашыла шырока популярызаваць сярод рабочых маскоўскіх фабрык і заводаў выдаваемую сэрыю „Новинки пролетарскай литературы“.

У працягу красавіка будуць арганізаваны 2 выяздных паседжаньні рэдколегії „Новинки пролетарской литературы“ на прадпрыемствах—з дыспутамі аб творах пролетарскіх пісьменьнікаў.

Аналёгічныя нарады з чытацкім актывам організоўвае на маскоўскіх фабрыках і заводах рэдакцыя „Роман-Газеты“ — па пытаньнях рэдпляну і „Странички читателя“ „Роман-Газеты“.

* Габінэт працы і быту пры клюбе ФОСП, каб адлюстраваць работу пісьменьніка ў колгасах, організоўвае ў ударным парадку выстаўку: „Писатель в колхозе“.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Амэрыка

* У выдавецтве „Боні“ выйшла невялікая кніжка Жанэці Маркэ пад назваю „Трынаццаць дзён“. На працягу 100 старонак аўтарка дае яскравыя карціны тых 13 дзён, якія прайшлі з часу прыводу Сако і Ванцэці ў камэру сьмяротнікаў і да іх сьмерці.

* Сярод літаратурных імён Чылі (Паўдн. Амэрыка) адзначаюцца выдатныя поэты, як: Габрыэла Містраль, адна з найлепшых поэтэс Лаціна-Амэрыкі. Але поэтычная продукцыя чылійскай літаратуры зусім малая ў параўнаньні з мастацкаю прозаю.

* З романаў, што зьявіліся ў апошнія часы ў Чылійскай літаратуры, крытыка адзначае твор Іохіма Эдварда Бэлло „Чыліец у Мадрыдзе“. Роман паказвае перажываньні гішпана-амэрыканца ў Эўропе, адарванасьць яго ад эўропэйскай культуры і малюе цікавую карціну жыцьця „нізоў“ Мадрыду.

* Між іншымі романамі зьвяртае на сябе ўвагу „Таварыш“—Хэнар Прыэто, гумарыстычны і трохі карыкатурны малюнак буржуазіі Сантго. Такую-ж карціну нораваў падае Хануарыо Эспіноза ў романе „Панна Кортэс-Монрой“.

* Між зборнікамі новэль (Чылійская літаратура) варта зазначыць новэлі Мануэля Рохас, якія вызначаюцца сваёю рэалістычнасьцю і праўдзівасьцю.

Люі-Энрыко Дэляно надрукаваў зборнік казак „Дачка вастрогу“, з лёгкімі вобразамі ў духу Пурандэло.

* З сур'ёзных прац у чылійскай літаратуры вызначаецца „Інтэлектуалізацыя мастацтва“ — Люі Давіда Окампо. Гэта шэраг комэнтарый да вядомай працы Ортэза „Зьдзічэньне мастацтва“, якая мела вялікае значэньне для ўсяе Амэрыкі. У сваіх пунктах Окампо выслаўляе думкі, процілежныя Ортэзе, напр., пра ролю пісьменьнікаў у соцыяльным жыцьці.

## Англія

* Вялікім посьпехам карыстаецца новы роман Гербэрта Асквіса „Рун“ (Herbert Asquith „Roon“, 1929). Гэта псыхолёгічны роман, досыць сантымэнтальны, з часоў сусьветнай вайны, які дае сатыру на жыцьцё ангельскага грамадзтва, пераважна афіцэрскіх і парляманцкіх колаў у часы вайны.

* Франк Дзільнот, аўтар роману „Нім Кентскі“, які здабыў яму славу новага Вольтэра Скотта, напісаў яшчэ адзін гістарычны роман „The squire of Ach“ з часоў апошніх Сьцюартаў і другой рэволюцыі. І з боку гістарычнай пабудовы сюжэту і з мастацкага боку кніга варта свайго вялікага посьпеху.

* Зьвяртае на сябе ўвагу антолёгія канадзкіх пісьменьнікаў, якая выйшла пад назваю „Ністэр, Раймонд“, „Канадзкія апавяданьні“. Гэта ўдала падабраны зборнік, які можа добра азнаёміць з сучаснаю канадзкаю літаратураю.

## Вэнгрыя (Угоршчына)

* Вядомы угорскі пісьменьнік Людвіг Гатвані напісаў вялікую трылёгію, першы том якой выходзіць пад

назваю „Bondy Junor („Бодзі малодшы“). Гатвані апісвае ў сваім рамане жыцьцё яўрэйскай сем'і, якая паступова асымілюецца з угорскім атачэньнем.

* Фрыдрых Карыньці, надзвычайна многабаковы пісьменьнік, на гэты раз выступіў, як драматург, напісаўшы ў супрацоўніцтве з Мэльёрам Лэнгілем комэдыю „Іоган без зямлі“. Гэта ўдалы гротэск на тэму жыцьця сучасных драматургаў. Цяпер п'еса з надзвычайным посьпехам ідзе ў тэатрах Будапэшту.

* Долю Угорскай літаратуры ў Чэха-Славаччыне, пасьля адарваньня яе ад нацыянальнага цэнтру ў Будапэшце, можна назваць вельмі сумнаю. За ўсе дзесяць год не сфармавалася цэнтру, які групаваў-бы наўкола сябе літаратурныя сілы. Але ўсё-ж некалькі імён заслугоўваюць увагі. Сярод іх першае месца належыць Фольдэсу Сандору, найвыдатнейшай фігуры з угорскіх паэтаў у Чэха-Славаччыне. Яго кнігі—„Краіна людзей“, „Маса“ і „Ці гэта я забіў цябе?“, адзначаецца сваім рэвалюцыйным настроем, тэндэнцыяю да колектывізму.

З іншых паэтаў можна назваць яшчэ: Гіоры Дэшо, зборнік якога „Угорэц з новым аблічам“ стварае прыемнае ўражаньне сьвежасьцю свайго настрою.

Ладыслаў Мэк, найпопулярнейшы з паэтаў, і Эдман Міхалый, які нядаўна памёр, заканчваюць гэты невялікі сьпіс.

Яшчэ бядней справа ў галіне мастацкай прозы. Тут можна назваць толькі адзін цікавы твор „Чорны палец“ Люіса Барта.

З крытыкаў трэба заўважыць Фабры Золтана, які працуе ў часопісі „Корунк“:

* Угорскі пісьменьнік, які стаяў на чале Угорскай Лігі праў чалавека, Эмэрык Вэер пасаджаны два гады таму назад у вастрог. Яго абвінавачваюць, што ён меў сувязь з эміграцыяю і вёў рэспубліканскую пропаганду. Цяпер Вэер сур'ёзна хворы ад жудасных умоў вастрогу. Ліга праў чалавека агаласіла пратэст супроць зьняволеньня Эмэрыка Вэера. Да протэсту далучыліся некаторыя пісьменьніцкія організацыі іншых краін.

### Гішпанія

* Азорын сабраў у адзін том усе выдатнейшыя свае артыкулы і друкуе іх пад назваю „Aulando y pensando“.

* З прац гісторыка-літаратурнага характару, што выйшлі ў апошнія часы, гішпанская крытыка адзначае, як найбольш вартыя ўвагі, дзьве кнігі: двохтамовую працу вядомага знаўцы старой гішпанскай літаратуры і культуры Рамона Менэндэса Підоля, прысьвечаную літаратуры гішпанскага сярэднявякоўя, і працу новага члена Гішпанскай Акадэміі Агустына дэ Амэсуа пад назваю „Formation y elementa delanovela cortesana“. Гэта невялічкая частка агульнай гісторыі гішпанскага роману, над якою працуе Амэсуа.

### Італія

* У Італіі пачалі выходзіць новыя літаратурна-мастацкія часопісі: ў Рыме — „Strabizenzio“ і ў Палермо Н Corriere letteraria“. Пад назваю „2000“ выходзіць новая часопіс, якая мае на мэце стаць органам „артыстычнай рэволюцыі“.

* У Нэаполі знойдзен рукапісь Арыоста, які складаецца з пятнаццаці актаў.

* Памёр славуты скульптар Джэміто і вядомы мастак, прыяцель Д'Анунцыо, Франчэска Карло Мікэцці.

* Італьянская крытыка адзначае новы роман Альфрэда Паньціні—„Жыцьцё Кавура“ („La vita di Cavour“). Роман цікавы ня толькі з боку гістарычна-біографічнага, але і майстэрствам выкананьня. Рымская часопісь „L'Italia litteraria“ (Літаратурная Італія) друкуе на сваіх старонках урыўкі з гэтага роману.

**Нямеччына**

* З апошніх навін у галіне „ваенных“ раманаў, што зьявіліся да 15-тых угодкаў сусьветнай вайны, найбольш заслугоўваюць увагі: „Фронтавыя ўспаміны каня“—Эрнста Іогансэна,—кніжка прысьвечана 9.586.000 коням, што былі прынесены ў ахвяру вайны; „Агонь гармат, сымфонія забітых на вайне“—Отто Лемана Русбюльдта.

* Malik—Verlag у Бэрліне выпускае зборнік „Лісты пролетараў, што памерлі на вайне“. Мэта гэтага зборніку—барацьба з мілітарыстычным романтызмам, які выяўляецца ў ваенных романах.

* Да адкрыцьця „Піскатар—Тэатру“ выпушчана была кніга Эрвіна Піскатара „Das politische Tneater“ (Політычны тэатр). Кніга зьяўляецца падсумаваньнем працы Піскатара на працягу 10 гадоў над пабудаваньнем новага тэатру і зьмяшчае асобныя аддзелы: „Вайна, як настаўнік“ — Тэатр на фронце.—Да гісторыі політычнага тэатру.—Пролетарскі тэатр.—Дакумэнтарная драма ў расійскай рэволюцыі.

* Інтэрнацыянальнае рабочае выдавецтва ў Бэрліне (Inter. Arbeit Verlag) пачало выдаваць новую сэрыю романаў пад назваю „Інтэрнацыянальны роман“. Мэта гэтага выданьня пазнаеміць чытача з романамі, якія найлепей адбіваюць рэволюцыйнае змаганьне клясаў ува ўсім сьвеце. Выйшлі ўжо чатыры томы: 1. Курт Клебэр — „Пасажыры трэцяй клясы“; 2. Іван Ольбрахт—„Ганна, роман работніцы“ (жыцьцё чэскай батрачкі); 3. Бэлла Ільлеш—„Генэральная спроба“ (першы роман з часоў вэнгерскай рэволюцыі) 4. Альбэрт Додзістэль—„Ахвяра“. Наступныя выпускі прысьвечаны лепшым рэволюцыйным романам: украінскім, японскім, ангельскім і швэдзкім.

* Гэта-ж Інтэрнацыянальнае Рабочае Выд-ва выдала арыгінальную кнігу, прысьвечаную вайне, пад назваю „Вайна“. Гэта спроба з усіх літаратурных твораў пра вайну ўва ўсіх краінах выбраць тое, што падае вайну без романтычнай афарбоўкі і тым адлюстраваць яе сапраўднае аблічча. Але кніга выканана ня зусім удала. Мала зьвернута ўвагі на вынікі вайны, няма гучнасьці, суцэльнасьці.

* Аўтар вядомай п'есы „Бунт у дзіцячым будынку“, што выклікала вялікія гутаркі ў Эўропе, Пэтэр Мартыя Лямпэль выдаў новы свой твор „Моладзь, якую здрадзілі“. (Vertrotene Jugend“). Новая п'еса Лямпэля „Атрутны газ над Бэрлінам“, які малюе рабочае паўстаньне, прыдушанае з дапамогаю газаў, забаронена цэнзураю.

* Отто Фляк выпусьціў роман „Ужо час“, прысьвечаны сэксуальнаму боку жыцьця сучаснай моладзі. Крытыка адзначае ня досыць мастацкую распрацоўку пытаньняў, пастаўленых аўтарам.

* Бэрлінскае выдавецтва „Kiepenheuer“ выдала цікава складзеную антолёгію маладых нямецкіх прозаікаў.

* Нямецкая часопісь „Die Literarische Welt“ вяла дыскусыю аб праве сям'і пісьменьніка на літаратурную спадчыну. Вільлі Гааз у сваім артыкуле на старонках „ Die Literariche Welt“ прапануе абмежаваць права сям'і на літаратурную спадчыну 30 гагадамі, пасьля чаго ўвесь літаратурны архіў пісьменьніка становіцца ўласнасьцю дзяржавы. Падстава для гэтага тая, што часта сям'я памершага пісьменіка, з тых ці іншых прычын, прыхоўвае літаратурныя ці біографічныя матэрыялы, якія знаходзяцца ў архіве. Як прыклад гэтага Вільлі Гааз падае факты з архівам Ніцшэ. На чале архіву Ніцшэ стаіць яго сястра. Гааз абвінавачвае яе ў тым, што яна з нацыяналістычных прычын не агалошвае багата цікавых літаратурных матэрыялаў, якія пакінуў пасьля сябе славуты філёзоф.

**Францыя**

* Францускія пісьменьнікі Андрэ Тэрыв і Леон Лэмонье агаласілі но-

вую літаратурную школу пад назваю „Populismus“. Галоўныя пункты маніфэсту, з якім зьвярнулася гэта школа да грамадзтва, такія: яна адмаўляецца ад снобізму ў літаратуры, ад высоўваньня асоб і хоча апісваць народ. З соцыяльнымі доктрынамі „Populismus“ ня мае нічога супольнага, бо яны, як зазначаецца ў маніфэсьце, дэформуюць літаратурны твор. Маніфэст зьмяшчае ў сабе шмат агульных месц і ня робіць сур'ёзнага ўражаньня.

* Выйшла з друку новая кніга Андрэ Жыда пад назваю „Un esprit non prevenu“. Пад гэтаю назваю пісьменьнік выдае зборнік сваіх дагэтуль недрукаваных артыкулаў і нарысаў.

З іншых цікавых выданьняў можна спыніцца на „Нявыданых спытках“ Баррэса, невядомай корэспондэнцыі Проспэра Мэрымэ, новых лістох Марсэля Пруста і „Думках пра роман“ Рэнэ Буалэсю.

* Выйшаў у новым выданьні пад рэдакцыяю Анры Рамбо пасьмертны твор Стэндаля „Чырвонае і Белае“ (Rouge et Blanc). Фрагмэнты гэтага роману друкаваліся пад рознымі назвамі, як „Зялёны мысьлівец“ і „Люсьен Леўвэн“.

* У 1929 годзе ў выдавецтве Эміль Ральле выйшаў том „Vers retrouvés“ Бодлера. У іх выдавец Жюль Муске заявіў, што Бодлер друкаваў некаторыя з сваіх раньніх твораў, між імі і „Vers retrouvés“, падпісваючыся імёнамі сваіх прыяцеляў з юнацкіх гадоў, напрыклад—Эрнэстам Праронам і Александрам Прыват. Марыс Буасон і Фэрнанд Вандэрэм пярэчаць мажлівасьці гэтага факту і аўтэнтычнасьці гэтых поэзій.

Для разьвязаньня пытаньня Вандэрэм і Муске запрапанавалі перадаць гэту справу ў Журы. Агляд „Чырвонае і чорнае“ („Rouge et Noir“) агаласіў анкету па гэтым пытаньні, якая магчыма разьвяжа гэту спрэчную справу.

* У Парыжы організаваны грамадзкі камітэт з Марсэлем Прэво на чале для пабудовы помніка пісьменьніку Дзюма (бацьку) на яго бацькаўшчыне ў сяле Люпіан у Гасконі.

**Хорватыя**

* У канцы жніўня мінулага году памёр хорвацкі пісьменьнік Іво Войновіч, творы якога далі першы імпульс для паўднёва-славянскага нацыянальнага літаратурнага адраджэньня. Асобна змагаўся ён супроць італьянскага ўплыву, які панаваў тады ў літаратуры Хорватыі. У сваіх драматычных творах пад назваю „Дуброўніцкая трылёгія“, што падавалі гісторыю яго бацькаўшчыны Дуброўнікаў (Рагуза), ён моцна падкрэсьліваў славянскую культуру Далматыі. Войновіч быў працаўнікам Габсбургаў і ў тварэньні Паўдзённа-Славіі бачыў шлях шырокага разьвіцьця краіны.

*Рэдакцыйная колегія:* **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот,**
*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ

Ста

